# ПОЛЫМЯ РЭВАЛЮЦЫІ

ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА І МАРКСЫЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ



ЛІПЕНЬ
ПЕРШАЯ КНІГА
МЕНСК — 1932

# ПОЛЫМЯ РЭВАЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА
І МАРКСЫЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ
І КРЫТЫКІ

ОРГАН АРГАНІЗАЦЫЙНАГА КАМІТЭТУ
САЮЗУ САВЕЦКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ Б. С. С. Р.



**КНІГА ПЕРШАЯ**



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
ЛіМ
МЕНСК 1932




# АБ ПЕРАБУДОВЕ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ

**Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 23 красавіка 1932 г.**

ЦК канстатуе, што за апошнія гады на аснове значных посьпехаў сацыялістычнага будаўніцтва дасягнуты вялікі як колькасны, так і якасны рост літаратуры і мастацтва.

Некалькі год таму назад, калі ў літаратуры ў наяўнасьці быў яшчэ значны ўплыў чужых элемэнтаў, якія асабліва ажывіліся ў першыя гады НЭП'у, а кадры пралетарскай літаратуры былі яшчэ слабыя, партыя як мага дапамагала стварэньню і ўмацаваньню паасобных пралетарскіх арганізацый у галіне літаратуры і мастацтва ў мэтах умацаваньня пазыцый пралетарскіх пісьменьнікаў і працаўнікоў мастацтва.

У цяперашні час, калі пасьпелі ўжо вырасьці кадры пралетарскай літаратуры і мастацтва, вылучыліся новыя пісьменьнікі і мастакі з заводаў, фабрык, калгасаў, рамкі існуючых пралетарскіх літаратурна-мастацкіх арганізацый (ВААПП, РАПП, РАМП і інш.) становяцца ўжо вузкімі і тармозяць сур'ёзны размах мастацкай творчасьці. Гэта акалічнасьць стварае небясьпеку ператварэньня гэтых арганізацый са сродкаў найвялікшай мабілізацыі савецкіх пісьменьнікаў і мастакоў вакол задач сацыялістычнага будаўніцтва ў сродак культываваньня гуртковай замкнутасьці, адрыву ад палітычных задач сучаснасьці і ад значных груп пісьменьнікаў і мастакоў, якія спачуваюць сацыялістычнаму будаўніцтву.

Адсюль неабходнасьць адпаведнай перабудовы літаратурна-мастацкіх арганізацый і пашырэньня базы іх работы.

Выходзячы з гэтага, ЦК УсеКП(б) пастанаўляе:

1. Ліквідаваць асацыяцыю пралетарскіх пісьменьнікаў (ВААПП, РАПП);

2. Аб'яднаць усіх пісьменьнікаў, якія падтрымліваюць пляцформу савецкай улады і імкнуцца прымаць удзел у сацыялістычным будаўніцтве, у адзіны саюз савецкіх пісьменьнікаў з камуністычнай фракцыяй у ім.

Правесьці аналёгічную зьмену па лініі іншых відаў мастацтваў.

3. Даручыць аргбюро распрацаваць практычныя меры па правядзеньні гэтай пастановы.

*ЦК УсеКП(б)*

# ПАСТАНОВА ЦК КП(б)Б

## пра перабудову літаратурна-мастацкіх арганізацый БССР

ЦК КП(б)Б адзначае своечасовасьць і вялізарнае палітычнае значэньне пастановы ЦК УсеКП(б) ад 23 красавіка г. г. пра перабудову літаратурна-мастацкіх арганізацый, якая будзе садзейнічаць яшчэ большаму аб'яднаньню шырокіх колаў савецкіх пісьменьнікаў і мастакоў вакол камуністычнай партыі, яшчэ большай мабілізацыі на актыўны ўдзел у пабудове бяскласавага сацыялістычнага грамадзтва, на стварэньне літаратурна-мастацкіх твораў, вартых нашай вялікай эпохі.

ЦК канстатуе, што пралетарскія літаратурна-мастацкія арганізацыі, у тым ліку і БелАПП, якія на пэўным этапе, калі ў літаратуры быў яшчэ значны ўплыў варожых элементаў, што асабліва ажывіліся ў першыя гады НЭП'у, а кадры пралетарскай літаратуры былі яшчэ слабыя,—адыгралі станоўчую ролю ў сэнсе ўмацаваньня пазыцый пралетарскіх пісьменьнікаў, «у сучасны момант, калі пасьпелі ўжо вырасьці кадры пралетарскай літаратуры і мастацтва, выявіліся новыя пісьменьнікі, мастакі з заводаў, фабрык, калгасаў,—рамкі існуючых пралетарскіх літаратурна-мастацкіх арганізацый (ВААПП, РАПП, РАМП і інш.) становяцца ўжо вузкімі і тармозяць сур'ёзны размах мастацкай творчасьці».

ЦК КП(б)Б пастанаўляе:

1. Ліквідаваць Беларускую Асацыяцыю Пралетарскіх пісьменьнікаў (БелАПП).

2. Правесьці арганізацыю Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў БССР, які павінен аб'яднаць усіх пісьменьнікаў, што стаяць на плятформе савецкай улады і імкнуцца ўдзельнічаць у сацыялістычным будаўніцтве.

Усе пісьменьніцкія арганізацыі БССР падначаліць аргкамітэту. Перадаць у распараджэньне аргкамітэту літаратурныя часопісі.

Культпропу ЦК забясьпечыць шырокую прапрацоўку пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б пра перабудову літаратурна-мастацкіх арганізацый, дамогшыся максымальнай мабілізацыі ўсяго фронту літаратуры і мастацтва на вырашэньне задач сацыялістычнага будаўніцтва.

*ЦК КП(б)Б.*

27 мая 1932 году.

# НОВЫМІ ШЛЯХАМІ

Савецкі пісьменьнік зьяўляецца сьведкай гістарычных падзей небачана-вялікага значаньня. Ён жыве ў краіне, якая гіганцкімі крокамі ідзе да новых і новых посьпехаў у справе будаўніцтва сацыялістычнага грамадзтва. Ён жывы сьведка таго, як у арганізьме вялікай краіны, раней скаванай цяжкім прыгнётам расійскага царызму, ідзе працэс сацыялістычнага пераутварэньня. І самае галоўнае, што адрозьнівае савецкую літаратуру ад усякай другой, гэта тое, што савецкі пісьменьнік не зьяўляецца староньнім пасыўным сузіральнікам і фіксатарам гэтага працэсу, а актыўным ягоным удзельнікам.

Вырашальныя посьпехі ў справе сацыялістычнага будаўніцтва за апошнія гады выклікалі рашучы пераход пераважнай большасьці, усяго, што было лепшага ў асяродзьдзі старой інтэлегенцыі, на бок савецкай улады. У галіне мастацкае літаратуры гэты паварот выявіўся ў актыўным удзеле шырокіх пісьменьніцкіх кадраў, якія стаяць на пляцформе савецкае улады, у сацыялістычным будаўніцтве. Лепшым сьведчаньнем гэтага зьяўляецца творчая работа гэтых пісьменьніцкіх кадраў (творчасьць К. Чорнага, Купалы, Крапівы, Коласа і многіх другіх).

Будаўніцтва сацыялізму—справа мільённых мас працоўнага насельніцтва нашае краіны. Працэс сацыялістычнага будаўніцтва—гэта працэс далучэньня да навукі, тэхнікі, літаратуры і мастацтва дзесяткаў і соцен тысяч рабочых і сялян. У прыватнасьці ў галіне літаратуры, за часы існаваньня дыктатуры пралетарыяту значна вырасьлі «кадры пралетарскай літаратуры і мастацтва, вылучыліся новыя пісьменьнікі і мастакі з заводаў, фабрык, калгасаў». Гэта сьведчаньне таго, што ў нас, у краіне дыктатуры пралетарыяту створаны магчымасьці для бязьмежнага росквіту і росту творчых сіл ува ўсіх галінах культуры для самых шырокіх мас працоўных.

«У сьвятле посьпехаў сацыялізму, росту новых кадраў пралетарскае інтэлігенцыі павароту на пазыцыі сацыялізму старой інтэлігенцыі, гістарычнае значэньне мае пастанова ЦК УсеКП(б) ад 23 красавіка. Яна ўскрывае рост нашае літаратуры і мастацтва, з надзвычайнай выразнасьцю паказвае выяўленьне і ўздым творчых сіл з нетраў працоўных, вызначае канкрэтныя шляхі далейшых заваёў на гэтым фронце» (Правда ад 9—V—32 г.).

Посьпехі сацыялізму патрабавалі ад літаратурна-мастацкіх арганізацый ўсё большай і большай мабілізацыі савецкіх пісьменьнікаў на выкананьне задач сацыялістычнага будаўніцтва. Для выкананьня гэтае задачы рамкі раней існаваўшых пралетарскіх літаратурна-мастацкіх арганізацый сталі вузкімі. Гэтыя арганізацыі (ВААПП, БелАПП), існаваньне якіх было

гістарычна зусім неабходным на працягу цэлага этапу ў разьвіцьці савецкае літаратуры, у апошнія часы з арганізацыяй, якія садзейнічалі росту літаратуры і мастацтва, пачалі ператварацца ў сваю супрацьлегласьць, пачалі тармазіць далейшы сур'ёзны размах у разьвіцьці літаратуры і мастацтва.

У справе перабудовы сваёй работы, у адпаведнасьці з новымі задачамі літаратурна-мастацкіх арганізацый, гэтыя арганізацыі асабліва адсталі ад тэмпаў і патрабаваньняў, якія прад'яўляла да іх жыцьцё. «Часам сапраўдная перабудова падмянялася дэклярацыямі. Мела месца захаваньне гуртковай замкнёнасьці, групаўшчыны, элементы адміністраваньня і зацісканьня самакрытыкі. Былі дапушчаны грубыя памылкі ў адносінах да спадарожнікаў. Кіраўніцтва ў адносінах да паасобных спадарожнікаў падмянялася часам адміністрацыйным вокрыкам і наклейваньнем розных ярлыкоў». (З рэзалюцыі камуністычнай фракцыі пісьменьніцкіх аб'яднаньняў).

Вось чаму так своячасова пастанова ЦК УсеКП(б) пра ліквідацыю асацыяцый пралетарскіх пісьменьнікаў (ВААПП, РАПП, БелАПП). Пастанова ЦК УсеКП(б) пра перабудову літаратурна-мастацкіх арганізацый зьяўляецца адначасова актам найвялікшага давер'я партыі да шырокіх савецкіх пісьменьніцкіх мас. Пастанова ЦК—заклад далейшага, нябывалага росквіту літаратуры і мастацтва ўсіх народаў Савецкага Саюзу.

У сьвятле гэтых гістарычных пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б пра рэарганізацыю літаратурных згуртаваньняў—выразна вырысоўваюцца і задачы нашае новае часопісі, што выходзіць з гэтага нумару, як орган Арганізацыйнага камітэту Саюзу савецкіх пісьменьнікаў (замест былога «Полымя») пад назваю «Полымя рэвалюцыі». Змаганьне за правядзеньне ў галіне літаратуры лініі партыі, змаганьне супроць усялякіх спроб працягнуць у літаратуры клясава-варожыя пралетарыяту ідэі, змаганьне за поўнае ажыцьцяўленьне пастановы пра перабудову літаратурных арганізацый, змаганьне за высока-мастацкую літаратуру сацыялістычную сваім зьместам—вось тыя агульна-палітычныя задачы, што стаяць перад часопісьсю «Полымя рэвалюцыі».

Паводле папярэдніх меркаваньняў арганізацыйнага камітэту Беларускага саюзу савецкіх пісьменьнікаў, часопісь «Полымя рэвалюцыі» разьлічана на падрыхтаваныя кадры партыйнага і камсамольскага актыву, на кадры савецкай інтэлігенцыі і будзе зьмяшчаць на сваіх старонках найбольш кваліфікаваны як мастацкі, так і тэарэтычны матар'ял. У часопісі ўводзіцца рэгулярны аддзел крытыкі і бібліяграфіі, у якім будуць ставіцца і распрацоўвацца праблемы марксыцка-ленінскага літаратуразнаўства, пытаньні гісторыі літаратуры і мастацтва, пытаньні канкрэтнай крытыкі.

Зразумела, што ўсе гэтыя задачы часопісь з гонарам выканае толькі тады, калі ў гэтай рабоце савецкія пісьменьнікі і шырокія працоўныя масы возьмуць самы актыўны непасрэдны ўдзел. Рэдакцыя «Полымя рэвалюцыі» ўпэўнена, што на гістарычную пастанову ЦК савецкія пісьменьнікі адкажуць напісаньнем мастацкіх твораў, вартых нашае эпохі, яшчэ больш актыўным удзелам, сродкам бальшавіцкага мастацкага слова, у будаўніцтве сацыялістычнага грамадзтва, у змаганьні за пабудову сацыялізму.

# ЦІХАЯ РУБА

*(З дзёньніку Андрэя Шабеты)*

**Юрка Віцьбіч**

**Памяці мастака**
**Я. ЗАГАРОЎСКАГА**

И в каждой капле спал потоп,
Сквозь малый камень прорастали горы.
М. Ціханаў.

*23-IV- 193... г.*

Калі адчыняю дзьверцы шафы, бачу на паліцы зьмястоўны фаліянт, з выціснутымі на апраўе літарамі «Якасны аналіз газаў», і невялікі са знаёмым портрэтам тамок Аляксандра Блока, а паміж імі заўсёды звыкла заўважаю люльку, капшук і крэсіва.

На першай старонцы фаліянту надпіс:

**ПРЭМІЯ**

*Лябаранту т. Шабеце*
*ад рабочага калектыву*
*заводу „Альфагаз“*

—на першай старонцы тамка:

Ex libris*)

—з імям блізкім і любым у абламоўцы апаленых верасьнем кляновых лістоў, а

—люлька, капшук і крэсіва

—атрыманы ў спадчыну ад аснача Самуся Галабурды, для якога былі і сямейнымі рэліквіямі і сродычам у адпачынку.

---

¹) Літаральны пераклад з латынскай мовы—з кніг, а звычайна, аздобленае малюнкам імя асобы, якой належыць кніга.

Ня курыў я ніколі люлькі, ужываючы папяросы «Дели» і запалкі «Метеор», а ўсё-ж спадчына — і ўлетку, і ўвосень, і ўзімку — для мяне таксама каштоўна, як для археалёга краменныя гірды і масянжовыя нажы, як для нумізматыка — дэнары Сьвідрыгайлы і талеры Казіміра, як для антыквара — аўтографы пісьменьнікаў і шпагі маршалкаў. А ўвесну, калі зноў кліча да ганкаў, лайб і параходаў сваіх Дзьвіна, пачынаю важыць вартасьць аснчоўскага падарунку на караты.

Рыпіць хваравіта кампрэсар, і я ведаю, што трэба прыцерці карбурундавай мазьзю кляпаны. Рыпіць пас, і я ведаю, што трэба перашыць стык. Вые ў рулях газ, і я ведаю, што трэба махавічком зьменшыць хуткасьць. Але ў красавіку я амаль нічога ня ведаю.

Рып кампрэсараў і пасоў:

— І-ы-ы! І-ы-ых!

—адчуваецца як рып дрыгалак. Там цяпер ідуць па Дзьвіне ганкі.

Скогат газу ў рулях:

— Га-га-га! Га-га-га!

—адчуваецца як скогат парогаў. Там цяпер грымяць за Крэйцбургам Пахвальніца і Бродыж.

Пераходны ўдарніцкі сьцяг над дзьвярыма сумежнага цэху прымушае мяне пільна адганяць прычэпныя думкі і ўсё-ж апошнія перамагаюць.

У красавіку рушыцца па дрэвах сок і імкнецца па жылах кроў. У красавіку раднейшае, як ніколі, сонца і краўнейшая, як ніколі, зямля. І поўнаму шчасьця і сілы хочацца тады рынуцца ўгрунь галаруч з ранішнім прывітаньнем да знаёмай мядзьвежжай мярлогі, і хочацца тады рынуцца рынаю да кургану і шчыра па-юнацку прыласкавіць стромкую самотную бярозу. А з боку шуміць, скінуўшы чыстую ў лістападзе, а ў сакавіку брудную сьвітку, Дзьвіна, і разам з запознымі крыгамі ідуць за вадою, парыйваючы дрыгалкамі, ганкі. І здаецца, бачу я на першым Самуся Галабурду.

Змрокам, калі запальваюцца чырвоныя ліхтары трамваяў, прыходжу з заводу да хаты і, адчыняючы шафу, доўга, нібы ўпяршыню, разглядаю асначоўскую спадчыну.

Праз вакно чуваць як на далёкім бульвары спавівае «Хабанэрай» вячэрнюю цішу вайсковы аркестр, як на дзядзінцы прымусіў засьмяяцца сваю заўсёды панурую спадарожніцу сьляпы скрыпач, як у будынку праз вуліцу засьпявала на невядомай мілагучнай мове, дзяўчына.

У такія ночы ня сьпіцца, і я перагортваю старонкі дзёньніку на чатыры гады назад.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*16/V—192... г.*

— ... І адпусьціў дзед Дняпро з Воўкаўскага Лесу, рыхтуючыся ў пуціну, сваю маладуху Дзьвіну, каб яна, сабраўшы патаемныя воды прыбочныя, потым уліла іх у Дняпро і разам з чалавекам пабегла да цёплага поўдню. Але Дзьвіна, падхапіўшы ў пагулянцы Вялісу і Валкоту, Мяжу і Таропу, Ісьвячу і Касплю, Лучосу і Віцьбу, адчула сваю моц, і пад Бешанковічамі пайшла ад старога чалавека на ўцёкі зусім у іншы бок — да

мора Балтыцкага. Доўгі час ідучы рахмана супастаўна жонцы, ня ведаў нічога Дняпро, а калі праз Лучосу дазнаўся сівы пра здраду, завыў ад болю пад Кабялякамі, загаласіў ад злосьці пад званцом, гукаючы:

— Хай-жа і яна спазнае тое, што спазнаў я!

— І зьвярнуўшы пад Воршай, пайшоў, спакідаваючы жонку, на поўдзень, да Украіны вішнёвай, да стэпу шырокага. І ўдарылася Дзьвіна поўнымі грудзямі аб жорсткую скалу парогаў. Спаткала Глінавец і Перакарыж, Пахвальніцу і Ціхую Рубу, Бродыж і Срэбраніцу. І бе там вадзяным пылам да зор, і паглынае гармідарам пяруны. Перамагла Дзьвіна парогі, перамагла галоўкі і, захаваўшы ў дзікім камені да апошняй кроплі воды свае, прынесла іх цалкам у мора бруштынавае, а Дняпро, трапіўшы ў бязьмежны стэп, пачаў, магутны, адзяляць бязьлічныя адтокі, пачаў, вялізны, паіць хцівыя пясчаныя пярэспы і адрузьлеў.

Апавядае пад сурдынку гліцы, седзячы ля вогнішча перад саломенай будкай Самусь Галабурда. Ганок, з узьнятымі да гары дрыгалкамі, з ластоў якіх хапатліва зьбягаюць цуркі, ідзе па плесу вагам, а мы, скарыстоўваючы вольныя хвіліны адпачынку, сышліся з канцоў яго на ўтульны трэск агню пакурыць, пагаманіць і пагрэцца.

Абодвым нам разам восемдзесят год, і па звычайнаму закону лічб:

$$80 : 2 = 40$$

— на кожную дрыгалку даводзіцца па сорак год, але жыцьцё, карэктуючы арытмэтыку, шчыра накінула шэсьцьдзесят два гады на асначоўскія плечы Самуся, адмовіўшы мне нават у мізэрных вусох. Старасьць ня радасьць, і таму мяне ня турбуе юнацтва, але і Самусь ня схіліў беспарадна шыі перад сівізною.

Дзед, скончыўшы думку, прыпальвае ад вугалька люльку, і лёгкасьць, з якой ён схіляецца да вогнішча, і чыстата вачэй, з якіх не зьбягаюць паздрадніцку сьлёзы, і моцнасьць зубоў, што сьціскаюць люльку—неяк дзіўна не зьвязваюць з сівізной барады і з маршчынамі на твары. Калі перад нарагамі ён гукае да мяне:

— Андрэй!

па ўзьбярэжных гаёх і ярох доўга яшчэ блукае паміж бярозкамі чортапалохамі бяспрытульнае:

— Эй!

—а па тым, як выхінаючыся ў крук зарпніць разам з дрыгалкай кожнай гліняй[1] і бервяном ганок, я адчуваю як магутна штурхае ваду дзядоўская дрыгалка. Дзьвіну ад Вокаўскага Лесу да Рыгі дзед ведае таксама, як ведае балагол шлях ад Грайронку да Віцебску, як ведае машыніст чыгунку да Менску да Гомелю, бо жыцьцё аснача ад калыскі да труны сталёвымі тросамі зьвязана з жыцьцём ракі ад вытокі да вусьця, і сёньня мы ўжо другі дзень у пуціне да Рыгі.

Седзячы тады ў хаце за падручнікам альгебры, я пачуў як хтосьці з вуліцы стукае ў балонку вакна. Зірнуўшы, убачыў Самуся ў сваёй звычайнай бараноўцы, кажуху і юхтовых ботах.

— Досыць, Андрэй, у шапку спаць. Няхай бабы курэй шчупаюць. Хадзем да ракі—гамонка ёсьць.

[1]) Гляня—частка ганка.

Калі я выхаджу на вуліцу, дзед усьміхаючыся грукае мяне кулаком у грудзі.

— Хлапец, а не дзяўчына—бачна што ў піве апасьля кшэньня мылі. Усе капачкі, хай яму пухам зямля, з бацькі пабраў. Толькі нябожчык Пархвен увесну ў хаце не сядзеў, як той дзячок, за кнігамі. Глядзі, Андрэй трапіш на Бэрачкавы сьцежкі-дарожкі.

Такім ударам у грудзі калісьці пасьвячалі ў рыцары караля Артура, а кажучы пра Бэрачку, дзед дае выразны напамін. Жыхар нашага раённага цэнтру—мястэчка Зацьвілішкі—Бэрачка Шпун змалку вучыўся на рабіна, але яго мазгі ня вытрымалі схалястычнай вучобы і ён, вярнуўшыся вар'ятам з ешыботу, шпацыраваў, агорнуты ў падобны да талеса ручнік, па мястэчку з дружынай хвастатых смаркачоў, мармычучы цэлыя разьдзелы з Мішны і Гэморы.

Прышоўшы да берагу, бачу самотны без аснач[о]ў ганок, які часам увесь уздрыгвае ад імпэтаў плыні. Я ўжо ведаю, як ён тут апынуўся. Пазаўчора ў час прывалу сахой [1]), забіла аснача, і цяпер чуецца праз рып клібін з боку нашых вясковых могліц як галосіць жаласьлівая бабка Куліна:

— Падарожнічак чужастранны!
Ты-ж нам няведамы!
Некаму цябе пажалеці,
Некаму па табе паплакаці.

Пахавалі ўжо без папа і канону аснача, а другі, яшчэ зусім хлапец, з пераляку ўцёк да хаты.

— Бачыш?—кажа Самусь, паказваючы на чырвоную шчоглу за ракой, на паземнай рэі якой гуталіся дзьве дошкі і гала.—Два сажні з аршынам сёньня паверх мяжэніны, і ўчора было таксама, і заўтра будзе таксама, калі толькі ўгары ня пройдуць дажджы, а потым ужо вада пачне спадаць і ганок абсохне. Калі ў нас у Дубакраі два сажні, дык ужо пад Вяліжам Пушкар, а за Суражам Крупадзёр пачынаюць ужо мармытаць. У Перакрыжы—Гусак, у Бродыжы—Падлішкі пачынаюць вяр'яцець. Калі ў нас паўтара сажня, дык ужо заварушыліся Асетр пад Бужынай Гарой, Чортава Барада за Крэйцбургам і балван пад Рыгай, а ў Падлішках глядзі вострымі вачыма, каб самога за бахілкі пад ліпіны не сьцягнулі.

Даўно зразумеўшы кірунак і мэту дзедавай гамонкі, я ўсё-ж пытаю:

— Дык хіба-ж мы з табой, дзед Самусь, стрымаем ваду, альбо прымусім Перакагрыж ня грымець?

— А ваўкі цябе ня еш, няўжо ты яшчэ ня сьцяміў? Калі і мы заўтра разам з сонцам выйдзем, дык пойдзем разам з вадой аж да Яраслаўкі—потым яна толькі пачне спадаць. А йсьці трэба. Учора прыехаў з таго руму, адкуль ганок, чалавек шукаць аснач[о]ў і нікога няма. З нашага калгасу тыя, што пашлі, ужо напэўна вяртаюцца, а тыя, што засталіся, пільна патрэбныя, бо неўзабаве ўжо Мікола з сяўней прыдзе. Ісьці трэба. На ганку заўсёды лепш, як на ганку. Потым ня кепска ўсё-ж, Андрэй, плацяць. Апрача грошай яшчэ селядцы, тутунь і ўсялякая іншая трасца. У Рызе ўсё дазваляецца купляць—гэта табе ня ў Віцебску. У Віцебску ля кожнай крамы чарга, як старэцкая пуга, а там на кожнай вуліцы гарэлка з закускай і народ жыве сабе лепей за паноў Борк-Жачыцкіх.

[1]) Вялікі кол, якім карыстаюцца як якарам у час прывалу.

У гэты момант паўз нас прабягае караван ганкоў са шпаламі.

— Якой дзяржавы і вёскі, дзед?—крычыць усьміхаючыся аснач, падскакваючы разам з дрыгалкай, што сьпявае працавіта:

— І-ы-ых! І-ы-ых!

— Калгаснай, а вёска Дубакрай!—адказвае Самусь і ў сваю чаргу пытае.—Адкуль, браток, ганкі?

— З Таропы да Віцебску!—крычыць аснач.

— І-ы-ых, з Таропы!
І-ы-ых, да Віцебску!
— І-ы-ых, з Таропы!
І-ы-ых, да Віцебску!

— сьцьвярджаюць, адкідаючы ўбок хвалямі ваду, дрыгалкі.

І нібы зьдзекуючыся і над рыпам галасьлівых дрыгалак і над галашэньнем бабкі Куліны, насьвіствае сініца, седзячы на ўзьбярэжнай бярозе, сваю адзіную ў красавіку песьню:

— Ці-ці-пію...
Ці-ці пію...
Ці-ці-пію...

— Ну як, Андрэй?—пытае мяне Самусь, калі караван ужо схаваўся за нарогам.

Дзеда вельмі абразілі нашы асначы, калі ўзяўшы пад сумненьне зіркасьць яго вачэй і моц мускулаў, пакінулі на прызьбе, і цяпер яму сквапна хочацца ўхапіўшыся аберуч за дрыгалку апынуцца ў Рызе і загнаць старасьці гол. А ў мяне, гледзячы на вясеньнюю Дзьвіну і гнуткія ганкі, затаварыла кроў бацькі, прымусіўшы адказаць:

— Добра, дзед Самусь. Заўтра ў пуціну!

— І мы хутка пашлі да хат.

Маці, успляскнуўшы рукамі, завохкала, калі я ёй паведаў усё, але пачала ўсё-ж хапатліва зьбіраць бялізну, хлеб, бульбу, пачала хапатліва шукаць яна казанок, бляшанку і складанчык. Потым ужо за Зэльбургам заўважыў я ў хатылі паміж бульбін невялікі абразок Міколы—абаронцу на вадзе. Эх, маці, асначоўская маці!

Праз вакно я бачыў як з юнацкай спрытнасьцю цягнуў да ракі тросы дзед Самусь, а ззаду ледзь пасьпяваючы бегла яго сястра—вякавуха бабка Тадора і лямантавала:

— І, божухна ты мой. Ашалеў стары—на валатоўкі трэба, а ён у Рыгу ідзе. Бадай цябе паляруш, зязюлька ты мой! Бадай цябе...

— А соль табе ў вочы, галаўня ў зубы!—злосна перапыніў дзед,— Цыць, чаропка, ціпун табе на язык!

Увечары абчэсвалі запасныя дрыгалкі, вывяралі моц клібін, перакрывалі саломай будку, цягалі дзёран пад вогнішча, а ўраніцы, як толькі зьнік туман, мы ўжо былі на ганку.

Дзед, перш як закінуць з берага саху, пільна перахрысьціўся, зьняўшы бараноўку, на белую пляму далёкай царквы (нібы занядбаўшы на тое, што [illegible]
[illegible]

марудна ён, затым пайшоў усё хутчэй і хутчэй, пакідаючы адзаду і Дубакрай, і могліцы, і шчоглу, і дзьве жаночыя постаці на беразе—маці маёй і бабкі Тадоры.

Бабка плачучы рыдма крычала праз сьлезы:

— А бадай цябе ванцак схапіў! А бадай цябе пранцы!

— Галасі, галасі!—гаркнуў дзед, паказваючы на шчоглу. — Мабыць яшчэ на адну гаму, пяценка сьвятая, нарумзаеш!—і зьвярнуўшыся да мяне, крыўнуў: — Пашлі, Андрэй! Э-эх, пусьціўся сівы Мікіта на старыя валакіты!

І ўжо сто дваццаць кілёмэтровых слупоў, выразных, як дробы Гэдыміна на варце, паміж намі і Дубакраем. Учора ад досьвітку да змроку ішоў зацяжны імжак, што прамачыў нос да цыганскага поту, але і ён-жа спыніў спаданьне вады. Прайшлі пад Вяліжам паверх падтоптанага пад сябе ракой бунтаўлівага валуна Пушкара, прайшлі за Вяліжам паверх пахованай ракой лазовай выспы Дзейнай. Часамі дбайна, нібы маці дзіцяне, нясе плынь ганок, часамі шалёнай мачыхай шпыргае на каменьне, але пад рыпат дрыгалак мы перамагаем жарты ракі. Вось Дзьвіна, выгінаючыся юнгай у джыгі паміж курганамі на адным узьбярэжжы і ліпавым паркам на другім, паказвае з усіх бакоў добра знаёмы нам маёнтак Боркавічы—сямейнае гняздо паноў Борк-Жачыцкіх, да якіх калісьці разам з іншымі вёскамі належылі і вёска і маёнтак Дубакрай. Відаць на гары палац ад мармурнай альтанкі, перад якім ідуць да ракі, разам з мёртвымі вадаграямі і зьнішчанымі статуямі занядбаныя прысады, вялізарныя хвоі могліц з капліцай у атачэньні чыгунных помнікаў і крыжоў, аранжарэі з разьбітым шклом і даўно засохлымі памяранцамі і пэрсыкамі. За Боркавічамі рака нібы стомленая разьліваецца плёсам, дазваляючы і нам адпачыць ля вогнішча. Дзед Самусь чымсьці ўсхвалёваны, больш як трэба часу запальвае люльку, і затым, пасьля доўгага зацяту, кажа:

— Каршаковае кубло—паляндра яго навітухай закруці. Чаму гарбаты люстэрка ня любіць—бо свой горб бачыць, а для нас, дзядоў, Боркавічы тое-ж люстэрка. Мусіць, ад салодкіх, як палын, успамінаў да самай труны паратунку ня будзе, і не ад бабоўніку яны загойваюцца. Трэ' было на каміны развалачы палац, і капліцу, і аранжарэю, трэ' было высечы да апошняй ліпіны парк, да апошняй хвоі могліцы, а потым выкарчаванае карэньне спаліць, і жыта засеяць. А па выгару—жат, як Дунай, заўсёды. Косьці-б дзеда і бацькі пашлі-б у трунах у танок ад такога жыта.

Дзеда мой Панас Галабурда, хай яму пухам зямля, жыў тут пры маёнтку ў прыгоньніках пана Жыгімонта Борк-Жачыцкага, а гэта ўжо мой бацька Ярмала Галабурда пераехаў у Дубакрай. Нарадзіўся Панас яшчэ за Катарыну, за два гады да таго, як Меншчына адыйшла ад Польшчы да Расіі, а памёр, на маёй памяці, калі мне было сем гадоў. Няма цяпер мужыкоў накшталт Панаса—шалёны поп яго хрысьціў. Галаруч разгінаў падкоўкі, душыў за шыю ваўкоў, спыняў, схапіўшы за кола, парку коняй, а калі француз ішоў на Маскву, дзевятнаццацігадовы Панас, злапіўшы ў час спрэчкі двух паварцаў за каўнеры, так грукнуў іх галовамі, што потым з гадзіну адлівалі вадой. Зухаваты і ганарысты быў дзяцюк, а адвага, як вядома, альбо мёд п'е, альбо кайданы трэ.

Тут, у Боркавіча, ёсьць вялікі выкапаны прыгоньнікамі ўспол, і праз яго мост, на якім заўсёды сьвятамі зьбіраліся з усёй ваколіцы грамада—

дзяды пагаманіць, а моладзь пабавіцца. Вядома што гамонка бяз люлькі, як саланіна бяз хлеба, дык ад мосту курадым, як ад смалярнай буды, шугае. А пану Жыгімонту ў галаве да залатоўкі грыўні не хапала, і вельмі ня любіў ён трубакураў. Засядзе на беразе ў альшэўніку, і толькі дзяды захрапуць люлькамі, як ён наляціць Пілітам з канапель, выхапіць з роту люльку ды праз більцы ва ўспол. Баілі, што калі летась, чысьцячы ўспол ад твані, спушчалі ваду, дык знайшлі ля мосту багата люлек. І вось наскочыў пан аднойчы на майго дзеда. Толькі пан кінуў Панасаву люльку ва ўспол, як Панас схапіўшы пана, нібы шчанё, шваргануў праз балясы за люлькай наўздагон. Трапіў самлеўшы ад пераляку пан у дзядоўнік ля самай вады, і лепей нельга накалечыўся, а побач з ім знайшоў Панас і сваю люльку—вось тую, што ў капшуку маім цяпер.

Перацягнулі пана ў палац і з павету і з губэрні панаехалі груганамі на падлу дактары, а Панаса адбізунілі чаркесы ў стайні і трымалі па загаду пана ў замкненьні пакуль ён ня выбярэ самую суровую кару. І на што зух быў Панас, але зьбялеў увесь, калі казаў яму нарэшце пан:

— Ня слухаеш пана, дык паслухаеш барабана.

Апынуўся дзед мой у мікалаеўскіх салдатах. Шылам шавецкім галіўся, курадымам люлечным саграваўся, з сякеры капусьнік варыў, і неўзабаве трапіў на турэцкую вайну. Апавядаў потым пра высокія горы, пра глыбокія яры—і дагары зірнеш, і дадолу зірнеш—салдацкая шапка з крыжом звальваецца. Тры чвэрці заставалася Панасу да сьмерці, але адарвала яму два пальцы і, вызвалены ад скарбовага хлеба, ён зноў вярнуўся ў Боркавічы. Ня выпалілі Панасу, як калодніку, на лбе таўро—Мікалаеўскі салдат,—але пашоў ён да самай труны, адбіваючы левай нагой крок, пачаў казыраць выструньваючыся нават гайдуком, пачаў гаварыць адрывіста, нібы цьвікі заганяць, а калі засьпявае на ігрышчы, альбо на полі:

— Салдатушкі, молодчыкі,
Ідзе-ж вашы жоны

— дык дзяўчата засмуцяцца, а бабы загалосяць.

Цікава, што пан спачатку не чапаў Панаса, а потым нечакана прагуляў яго жонку Агату, маю бабку, у карты арцыбіскупу сумежнай губэрні. І Панас з таго часу заняпаў—пачаў нарэдка хадзіць пад чаркай, пачаў асначыць па Дзьвіне, а вядома, хто ганкі ганяе самы галіш, у якога, як у небаракі Цімошкі: ні сабакі, ні кошкі. Толькі і засталося ў яго дабра, што люлька, за якой калісьці ляцеў тарчаком пан. Хадзіў дзед Панас з бацькам маім Ярмолам кожную весну па некалькі разоў да Рыгі, хадзіў, пакуль пад пахвальніцай ня здрушчыў Блядніввец іх ганок па бярвеньня. Бацька сяк-так выплыў, а дзеда выкінула Дзьвіна ўжо мёртвага ля парогу Улан пад крушнямі замку Зэльбург. У кішэні яго знайшоў бацька толькі люльку і крэсіва.

За гэтым парогам вялікая лука, Андрэй!—скончыў апавядаць дзед Самусь, і мы, хістаючыся па коўзкаму бярвеньню, пайшлі да дрыгалак.

Увечары заўважылі параход, які ішоў насустрач нам з Віцебску ў гару, і, цяжка вухкаючы, крамсаў вострым перадам плынь. Калі ён, поўны асначоў, што вярталіся з Рыгі, праходзіў у некалькіх кроках ад ганка, эдтуль нечакана пачулася:

— Бач! Бач! Нашы дубакрайкаўскія! Самусь Галабурда і Андрэй Шабета!

— Здароў, Піліп!—закрычаў дзед Самусь, заўважыўшы на параходзе суседа—Як Парогі?

— Здароў, дзед Самусь! Трымайцеся ў Падліпках больш праваруч!

— А як Ціхая Руба!—спытаў дзед, але параход ужо быў далёка. Некалькі хвілін яшчэ разьбіваліся яго хвалі аб ганок, а потым зноў запанавалі—рып клібін, скаргі вады і шэпты гліцы.

*22/V-192... г.*

У Віцебску—саборы вялізныя і халупы нішчымныя. У Віцебску—палацы шляхецкія і затулкі жабрацкія.

А за Віцебскам—маёнткі нясмутныя і курганы задуменныя, а Дзьвіна зьверху крынічная і падыспадам крывавая.

— Так напэўна ў тыя часы, калі прымушалі рыпець дрыгалкі, Панас і Ярмола Галабурды сьпявалі на кірмашох і фэстах, лапцюжныя мэйстэр інгеры і сьвітковыя трубадуры. І вельмі самабытна ўспрыняў Самусь Гарабурда сёньняшні Віцебск—так не падобны да Віцебску ў часы яго бацькоў і дзядоў.

Яшчэ пад Суражам дзед вывярнуўшы кішэні ледзь-ледзь толькі назьбіраў тутуню на люльку, і цяпер пакутваючы ён усё вакольнае ацэньваў з нейкай нанесенай выпадковай разлаванасьцю. Калі ганок ужо ідучы паўз горад параўняўся з агорнутымі працоўным гармідарам гмахамі дражджоўні, дзед усьміхаючыся гукнуў да мяне, паказваючы рукой на бераг:

— Падывіся, Андрэй, на Гугляйлавы пабудовы! Моцна-ж бажаецца дзеду запаліць люльку, калі ўспамінаючы пра Гугняйлу пачаў белае называць чорным.

Паўлюк Гугняйла—тубылец Зацьвілішак—у дзіцячыя гады свае падаваў некаторыя надзеі і нават пісаў нішчымныя вершы. Бацька Паўлюка, дранейшы за вераб'я чыноўнік, апавядаў усім, пырскаючы ад захапленьня сьлінкамі, што сын яго—другі Пушкін. Але «другі Пушкін», пачаўшы літаратурны шлях ад бадзейкі лазеньніка, потым пабываўшы і ў экзэкутарэх школы і ў вышыбалах карчмы, атрымаў нарэшце прызнаньне сучасьнікаў як выдатны дойлід мястэчковых клязэтаў.

Гонак праходзіў паўз утоку Віцьбы ў Дзьвіну. Застыглі на рагох рэк адна супроць аднэй камяніцы—белая і жоўтая. У той час, калі асначыў Панас Галабурда, у белым будынку адшліхоўвалі пад гукі капэлі палянэзамі паркет паны, а ў жоўтым—гарбелі над гамілетыкай і канонікай прапахлыя ладунам бурсакі. А ўтой час, калі асначыць Самусь Галабурда, у белым будынку прымусілі рабочыя, уключыўшы рубільнікі, задрыжаць муры ад руху агрэгатаў, а ў жоўтым,—схіліўшыся над коўбамі і рэтортамі, вывучалі працэсы фізыкі і хэміі прапахлыя мазутам студэнты.

**Шляхецкая зборня і трыкатажная фабрыка.**
**Бурса і палітэхнікум.**
**Плёс і строма.**

Я сачу прыглядам за Самусём, але дзед, хапаючыся часамі за парожні капшук, разглядае камяніцы з гіронічнай усьмешкай.

Прайшлі пад трыумфальнай для параходаў, лайб і ганкоў аркай мосту, па якім цяпер імклівіць трамвай і хапатліва крочаць, прышчапіўшы ў

кроў сваю дзынк сэкундамераў і пульс мэтраномаў, сотні пешаходаў. Прайшлі далей прывітаньня вархалам бэтонамяшалак і камнядрабілак паўз будсўлі новага мосту. Потым пачалі паступова прыбіваць дрыгалкамі ганок да берагу, спыніўшыся ля ўтокі Лучосы на адпачынак і ледзь толькі саха нацягнула струной трос, Самусь пашоў на пошукі тутуню.

На Магілеўскім рынку дзед, таўхаючыся ў натоўпе пакутным Маркам, заглядаў і ў гандлёвыя брамы і ў парфумовыя крамы, заходзіў у аптэку і гарбатню, пытаў у газэтных кіёсках і мясных ятках. Бачыў ён—цэнтрафугі і гуталін, плугі і гальштукі, ялавічыну і куханы, а тутунь на вочы ня трапіў. У аднэй краме заўважыў тутунь і папяросы, але іх давалі па картках, а карткі ў дзеда ня было.

— Няхай вас жонкі заўсёды верашчакай па картках частуюць— мармытаў Самусь дарогаю да Полацкага рынку. Ён крочыў па бруку ўсьцяж ходніку ў абшарпанай, потым разьведзенай сьвітцы, нічым не адзначны сярод асначоўкай грамады, якая штогод узварушная сьпевамі крыг захлістае вясеньні Віцебск, але дзеду здавалася, нібы ўсе цішком падсьмейваюцца над нішчымнымі лахманамі. Калі яго выпадкова штурханула, пераходзячы ў нейкім задуменьні вуліцу, дзяўчына, дзед, добра заўважыўшы толькі яе чыстую і прыгожую вопратку, і нібы не бачачы яе загрубелых, патрэсканых рук, што дбайна трымалі кнігі—гукнуў ёй злосна наўздагон:

— Выбачай, панадзюкоўна, што да цябе дрыгалачнік дакрануўся! Выбачай праскурка сьвятая!

Дзяўчына, уздрыгнуўшы ад нечаканасьці, абярнулася і ветліва адказала:

— Выбачай, дзядуня! Толькі ты крыху памыліўся—я байкаброшніца з фабрыкі «Дзьвіна», а бацька мой—параходны качагар з «Валкоты». Выбачай, калі ласка.

Зьбянтэжаны дзед нават павялічыў крок, але на рагу Катэдральнага пляцу яго прымусіла спыніцца колёна піянэраў. Уперадзе, адразу за барабаншчыкам, дзьве дзяўчынкі несьлі сьцяг з надпісам:

**БАЦЬКІ!**
**Патрабуем ад вас выкананьня прамфінпляну на 100 %**

Дзед, жадаючы скарыстаць хвіліну затрымкі, схапіўся за капшук і лішні раз пераканаўся ў яго парожнасьці.

— Каб вам нетрычак, блазены, толькі ў галаву—уразьліва ўсьміхаючыся замармытаў ён і хапатліва пакрочыў па Замкавай вуліцы, заўважыўшы яшчэ зводдалек вялікую чаргу ля аднэй крамы.

— Напэўна за мясам ці за хлебам—гадаў дзед.—Па бруку вам шпацыраваць добра, а вось бацьвіньне збрукоўцу—не падабаецца.

Ён падышоў да вітрыны крамы і заўважыў там файныя гарнітуры і паліто, а сьлібізуючы па паперцы наклейванай на шкло прачытаў:

*Віцебскі ЦРК паведамляе, што сёньня і заўтра—апошнія дні атрыманьня гарнітураў і паліто.*

— Увесь Пескавацік на паноў захварэў. У лахманах больш хадзіць ня хочуць.

— Зноў мармытаў і зноў усьміхаўся дзед, але калі выпадкова ўбачыў сябе ў люстэрным шкле вітрыны, заўважыў, што яго ўсьмешка сваёй штучнасьцю больш падобна на гімору, і ён ужо больш ня ўсьміхаўся. Ня ўсьміхаўся, заўважыўшы на Замкавай новыя, што блішчэ сьвежай фарбай, трамвайныя вагоны заўважыўшы з мосту новы з выразістымі абрысамі клюб мэталістаў, заўважыўшы на Вагзальнай, як цяжка перайсьці на другі ходнік.

На полацкім рынку таксама ня трапіў на вочы тытунь. Праходзячы паўз крамы Белсьпірту, дзед Самусь убачыў ля яе ганку знаёмага папа з Дубакраю айца Агафангела. Дзяцюк са сьнітым цаглянага колеру тварам моцным ударам пад дно бутэлькі выбіваў корак, кажучы айцу Агафангелу—шклянка, падай госпадзі, ёсьць?—і той, хапатліва падаючы дрыгоннай рукой шклянку, прасіў.—Толькі трошкі, браток, падыспадам пакінь.

— Бач, бач—толькі і казаў дзед, але спагаданьня да пана ня было, бо назаўсёды запомнілася як айцец Агафангел за пахаваньне жонкі злупіў з дзеда тры рублі і парасё.

Прайшоўшы трохі далей, убачыў дзед Самусь колішняга лесапрамыслоўцу Хаіма Зарха з катрынкай, якая цягнула часамі, прастуджана кашляючы, хаўтурны матыў з вальца.—Васеньнія мары. Абшчыпаная і хворая папуга млява цягла з невялікай бруднай скрынкі талань. Калісьці Зарх, абдурыўшы пры разьліку, прымусіў дзеда Самуся амаль што лета цалкам ісьці пяхотам, харчуючыся імям пана Езуса, ад Рыгі да Дубакраю. Месца для спагаданьня Зарху, таксама абшчыпанаму і нішчымнаму, як і яго папуга, не знайшлося ў дзеда.

Зноў крочыў дзед праз увесь горад да Смаленскага рынку, запруджанага дэмонстрантамі, але дзед, ціскаючыся паміж людзей, шукаў адзінага—тутуню. Калі выпадкова спытаў у аднаго рабочага пра тытунь, зірнуўшы на вопратку Самуся, казаў:

— Тут і шукаць няма чаго. І цябе, дзед, ёсьць пасьведчаньне, што ты аснач?

— А хіба няма—адказаў дзед, хапаючыся за грудзі, дзе пад бравэркай была захавана, дбайна загорнутая ў чыстую анучыну, паперка.

— Дык вось бачыш—і рабочы паказаў на крамку з надпісам паверх дзьвярэй:

Усё для аснача.

Дзед, нават не падзякаваўшы, рынуўся жвавай верхаводкай да крамкі і неўзабаве выходзіў адтуль з некалькімі пачкамі махоркі, напіхаючы на

хаду люльку. Цяпер толькі даведаўся ён, што гэта дэманстрацыя была протэстам супроць шкоднікаў, і праціснуўшыся да трыбуны, на якую цяпер апасьля слоў старшыні мітынгу:

— Слова мае майстар заводу імя Бэбэля, Якуб Чыгілейчык—падымаўся чарнявы шчытны мужчына, пачаў уважліва слухаць:

— Таварышы—гукнуў зычна Чыгілейчык—якраз дваццаць гадоў таму бацька мой Янка Чыгілейчык, пастух пана Гржыбоўскага з пад Яновічаў, прывёз мяне трынаццацігадовага хлапца ў Віцебск на работу. Першае месца, куды я трапіў, была пякарня Мітэльгліка. Гэта адтуль ішлі.

Халы,
куханы,
абаранкі,
калачы,
пернікі.

Нават паводле закону Расійскай імпэрыі забаранялася прымаць на работу трынаццацігадовага хлапца, дык папаў я толькі таму, што бацька даў фактару курку—апошнюю жывёлу ў яго гаспадарцы. Пачалося адсюль маё, поўнае зморы і недасону, голаду і холаду, жыцьцё. Устаючы а трэцяй гадзіне ўраніцы, цягаў я дровы і ваду, распальваў пражорлівыя грубкі і вядзерны самавар, ваксаваў боты гаспадара і яго дзяцей, а потым увесь дзень, прыціскаючы да грудзей вялікі кошык, разносіў хлеб па кундах[1]. Пад вечар ужо ўсё плыло вакол перад вачыма, і калі аб адзінаццатай гадзіне ўвечары клаўся спаць, ніякая гармата мяне-б не разбудзіла, але будзіў а трэцяй гадзіне наступнай раніцы гаспадар:

— Уставай, шчанё! Уставай, дармаед!

Быў я на Мітэльглікавых харчох, гэта значыцца, меў хлеб і гарбату, а атрымоўваў па два рублі ў месяц. І гэтак—дзень, другі, тыдзень, другі, месяц, другі—пакуль аднойчы басякі ля вагзалу не абрабавалі мяне, спакінуўшы парожні кошык, і гаспадар у той-жа вечар выгнаў мяне на вуліцу.

Учора мой сямёхгадовы сын Май, калі я яму апавядаў пра гэтае, казаў мне сур'ёзна.—А чаму ты, тата, не паскарадзіўся ў РКК? І хіба-ж я дазволю каму-небудзь, каб гэты мой сын блукаў як калісьці я—галодны і абшарпаны хлапец—па вуліцах губэрнатарскага і архірэйскага Віцебску? І хіба-ж я дазволю каму-небудзь, каб гэты мой сын разносіў хлеб па кундах? Ніколі не дазволю! Ніколі!!

Апынуўся я пасьля Мітэльгліка на заводзе фруктовых вод «Бруссер и С-я». Гэта быў не завод, а цэлая вясеньняя Дзьвіна фруктовых вод. Рознастайныя бутэлькі з «Туці-фруці», якія так часта спатыкаліся на вясковых кірмашах і фэстах. Бутэлькі з журавінным морсам, содовай і зэльтэрскай. Бутэлькі з парцалянымі галоўкамі, у якіх быў ліманад:

вішнёвы,
малінавы,
ананасавы,
яблычны,
грушавы.

Цэлая Дзьвіна, у якой, на вялікі жаль, ня ўтоплены ў свой час Брусэр з усімі яго сынамі. Каля заводзкіх ван, дзе я штодня бяз дзён адпачынку

[1]) Паветалізм—кліент.

працаваў па семнаццаць гадзін, заўсёды былі мокрыя ногі і тулава. І за ўсё гэтае атрымоўваў дзесяць рублёў у месяц і меў кут на вышках гаспадарскай хаты, дзе пацукі аднойчы зьелі каўнер маёй адзінай сьвіткі. Хто хоча зноў піць халодныя шыпучкі фірмы «Бруссер и С-я»? Хто хоча заліць ліманадамі смагу апасьля катаржнай працы за кавадламі і сахой? Я больш не хачу! І сын мой таксама ня хоча! Таксама!!

Затым апасьля Брусэра трапіў я на піваварны завод Левінсона «Левенбрэй». Напэўна памятаеце:

Зааңкі Брэй,
сталовае,
пільзэнскае,
мартаўскае.

Я іх добра запомніў, працуючы на заводзе ад шасьці гадзін ураніцы да шасьці гадзін увечары, атрымоўваючы пятнаццаць рублёў у месяц. Жыў я на кватэры ў жабрака за Юравай горкай і той штодня прыносіў ад саборнага бабінцу грошай больш, як я з заводу. Хто з вас хоча ўтапіць у Зааңкім Брэю жабрацкую нэндзу? Хто з вас хоча ўтапіць у пільзэнскім пакуты голаду?

Сёньня я член партыі, майстра на заводзе імя Бэбэля, член гарсавету. Сям'я мая жыве ў двух чыстых і сьветлых пакоях комунальнага будынку. У аднэй кішэні ў мяне:

— *білет у Дзяржтэатр на «Людовік... наццаты»,*

а ў другой кішэні:

— *ордэр на гарнітур і паліто.*

Жонка мая працуе на акулярнай фабрыцы, а ў сына—рашучы намер быць лётнікам. Я кажу так аб сабе, бо маё жыцьцё падобна да жыцьця тысяч рабочых і сялян, і хіба-ж здолеюць таму шкоднікі адкінуць жыцьцё наадварот. Ніколі!!

— Ніколі!—неспадзявана для самога сябе казаў услых дзед Самусь, які стаяў ля самай трыбуны, гледзячы ўвесь час проста ў рот Чыгілейчыку і, каб захаваць ад суседзяў замяшаньне пачаў хапатліва напіхаць люльку. А на трыбуне, тымчасам, трымаў прамову Айзік Хайкін, токар з заводу «Чырвоны мэталіст».

— Калі князь Друцкі-Сакалінскі, каб даць адукацыю сваіму сыну ў імпэратарскім пажаскім корпусе, прадаў Клубічы—адзін з сваіх маёнткаў пад Грайронкам—дык пастух Янка Чыгілейчык з-пад Янавічаў, каб пры масьціць свайго сына прынёс за плячыма ў кошыку курку, а калбейнік [1]) Рувім Хайкін з Віцебску ахвяраваў на гэтае тры рублі, заклаўшы пад жончын лямант шабасовыя ліхтары і сямейны пярнат. За гэтыя грошы дзяржаўны рабін і прыватны камэрсант Ашкіназі накінуў, як гандляр гіры на шалі, у мэтрыцы аб нараджэньні на мае дванаццаць гадоў яшчэ

[1]) З яўр. мовы—чалавек паветра: Luftmensch.

два, а на другі дзень я разам з бацькам падходзіў у Маркаўшчыне да гмахаў з шыльдай:

*Бельгийское Акціонерное Общество.*
*Льнопрядильная фабрика*
*„ДВИНА“*

Увашоў я ў браму Айзікам Хайкіным, звычайным хлапцом з Пескавацiку, а неўзабаве ператварыўся ў звычайную табельную бляху № 1194, атрымоўваючы за дванаццаць гадзін працы грыўню. Гэта значыцца, каб зарабіць гэтулькі, колькі зарабляў у месяц талоўны дырэктар фабрыкі пан Тфэльд трэ' было мне дваццаць пяць месяцаў.

*Пан Тфэльд—600 рублёў у месяц*
*Айзік Хайкін—2 рублі ў месяц;*

$$600 : 2 = 300$$
$$300 : 12 = 25$$

Мусіў я працаваць быў дакладней і дбайней як вальца-такарны варштат—сачылі за гэтым у цахох майстры-бэльгійцы і французы, сачылі за гэтым па ўнутраны бок брамы вартаўнікі-чаркесы, сачыў за гэтым на вонкавы бок брамы сяміпудовы, на чыгунны помнік падобны, гарадавы. Калі хто-небудзь пачынаў супярэчыць—майстры частавалі штрафамі, чаркесы—высьняткамі, гарадавы—турмой. І ўсё-ж, калі нельга было больш трываць, супярэчылі, змагаліся і часамі дабіваліся пакутным коштам нішчымных, як хатні спрыт калбейнікаў, перамог.

Запомніцца назаўсёды адна з лепшых старонак у гісторыі фабрыкі. Здарэньне з кардніцай Схоляй Гадунскай. Упартая і сьмелая дзяўчына была Гадунская. Калі аднойчы чаркес ля выходнай брамы пачаў зьдзекуючыся вышукваць прыгожую Схолю больш дбайна як трэба, яна так штурханула яго, што ён бульбінай пакаціўся па зямлі. Разлаваны чаркес ускочыўшы рынуўся да дзяўчыны, але з усіх бакоў беглі ўзрушаныя абурэньнем калодачніцы, грабеншчыцы, кардніцы, банкаброшніцы, раскладчыцы, матальшчыцы. Адразу зьніклі кудысь чаркесы, а рабочая строма без усялякіх перашкод выліваліся праз браму вуліцы, дзе апантанела слупам стаяў гарадавы. Два дні маўчалі карды, а потым мы зноў пад прымусам нэндзы прышлі на фабрыку. Ня было ўжо ля брамы чаркесаў, але ня было ўжо і Схолі Гадунскай. Толькі праз паўгодкі прышоў у Віцебск ліст са штампам:






З ліста даведаліся, што не змаглі дзяўчыну турмы, і яна сквапна чакае моманту, каб зноў апынуцца ў Віцебску, але потым пачулі, што ўцякаючы з катаргі яна дзесьці ў тундры заблудзіла і загінула. Ды не, яна не загінула, спытайце пра гэта кожнага за брамай з шыльдай.

*ВСНГ*
*Ільнапрадзільная фабрыка*
*„ДЗЬВІНА“*

І вы зразумееце, што гэта імклівасьць Схолі Гадунскай і да яе падобных пульсуе ў тэмпах самай сівай фабрыкі краіны.

Некалькі хвілін гутаркі ёсьць у мяне пра мой родны горад, родны таму, што ўсе мы Хайкіны, пачынаючы ад майго дзеда і канчаючы маім малодшым сынам, нарадзіліся на Пескавацiку. У мінулы свой дзень адпачынку адшукаў я на паліцах цэнтральнай чытальні вельмі цікавую кнігу, з якой і зрабіў, па звычаю свайму, вынятку ў сшытак:

*„Вообще в Витебске насчитывается 2 собора, 30 церквей, 4 часовни, 2 единовѣрческих храма, 2 костела, каплица, кихра, 3 синагоги и 58 еврейских молитвенных домов“.*


Россія

Полное географическое описаніе нашего отечества
Том IX
Стр. 459

Изданіе А. Ф. Девріена
С.-Петербург

Зразумела, чаму аўтар далей не паказаў, колькі на кожным бабінцы таўпілася жабракоў, колькі на кожную царкву, касьцёл і сынагогу даводзілася закуткаў, але мы самі добра ведам. Мы самі ніколі не забудземся на нішчымныя хацінкі Пескавацiку, дзе мы мадзелі, занядбаўшы на сьвяты, ніколі не забудземся шматлікіх шынкоў Гразнай вуліцы, дзе нашы браты захлiствалі гарэлкай сваю сьвядомасьць, ніколі не забудземся на замурзаныя лаўкі Кавальскага садка, дзе нашы сёстры гандлявалі сваім целам. Гэта была наша бацькаўшчына. Ніколі не забудземся—на шляхецкую зборню і гімназію імя Аляксандры Першага, духоўную канстыторыю і бурсу, рэстараны «Брыстоль» і «Бразэ», кафэ-шантан Ціхантоўскага і цяністыя Глагі. Гэта была іх бацькаўшчына. І, нарэшце, мы, падлічыўшы, колькі на кожнага пана прыпадае жабракоў, колькі на кожную пані прыпадае прастытутак, зрабілі бязьлітасны і апошні падрахунак.

Цяпер яны, на вялікі жаль, дашчэнту ня зьнішчаныя зноў заварушыліся—губэрнатары Бэршаў-Флотавы і арцыбіскупы Ўладзімеры Пуцяты, Тфэльды і Грынбергі, Каўбаноўскія і Левінсоны, Мізрахі і Грузісы. Яны хочуць на нас і на нашых дзяцей зноў накінуць аброць, яны хочуць разьбіць трактары і адліваваць званы для Вусьпенскага сабору, яны хочуць ператварыць клюб мэталістых у шляхецкую зборню, яны хочуць ператварыць Палац Працы ў духоўную кансысторыю.

Мы ім знойдзем месца ў вагранках «Камінтэрну» і «Чырвонага Мэталіста», а насамперад дазволім трохі падзівіцца ўва што перакінуліся іх катухі. І яны яскрава зразумеюць, што тое, што коштам вялікіх боек, коштам крыві і поту збудаванае—мы ніколі не вяртаем назад. Ніколі!

І ў дзень прывалу, калі шпацыруючы па горадзе, зацікаўлены зваротным рухам дэманстрантаў, спыніўся на Пляцы Волі, дык неспадзявана заўважыў сярод калён фабрыкі «Дзьвіна» Самуся Галабурду. Дзед, гулка хлюпаючы бахіламі, з сякерай за матузком, крочыў побач з работніцай у чырвонай хустцы, нават не зьвярнуўшы на Магілеўскую вуліцу, дзе яму было бліжэй прайсьці да Лучосы. Ён крочыў далей па Замкавай, і толькі дайшоўшы да мосту праз Дзьвіну, пад якім цяпер рыпелі дрыгалкі, успомніў раптам аб танку і хапатліва пакрочыў да яго берагам.

І на другі дзень да самага Старога Сялая чуў як поўны думкамі аб уражаньнях дня мінулага мармытаў дзед:

— Што толькі робіцца. Што толькі робіцца. Усю Гутараўшчыну, усю Маркаўшчыну забудавалі заводамі. А тутуню няма. Сьмяхоцьце. І зноў-жа, за гарнітурамі чарга, а абшарпаныя не спатыкаюцца, ля дзьвярэй сталовак чарга, а галодныя на вуліцах не валяцца. Што толькі робіцца. Ня дам рады.

Загінула ўжо адзаду за нарагамі ў туманох Старое Сяло з хмурнымі курганамі і гародцом. Усё мацней і мацней падмывае Дзьвіна курганы, зьнішчаючы іх—і разам з срэбнымі маністамі крывічоў Рагвалода, разам з жалезнай зброяй норманоў Цьельвэра выпальваюцца і краменныя гідры гіпербарыйцаў Герадота. Ужо шмат гадоў таму назад дзед Самусь знайшоў тут гірду, і бабка Тадора, учыняючы хлеб, заўсёды кідала яе ў дзяжу каб лепей кваснуў хлеб. Толькі калі летась пад галашэньне бабкі дзед перайшоў у калгас, гірда апынулася пад шклянай вітрынай раённага музэю ў Зацьвілішках.

Загінулі ўжо адзаду за нарагамі ў лясох Бешанковічы, адкуль як ляманталі ўчора леры і кобзы, пайшла Дзьвіна ўпрочкі ад Дняпра. І на гэтым самым узьбярэжжы, дзе цяпер выпрасоўваюць прырэчныя вятры і крынічныя воды акопы напалеонаўскіх салдат, быў калісьці сэнацкай пастановай крымінальнага суду 1783 г. пакараны прадзед Самуся Галабурды Давід. Двойчы ўцякаў Давід ад пана Борк-Жачыцкага праз Дзьвіну пад Бешанковічамі ў Польшчу і двойчы, сумуючы па радзімай вёсцы і сям'і варочаўся назад, падмаўляючы ўцячы цэлую ваколічнасьць, пакуль і не злавілі яго гайдукі. Вырвалі Давіду нозары, выпалілі на ілбе літары:

**Вор**

*Галабурда*[1])

[1]) На тагачаснай мове:
Вор—злачынец,
Галабурда—буян, буй.

—і адправілі пехатою на дажывотную катаргу ў капальні на Дняпроўскай лініі. Адсюль і атрымалі свае прозьвішча нашчадкі бунтаўлівага Давіда.

Загінула ўжо адзаду за парогамі ў гаёх узьбярэжжа насупроць захованага вясеньчяй Дзьвіной Барысавага каменьня з крыжамі і літарамі. Глыбока, нібы курганы скарбы свае, захавала Дзьвіна іх, і калі ўвесну заўважалі старыя асначы Вокаўскага лесу юнака, які трымае дрыталку, нібы галяр сякеру, дык казалі:

— Ідзе, галапунак, літары на Барысавым камені чытаць.

Затінулі ўжо адзаду за нарагамі ў туманох, у лясох, у гаёх:

і Вяліж,
і Сураж,
і Віцебск,
і Бешанковічы,
і Вула,
і Полацак

а ад Дзісны пацягнулася з левага боку Дзьвіны Польшча. Калі пад выспай Кій плынь пачала прыбіваць наш ганок больш да левага берагу, рослы жаўнер адтуль зычна крыкнуў:

Do tego brzegu! Do tego brzegu! Psia krew! Stara cholera![1]

— Дык што-ж ты зробіш з плыньню, таварыш! І зноў-жа гэта табе ня Дзісенка, а Дзьвіна!—адказаў дзед.

— Jaki ja tobie towarzysz, brudny ty bolszewiku[2].

— Ах ты недабітак!—вырвалася ў абурэньні неразважна ў Самуся, а потым ён гукнуў да мяне хапатліва:

— Бі, Андрэй, на Русь! Бі!

Некалькі хвілін упарта змагаліся з плыньню, і, калі далёка адзаду застаўся на хмурным беразе спавіты сваёй лаянкай жаўнер, зусім побач мільганула паміж хатамі чырвоная шыльда з літарамі:

**БССР**
**Сьмілавіцкая**
**савецкая працоўная**
**першапачатковая школа**

—дзед заўважыў:

— Добры нам, Андрэй, гэты вураднік падарунак рыхтаваў! На пыхі ўзяўся, каб яму зарвала!

— А цікава, дзед Самусь, ці ёсьць там у крамах тытунь?—запытаў ня стрымаўшыся я, і дзед, нібы на пачуўшы пачаў хутка зашпільваць на ўсе гузікі толькі кагадзе расхінутую бравэрку:

Затым ужо з двух бакоў Дзьвіны пацягнулася Латвія. Мы прашлі праз гармідар, пену і хвалі парогаў:

Закладня,
Асетр,

[1]) Да таго берагу! Да таго берагу! Псіная кроў! Старая халера!
[2]) Які я табе, таварыш, брудны ты бальшавік!

Альшанік,
Дарабейка,
Кравец.

Не дае ў парогах адпачынку Дзьвіна і толькі калі прайшоўшы Дзьвінск трапілі на вялікі лес, сышліся ля вогнішча. Дзед Самусь набіў марудна люльку, запаліў яе ад вугалька і з выглядам, нібы хвіліну толькі таму скончыў апавядаць пра дзеда свайго Панаса Галабурду, пачаў гаманіць:

— А бацька мой, Ярмола Галабурда, хай яму пухам зямля, быў куды драбнейшы за свайго бацьку. Напэўна не заўсёды клін такі, як дуб, і не заўсёды сын такі, як бацька. Дый, каротка кажучы, ня толькі людзі, але і ўсё вакол іх драбнее з кожным годам. З году ў год усё больш і больш высыхае Дзьвіна, а разам з ёю высыхаюць Мяжа з Таропай, Каспля з Лучосай, Водаль з Эвікштай і там, дзе калісьці была строма, зацьвілі гарлачыкі. Хадзілі па Дзьвіне раней бярліны да дваццаці пяці сажон удоўжкі, потым пашлі васемнаццацісажныя стругі, а цяпер у межаніну ледзь-ледзь толькі поўзаюць па дне дванаццацісажныя лайбы. Раней трапляліся на Дзьвіне самы і ласосі як бярліны, а цяпер трапляюцца ў ёй толькі пячкуры і вуклейкі. Дзед мой Панас, хай яму пухам зямля, аднойчы злавіў сома. Дык той цягнуў душагубку, як буксір лайбу, ад Боркавічаў аж па Тамашову Імшару, а гэта без невялікага дваццаць вёрст. Нарэшце дзед усё-ж забіў бусаком сома і падняў на шалях сом пяць пудоў і дзесяць фунтаў, а пазу была ў сома, як у нашага папа на гоўстую суботу. Дзед яго прадаў манахам з Ардынскага кляштару, бо здарэньне гэтае было ў Пятроўкі. І вельмі ігумен хваліў сома. А цяпер ловіць іншы небарака ад сьвітаньня да змроку, глядзіць на паплавец, як маркач на новыя весьніцы, а ад кошкі нечым абараніцца. З году ў год усё больш і больш высякаюць лясы. Раней ад Дубакраю аж па Віцебск ішоў суцэльны шчоглавы шчыр-лес і цемна ў ім, як у ноч пад Вялікадзень. Раней трапляліся ў ім і мядзьведзі, і расамахі, і барсукі, і рысі, і гарнастаі, і бабры. На вяку майго бацькі аднойчы ў Зацьвілішкі на гандлёвы пляц зьявіўся веліч-мядзьведзь. У Зацьвілішках гарадавым тады быў старэйшы за сьвет Далмат Дунда, якога і ў гарадавых трымалі толькі за архірэйскую бараду ды за тое, што ён памятаў як праз Грайронак праяжджала царыца Катарына. Проста, не гарадавы, а пархаўка, і ўбачыўшы мядзьведзя адразу-ж сканаў. А мядзведзь паваліў на зямлю помнік Пётры Першага, выцягнуў з зямлі напалову закапаную ў ёй французскую гармату, і нікога з людзей не чапаючы, пашоў лагодна далей. Цяпер туды, дзе быў шчырлес, толькі ў веніку ходзяць, а са зьвяроў усяго і засталося, што заяц ды вавёрка. З кожным годам усё драбнее вакол, вось таму і бацька мой і я куды драней за дзеда майго.

Упаў бацька мой на сухоты з таго часу як падвееўся ў падпасках пана Фэлікса Борк-Жочыцкага. Дзевяцігадовым ледзь-ледзь цягаючы пугу апынуўся ён у падпасках. Уставаў а трэцяй гадзіне ўраніцы, а клаўся спаць аб адзінаццатай гадзіне ўвечары. Білі, яго, нібы бабы пранікам бялізну па рэчцы, за ўсё і заўсёды. Гадаваўся ён бяз ласкі маці, якую прагуляў пан у карты арцыбіскупу, і апавядаў мне потым, што часамі зацкаваны, галодны і хворы хлапец, ён абыйме пяшчотна якое ягня за шыю і плачучы рыдма пачынаў яму скардзіцца на сваё гаротнае жыцьцё. Загубіў мой

бацька здароўе, але штогод ганяў статак пакуль аднойчы спраўнік ня прыехаў да пана і не прачытаў яму маніхвэста 1861-га году—добра памятую гэты год, бо якраз у ім я нарадзіўся ў нейкім як, даруй божа, пан Ісус трысьценку. Сэрца ў пана было мяккае, як ячменныя асьцюкі, і не падзяк чакаў ён ад сваіх прыгоньнікаў, бо як кончыў чытанку спраўнік і толькі дайшоў да слоў—Асяні сябе хрэстным знаменьням праваслаўны расійскі народ—як пан адразу нібы мядзьведзь з пераляку крываўкай сышоў. Вызваліўся мой бацька ад пугі і дуды, вызваліўся ад ласкі пана, але зямлі атрымаў толькі добрай бабе сесьці. Пабудаваў на ёй абы-як хату і месца ледзь-ледзь засталося для невялікага гароду. Раскашавалі мы пасьля маніфэсту так, што аднойчы я і мая малодшая сястра Тадора, трапіўшы якасьць выпадкова ў панскі сьвінарнік, пачалі разам з парасём есьці з карыта—такой смачнай стравы мы ў хаце ніколі ня бачылі. Заўважыў нашую пагулянку чаркес дый так зьбіў мяне і сястру, якой было тады пяць гадоў, што якраз з таго часу яна захварэла на падучку, а ад яе і века ў вушах засталося. Голад заўсёды сядзеў у пачэсным кутку нашай хаты і на Каляды і ў Шчыры пост. Пакутаваў я з сястрой, пакутавала яшчэ больш маці мая Ганна, гледзячы на нас. А раз уначы, як толькі заснуў зьвярнуўшыся з лесу стомлены і галодны бацька, маці ціхутка ўстала, ціхутка апранулася і пашла да дзьвярэй.

— Ты куды, матуля?—пытаю я.

— Сьпі, сынку. Сьпі сынку. Я зараз.

— Глядзіць на мяне, як цяпер бачу, вялікімі поўнымі сьлёз вачыма і скрыўленыя вусны хутка, хутка дрыжаць. Пашла маці. Вось чую клямкнула дзьвярыма ў клеці, вось клямкнула форткай у весьніцах. І праз некалькі хвілін заварушыліся людзі пад вокнамі нашай хаты і грукаючы ў вакно хтосьці закрычаў:

— Ярмола! А, Ярмола!

Бацька босы і без матеркі выскачыў на вуліцу і, чую, пабег кудысь. Рынуўся я, адчуваючы штосьці дрэннае, з хаты і таксама пабег па вуліцы ў той бок, куды бегалі і людзі, да панскай лядоўні. Дабегшы да лядоўні, заўважыў натоўп і праціскаўшчыся паміж ног дарослых, бачу што ля вугла лядоўні, трымаючы ў руцэ сякеру, якой ададрана некалькі драніц у страсе, ляжыць у лужыне крыві з акрытымі, але ўжо мёртвымі вачыма, мая маці. У вялікай маянтковай лядоўні паноў Борк-Жачыцкіх былі заўсёды мяса, птушкі, сыр, масла, віно. Маці з роспачы, каб выратаваць нас ад голаду, пайшла туды, і чаркес, заўважыўшы яе, стрэліў. Сівы я, але ніколі ня выпадзе гэтае здарэньне з галавы, таму і захаваўся ў маёй кішэні гафтаваны маці капшук. Баяўся я глядзець на бацьку свайго: такі страшэнны ён быў з твару апасьля забойства маці. І аднойчы ўначы налажыў бацьку люльку, запаліў яе і ціхутка, як калісьці маці, вышаў з хаты, а праз невялікі час зрабілася на вуліцы відно, як удзень і нават у нашай хаце можна было прасьці. Ужо перад сьмерцю апавядаў мне бацька, што падышоў ён тады да вялікіх тарноў ля панскай клуні і, зацягнуўшыся некалькі раз моцна з люлькі, выбіў яе. І пайшоў увесь маёнтак—і клуні, і сьвірны, і аборы, і кашары, і стайні, і палац—сьвечкай да Птушынага Шляху, ад ясных зор. Злавіў пан ліса. Бацькавым хлебам як калісьці і хле-

бам майго дзеда, была Дзьвіна. Не памірае аснач на печы, і было бацьку трыццаць восем гадоў, калі ў пуціне са мною да Рыгі ён захварэў на запаленьне лёгкіх і сканаў у хаце ўзьбярэжнай вёскі пад Крэйцбургам. Мне ён адказаў—люльку і капшук—больш ніякага нажытку ня было ў Ярмолы Галабурды.

Дзед скончыў гамонку і мы моўчкі сядзім перад вогнішчам. Змрок пачаў ужо зацягваць раку, і неўзабаве трэба прываліваць. З правага і левага боку—Латвія, углыбкі якой мы прайшлі ўжо ад мяжы сто дваццаць кілёмэтраў. І раптам на ўзьбярэжжы, дзе да Дзьвіны прытулілася засмучоная вёска, засьпявала з бязьмежнай тугой дзяўчына:

— **Усе крынічанькі замерзьлі**
**Да і рэчка не цячэ**
**Бяруць мілага ў жаўнеры**
**Плакаць сілы не стае.**

*21/IV-192... г.*

Ня дзьмуць над Дзьвіною мусоны і пасаты, але вандруюць па яе плёсах пяшчотныя гліцы і злосныя сіверы.

Ня трымцяць над Дзьвіною фікусы і алеандры, але чапурацца перад яе люстрам дзяўчаты-бярозы і маладухі-ліпы.

Ня гудуць над Дзьвіною званіцы Кёльніц і Мангэйма, але шмат на ёй бурапенных парогаў і разбураных замкаў.

І ўжо адзаду паступова зьнікае за выспай белая пляма замку Крэйцбург, а ўперадзе, прымушаючы мяне мацней сьціснуць аберуч дрыгалку, а дзеда Самуся па сялянскі хрысьціцца, грыміць Перакагрыж. Усё больш і больш павялічвае рух ганок, усё больш і больш гойдаецца пад нагамі бярвеньне і ўжо выразна даносіцца лютая басэтля Гусака:

— Гар-гар-гар-гар-гар-гар!

Чую па гліцы як моліцца, зьняўшы бараноўку, дзед Самусь:

— Сьвяты Мікола. Сьвяты Кузьмадзяман. Сьвяты Іжарэрувімы. Сьвятая Нядзеля. Матка боская ардынская. Матка боская вострабрамская. А што-б яе пранцы, Андрэй! Бач! Бач!

— Раптам канчаючы маліцца, крычыць да мяне ён, паказваючы на хмару, якая зусім неспадзявана ўжо зацягнула палову неба. Добра ведаючы як страшна ў парогах у залву, калі яна затуліць ад нас сваім рухлівым вэлюмам скалы, калі яна прымусіць зрабіцца сьлізкімі і неслухмянымі ручкі дрыгалак—я ўсё-ж усьміхаючыся, успамінаючы канчатак дзедавай пацеры. Прываліць да берагу ўжо нельга і калі нават прадзівам закінуць сталёвую ліну, якой у нас няма, на тую веліч-хвою, што працягнула над ракой свае карузлыя лапы, дык альбо разарве на часткі наш ганок, альбо вырве з карэньнем хвою.

— Навальвай на дрыгалку, Андрэй, мядзьведзем!

— Крычыць дзед. І вось ужо Варажэя падкінула на сваім гарбу ганок, прымусіўшы ходарам захадзіць бярвеньне. Забялілі сівыя майданы раку і часамі, перакочваючыся наверх ганку, б'юць пыльнаю імжакаю ў вочы. Зусім ня чутка як рыпяць дрыгалкі, як скуголяць клібіны, толькі, пры-

ліўшы да скроняў, гукочаа кроў і тарашць вочы, сочачы за кожным рухам дзедавай рукі. У Перакрыжы чуваць толькі Перакрыж, і паказваючы рукой якога берагу трымацца, дзед нібы дырыжуе вакольным вархалам. Апошні раз швырганула варажэя ганок і, здаецца, ён раптам спыніўся, а бяжыць угрунь да нас з жорсткім ашчэрам скал, з вар'ятным гэргатаньнем Гусак. Зноў падкідае нас, і вялікі майдан змывае з ганка вогнішча і шасты.

— Гар-гар-гар-гар-гар-гар!

— Крычыць у абурэньні, лізнуўшы языком агонь, Гусак, а ля самага берагу ад ротату рвуць кішкі скалы:

— Га-га-га! Га-га-га!

Толькі вышлі з Гусака, як сыпнула залева, але самае страшнае засталося за плячыма. Абмылі яшчэ ганок Скавярарада і Мазолава Жэсь, і адразу зьменшыўся вархал, бо я чую як крычыць дзед Самусь:

— Прабег Янка Перакатрыж дый кажа:—браткі, Рыгу бачу! Да Рыгі адсюль сто сорак кілёмэтраў, але хіба-ж адзін з грамады Янкаў ня бачыць, трымаючы, аберуч дрыгалку, Рыгі, калі йдзе ён туды зусім ня дзеля таго, каб пабачыць які прыгожы певень на вострым шпілі кірхі сьвятога Пётры. Калі адгармідарыў адзаду бязьлітасны Перакатрыж, і таму цяпер крычыць у Янкі ў жылах кожнай кропляй жывая кроў, а не цягнуць яго, Дзьвінаю абмытага, Гусаком адпяванага, на асначоўскія ўзьбярэжныя могліцы.

Залева, паступова пераходзячы ў імжаку, усё ідзе, і мы пачынаем таму прываліваць да выспы Гальмгоф, бо ўперадзе яшчэ ня менш страшныя Пахвальніца, Ціхая Руба, Бродыж, Ілан. Калі з вялікімі цяжкасьцямі прывалілі, першае, што казаў мне, набіўшы насамперад люльку, дзед, успамінаючы маю ўсьмешку прад парогамі:

— А сьмелы ты ўсё-ж, Андрэй, дзяцюк. Сьмерці ў вочы сьмяецца.

Толькі ўвечары спынілася імжака і паказалася сонца. Ад нас дзень навылёт, як ад запаленых коняй, валіць пара, а цяпер, запаліўшы на беразе вогнішчы, пачынаем сушыць нашу мокрую наскрозь вопратку.

— Які бог сёньня вымачыў, той і высушыць, але заўтра зноў будзе дождж.

Пра баромэтр у дзеда няма ніякага ўяўленьня, і таму я зацікаўлены пытаю:

— Адкуль ты гэтае ведаеш?

— А вось адкуль. Бачыш, вунь, якая вялікая чарада варон кружыцца над гаем. Бачыш, як рыба падскаквае з вады. Бачыш як сонца за хмары залаціць. Бачыш, як дым ад вогнішча пасьцілаецца нізам. Чуеш, як жабкі крэхчуць. Потым яшчэ і пальцы ў мяне на нагах сьвярбяць.

Ганок нібы адпачываючы лагодна застыў на месьце. Навісьлі над ім брылем хмурныя, хвалі парослыя, скалы. Направа гулка ў вячэрняй цішы крычыць Перакатрыж. Налева гулка ў вячэрняй цішы крычыць Пахвальніца. А проста на беразе, побач з нашым вогнішчам, дзе ўжо загатоўваецца ў казанку нявыдумная, але такая смачная ў стамленьні, асначоўская страва, бегае хапатліва іванчык, памахвае сваім двухкаляровым хвастом і крычыць шчыра адзінае:

— І-чык-чык! І-чык-чык! і І-чык-чык!

Зранку зноў паводле з дзедавага баромэтру закрапіла імжава і неўза-

баве скончылася, але дзед, зірнуўшы на белую кучомку далёкай гары Даберскольн, кажа да мяне:

— Бачыш на Лысай Гары туман, а гэта значыцца, што ў парогах таксама туман, і трэба яшчэ пачакаць.

Цэлы дзень курыўся туманамі Даберскольн і, праверыўшы яшчэ раз моц усіх клібін і насекшы новых шастоў, я пашоў да асначоўскіх могліц. Доўга падымаўся дагары, і нарэшце ўваходзіў на неабгароджаныя могліцы з шматлікімі могілкамі, з якіх некаторыя падобны ўжо да кротавых кулінак. Над магілай лётніка звычайна становяць прапелер, на магілу жаўнера кладуць яго шапку, а над магіламі асначоў стаяць зробленыя з абгрызаных зубамі скал сох і дрыгалак крыжы з няпісьменнымі, бо няма сярод асначоў дацэнтаў, надпісы. Пад першым насыпам, парослым дмухаўцом, ляжыць:

**Рыгоръ Ивокшта**
**Хрысьцянин дярэўні Сивецъ**
**Вялiскага уезда.**
**Хай яму пухамъ зямля.**

Пад сумежным крыжам знайшоў прытулак:

**Пилип Скроб**
**з вёски Грыньки**
**Віцебскай губэрни**

І вакол цэлы гай, зьвязаных клібінамі сох, дрыгалак, шастоў, вёсел. Цэлы батальён асначоў—бельскіх, парэцкіх, вялiскіх, сураскіх, віцебскіх. Напрыцем я дайшоў да яру, дзе над магілай на водшыбе заўважыў надпіс:

**Павлюк Дарэмный.**

З вёскі ён, ці з гораду, юнак ён, ці дзед, галасілі па ім ці не—нічога невядома. А ад магілы Паўлюка Дарэмнага, якую ў студзені заносяць завеі, а ў верасьні—мятуліцы, відаць направа далёкія Крэйцбург і Якабштадт, відаць налева ў туманах. Дабарскольн, чуваць як без адпачынку грымяць воддаль Перакагрыж і Пахвальніца, а ў самым падгор'і шуміць, уліваючы ў Дзьвіну свае вясеньнія каламутныя воды, вясёлы Сусей.

У туманавай сьвітцы прышоў золкі наступны заранак, але як толькі з-за жабрацкіх вёсак Задзьвіньня ўзыйшло сонца, адразу задаў драпака па плыні туман, і неўзабеве заблішчала чыстая крэйдавая вяршаліна

Даберскальна. Дзед Самусь, пільна замацаваўшы будку, каб яе ня змыла ў парогах з ганка, перахрысьціўся на крыж Паўлюка Дарэмнага і крычыць:

— Плюй на далоні, Андрэй! Цяпер, калі з ласкі божай пройдзем гэты самы Смычкоў перавоз, дык увечары можа будзем пад Фрыдрыхштадтам.

Выцягнуўшы саху, дзед ледзь-ледзь толькі ўхапіў ускочыць на ганок, які ўздрыгануў ад імпэту ракі і хутка, усё павялічваючы і павялічваючы рух, памчаўся наперад.

А сьпераду на семдзесят кілёмэтраў уперад—сапраўды Смычкоў перавоз. Спаткала тут Дзьвіна моцныя даламітавыя грудзі Зэльбургскага горнага ланцугу і спачатку, нібы стомленая пасьля бойкі пад Перакагрыжам, зьмяніла свой кірунак на поўнач, а потым, пасьля новых бязьлітасных боек пад Пахвальніцай, пад Ціхай Рубай, пад Бродыжам, пад Уланам, зноў пашла, пакідаючы адзаду і ланцуг і парогі і захад.

Бялеюць ужо грабяні хваль адчыненых дзьвярэй. Пахвальніцы, Шчупакавай Галавы, і калі апаласнулі хвалі ганок, зноў заказлытала ў вачу прыліўшы кроў ад вархалу навакольнага, ад напружанасьці кожнай каморкі нэрваў. Паступова прылучыліся да дзікай песьні. Шчупаковай Галавы і Бляднівец—забойца Панаса Галабурды— і Мядзьведзь, але чамусь здаецца, што гэта грыміць не вакол нас, а дзесьці ўгары, што мы праходзім пад фэрмамі вялікага мосту, па якім цяпер рушацца ўсе экспрэсы—бліскавіцы краіны. Клубяцца, віюцца і стыкаючыся разьбіваюцца ўшчэнт майданы, нараджаючы вадзяныя хмары. Добрыя хаўтуры справіла Дзьвіна Панасу Галабурдзе, але перамог Пахвальніцу і на гэты раз Самусь Галабурда.

Ужо відаць як ля мястэчка Глазманк далучае да Дзьвіны частку вод сваю зьвілістая і лясістая Эвікшта, ужо чуваць як крычыць да мяне дзед Самусь:

— Зараз, Андрэй, будзе самая бойкая плынь па ўсёй Дзьвіне! Трымай у Ціхай Рубе на

За Эвікштай, апасьля раптоўнага і цяжкага для аснацоў нарату, калі прымае рака зусім супроцьлеглы наступнаму бегу яе кірунак, бачу зводаль Ціхую Рубу і верставы слуп, на які трэба трымаць ганок, і ад якога і атрымала сваю назву першая частка ганка. Няма ў Ціхай Рубе валуноў пасярэдзіне ракі, ёсьць толькі хуткаплынь і хмурныя ўзьбярэжныя скалы, а таму падобны наш ганок да шклянай крохкай галы, якая з мэтэорным рухам імкнецца вузкім шчарбатым калідорам з карбарундавымі сьценамі. Цяпер трэба ўзяць на падлік кожную частку сэкунды, цяпер трэба ўзяць на мушку слуп, калі ёсьць намер яшчэ пэўную колькасьць гадоў бачыць зямлю і сонца, але я зацікаўлена гляджу на бераг і бачу, што глядзіць на яго ўважліва і дзед Самусь:

На ўзьбярэжжы — гладкая вёска Міхайлаўка даўніх перасяленцаў з Ноўгародзкай губэрні. Абшаляваныя хаты з чарапічнымі стрэхамі афарбаваны ў розныя колеры, і ў вокнах іх відаць за гардынамі пакаёвыя кветкі. Вялікія дзядзінцы, з шматлікімі гаспадарчымі пабудовамі, абгароджаны высокімі, з шчацінкай, цьвікоў, платамі. За дзядзінцамі цягнуцца клуні ў атачэньні тарпоў, сады з пчальнікамі, гароды. Я сачу за дзедам, і мне здаецца, што ён шэпча:

— Відаць пана па халявах.

Ля веранды аднэй з хат, на самым узьбярэжжы, стаіць мужчына ў добрай гарадзкой вопратцы і ў хромавых ботах. Убачыўшы наш ганок, і ўвесь пачырванеўшы ад злосьці, ён крычыць:

— Наразабойцы! Грамілы! Рабоўнікі маёнткаў! Цяпер да Латвії рукі працягваюць!

Мужчына, хапаючы штосьці з зямлі, швыргае ў нас, і мы бачым, што гэта лапаць напэўна аднаго з яго наймітаў.

І вёска, і мужчына засталіся адзаду і цяпер цягнецца вербалоз. Ля самай вады чамусьці самапасам пасецца вялікі статак, і раптам мы заўважылі тое, што, прымусіўшы нас нават адняць ад дрыгалак рукі, зрабіла падобнымі да жаўнера, які ў самы распал штыхавой бойкі вырашыў-бы сесьці лагодна на зямлі і напісаць ліст да хаты. Мы ўбачылі сьпярша хударлявыя, босыя, брудныя ногі, якія, не датыкаючыся да жвіру, танчылі ў паветры нейкі дзікі танак. Мы ўбачылі потым жылаватыя, з сьцежкамі вен рукі, якія шарылі скрыўленымі пальцамі па грудзёх, па латах зрэбнай кашулі. Мы ўбачылі затым дзядоўскі, з голенай па латыскі барадой, твар, перасмыкнуты гіморай, з вялікімі лупатымі вачыма, з доўгім языком паміж афарбаваных крывёй зубоў. Пад нагамі дзеда ляжалі пута і дуда. І амаль што адначасова як толькі мага закрычалі да мужчыны ля веранды:

— Э-гэ--гэ!!! Чалавек гібее!! Чалавек у пятлі!!

Мы ўсё-ж перакрычалі і адлегласьць і вархал, але напэўна мужчына не зразумеў, бо ён толькі павярнуўся ў наш бок і пачаў зноў махаць кулаком.

Дзед Самусь хрысьціўся, гледзячы на вербалоз шырока раскрытымі вачыма, і раптам імпэтна зьвярнуўшыся да мяне, як ніколі раней, голасна закрычаў:

— Трымай, Андрэй, на Стоўп!! Трымай на Стоўп!! Бі на Літоў! Бі праваруч! Недабіткі шляхецкія! Недасекі кулацкія! Бі!!

Проста да нас з хуткасьцю цягніка імклівіць скала з верставым слупам, і хочацца чамусьці адскочыць у бок, а ў сапраўднасьці жывыя вострыя думкі прымушаюць адчуць стрыгалку дадаткам твайго цела, і скакаць з ёю, схіляючыся ўперад, і скакаць з ёю, схіляючыся назад, адкідаючы захмялелую ад змаганьня за жыцьцё галаву. І скала, прамільтнуўшы так блізка, што, здаецца, можна было да яе дакрануцца рукой, ужо за ганкам.

— Бі на Русь цяпер. У Бродыжу трымай пад ліпкі!

Як скважна хочацца на адну хвіліну адпачыць, але ўперадзе ўжо відаць вялікія старыя ліпіны, на якія паглынае гульню пяруноў рабінай ночы. Нібы зьлілі разам у шматмоўны джаз-банд усе рыкі і шэпты мільённага гораду і невядомы капэльмэйстар узяў fortissimo. Мы ідзем праз Падліпкі, і амаль што да самых пазелянелых ужо ліп успоўз на скалу разьбіты, здаецца, учора альбо сёньня, ганок. Паднялося старчаком бярвеньне і растапырыліся вахляром; працягвае да нас нясьмела сваю зламаную ласьць, нібы, жадаючы паздароўкацца, дрыгалка; разбураная будка, падобная на раскрытую кнігу, ляжыць на беразе, побач з ёю валяюцца хатыль, казанок, кучанка, і нідзе ня відаць асначоў.

Вось яшчэ хвіліна, вось яшчэ паўхлівіны, вось яшчэ чвэртка хвіліны і наш здрушчаны ганок таксама папаўзе да ліпавага халадку, але пад

нашым прымусам ён пад простым кутом зварочвае і бяжыць вуліцай супастаўна другому берагу. А як не падобна гэта вуліца да Замкавай у Віцебску, да Ізьвястковай у Рызе, і ніякі трамвай не дагоніць наш марудны на плёсах ганок. Замест шматваконых будынкаў, сьціснулі яе з абодвых бакоў даламітавыя да трыццаці мэтраў увышкі, скалы, замест адшліхованай роўназі бруку і тарцоў, згарбацілі яе глыбокія вадзяныя выбаі. За сьпіной ужо Бродыж, і за нарагам замаячылі парог Улан і крушні замку Зэльбург.

Толькі ў вычварных літарах летапісаў і хронік застаўся гроны, вялікарослымі зэламі пабудаваны, Зэльбург:

„А се суть инін языцы, иже дань даютъ Руси:
чюдь, меря, весь, черемись, мордва, пермь, печера, ямь, литва, зимигола, зела, корсь, наровы, либь; си суть свой языкъ имуше, отъ колѣ на Афетава иже живутъ въ странѣх полуношныхъ“,

І загінулі, пакінуўшы ў крушнях свае замкі:
і зэлы,
і вэнды,
і куроны
— каб сьмерцю сваёй даць пачатак латышом.

Рушыцца паўз Зэльбурга і крычыць каменным горлам Улан спрадвеку поўная сілы Дзьвіна.

— Бі! Бі!

— крычыць дзед Самусь. Абодва мы разам упарта і моцна б'ем дрыгалкамі, абодва зьліты разам у адзінае і суцэльнае смагай да жыцьця. Насустрач ганку імчыцца каменны кел і, праходзячы побач з першай гліняй, ён, зусім выпадкова не адарваўшы апошняй гліні цалкам, адкалоў ад яе з трэскам два бервяны. Дзед сьпярша зьбянтэжана глядзіць вакол, а потым пачынае лаяцца:

— Профэсар чарцячы! Акуляры яшчэ адзень! Гэта табе не гісторыя з арытмэтыкай, а Улан!

Вялікія парогі засталіся ўжо адзаду, але прымусілі яшчэ наш ганок прайсьці галёпам:

Чарвіцец,
Цаглінка,
Гусар,
Срэбраніца,
Жалезьніца.

Толькі калі прамільгнулі на берагох, спавітыя калінамі, крушнямі. замкі:

Альтона
Кокенгаўзэн,
Ашэрадэн
— Дазволіла за Фрыдрыхштадтам вячэрняя цішыня маруднага плёсу доўгі адпачынак.

— Ну цяпер да Рыгі, Андрэй, усяго тры люлькі выкурыць — кажа дзед Самусь і адразу ўспамінае пра здарэньне, якое зрабіла на нас больш

моцнае ўражаньне, як тыя моманты, калі мы былі на чвэртку ад сьмерці:

— А раскулачаць яшчэ праз колькі гадоў тую падлюку з-пад Ціхай Рубы, і за пастуха ў яго адказ будзе. Я добра ведаю гэту вёску. Багацець яны пачалі з таго часу, як на Дзьвіне ходзім бярліны і стругі. Разаб'е ў парогах (а гэта нярэдка траплялася) бярліну, дык пакуль пахаваюць забітых, і пачнецца пераваложа—яны хапаючы абеуч, цягнуць да сябе— і жыта, і лён, і канаплі, і алей, і скуры, і шчацінку. Вядома, дзе чалавек— там і пацукі, дзе падла—там і крумкачы. Раней, я на свае вочы бачыў, як толькі пачнецца самы аснаноўскі ход, дык у тых мясцох, дзе трэба на мушку кожны камень трымаць, бабы і дзяўчата з Міхайлаўкі распранушца на беразе, зусім, як маці нарадзіла, і такой гульнёй пачнуць адна з аднэй займацца, аб якой мне, старому, і казаць нельга: Зайграе ў якога аснача-юнака, і так увесну няўтомная, кроў, адбярэ ад яго бераг вочы, а тымчасам скала расплюшчыць бярліну, струг альбо ганок на трэскі, і ад самога аснача нечага будзе ў труну класьці. Гэта яму так ня мінецца. Гэта ім бокам вылезе.

Дзед Самусь пачынае замацоўваць клібінамі папсаваную Уланам гліню, а скончыўшы—падыходзіць да мяне, заганяе ў бервяно сякеру і кажа:

— Гаманіў я з табою пра нябожчыкаў сваіх, хай ім пухам зямля і за пахучымі ладунамі спакой, пра дзеда майго Панаса Галабурду, пра бацьку майго Ярмолу Галабурду, а цяпер паслухай і пра жыцьцё Самуся Галабурды. Калі сканаў на чужыне бацька, было мне сямнаццаць гадоў— бярозавік у гэты час па жылах імклівіць, і кожная сьцежка шляхам здаецца, але ў якім кірунку ня пойдзеш, усё адно лахманы на плячох і дзіркі ў кішэнях. Грошай за апошнюю бацькаву пуціну не атрымаў, бо чакаючы асначоў, наш ганок абсох, а так як уласныя яшчэ ў Піцеры друкаваліся, дык і пашоў, харчуючыся жабрацтвам, пяхотаю да хаты. Выходзіў я пад Крэйцбургам—пукаліся на ўзьбярэжных калінах пупешкі, а калі праз два тыдні прышоў босы ў Дубакрай—на нашых могліцах ужо чаромха расьцьвіла. Загаласіла сястра, убачыўшы яшчэ зводаль мяне самотнага і няма ў мяне, дл яе слоў супакойных, бо нельга пралажыць праз жаночую тугу гаці, але нічога і сьлязьмі ня вернеш—прышоў хтось, узяў штосьць; ганіся за ім, нямаведама за кім. Адправіў поп па бацьку сарачыны, а потым і пачалі жыць сабе панамі—часамі—з квасам, парою— з вадою.

Хата на пацерах толькі трымалася, і калі паглядзіш на яе звонку, дык здаецца сядзе верабей на страсе і дарэшты расьціснe хату. Даў я пад куты падпорыны, ды дапамаглі яны, як нябожчыку зельле, і ў першую навальнічную ноч хата завалілася ледзь-ледзь не забіўшы сяне з сястрой. Замест хаты—куча гною, апошнюю курку задраў каршак, і каб прыдбаць гаспадарку—сястра пашла ў Зацьвілішкі наймацца за няньку, а я накіраваўся ў Каспляны, дзе патрэбен быў царкоўны старож вартаўнік. Трапіў я на гэтае месца адразу, бо ня лічыцца яно на вёсках ганаровым, і заўсёды вартуюць цьвінтары альбо недарэкі, альбо небаракі. Запальваў я лямпадкі, разьдзьмухваў кадзіла, перацягваў аналоі, званіў на званіцы, далакопнічаў на могліцах, а ў думках было адзінае—прыдбаць гаспадарку. І цяпер у мяне ў вушах трызвон гэтай царквы. Стаіш, часам на званіцы шпаком па шпакоўніцы сачачы дбайна за дарогай да царквы. Бачыш нарэшце, нясуць

нябожчыка—уперадзе хлапец цягне большы за яго самога крыж, потым папы з дзяком «сьвяты божа» сьпяваючы ідуць, па бакох дзяцюкі пад чаркай з протэсамі, далей калышацца труна, а за ёю чуваць як галосяць ад жалю кабеты. Тут пачынаеш хутка, хутка торгаць правай рукой поўразы ад невялікіх званоў, левай рукой—перабіраць па чарзе поўразы ад вялікіх званоў, а нагой—націскаць у дошку ад самага вялікага звону, з трошкі запаскуджаным каўкамі вобразам сьвятога Уладзімера. Ї атрымоўвалася, даруй божа, і сьмешна і грэшна.

Лямантуюць, заломліваючы рукі, бабы:

— А ў досьвітку ты сьвечачку трымаў.
А ў вечары і зусім сканаў!

А з гары адказвае ім званіца адзінае:

— А Лявоніху Лявон палюбіў!
А Лявоніху Лявон палюбіў!

Мужыкі на гэтае, вядома, без усялякае ўвагі, абы толькі званы з візарункамі, а ў мяне, даруй божа, ні царквы, ні званоў—толькі прыдбаць гаспадарку.

Удзень, апасьля імшы, ішоў на Дзьвіну з нератам і чарпаком альбо ў лес па грыбы і ягады, а потым прадаваў і рыбу, і грыбы, і ягады ў маёнтку.

А ў начы вартаваў царкву, і як толькі спыніцца над хатай сьляпой Янчыхі Ільлёў Воз і засьпяваюць пеўні, пачынаю адбіваць дванаццаць галзін. Б'ю вагам у самы вялікі звон, а вакол усё—і людзі, і зьвяры, і птушкі—стомленае за дзень, адпачывае, пакуль ня зьнікнуць за Гжэльскім шчыр-лесам зоры, і не закурыцца туманамі Дзьвіна. Прыгожая ў месячныя ночы наша ваколічнасьць. Уся ў лясох і гаёх, уся ў рэчках і вазёрах. Налева, куды накіраваліся ад Касплян і Птушыны Шлях і Дзьвіна, відаць Дубакрай; проста перад вачыма ў Задзьвіньні відаць, у атачэньні вялікіх лагодных вазёр,—і Стайкі, і Радомля, і Мсьціж; направа, на высокім узвышшы ледзь-ледзь толькі відаць Пацавы замак у Зацьвілішках. Гэта цяпер толькі бачыш перад сабой гэтую прыгожасьць, а ў той час, калі басіны спраўляў, не заўважаў яе.

У старажыхі я ўзяў сабе за жонку малодшую дачку каваля Стышкі з Мсьціжу—Адэлю. Добрая і працавітая і прыгожая была жонка, хай ёй пухам зямля. Абое мы пачалі ўпарта працаваць, каб як мага хутчэй перайсьці ў сваю хату, але неўзабаве мяне ўзялі служыць у Літоўскі, імя вялікага князя Чарнагорскага Міколы, полк, а Адэлія засталася ў старожцы, бо на маё месца стаў яе брат Юрка. Атрымаў я ў казармы з хаты толькі два лісты. У першым—паведамляла Адэля, што ў мяне нарадзіўся вельмі падобны з твару да бацькі сын, якога ахрысьцілі Ціханам. У другім—паведамляў Юрка, што Адэлі адразу пасьля радоў прапанаваў поп айцец Агафангел нарыхтаваць дроў для царквы, абяцаўшы за гэтае лесу на хату, і яе прыціснулі да зямлі шчытам асіны. Слодыч у першым лісьце, пакута ў другім лісьце, але нельга ў казармах Літоўскага палка ні сьмяяцца, ні плакаць, і не дачытаў я яшчэ апошняга ліста, як крычыць голасна ўнтэр-афіцэр:

— Станавіся!

А праз колькі хвілін, адбіваючы гулка крок, ішоў па вуліцы. Крывёю сачылася ўсё ў сярэдзіне, ня бачылі вочы сьпіны наступнага салдата, але сьпяваў я разам з усім батальёнам:

— Ой, мой Ясю, на вайне
Ой, ліст піша да мяне.
Ой, і я пішу яму,
Ой, бо жонка я яму.

Апасьля салдатчыны, перш як пайсьці ў заработкі, я заехаў у Касп..ны, каб пабачыць упяршыню сына, якога даглядала Тадора. Моцнае, здаровае дзіцянё, але-ж напэўна бяз маці загадаў бог усім Галабурдам гадавацца. На другі дзень па прыезьдзе спатыкае мяне айцец Агафангел і загнаўшы кажа:

— З цябе, Самусь, мне трэба атрымаць тры рублі і парасё.

— За што, бацюшка?—пытаю.

— Як за што? Хіба-ж ты плаціў за пахаваньне Адэлі? Быў я ў той момант падобны да рохманай, на першы погляд, Дзьвіны ўзімку, якая, як і ўлетку, віхурыць пад нярухомай лёдавай стольлю, але, хоцькі-ня хоцькі, прышлося апасьля аддаць папу і тры рублі і парасё, бо Тадора з Ціханам жылі ў старожцы той царквы, дзе ён быў гаспадаром.

Толькі два тыдні пражыў я ў Касплянах, а потым накіраваўся ў заработкі. Ісхадзіў я ўвесь сьвет, ад Дубакраю да Беластоку, ад Рыгі да Гомелю, і нарэшце паставіў усё-ж уласную хату на месьце, дзе была калісьці бацькава. Але ніхто з багатыроў вясковых ня даў веры, каб царкоўны сторож і адстаўны салдат здолеў збудаваць уласную хату. Першы Цімох Кавынька, якога цяпер раскулачылі, пачаў хлусіць пану, што хата мая збудавана з крадзенага панскага і царкоўнага лесу, нават паказваючы на яго клаймы. Як я не даводзіў, чаго я толькі не казаў, а хату па суду прадалі ўсё-ж на знос, і купіў яе, каб з яго журы вышлі, ён-жа—Цімох Кавынька.

Не ачуняў ён апасьля гэтага здарэньня. Наогул, трэба казаць згубілі дзесьці на шляху балаголы мой талань. Ціхан—адзінаццацігадовы хлапец—пашоў да пана ў падпаскі, сястра пашла зноў у Зацьвілішкі, а я апынуўся ў лямачніках. Цягнем, бывала, як прыгоньнікі лайбу з таварам ад Рыгі да Віцебску. Націскаем грудзьмі на шлейку, памахваючы схілепай да каменьня галавой, а адзаду за нашымі паўголымі нагамі цягнецца па ўсім беразе ад Рыгі да Віцебску зьвілістая крывавая сьцежка, і здаецца нават, калі маёвая трава зірнула-б у нашыя, горам спавітыя асначоўскія думкі, адразу пажоўкла-б:

— Наваліся! Наваліся!

—гукае ў парогах адзаду гаспадар лайбы, стоячы ля стырна. Хацелася ў такі момант скінуць шлейку і, уздыхнуўшы, нарэшце, поўнымі грудзьмі як мага хутчэй пайсьці прэч ад Дзьвіны, але мільгануць у думках невялікі Ціхан, хворая Тадора, і мядзьведзем націскаеш на шлейку, пакуль змрок у вачох не затуліць паўдзённага сонца. Эх, у лямачнікаў бяда, як дуду: станеш дуць—сьлёзы самі ідуць.

Потым трапіў я наймітам на панскі млын, дзе і атрымаў невялікі пакой. Пашлі дні адзін да аднаго падобныя, адзін, як адзін, цяжкія, а тымчасам

падрастаў Ціхан, на якога клаў я ўсю надзею. Хлапец быў рослы, прыгожы, дужы і вельмі падобны да дзеда майго, а да свайго прадзеда, Панаса Галабурды, але трапіў ён салдатам у ліхую гадзіну Японскай вайны. І як вадой змыла сына, і ніякіх чутак няма, толькі раз кажа мне аканом маёнтку:

— Цябе, Самусь, чамусьці выклікаюць у воласьць. Засып яшчэ вось гэтыя пяць мяшкоў ды йдзі туды!

Прыходжу я хвалюючыся да воласьці і яшчэ на парозе, зьняўшы кучомку, аддаю дзень добры валасному пісару.

— Дзень добры—адказвае пісар—кажу—Самусь Галабурда.

— Твой сын Ціхан Галабурда ніжні чын 8-й роты 345-га Шуйскага палка загінуў сьмерцю храбрых за веру, цара і бацькаўшчыну пад Ляолянам. Пастанаві вось тут тры крыжыкі.

Паставіў я тры крыжыкі і пашоў з воласьці да млына.

А прыдбаў я ўсё-ж пад старасьць хату, і вось якім чынам. Даўно ўжо, як выпадкова праходзіў паўз, адбіраў мае вочы хваёвы лясок перад самымі вокнамі палацу. Вядома—мужык патарэўшы, нібы воўк няеўшы: што ўгледзіць, то і трэба. Хвоі вакол альтанкі, дзе заўсёды панове гарбату пілі, як салдаты на парадзе ў струнку стаяць. І праз тыдзень апасьля таго, як скінулі цара, а паны яшчэ да часу заставаліся ў маёнтках адвострыў я сякеру і пачаў без усялякай пасьпешнасьці валіць хвоі. Выскачыў пан Браніслаў Борк-Жачыцкі, бегае вакол мяне, крычыць, а як толькі падскочыць бліжэй, я яму ўсьміхаючыся сякеру паказваю, і ён, нарэшце, схапіўшыся за галаву, пабег у палац. Потым разам з Юркам Стыпкам, з бацькам тваім Пархвенам Шабетай, з Ягычыхіным сынам Данілам паставіў хату. Як жыцьцё маё пашло далей, ты сам Андрэй добра ведаеш, бо амаль што суседзі, ды і ўсё гэта на тваёй памяці. Я першы падымаў руку, каб раскулачыць нашых вясковых багатыроў, а ў калгас я ўвайшоў, праўда, ня першы, але і без усялякага прымусу. Сястра трошкі лямантавала, ды больш ад хваробы сваёй, і я на гэтае заўсёды бяз увагі. А ўсё-ж, Андрэй, можа табе вядома, па якіх шляхох сёньня праўда блукае, а я ня ведаю і напэўна таму, што думка за гарамі, а сьмерць ужо за плячыма. Як успомніш пра жыцьцё маіх прадзеда, дзеда, бацькі, сваё ўласнае, сына; пра жыцьцё—мазгаватыя яны людзі,—Якуба Чыгілейчыка і Айзіка Хайкіна, як успомніш пра Ціхую Рубу—дык у адзін бок усяго пахісьне, а як чуеш, што толькі супроць бога кажуць ды й лапцёўнікаў яшчэ багата, дык у другі бок усяго пахісьне. Плывеш, наогул, усё жыцьцё, як вось ганок цяпер паміж берагамі—праз пароґі, праз галоўкі, праз плёсы і неўзабаве мушу прывальваць, а да якога боку, і сам яшчэ ня ведаю.

Твар дзедаў цяпер асьвятляе толькі вогнішча, і таму глыбокімі і выразьлівымі ізатэрмамі здаюцца зморшчкі на пераносьсі, якія былі так звычайны і для Боруха Сьпінозы і для Эмануіла Канта. Праходзім паўз крушні ў замку Леневардэн, а на тамабочным беразе зноў асначоўскія моглішы. Крыжы з сох, крыжы з дрыгалак, крыжы з шастоў.

Нібы гэтае мне марылася, нібы гэтае мне сьнілася, але я голасна, як толькі мага, крычу:

— Браткі-і, бі на Літо-оў!!

І вось, з-пад магільных кулінак падымаюцца марудна—сьпярша адзін. потым другі, дзесяткі, сотні, тысячы. У крыві, у поце, у жабрацкіх лахманох, у пашматаных бахілках. Зьліваючы адрозныя спачатку стогны ў адзіны суцэльны, поўны пакуты, лямант, пытаюць:

— Хто гэта не дае нам адпачынку і ў труне?

Поўны жаху перад грамадой мерцьвякоў, я ўсё-ж гукаю:

— Што вас, браткі, адарвала ад вёсак і паклала вось на гэтым узьбярэжжы? Чаму вы, браткі, так забавіліся паваротам? І першы адказвае доўгабароды, увесь у крыві, з адарванай рукой дзед, крык якога падхопліваюць паступова ўсе мерцьвякі:

— Змаганьне за кавалак хлеба!! Хлеба з мязгой! Хлеба з паловай! Хлеба з лебядой! Кавалак хлеба!!

*3/V-192... г.*

Шпацыруе ўвесну гарэзнай дзяўчынкай з жалейкай па галах. Надзьвіньня гліца. Пачуўшы музыку яе, пачынае на беразе ўзмахваць жоўтымі кошыкамі падбел, па выгары лясным пойдзе ў танож ліловая чубатка, на абсохлай сьцежцы ўсьміхнецца шчыра небасіні сьціплы дмухавец. Няма паратунку ад жартаў гліцы, і ляскочучы цяпер пацалункамі мой загарэлы ад сонца твар, і ўскудлачыўшы цяпер мае парудзелыя пад сонцам валасы— хоча выхапіць яна з рук паперку, з трошкі захмялелымі літарамі:

*Трэба купіць у Рызе*
*Сабе*
*Тутунь Швіцэн—5 фунтаў,*
*Шапка—як раней у гімназістых,*
*Кашуля—чорная.*
*Тадоры*
*Хустка ваўняная—як хадзіла папіха.*
*Чаравікі з гузікамі—як ходзяць у Зацьвілішках мяшчанкі.*
*Юрку Стышку.*
*Тытунь Швіцэн—1 фунт*
*Нагавіцы.*
*Янычыхінай унучцы.*
*Цацка.*

Дзед Самусь пільна сачыць за выразам майго твару, нібы жадаючы па рысах яго прачытаць думку аб каштоўнасьці падарункаў, якія ўзважвае ён усю пушчыну.

— Гэта-ж усё ёсьць у нас—кажу я нарэшце—штодня апрача дзён адпачынку, у кооперацыйнай краме—і ў Дубакраі і ў Мсьціжы, і ў Касплянах можна купіць і шапкі, і хусткі, і кашулі, і нагавіцы, і цацкі. Чаравікі па паперды старшыні колгасу знойдзеш у Зацьвілішках, а тутунь ты заўсёды атрымаеш па асначоўскай картцы ў Грайронку і Віцебску.

— Ды ня чмуры ты мне, Андрэй, галаву!—перапыняе злосна дзед— Паперкі ды карткі, карткі ды чэргі, чэргі ды трасца з вомігам — гэтага досыць у нас, а тут без усялякай чаргі ёсьць усё, апрача бацькі з маткай і вераб'інага малака. Праўда, у тутэйшай шапцы я аднойчы праходзіў

толькі ад Дабравешчаньня да Ўшэсьця, але за тое, які добры падыход да пакупцоў. У нас, калі ўвойдзеш у краму, дык прыказчык зірне на цябе воўкам з падылба, нібы ты яго бацьку забіў альбо дачку згвалціў і потым так пачне шваргаць з паліц на прылаўку боты ды чаравікі, што аж хмаркі ў вачох паплывуць, а тут прыказчык спатыкае цябе як архірэя ля парогу і тавар прапаноўвае, нібы валачобнік сьпявае. Не, па гэтай сьцежцы Віцебску да Рыгі, як якому небудзь задрыпанаму Сусею да Дзьвіны. Ды ты вось сам пабачыш. Пройдзем зараз выспу Дален і камень Балван, а там да Рыгі—на валоў рык.

Уперадзе нас ідзе вялікі караван з Полаччыны. Асначы з яго, у пераважнасьці моладзь, падыходзячы да Пахвальніцы, занядбалі па-юнацкі ча сінявую кучомку Дабэрскольна і, спавітыя туманом, ішлі праз парогі безвач, нічога ня бачачы перад вачыма. Адзін з ганкоў, які нядаўна прывітаў нас зломанай дрыгалкай, разьбіўся ў Падліпках, дадаўшы моглі-цам яшчэ дзьве могілкі, а іншыя вышлі з белявай росі вельмі пакалечанымі. Перш як увайсьці ў Рыгу, яны прывалілі ўчора пад крушнямі замаку Іксюль перавязаць клібінамі ганкі, бо йнакш іх зноў-бы агрыз бурапены Балван, і калі мы падыходзім да крушняў, якраз перад намі апошні ганок з каравану адваліў ад берагу. Як пашарпаны былі ганкі, таксама пашарпаны былі і асначы, у якіх высмакталі схаваўшыся парогі ўсю жыцьцярадасьць, прымусіўшы адразу пастарэць.

Ужо з левага боку ўцякае назад бераг выспы Дален, і паступова пачынае павялічвацца плынь.

— Націскай на ўсе застаўкі!—крычыць дзед Самусь. Апошні раз націскай, Пархвенаў сын і Піліпаў унук! За Балванам будзем дрыгалкі на самаварную лучыну сушыць!

Апасьля выспы Дален, відзён зводаль вялікі камень, які цяпер пільна абгінае караван, прабягае паўз Балван ластаўкай і наш ганок. Мы ідзем зноў марудна, і вось паступова акрэсьліваюцца абрысы далёкай Рыгі.

— Бліжэй—гушчар дымароў, далей над шматпавярховымі будынкамі—вострыя шпілі кірх, ратуша, вежы замку.

Дзед Самусь хрысьціцца таксама станавіта, як тры тыдні таму назад у Дубакраі, і потым крычыць да мяне:

— Што сёньня, Андрэй, нядзеля? Ці што?

— Чацьвер!

— Дык чаму-ж дыму няма над фарштадтамі [1])? Цікава. Ато дзіва. Тут багата заводаў, і раней калі падыходзіш, дык здавалася нібы ў горадзе пажар. Напэўна ў лютараў сьвята якое небудзь. Ты цяпер сачы вакол. Тут у Рызе Дзьвіна запруджана параходамі і лайбамі, як Дубакрай на фэст калёсамі. Сачы вострымі вачыма!

З правага і з левага боку цягнецца ўжо горад, але ўперадзе пустэльны вадзяны ўскудлачаны толькі брызам з мора абшар, на які цяпер зьбянтэжана глядзіць дзед Самусь. Насустрач нам хутка йдзе паравы лоцманскі катэр і калі запыхкаўшыся параўняўся, мужчына з яго паказаў куды прывальваць, і мы пачынаем прыбіваць ганок дрыгалкамі да берагу, дзе стаіць вялікі двухпавярховы параход «Сьвятая Гэртруда». Над дымаром

[1]) З ням. мовы. Прадмесьце.

параходу няма дыму, на палубе ня відаць людзей, якар яго глыбока запусьціў кіпцюры ў зямлю.

— Бадай, у ім што небудзь сапсавалася—кажа мне неяк няўпэўнена дзед.

Мы ўжо ля самага берага, на якім цяпер чамусь вялікі натоўп. І як толькі саха, пацягнуўшы шыліну, дазволіла ўзьняць пад вадой дрыгалкі, мы хутка пашлі да натоўпу, а, падашоўшы, ўбачылі, што пасярэдзіне яго ляжыць, раскінуўшы рукі, тапельніца, гадоў пятнаццаці дзяўчынка. Вопратка яе ўся ў латах, і праз дзіркі чаравік відаць голыя пальцы, яшчэ дзіцячыя губы перасмыкнула зморшчка пакуты і засталася назаўсёды на сінявым з адкрытымі вачыма твары.

— Я яе добра ведаю,—гаварыла праз сьлёзы дзяўчына, што стаяла ля самай тапельніцы—гэта мая таварышка Маўра Плесуме, калодачніца з Юглаўскай мануфактуры. Маці яе другі год у вар'яцкім доме, а бацька ў турме апасьля страйку на заводзе «Фельзер». Тыдзень таму дырэктар мануфактуры пан Таварас казаў Маўры, што яе ня зволяняць пры чарговым звальненьні калодачніц, калі яна прыдзе ўвечары да яго хаты. І тыдзень таму Маўра пашла да пана Тавараса і не вярнулася потым назад. Я шукала яе і ў цэнтральнай трупярні, і ў Карманаўскім парку, і ў начлежных прытулках і вось цяпер знашла.

— Дузіс! [1]) Дузіс!
— раптам закрычалі спалохана вакол і пачалі хутка разыходзіцца. З узьбярэжнай сыходзіў палісмэн.

Апасьля майго перакладу дзед казаў толькі—Бач!—і потым зірнуўшы на тапельніцу, амаль што ўгрунь пабег да ганку, пачаўшы зьбіраць у хатыль увесь асначоўскі скарб.

— А гэта, напэўна тутэйшы міліцыянэр.
— казаў ён нарэшце, паказваючы на палісмэна, які схапіўшы за руку дзяўчыну, што апавядала кагадзе пра пакутнае жыцьцё Маўры Плесумс, моцна сьціснуў яе аберуч. Углядаючыся потым, як адразу пачырванеў ад болю твар дзяўчыны, і як цяклі на ім беспарадныя сьлёзы, дзед хутка дадаў:

— Не, гэта вураднік, а не міліцыянэр.

Трохі ніжэй нас спыніўся караван, і неўзабаве мы пачалі разам здаваць ганкі, а праз гадзіну, атрымаўшы грошы, з хатылямі за плячыма і з сякерамі за матузкамі пашлі ў горад.

Калі вышлі на клумную Маскоўскую вуліцу, вузкі ходнік яе прымусіў нашу соракагаловую асначоўскую грамаду, у перадзе якой ішоў сівабароды дзед Самусь, пайсьці проста па бруку. Яшчэ пад Перакагрыжам у дзедавай бравэрцы застаўся толькі адзін рукаў, праз дзіры нагавіц сьвіцелася цела, бахілкі, падобныя цяпер на бліны, хлюпаліся рапухамі, а вочы ад трохтыднёвага недасынаньня і валовай працы заліліся крывёю. І ўсё-ж дзед Самусь выглядаў амаль што фэртам перад асначамі з пабітага парогамі каравану, на моцных юнацкіх плячох якіх разьвяваліся

---

[1]) З латыскай мовы, ад слова „дуз"-туз—пагардная мянушка латыскага палісмэна, якая паходзіць ад вялікага туза над брылем.

зусім не падобныя да вопраткі лахманы, і каля паловы якіх крочыла па бруку босымі, ад васеньняй вады апухлымі нагамі. А ва ўсіх нас разам:

гліца, сонца і вада

— афарбавалі твар у падобны да сапухі колер. Здавалася з боку, што праз Рыгу ідзе транзітам на набыўку да хат партыя пакутнікаў з пекла, і наўсьцяж ходнікаў дзівіліся на нас людзі, якіх мы даўно ня бачылі ў сваёй краіне.

Кармелісты дзядок у ангельскай трыніцы і францускім капялюшы, замахваючыся па нас кійком з срэбнай балдавешкай, закрычаў ахрыпла:

— Лаупітай! [1]) Лаупітаі!

Тлусты мужчына і ксёндз кінулі на нас вокам і потым мужчына праз рогат казаў ксяндзу:

— Будаўнікі Дняпробуду! Хэ-хэ-хэ! Гаспадары дзяржавы!

Пані ў капялюшы з стравусавым пяром, паказваючы на нас канцом парасона, падобна да таго, як паказваюць у засадзе на тыграў, апавядала невялічкай дзяўчынцы з шырока адкрытымі ад жаху вачыма:

— Гэта камуністы, якія робяць мыла «Букет маей бабушки» з дзяўчынак, і якія ніколі ня ходзяць у кірху і лазьню.

Калі мы падыходзілі да пляцу, каб адтуль разыйсьціся куды каму трэба, ужо адзаду, дакладней за раз на ўсё жыцьцё заведзеных аўтаматаў, крочылі некалькі палісмэнаў, а уперадзе на бальконе хтосьці ў вялікіх акулярах і паліто ў клетачку ўсьміхаючыся здымаў нас фотаапаратам.

Толькі разьвітаўшыся да вечару з полацкімі асначамі, пашлі мы з дзедам да гандлёвай Ізьвястковай вуліцы, каб пахадзіць па яе шматлікіх крамах, як гадоў пад шэсьцьдзесят дзед, у якім спазнаў я пана Браніслава Брок-Жачыцкага, падбегшы да дзеда Самуся, закрычаў ад злосьці перарыўна і хрыпла:

— Вось калі ты нарэшце, ясна, халера, дзяржаўную кватэру атрымаеш! Палісмэн! Палісмэн!

Дзед Самусь ані не зьбянтэжаны, глядзеў проста ў вочы пану, нібы чакаючы зацікаўлена, што будзе далей.

— Вось гэта бальшавік—крычаў пан палісмэну—там на Беларусі абрабаваў мой маёнтак! Яго трэба арыштаваць!

— Ніяк нельга, пан, арыштаваць—адказаў палісмэн—бо ён падданы іншай дзяржавы і ў Рызе цяпер знаходзіцца на пэўных умовах. Ніяк нельга, на вялікі жаль.

— Як-як-якой дзяржавы?!—ад абурэньня заклёкатаў бацяном пан.— Гэта не дзяржава, а прыстанішча зладзеяў! Гэта бацькаўшчына граміл! Гэта заказьнік ваўкоў! Гэта...

— Гэта!—выкрыкнуў раптам дзед Самусь, які ўвесь час стаяў нярухома, і паднёсшы свой моцны кулак да твару пана, і нічога болей не кажучы, выразна і імпэтна памахаў. Пан, зрабіўшыся падобным да чалавека, якога зараз павінен схапіць ванцук, замахнуўся кійком, але дзед выхапіўшы яго пераламіў напалам і пайшоў далей, не зьвяртаючы ўвагі на крыкі за плячыма:

---

[1]) З латыскай мовы—рабаўнікі.

— Рабаўнікі! Грамілы! Чакай, чакай мы яшчэ зьвярнемся! Я з вас новую трэблю ў Боркавічах пабудую! Я вамі палеткі пад жыта ў Дубакраі ўгнойваць буду! Я з вас...

Ходзяць па цэнтральных рыскіх вуліцах сотні людзей, але ніхто нікуды не сьпяшаецца, і, нават, вялікі гадзіньнік на гатычнай вежы ратушы позьніцца на дваццаць хвілін. Не сьпяшаюцца на палову парожныя трамваі, не сьпяшаюцца, бязгучна прабягаючы па люстромай гладзі тарцоў, аўто. І здаецца што вакол ходзяць хворыя, і...

— Здаецца. Андрэй, нібы мы на валатоўках апынуліся — заўважвае дзед Самусь.

Проста перад вачыма вялікі магазын з шыльдай:

Усё для ўсіх.

— Вось гэтага мы і шукалі—кажа дзед, уваходзячы ў магазын, у якім чамусь зусім ня відаць пакупцоў. Насустрач бег рынаю прыказчык і, схіліўшыся ў крук, ветліва загаманіў:

— Што трэба пану? Пан напэўна аснач? Пан—чужынец? Сядайце, калі ласка, вось на гэтае крэсла.

— Кажы яму, Андрэй,—просіць апасьля майго перакладу дзед Самусь—што я—ня пан, а калгасьнік. Пан няхай у Рызе па крундзіншах [1]) тутэйшых на нагавіцах дзіркі прашмурыгвае. А трэба вось усё, што ў гэнай паперцы.

Праз хвіліну на прылаўку разам з цыгарамі ў шкляных скрыначках і пахучымі папяросамі, ляжалі ўсялякія гатункі тутуню, пачынаючы ад шляхецкага анельскага, і канчаючы сялянскай махоркай, але дзед адклаў у бок толькі «Швітцэн». Побач з тутунём ляжалі ўсялякіх гатункаў, колеру і якасьці хусткі, чаравікі, нагавіцы, кашулі, цацкі. Не знайшлося толькі гімназічнай шапкі, і прыказчык прапаноўваў замест яе, шапку палісмэна з тузам уперадзе, упэўніваючы, што па мацунку і прыгожасьці, яна якраз удубальт вышэй гімназічнай, але дзед плюнуўшы злосна выбраў звычайную чорную шапку з брылем. Прыказчык завінуў усё купленае ў добрую цынамонавую паперу, і, просячы імям Езуса яшчэ заходзіць у магазын, правёў да дзьвярэй.

— Усё для ўсіх—заўважае на вуліцы дзед—Усё—гэта ёсьць, і нават паліцы ад тавараў трышчаць, а вось—усіх—апрача прыказчыка, нікога няма. Ня дам рады.

Зайшлі далей у краму з надпісам на шыльдзе, паміж двух сьвіных галоў, пазалочанымі літарамі:

**КАЎБАСЬНЯ**

Тлусты, з двумя падбародкамі, гаспадар яшчэ ля дзьвярэй, узяўшы дзеда за адзіны рукаў бравэркі, так асьцярожна, нібы ён быў шкляны, пачаў прапаноўваць розныя ядомасьці. Рэкамэндаваў купіць вялікія кумпякі, аздобленыя гвазьдзікамі і мярэжкамі з каляровай паперы, каўбасу кракаўскую і фінскую, гарбатную і мазгавую, вантрабянку і крываўку,

[1]) З латыскай мовы—карчомка.

сасіскі і языкі, паштэты і сыры. Раіў пераканацца ў выдатнай якасьці цяляціны і вянгліны, шпротаў і кілек, сардынак і скумбрый. Даводзіў палка высокапажыўнасьць вустрыц. Дзед купіў пяць фунтаў саланіны, і вось мы зноў крочым па вуліцах і спыняемся раптам ля помніка біскупу Альбэрту—аснавальніку Рыгі.

Трымаючы моцна ляску з тыарай на галаве і абмітна гледзячы ўперад, застыў біскуп, а ля ног яго, тварам да бруку, ляжыць босы чалавек.

— П'яны, як зямля—гадае дзед—Казаў я табе, Андрэй, што ў Рызе ўсё-ж народ жыве лепей, як у Віцебску. Латыш, я добра іх ведаю, ніколі ня будзе прапіваць апошнюю залатоўку, толькі, вось, чаму ён босы.

Падышоўшы да чалавека, дзед схіляецца над ім, затлядаючы ў твар, абмацваючы рукі, і потым неяк глуха заўважае:

— Гэта не п'яны, гэта галодны. Ён самлеў і, бадай што, не ачуняе больш. Я яму пакіну ўсё-ж саланіну.

— Ідзеце, таварышы. Хутчэй ідзеце! Як мага хутчэй!—закрычаў падбягаючы чалавек, вельмі падобны да шкілета, агурнутага ў скуру, і вопратка на плечах якога вісела, як на початках. Заўважыць вас, таварышы, дузіс, дык пачне абвінавачваць у тым, што вы з мэтай крадзяжу аглушылі небараку Пэтэрса. На вуліцах Рыгі—сталіцы нашай бацькаўшчыны, няхай будзе яна проклята, як паведамляе паважаны «Валдібас Вэстнэсіс» [1]), часамі валяюцца п'яныя, хворыя на падучку і ніколі—галодныя. Хай жыве дэмократычная Латвія! О, няхай яна будзе проклята! Ідзеце, яго саланіна ўжо ня выратуе! Ідзеце!

— Хто вы такі, таварыш, і хто Пэтэрс—спытаў я.

— Я—вальцоўшчык з заводу «Фэрбэнкс» і ўжо другі год беспрацоўны, а Пэтэрс, таксама, другі год ня ходзіць у лоцманах, з таго часу як затухлі топкі «Сьвятой Гэртруды». Мабыць, бачылі гэты параход?

— Дык ты, таварыш, бяры сабе саланіну—казаў дзед.

— Вось дзякуй! Дзякуй! Вялікае дзякуй! У мяне дзетвара. Яны гэтага ніколі ня елі. Дзякуй, таварыш!

Трохі прайшоўшы далей, мы зной спыніліся, зацікаўленыя вітрынай юбелірнага магазыну. Здавалася, на паліцы, белыя ад срэбра, жоўтыя ад золата, ішоў зьверху зьнічкавы дождж смарагдаў, дыямэнтаў і рубінаў. Зіхацелі безьліччу іскр у аксамітавых чорных футаралах каралі, брынзалеты, брошкі, завушнікі, персьцёні, мэдальёны, гадзіньнікі.

— Крістус дель кунгс палідзіет? [2]).

— пачуўся зусім побач з намі дзіцячы голас. Ля вітрыны, асьвятельныя водблёскамі пад сонцам золата і срэбра, стаялі басанож раней не заўважаныя намі, дзяўчынка гадоў васьмі, працягваючы руку, і хлопчык гадоў чатырох, які бязуважна глядзеў запалымі вачыма то на дзяўчынку, напэўна сястру сваю, то на нас.

— А што, Андрэй, калі выкрнуць некалькі тарцоў і шыргануць у гэтую вітрыну так, каб брынзалеты і персьцёнкі верабінай зграяй паляцелі ў розныя бакі.

---

[1]) Valdibas Vėstnesiš— афіцыёз ураду Латвіі.

[2]) З латыскай мовы—[illegible]

— Кажа дзед, але замест гэтага падыходзіць да дзяцей і, пагладзіўшы іх па галовах, даў дзяўчынцы сьперша ляльку, якую купіў для Янычыханай унучкі, а потым выцягнуў з кішэні лату. Невядома, што было каштоўней для дзяўчынкі—ці лата, якую яна дагэтуль, не заўсёды атрымоўваючы нават сантым, ніколі ня бачыла, альбо лялька, якая бязупынна лупала вачыма—толькі ад захапленьня і радасьці яна ня здолела падзякаваць.

Дзед усьміхаючыся зірнуў на дзяцей, і мы пашлі да асначоўскага начлежнага прытулку на ўзьбярэжнай Дзьвіны.

Ужо агарнуў прыгожыя вуліцы Рыгі, змрок, і пачалі запальвацца ліхтары, і загаласіла, дзесьці званіца, і замузычыў дзесьці бар. Насустрач ішоў, размахваючы крысамі расы, рослы чорнагрывы поп і, параўняўшыся з намі, зьвярнуўся з кароткай, але зьмястоўнай прамовай:

— Зладзеі! Душагубы! Хрыстапрадаўцы! Зямлю пастыраў вашых захапілі! Цэрквы, і тыя пачалі руйнаваць. Мошчы вялебнай княжны Прузыны Полацкай апаганілі. О, дзеці Садома і Гаморы! Ці ёсьць у вас бог? Ці ёсьць у вас душа!

Дзед Самусь, які кагадзе ледзь-ледзь ня рынуўся да папа, каб атрымаць пажагнаньне, на момант аслупянеў, а потым, таксама, коратка і зьмястоўна адказаў:

— Душа ў с....ы Тамаша. А злодзей з нас той, у каго крыж на грудзях і лата ў грудзях.

Нечакана з балькону ратушы, якая захавала ўжо ў цемры змроку сваю стромкую, спавітую дзяржаўным сьцягам рэспублікі, вежу загарлаў рэпродуктар:

— Алё, алё, руна Рыга! Руна Рыга! [1]).

І пад гістэрычную дрыготу гавайскай гітары нібы загаласіў, нібы зарагатаў тэнар:

**— Джон быў матрос з жыцьцём шымозы,**
**Джон з Ганалулу, Эльза з Фармозы.**
**О, Джон! О, Эльза!**
**Імпэт шымозы!**
**О, Джон! О, Эльза!**
**Тайфун Фармозы!**

Спачатку ўсьміхнуўся сьвяты Віт, потым засьмяяўся Гуінплэн і нарэшце зарагаталі тысячы атручаных вясёлым газам.

Спачатку рыпнула электрычнае крэсла, потым заскрыгатала перакладзінай шыбеніца і нарэшце затрашчалі тысячы вогнішчаў Лінча.

Захліснулася сьлязьмі гітара, патрэскаліся ў сьмесе струны скрыпак, надарваўся ў рогаце тэнар і ўжо новае крычаў рэпродуктар:

**Курорт стары Дубэльн!**
**Курорт Стары Дубэльн!**

РЭСТАРАН „ЛАТВІЙСКАЯ РЫВ'ЕРА“!

**Марэнскія вустрыцы.**
**Кансамэ д'Аламбэр.**
**Нэапалійскія макароны.**

[1]) **З латыскай мовы—Алё, алё, гаворыць Рыга! Гаворыць Рыга!**

Страсбургскі паштэт,
Вэнэцыйская салата
Французская садавіна
Балет. Гэрлы. Джаз. Танго. Песьні. Гульні. Падарункі.

— Яунаіс, цілвек, націенаят ар папіросу! [1]).
—зварачаецца да мяне дзяўчына, але як яна падобна да маёй сястры Катры. У Катры такія-ж вочы, такія-ж вусны, такі-ж голас. Гэта яна— Катра. Жах перасмыкнуў твар, задрыжэлі рукі, камяком сьціснула горла і з якойсьці хрыпкай я пачынаю мармытаць:

— Катра... Катра... Катра...
—а дзяўчына, нібы нічога не заўважаючы, паўтарае:

— Яунаіс цілвек, націенаят ар папіросу!

— Не, гэта ня Катра—даводзяць мае думкі.—Катра цяпер напэўна, уважліва слухаючы ў аднэй з аўдыторый унівэрсытэту ў Менску прафэсара, запісвае штосьці сваім бісэрным почаркам у сшытак. Гэта ня Катра.

Вымаю пяць лат і падаю дзяўчыне. Яна хапатліва, нібы не даючы веры, кладзе іх у кішэню свайго паліто, а потым з дзіўным сьмехам, схапіўшы мяне за руку, пачынае мяне цягнуць кудысь. Калі я не пайшоў, яна стоячы побач доўга глядзіць на мяне, напэўна лічачы за вар'ята.

— Паўстаньне на Беларусі! Абураныя падаткамі сяляне захапілі Віцебск і рушацца на Менск!

— Ха-ха-ха-ха! А-ха-ха-ха-ха! Маняць, нібы бабы ля студні! Ха-ха-ха-ха!—зарагатаў дзед, калі я пераклаў яму навіну радыё.

— Тікай діві латы! Тікай діві латы! [2]).
—чую голас другой дзяўчыны, і як яна таксама падобна да Катры.

— Пойдзем, дзед Самусь! Пойдзем!
—кажу я, і мы хутка крочым да аснačоўскага прытулку.

Раней, як легчы на доўгачаканы ложак, я ўсё-ж выходжу на бераг ракі. Моўчкі бяжыць перад Балтыкай шырокая Дзьвіна, і адлюстроўваецца ў ёй вялікі, такі прыгожы ўначы безьліччу агнёў сваіх горад. На ганку ля дрыгалкі сядзіць самотны юнак, і напэўна мы адчуваем вакольнае адноль-кава, бо раптам ён пачынае сьпяваць:

— О Ріга, Ріга, скайста, скайста
Кас то скайсту даріная?
Відземнеку сура вара
Пакаворі кумелінь ні! [3])

Я крочу да юнака, і, заўважаючы мяне, ён хутка ідзе насустрач, цёпла ўсьміхаючыся і падаючы руку, пытае.

— Аснач?

— Аснач. Андрэй Шабета.

[1]) З латыскай мовы—Малады чалавек, пачастуйце папяросай.
[2]) З латыскай мовы—Толькі дзьве латы.
[3]) З латыскай мовы—О, Рыга, Рыга, прыгожая, прыгожая яна,
Але хто яе зрабіў прыгожай?
Цяжкая няволя ліфляндцаў,
Іх падкованыя коні.

— А я бэтоншчык і комсамолец Кароль Пурынь, і як усе фарштадтах, беспрацоўныя. І як мяне, таварыш Шабета, цягне ў СССР, але толькі не таму, што там няма беспрацоўных і я ня буду галадаваць. Я працаваў-бы ў СССР і гарбаром, і казаносам, і на самай цяжкай рабоце, і ўсё-ж я застануся тут. Застануся хаця-б таму, што заўтра першае мая, і я мушу несьці ўперадзе беспрацоўных чырвоны сьцяг, таму, што праз колькі часу я буду змагацца на барыкадах, таму, што праз пэўны час я буду чырвонаармейцам савецкай Латвіі.

Наступнай раніцай спаткаў нас яшчэ зводалек крык хлапца-газэтчыка:

— Валдібас Вэстнэсіс! Валдібас-Вэстнэсіс!

Крэву лієлініэкі[1]).

Разгортваючы газэту, бачу на першай старонцы здымак учарашніх асначоў, у цэнтры якіх глядзіць угару дзед Самусь. І пад здымкам надпіс:

*Крэву лієлініэкі*

— Добра-ж яны нас, каб іх падвей, паказалі, і нават я, бач, як жывы, у бравэрцы. Праўда, я не бальшавік, але нічога супроць бальшавікоў цяпер не кажу. Толькі гэта яны зьдзекуюцца. Падзівуйцеся, якія бальшавікі абшарпаныя і брудныя, а паглядзеў-бы я, у што перакінуліся-б іх цыліндары і гарнітуры апасьля Смычкова перавоза. Цяпер я праўда абшарпаны, а ў Дубакраі ў мяне добрыя—і шапка, і сьвітка, і кашуля, і нагавіцы, і боты. Галодны таксама, як у іх, вось, на вуліцах, ніколі валяцца ня буду. А газэту ўсё-ж трэба ўзяць да хаты—няхай Тадора пасьмяецца.

Мы ідзем да фарштадтаў Рыгі, да дзіўна бяздымных дымароў. Сьпярша пабачылі гмахі гумавага заводу «Праваднік», у шматлікіх вокнах якога ня відаць ніякага руху, а прайшоўшы трохі далей, заўважылі шчыльна зачыненую браму з парослай перад ёй на вуліцы травой.

— Тут калісьці працавала пятнаццаць тысяч рабочых—кажа дзед—якраз удвойчы болей ук у Грайронку і Зацьвілішках разам жыхароў. Помню, як выйдуць апасьля гудку на вуліцу, дык нібы цэлая дывізія. І дзе яны цяпер, цікава?

Сьляпымі вачыма зірнулі па нас потым гмахі гумавага заводу «Квадрат», а калі параўняліся з машынабудаўнічым заводам «Фэльзер», дзед, спачатку ўважліва прыслухоўваючыся, адзначыў:

— Грукаюць якраз, нібы, хай яму пухам зямля, нябожчык Стышка з Мсьціжу ў сваёй кузьні, а раней, добра помню, за вярсты тры чулася як працуюць.

Вандруючы па вуліцах Пецярбургскага фарштадту мы даходзім да вялізарнага заводу «Фэнікс».

Спачатку вылятаці з бэсэмараўскіх канвэртараў іскры чыгуна і жужлы, потым паказвалася невялікае жоўтае полымя з сінімі праблiскамі і, паступова сьвятлеючы і павялічваючыся, залівала нарэшце яскравым сьвятлом цэх. А ў сярэдзіне ігрушы клекатаў вадкі мэталь, выкідаючы ўгору безьліч зор.

[1]) З латыскай мовы—Расійскія бальшавікі.

Гэта было ўчора, а сёньня—дзьме холадам ад канвэртараў.

Сталёвыя вальцы, рухаючыся вакол наземных восей у процілеглыя бакі, з грукатам прапускалі тысячу кілёмэтраў рэяк, якія потым праз рэкі і горы падпяразвалі краіну з поўначы да поўдню, з захаду да ўсходу.

Гэта было ўчора, а сёньня—застыглі на невядомы час вальцы.

Усё гэта было ўчора, а сёньня—маўчыць вялізарны завод.

— Труны, Андрэй!—прымушаюць дзеда Самуся думкі паставіць кропку.—Віцебск у гэтую хвіліну віхурыць, а Рыга шкандыбае на мыліцах.

Ад Пецярбургскага фарштадту мы разыйшліся ў розныя бакі—я накіраваўся да старых кварталаў гораду, а дзед пакрочыў да Дзьвіны.

Я йшоў, спыняўся штохвіліны канькананьнем жабракоў і нечакана трапіў з Рыгі ў Нюрэнберг. Чатырохпавярховыя будынкі з высокімі чарапічнымі стрэхамі сьціснулі з абодвых бакоў вузкую, на якой нельга разьехацца возьнікам, вуліцу, зрабіўшы яе падобнай да траншэі. Здавалася тут штодня мылі ня толькі вокны, але і муры будынкаў, і брук, і ходнікі. Здавалася зусім блізка ўзьлятаў да хмар певень на шпілі кірхі сьвятога Пётры. Тут жылі немцы—пашчадкі сярэднявечных крыжакоў. І сапраўды, падышоўшы да пад'езду з каменнымі львамі, з голымі сырэнамі паверх, заўважыў на медзянай дошцы надпіс:

*Nur für die Herren* [1])

—а зайшоўшы на падобны да студні двор, прачытаў на бляшанцы паверх неафарбаваных са шчылінамі дзьвярэй:

*Nur für die Arbeitern* [2])

Я быў у Нюрэнбэрзе.

А ў гэты час дзед Самусь увесь спавіты ўражаньнямі, падышоў да ракі і стаў ля парапэту. На ўзьбярэжнай было бязьлюдна, толькі побач з дзедам прытуліўся таксама да парапэту, неяк дзіўна гледзячы на каменьне ля падножжа дамбы, чалавек з заношанай спэцвопратцы. Дзед сьпярша не зьвяртаў на яго ніякай увагі, а потым, выпадкова зірнуўшы ў вочы чалавека, які марудна, але няўхільна перавешваўся над парапэтам галавой дадолу, хутка падышоў да суседа і, паклаўшы яму руку на плячо, казаў:

— Ты што гэта з глузду зьехаў? Ты хто такі?

Чалавек уздрыгнуў, гледзячы на дзеда пустымі вачыма.

— Ты хто такі?—паўтарыў дзед.

— Я?—перапытаў чалавек недачутлівым, нібы ня тут, побач ён стаяў цяпер, а дзесьці воддаль—голасам.

— Але, ты.

— Я. Лацiс. Яніс Лацiс. Беспрацоўны каваль. Раней працаваў на заводзе «Фэнікс».

— Пойдзем да хаты!—рашуча загадаў дзед, моцна схапіўшы чалавека за руку.—А там пагамонім у цябе.

— Не, не, там аб гэтым нельга гаварыць—пачаў нечакана жвава і хапатліва супярэчыць Лацiс.—У мяне хворая жонка, у мяне невялікая дзяўчынка. Ім гэта, таварыш, ня трэба ведаць.

[1]) З нямецкай мовы—Толькі для паноў.

[2]) З нямецкай мовы—Толькі для рабочых.

— Дык ці ты здурэў? Га? Ты-ж мужык усё-ж, а ледзь-ледзь ня прымусіў дзяўчынку сваю жабрачыць, а жонку пайсьці да тэй музычнай маны ля ратушы. Галава ты бяз клёпкі! Недарэка!

Па дарозе да хаты Лаціс, які жыў на тамабочным узьбярэжжы Дзьвіны ў рабочым Мітаўскім фарштадзе, дзед зайшоў у гастранамічную краму. Неўзабаве выйшаў адтуль і зноў пакрочыў далей, палка размаўляючы з сваім новым знаёмым.

— Я жыву вось тут, таварыш Галабурда,—казаў нарэшце Лаціс, паказваючы на халупу без двара і без дзьвярэй у клеці, як толькі ўвайшлі, насустрач Лацісу падбегла дзяўчынка гадоў шасьці, падобная ў хударлявасьці сваёй на сьцябло, і паказваючы на заслону ў куце пакою, за якой пакутна кашляла жанчына, казала:

— Тевс, матей аткал на нак ісініс на какера кад віні клено [1],—а потым, заўважыўшы побач з бацькам незнаёмага дзеда, і зацікаўлена гледзячы на яго, спытала:

— Бет кас тас пар вецтетыню. Вай віньш арі бездарбніекс? [2]).

— Што гэт яна казала?—спытаў дзед у Лаціса.

— Я вось, заўважыла мая Крыстына, што ў маці зноў кроў з горла йдзе ў час кашлю. Хворая на сухоты мая жонка. Гэта хваробы фарштадтаў. А потым і вы, таварыш, зацікавілі дзяўчынку. Зірнуўшы на вашу вопратку, яна рашыла, што вы беспрацоўны, а калі беспрацоўны—значыцца, свой чалавек, а ня чужы.

Дзед Самусь пагладзіў яе на галаве, а потым, тыкаючы сябе пальцам у грудзь, казаў адзінае яму вядомае, але моцна Рыгай у сьвядомасьць прышчэпленае, латыскае слова:

— Ліэлініэк. Ліэлініэк.

І папэўна дзеці фарштадтаў ведаюць гэтае слова, бо дзяўчынка, спачатку сьміхаючыся, нарэшце пачала скакаць вакол новага знаёмага на аднэй ножцы.

Дзед, стоячы пасярэдзіне пакою, пільна разглядаў яго. Царык, які пераламаўся пад цяжарам столі, падтрымліваў цялеш, пастаўлены рубам на печ. У падлозе не хапае аднэй памосьціны. Вокны, з разьбітымі балонкамі, былі напалову зачынены вакеніцамі. Шпалеры, з бруднымі ад дажджоў падцёкамі, зблеклі неаднолькава, і больш чорныя квадраты казалі, што ўздоўж вакон яшчэ зусім нядаўна стаяла шафа, бліжэй да дзьвярэй было трумо, да печы прытулілася камода, на сьценах віселі малюнкі.

Падышоўшы да стала, дзед пачаў разгортваць пакункі, выймаючы хлеб, каўбасу, саланіну, сыр, масла, яйкі, цукар, гарбату, крупы. Крыстына, стоячы насупроць з шырока адкрытымі ад захапленьня вачыма, сачыла за кожным рухам вялікай дзядоўскай рукі.

З-за заслоны вышла хістаючыся высокая зьнясіленая жанчына, якую падтрымліваў Лаціс.

— А вось мая жонка Ганна! А гэта таварыш Галабурда—ён адтуль, дзе ў міністрах ходзяць кавалі і асначы.

---

[1]) З латыскай мовы.—Тата, у мамы зноў кроў ідзе з горла, калі кашляе.

[2]) З латыскай мовы.—А гэта што за дзядуля? Ён таксама беспрацоўны?

Дзед паздароўкаўся з жанчынай, якая ўсьміхаючыся паказала на Крыстыну, што хутка ела, трымаючы ў аднэй руцэ кавалак хлеба, а ў другой каўбасу.

— Мы ўжо тры гады ня бачылі саланіны, хаця яе досыць у кожнай краме—казаў Лацiс, калі ўсе седзячы вакол стала сьнедалі—мы з год ня бачылі белага хлеба, хоць ён чарсьцьвее на паліцах пякарань. Усё, што толькі можна было прадаць—прадалі—а што далей будзе—невядома, бо беспрацоўе яшчэ ня заўтра скончыцца. Сам я каваль вышэйшай кваліфікацыі, але-ж цяпер нашай дзяржаве, хай яна будзе праклята, патрэбны толькі дузісы і каты. Сярод іх няма беспрацоўных. Як усе мы—і тыя, хто не працуюць, і тыя, што працуюць—зайздросьцяць вам. Мы радуемся за вас. Чаму цяпер не закрыта яшчэ фанэрная фабрыка Натэра? Толькі таму, што з СССР па Даўгаве [1]) ідуць ганкі. Чаму яшчэ некалькі дзён на тыдзень працуе завод «Фэльзэр»? Таму, што СССР патрэбны машыны. Чаму яшчэ дзьвесьце рабочых засталося на заводзе «Фэнікс»? Таму, што СССР патрэбны вагоны. Вы—шчасьліўцы. Вось заўтра, першага мая ў СССР у кожнай вёсцы будзе дэманстрацыя, у Латвіі—толькі ў Рызе, і добра, калі яна крывёю ня скончыцца. І ўсё-ж я пайду. Нельга ня йсьці.

— А чаго вам не пераехаць да нас—кажа дзед.—Вось, прыкладам, нам у калгас, пасьля таго, як памёр, хай яму пухам зямля, стары Стышка з Мсьціжу, пільна патрэбен каваль. Мы шукалі і ў Зацьвілішках і ў Грайронку—нідзе няма. Нават на першы час можна будзе спыніцца ў маёй хаце, а потым калгас дасьць вам кватэру. Спытайце ў Дубакраі. Дзе жыве Самусь Галабурда?—і вам кожны падшпарак пакажа маю хату. А калі не захочаце ў калгас, дык знойдзеце працу ў Віцебску на заводах «Чырвоны мэталіст» і «Камінтэрн», у Грайронку, у Зацьвілішках. Вось толькі тутуню ў нас няма. Хаця ён, праўда, ёсьць, ды толькі па картках даюць.

— Вы, напэўна, жарты строіце?—заўважыў Лацiс.—Хлеб у вас ёсьць? Ёсьць. Мяса ў вас ёсьць? Ёсьць. Вопратка ў вас ёсьць? Ёсьць. Хіба-ж ваша ўнучка падобна да маёй Крыстыны? Хіба-ж ваша дачка падобна да маёй Ганны? Хіба-ж вашы кавалі жывуць у такім палацы? А бачылі як жывуць нашы сяляне?

— Я бачыў—адзначыў глуха дзед, успомніўшы і кулака і пастуха з Ціхай Рубы.—У каго латы ў кішэні, а ў каго на нагавіцах.

— Ды і чаму я гэта кажу—у вас. Мы лічым заўсёды СССР нашай бацькаўшчынай, а сучасная Латвія—гэта бацькаўшчына айзсаргаў [2]). Як мая сям'я не галадуе, але калі мне прапануюць пайсьці кавалём на завод, які будзе выраб'ляць зброю супроць СССР, я ніколі не пайду. Толькі кат здольны за сантым ударыць нажом свайго брата ў сьпіну.

Адыходзячы змрокам, дзед Самусь пакінуў Лацісу дзесяць лат, узяўшы на ўспамінак зламаны мікромэтр з таўром «Фэнікс», вельмі добры для крэсіва і пашоў да начлежнага прытулку. Ля самага мосту праз Дзьвіну ён заўважыў на раздарожжы ціхіх вуліц самотнага палісмэна. Сялянская помста навальная, як Перакатрыж, помста за ўсё тое, што бачыў у Латвіі, прымусіла яго ціхутка падыйсьці да палісмэна. Потым дзед крыкнуўшы:

[1]) З латыскай мовы.—Дзьвіна.
[2]) З латыскай мовы.—Абаронцы—арганізацыя фашыстаў Латвіі.

— Вось як білі ў нас вураднікаў!
—як толькі мага, грукнуў скамянелага ад нечаканасьці палісмэна кулаком па скроні, зьбіўшы адразу на брук, і рынуўся угрунь да мосту. Толькі праз хвіліну адзаду пачуўся вэрхал, але дзед зьнік у цемры вечару, зьнік дробнай адзінкай у шэрай аднастайнай асначоўскай грамадзе.

Сонечнай раніцай першага мая нас адразу падхапіў і пацягнуў з сабой да цэнтру гораду струмень беспрацоўных грузчыкаў і матросаў ад закрытых складаў Маскоўскай вуліцы, ад узьбярэжнай, дзе стаялі на заржавелых якарох параходы і лайбы. На пляцы мы вышлі на ходнік, каб лепш ўсё бачыць, і мы бачылі як да замку, да ратушы, да ўрадавых будынкаў спавітыя чырваненьню сьцягаў, прымушаючы стагнуць торцы, ішлі фарштадты.

*Ішоў галодны Пецярбургскі фарштадт.*
*Ішоў абшарпаны Маскоўскі фарштадт.*
*Ішоў босы Мітаўскі фарштадт.*

Уперадзе калён Мітаўскага фарштадта плыў вялікі чырвоны сьцяг з надпісам:

*Лай дзівуо саркана Маскаван* [1])

Несьлі яго Яніс Лацїс і Кароль Пурынь. Побач з бацькам ішла ўсьміхаючыся, трымаючы ў руцэ чырвоны сьцяжок, Крыстына. Заўважыўшы дзеда Самуся, дзяўчынка пачала махаць яму сьцяжком, і дзед усьміхаючыся ў адказ таксама добра і прыгожа.

Раптам пачуўся самотны стрэл, і раней як уважылі сэнс яго, дэманстранты, у самую сярэдзіну іх уварласія конныя палісмэны. Рабочыя спаткалі іх залевай тарцоў, але з боку замку беглі салдаты. Адзін палісмэн замахнуўся бізуном на Лацїса, які трымаў на руках Крыстыну з сьцяжком.

— Ах ты гад! Дузіс! Вураднік!
—гукнуў дзед так гулка, як тыдзень таму гукаў у парогах і, спыніўшыся ў адзін момант побач з палісмэнам, пацягнуў яго з каня дадолу, схапіўшы за крагі. Раней, як я пасьпеў дабегчы, выбухнуў амаль адначасова з залпам кароткі стрэл. Дзед рухнуўся вобземлю, і хапаючыся рукамі за крываўленую на грудзях кашулю, толькі пасьпеў сказаць:

— Ліэлініэк... Ціхая Руба... Ціх...

У некалькіх кроках ляжаў на чырвоным сьцягу цяжка ранены Кароль Пурынь і нібы стагнаў, нібы крычаў

— О, эсі наладзета скайста Ріга! О, эсі наладзета! [2]).

Джыгануўшы да крыві, прымусіў мяне бізун, разам з усімі дэманстрантамі, пад хапатлівую гамонку Лі Энфільдаў [3]) уцякаць з пляцу. Пасьпеў я толькі закрыць дзеду вочы і ўзяць люльку, капшук і крэсіва.

Па дарозе да начлежнага прытулку заўважыў наш самотны з двумя адарванымі на апошняй гліне бярвеньнямі ганок, а ўвечары, калі пад кан-

[1]) З латыскай мовы—Хай жыве Чырвоная Масква.
[2]) З латыскай мовы—О, будзь ты праклята, прыгожая Рыга! Будзь праклята!
[3]) Вінтоўка сыстэмы Ліэнфільд—узбраеньне латвійскай пяхоты.

воем палісмэнаў адпраўлялі ўсіх асначоў да мяжы, зірнуў я з вакна вагону яшчэ раз на Рыгу, на горад, дзе прываліў, да знойдзенага нарэшце, берагу дзед Самусь Галабурда.

*23-IV-193... г.*

Праз вакно чувацъ як на вежы трэйчы гукнуў звон і прабег першы трамвай.

Усплылі з майго ўзбуранага—вясной, дзеньнікам, рэліквіямі—учора постаці родныя і крэўныя, патрабуючы помсты.

Ну і няхай вось у гэтую хвіліну дзесьці па Дзьвіне ідуць гулка ўначы, парыпваючы дрыгалкамі, ганкі. Ну і няхай вось у гэтую хвіліну дзесьці за Крэйцбургам грымяць гулка ўначы Пахвальніца і Бродзьж.

Даўно струхлеў мой асначоўскі хатыль і абшарпаліся бахілкі, а сёньня, больш катшоўны краіне сваёй як лябарант, я пайду праз тры гадзіны на завод і адпомшчу.

Прытру карбарундавай мазьзю кляпаны кампрэсару, клікну рымара перашыць стык паса, урэгулюю махавічком хуткасьць газу ў рулях і, загнаўшы ўгору крывую выпрацоўкі, перасаджу цэх на дошцы соцыялістычнага спаборніцтва з цягніка на самалёт.

# МЯДЗЬВЕДЗІЧЫ

*(Раман)*

**Крапіва**

## КНІГА ПЕРШАЯ

### ВАЎКАХВАТЫ

Па Бараўськай дарозе ідзе чалавек. Нізкі, нятоўсты, ён ідзе не сьпяшаючыся, лёгка ступаючы па пескавой дарозе. Яго чаравікі і гетры запылены і ў вячэрнім змроку толькі зусім зблізку можна адрозьніць іх ад дарожнага пяску, але цёмныя галіфэ і фрэнч на гэтым фоне вылучаюцца даволі выразна. Ад гэтага здаецца, што ў чалавека ня ногі, а вельмі кароценькія куксачкі, і ступае ён імі па паветры.

Сьпяшацца чалавеку няма куды: яму лепей прыйсьці пазьней, як раней, а ісьці засталося зусім недалёка. Паабапал дарогі зьмянялі адна адну палосы, падзеленыя вузкімі бы́льняговымі межамі, а часамі проста глыбокімі разорамі. Палосы неаднастайныя, адны цёмныя, другія сьвятлейшыя, ёсьць і зусім сьветлыя. На аднэй з такіх сьветлых палос сядзяць у рад нейкія застылыя нярухомыя постаці. «Нечы авёс яшчэ ў бабках стаіць», падумаў чалавек. Палосы былі няроўныя ўшыркі і, каб чалавеку пільна трэба было, дык ён бы, добра прыглядзіўшыся, убачыў, што палоска, на якой, стаяць бабкі, вузенькая, чацьвяртачок, што каля яе з аднаго боку шырокая паўвалочная палоса, засаджаная бульбай, з другога—такая самая вузенькая палоска аўсянага ржэўніку і далей чвартаковая палоса трохі цямнейшая,—мусіць быў ячмень, але даўно ўжо зжаты. Па ўсім гэтым чалавек мог-бы пазнаць, што на палосцы стаіць у бабках авёс Сымона Курыльчыка.

Але чалавека ня цікавіў Сымонаў авёс. Ён заняў яго ўвагу толькі на адзін кароценькі момант, толькі таму, што на раўніне палетку ў шэрані змроку вока яго якраз спынілася на гэтых бабках, якія ў першую хвіліну яму нават і ня бабкамі здаваліся, а нейкімі варожымі, насцярожанымі, маўклівымі постацямі.

Цяпер ён ішоў далей, забыўшыся ўжо пра бабкі, і хоць ня трывожна, але пільна прыслухоўваўся. Справа, непадалёку, у канцы палос высілася чорная, аднастайна-шчыльная і панурая, нібы з чыгуну вылітая, сьцяна лесу. Але ў гэты бок чалавек паглядаў ня так часта. Больш за ўсё ён глядзеў уперад і ўлева.

Адтуль, недзе з-за ўзгорку, даносіліся нейкія нявыразныя, як бы прыдушаныя, гукі. Сярод іх час-ад-часу выразна чутно было рыпеньне жураўля ды нехта аднамерна танклявым ломкім маладым голасам клікаў каня: кось-кось-кось-кось-кось... Чалавек лавіў гэтыя гукі, аж выцягваў шыю, здаецца, прынюхваўся да паветра, у якім яны разьлягаліся, як воўк, што падкрадаецца да вёскі, каб чым пажывіцца.

Вось ён узышоў на ўзгорак. Можа за кілёмэтр ад яго, трохі ўлева, над шарам гумён, якія цяпер зьліліся ў адну цёмна-шэрую доўгую палосу, на фоне сьвятлейшай палоскі вячэрняга неба рэзка вылучыліся,—гострыя клінок высокай елі і трохі ўправа ад яго закругленая і як-бы прадраная з аднаго боку шапка грушы. Чавалек зразу абмяк. Ён ужо не прыглядаўся і ня прыслухоўваўся так уважна, а йшоў спакойна, трохі спусьціўшы галазу і памахваючы дубчыкам у правай руцэ.

На гэту елку яшчэ васьмігадовым хлапчуком ён залазіў аж на самы вяршочак, кукаваў там зязюляю і кідаўся шышкамі, калі хто праходзіў каля елкі. Маці з расьперазаным хвартухом у руцэ, трасучы паскамі, грозіць яму:

«Злазь, зараз-жа, вісус ты! Вось як злаўлю, разьдзяру, як жабу».

«О-го-го-го! Зловіць яна мяне. Узьлезь папрабуй, дык і ляпнеш з елкі»,—а сам узьбіраўся яшчэ вышэй і прытойваўся сярод густых калючых і пахучых яловых лапак. Дзе-ж ёй прысадзістай ды грузнай, далезьці да яго!

Пад ігрушу-ж ён бегаў, калі яшчэ добра портак ня ўмеў насіць. Ледзь толькі вочы прадзярэ—выбяжыць на двор, стане каля ганку, задраўшы кашулю, а сонца ўжо высакавата паднялося і ласкава грэе яго ногі і жывот. А груша—вось яна, недалёчка зусім, толькі прабегчы трохі па сьцежцы да гумна, а там цераз Сталяровых авёс і вось ён пад ігрушай ужо. На аўсе яшчэ не абсохла раса, яна мочыць і халодзіць ногі, праймае праз кашулю; а ён храбра прадзіраецца цераз саламяны гушчар на мяккую мураву пад ігрушай. Там выбірае галіну, якая найніжэй спусьцілася над зямлёю, цэліцца вокам у шышак зялёных, ледзь кранутых жаўцізною, дзічак, і кідае грудкамі і каменчыкамі, аж пакуль не ўдасца яму зьбіць адну-дзьве дзічкі. Іншы-ж раз захопіць з сабою братаву вуду і тагды ўжо нашалёстае повен прыпол. А ўдзень убачыць яго Трахім Сталяровых на прагуменьні, ківае каравым тоўстым пальцам і кліча:

— Уладзік, ідзі сюды. Я табе нештачка пакажу.

— Ат, ты будзеш біцца.

— Дурны, вунь паглядзі, якое гнязьдзечка ў мяне пад страхою. І птушаняткі ціўкаюць.

І страшна і хочацца паглядзець. Але хочацца больш, як страшна, і ён памаленьку падбліжаецца да Трахіма. Вось ужо зусім асьмеліўся і ўглядаецца пад страху ў цёмны закутак, дзе павінна быць гнязьдзечка. Але тут шурпаватыя Трахімавы пальцы спрытна хапаюць яго за вуха, рыжая з сівізнаю барада набліжаецца аж да самага Уладзікавага носа і страшна шыпіць:

— А ты, шыбзьдзік, зноў патаптаў мне авёс!

— А дзядзечка, ня буду больш! Дальбог ня буду!

— Ня будзеш!? О-то-т-ож! Глядзі, а то другі раз вушы ашалёстаю.

Уладзік адскочыўся ўжо за крокаў трыццаць, трасе на старога кулаком і крычыць:

— А ты, сыбзьдзік, глядзі другі раз не хапай мяне за вухі, а то як дам па мордзе!

— Ах ты маляўка гэтакая! Я-ж табе вось пакажу!—і Трахім мацае каля паясьніцы, каб расьперазаць папружку, якой у яго няма, а Уладзікавы пяты мільгаюць ужо далёка на сьцежцы.

Другому падшыванцу Трахім і сапраўды накруціў-бы вушы, а гэта ён толькі страшыць, ня хоча з суседам сабачыцца, ды яшчэ з такім суседам, як Ануфрэй, які ўжо шэсьць год старастам ходзіць. Можа і ў воласьці слова закінуць, калі падатак ня справішся ў тэрмін выплаціць.

Чалавек усьміхнуўся сам сабе: «А што, калі-б Трахім цяпер стрэў мяне на тым самым прыгуменьні? Утрупеў-бы мусіць...» Але ўсьмешка раптам зьбегла з твару, і ён зноў стаў жорсткім і настарожаным. Воддалек пачуўся лёскат колаў і працяжны воклік: «Нн-о-о, каб цябе...»

Стукат кол усё набліжаўся і нарэшце са змроку пачала вылучацца цёмная пляма хурманкі, а з боку меншая і рухавейшая—няйначай жарабя. Чалавек прыгнуўся, прайшоў ад дарогі па бульбяніку крокаў з дваццаць і лёг паміж градак. Падняў галаву. Тое, што здавалася раней вялікай цёмнай плямай, цяпер выступіла больш выразна—конь, калёсы, а ў іх чалавек. Але тое, што можна было палічыць за жарабя, раптам забурчэла і памкнулася ў бульбянік, спынілася, нібы застыла і потым пачуўшы сярдзіты і баязьлівы брэх.

— Кусі, кусі!—зацкавалі з воза.

Сабака пасьмялеў, падблізіўся яшчэ на некалькі крокаў і яшчэ зласьней пачаў брахаць і скакаць па бульбяніку.

— Вон, каб ты здох!—шыпеў той, што ляжаў у разоры. Ён намацаў на градцы невялікі камень і папусьціў у сабаку. Сабака скавытнуў, адскочыўся ды ўжо дарэшты разьюшаны, падскочыў яшчэ бліжэй і скакаў чуць не над самай галавой у чалавека.

— Што там за трасца гэтакая! Тпру...—пачулася з воза. Хурманка супынілася.

«Парве цяпер, воўчае мяса,—падумаў той, што ляжаў у разоры.— Трэба пужнуць».

Ён памацаў рукою ў кішэні, выняў, і, ня мерачыся, стрэліў. Сабака перакаціўся цераз сьпіну, заенчыў і кінуўся к возу. Конь рвануў і ва ўсю моц паімчаў па дарозе. Хурман чуць не зьляцеў з воза, а потым прыпаў галавою ў передок і смаліў пугаўём каню па клубах, якi і так ня ведаў, на якім ён сьвеце знаходзіцца.

Чалавек устаў з разоры і ціха зарагатаў. Ён атрапаў з вопраткі пясок і падаўся далей па дарозе, якая ішла наўскасы цераз палетак да далейшага канца вёскі.

Прайшоўшы яшчэ трохі, чалавек зьвярнуў з дарогі налева на шырокую ўдзірванелую мяжу і неўзабаве дайшоў да невялікага балотца. Гэта быў калдабан сярод поля гэктараў паўтара. З поля сюды зьбягала дажджавая і сьнегавая вада, а адгэтуль ёй ня было куды дзецца. Пасярэдзіне балотца было гразкае і куп'істае. На купінах рос чарнагаловік і асака самага горшага гатунку.

Але кругам ускрай поля была мяккая густая мурава.

Чалавек аблюбаваў сабе мясьцінку, памацаў нагою, каб ня было мокра, і лёг.

Ён спачатку пільна прыслухоўваўся. Кругом было ўжо зусім цёмна і ціха. Толькі з вёскі на момант далятал ўрыўкі нечай гаворкі. Вось рэзнуў цішыню прарэзьлівы пужліва-радасны дзявочы віск і сьмех і зноў стала ціха.

Чалавек супакоіўся, дастаў папяросу і, хаваючы запалку ў прыгаршчы, прыкурыў. Ляжаў, падпёршы галаву левую рукою, і раздумліва пацягваў з рукава папяросу.

Недалёка пачуўся асьцярожны працяглы сьвіст. Чалавек сеў і настаражыўся. Нехта зноў сьвіснуў ужо трохі сьмялей. Чалавек адказаў яму такім-жа сьвістам і зноў усьпёрся на локаць.

— Уладзік, дзе ты тут?

— Гэта ты, Шкурдзя? Ідзі проста на мой голас... Глядзі, дзе блісьне агеньчык.

Ён выняў з рукава недакурак і моцна зацягнуўся.

— Во, цяпер бачу. Але-ж ні храна цябе відаць ня было.

— А нашы ўсе тут?

— Усе... гэй, вы там!—Шкурдзя сьвіснуў.—Салапякі! Сюды ідзеце,— паклікаў ён у цемнату.

Недзе заплюхала пад нагамі вада, і нехта злосна вылаяўся па мацерпаму. Другі засьмяяўся. Потым адна за аднэй падышлі да гэтых двух чатыры цёмных постаці.

— Хто-та тут стрэліў?—Запыталася адна постаць.

— Я,—адказаў Уладзік.

— У каго гэта ты? Мы ўжо думалі, што цябе чырвонапузікі ловяць, хацелі бегчы ратаваць.

— Ат, глупства... Пасьля раскажу. Цяпер давайце за работу.

— За работу, дык за работу...—азваўся Шкурдзя.—Толькі кішкі марша граюць, трэба-б было іх трохі паднапхаць.

— А хіба-ж вы ў Жагулы не пажывіліся?

— Не, ані макулінкі.

— Нешта мне ня верыцца, каб Шкурдзя ад Жагулы галодны пашоў. Не такі Шкурдзя чалавек.

— Ну, брат, ня было калі сёньня, сьпяшаліся. Каб мы там загуляліся, дык і ляжаў-бы ты тут цэлую ноч адзін, як воўк, сярод балотца. Дык мы з сабою сяго-таго трохі прыхапілі: вянгліны кусок ды пляшку першака. Не хацеў даваць, гугнявы чорт. А я яму кажу: «Нічога ня будзе, Мікіта: аддай, а то згубіш». «Ну чорт вас, кажа, бяры, свае людзі, трэба даць». «Сваякі, кажу, мы з табою блізкія. Бальшавікі як зловяць нас, дык і цябе ў аднэй яме з намі закапаюць». Ну, ён дзядзя ня вельмі пужлівы... Потым я, ведаеш, яшчэ Маньку Жагулаву лішні раз ушчыкнуў, дзе трэба, дык яна мне цішком кілбасу сухенькую... З часнычком, з перчыкам, і імберчыкам—любата! Але гэта ўжо мая. Сваім мазалём, можна сказаць, зарабіў. Ну, цябе, начальнік, я пачастую. Начальства ўсё такі. Ды яшчэ нашаму Скубэнту трэба будзе завязку даць зьесьці. Ён яшчэ малы, каб рыбы часамі не налавіў. Гэта памагае.

— Заткніся, старое гаўкала,—адказала адна постаць, маладым танклявым голасам.

— Ты, Шкурдзя, такі мусіць нюхнуў ужо?—сказаў Уладзік.

— Толькі адзін разочак. Трэба было папробаваць мацунак, ці варта цягнуць аж сюды гэту пляшку.

— Ну, падмацавацца то мы падмацуемся, але-ж трэба разьведку выслаць—сказаў Уладзік.

— Гэта твая справа. Табе, як камандзіру Рабоча-Сялянскай Чырвонай армії, тут ніхто не паправіць. Арудуй... Як бо ты цяпер лічышся ў камандыроўцы, у запасе, у адпуску?—ня супакоіўся Шкурдзя.

— У дабраахвотным адпуску—падаў голас нехта з цемнаты.

— У сабачых пабягушках, а таму... слухайце, што я скажу,—загадаў Уладзік.—Мэндрык, ты ўсё ўзяў з сабою, што я табе казаў?

— Як мае быць—адказаў чалавек з цемры.

— Перапраніся і прайдзі праз вёску. Глыні там на дарогу... Толькі ня дужа.

---

Неўзабаве вёскаю пасярод вуліцы ішоў чалавек—у лапцях, шарачковых портках і старым суконным палітоне. На плячы, на сукаватай палцы торбачка з хлебам. Ён ішоў, уважна прыслухоўваючыся і прыглядаючыся. Убачыўшы ў адных варотах ля шула чалавека, ён прыпыніўся, даў «добры вечар» і папытаўся дарогі на Пліцу.

— Ідзі, чалавеча, проста, аж пакуль пяройдзеш сенажаць. Там упрэшся ў рэчку. Гукнеш паромшчыка, дык ён цябе і перавязе,—адказаў той, што стаяў ля шула.

Чалавек пашоў далей, размашыста ступаючы па мяккай пясковай вуліцы. Але, вышаўшы за вёску, ён агледзеўся кругом, зьвярнуў з дарогі налева і цярэзпаля пашоў на Бараўськую дарогу.

Падыходзячы да балотца, ён сьвіснуў. Яму адказалі.

— Ну, як там у цябе?—спытаўся Уладзік, калі ён падышоў.

— Усё добра. Вартаўнікоў нідзе ня відаць, мусіць зусім не вартуюць. Агонь толькі ў аднэй хаце, і то, відаць праз вакно, пасьцель сьцелюць. На аднэй прызьбе нехта з марухаю сваёю яшчэ ціскаецца, але не даждалі яны сядзець цэлую ноч.

— Дзе, далёка?

— Аж у тым канцы пад бурвалак, хат з пяць не даходзячы да канца. Я забыўся, як у вас таго гаспадара завуць.

— Ты, Шкурдзя, паглядзіш там.

— Пагляджу. Ды гэта пустое. Я магу з-пад іх выцягнуць тое, на чым яны сядзяць, і яны не пачуюць.

— Ну, добра, пасьля будзеш хваліцца. Ты, Шкурдзя, будзеш за развадзяшчага,—распараджаўся Уладзік.

— Як гэта за развадзяшчага?

— А так, як у войску ў караўуле. Завядзеш хлопцаў, пакажаш, у каго як і што, як мы ўмовіліся.

— Добра, пакажу... А ты што-ж будзеш рабіць?—спытаўся Шкурдзя.

— Я ў госьці пайду. Няпрошаны, праўда, госьць, але ану-ж як-небудзь згаворымся. Мэндрык са мною пойдзе.

---

Па-за садкамі, па-за хлявамі, па-за вугольлю, гародамі драліся адзін за адным папацёмку ў чатырох, як ваўкі. Туліліся да платоў, прыпыняліся, шапталі, краліся далей.

А той, у гетрах і фрэнчы, ішоў з загумёнак па сьцежцы без асаблівай асьцярогі, час ад часу ціха загаворваў з тым, каго ён называў Мэндрыкам, і нават пробаваў нешта сьпяваць сам сабе пад нос. Нібы гэта ён хадзіў некуды па справе, запазьніўся, справа ўдалася і цяпер ён ідзе спакойны і ў добрым гумары.

Вароты ад гароду ціха рыпнулі і яны ўвайшлі ў двор. Як гаспадар, якому ўсё тут добра вядома, Уладзік накіраваўся да хлява, дзе стаяць коні. Чуваць было, як яны хрумкаюць, жуючы нешта, і ціха пафыркваюць. На варотах вісеў здаравенны, кавальскай работы, замок.

— Пробуй адмычкі—сказаў Уладзік.

— Мэндрык забразгаў вязкай дробных жалезін і пачаў пробаваць імі замок. У яго доўга не ўдавалася. Ад нецярплівасьці і страху пачалі дрыжаць рукі.

— Ёсьць,—сказаў ён нарэшце.

Клямка ціха бразнула, і дзьве цяжкія форткі варот павольна расхінуліся, паказаўшы чорную проламку хлява.

На суседнім двары (мусіць, толькі прачнуўся і) счуўшы чужых людзей, забрахаў сабака. Намерыўшыся ўжо ісьці ў хлеў, Мэндрык раз ступіў і, сумеўшыся ад сабачага брэху, спыніўся і паглядзеў на Уладзіка.

— Ідзі, ня бойся, сказаў той.—Калі прыдзе гаспадар, дык я сам з ім пагавару. На запалкі, пасьвяці. Бяры сівую кабылу. Той няхай застаецца.

Сабака ўсё брахаў заложна і аднастайна. Змаўкаў на момант, як-бы прыслухоўваўся, і зноў пачынаў брахаць. І па гэтым брэху можна было дагадацца, што нехта чужы ходзіць каля будынкаў.

На другім баку вуліцы адчынілася вакно. Папацёмку нельга было разглядзець, хто ў вакне, толькі чуваць было, як нехта цкаваў.

— Кусі, Мурза, кусі, кусі!

Сабака пасьмялеў і памкнуўся на двор.

«Андрэй пачуў,—падумаў Уладзік.—Руплівы, як і раней. Зараз будзе ісьці».

У той-жа момант бразнула клямка дзьвярэй. Белая постаць, ледзь прыкметная ў змроку, высунулася на вуліцу. Вось яна выступае ўсё выразьней, падбліжаецца, крадзецца ля шула, ля сьцяны. Стулілася за другою фортачкаю варот у двух мэтрах ад Уладзіка. Толькі чуваць было, як стараецца стрымацца, каб ня дыхаць. З-за форткі выткнулася лязо нарыхтаванай, паднятай угару, сякеры, каб палажыць на месцы таго, хто першы высунецца з варот.

А ў хляве бразнуў цуглямі Мэндрык. Чуваць быў яго асьцярожны, прыдушаны голас.

— Стой, дурная.. Дай лоб!

— Андрэй, пастаў сякеру,—сказаў Уладзік, сьціскаючы на ўсякі выпадак у руцэ рэвальвэр.

— А... хто гэта тут?!—пачуўся трывожны і недаверлівы голас брата.

— Ужо і голасу майго не пазнаеш?

— Гэта ты, Уладзік?

— Як чуеш.

Андрэй вышаў з-за форткі ўвесь белы ў аднэй кашулі і споднiках.

— Дык што гэта ты надумаўся рабіць?

— Думаю ў цябе кабылу ўкрасьці.

— Вар'яцееш ты ўжо мусіць. Хіба табе без мае кабылы не хапае. Коняй повен сьвет.

— Не хачу, каб ты адзін раскашаўся на тым, што бацька ды мы ўсе нажылі. Злосьць мяне бярэ, калі я падумаю пра гэта. Пакінуў чорту лысаму—бальшавікі ўсёроўна спажывуць. Ты думаеш, гэта так усё й будзе? Дабяруцца яны яшчэ да цябе. А можа і ты ўжо ў камуністы падаўся? Дык забірай мяне, вядзі.

— Няхай іх жывот возьме разам з табою. Праз цябе яны і мяне зацягалі па допытах. Дзесяць раз ператрэсьлі, спакою не даюць.

— А кабылу я ўсё-такі вазьму. Няхай гэта будзе з тае часткі, якая мне з гаспадаркі належыць. Не пайду-ж я судзіцца ў ваш бальшавіцкі суд, каб частку сваю адсудзіць,—сам вазьму.

— Ня дам кабылы!—ускіпеў Андрэй, сашчапіўшы зубы, і замахнуўся сякерай.

Нявысокі, прысадзісты, але карчакаваты і моцны, як бярозавы камель, ён гатоў быў цяпер раскроіць таго да пояса. Але той адскочыўся ўжо крокаў на два і наставіў рэвольвэр:

— Аддасі, а дзе ты дзенешся? Палажы сякеру. Мэндрык, выводзь кабылу, садзіся і сып, куды я табе казаў. Я там хутка буду.

Мэндрык, які, прытаіўшыся ў хляве, слухаў спрэчку братоў, вывеў кабылу, забягаючы, каб ня ісьці з таго боку, дзе стаяў Андрэй. Адвёўшы за вароты на гарод, ён ускочыў верхам і рвануў з месца галопам на прагумень.

— Дурны ты,—сказаў спакойна Уладзік брату, які ўсё яшчэ стаяў насуплены, збычыўшы галаву і скоса пaглядаючы.—І табе лепш будзе. Ня так вязацца будуць. Цяпер дзе што якое здарыцца, дык усё на мяне. А тагды хто-ж гэта падумае, што я ў цябе кабылу ўкраў. Значыць—нейкая другая банда ёсьць, і на нас з табою трохі забудуцца.

— А рабіць на чым-жа я буду?

— Ну, Гнеды яшчэ дужы, хоць і стары.

— Дык хоць-бы ты мне грошай даў на другога каня. У цябе іх, напэўна, хапае. Не з мазаля жывеш.

— Я грошы ня зьбіраю і не кладу ў паклад. Што ўварву—прагуляю. Вось перабяруся з коньмі за мяжу, дык і грошы будуць. Паны коньніцу фармуюць, добра плацяць. А мо якога дзядзьку памацаю на дарозе ў кірмашовы дзень. Калі што якое—перашлю сваім чалавекам. На рынку знойдзе цябе. Ну, дай руку. Ня будзем гнявацца адзін на другога—мы ўсё-ж такі браты. Жонцы і Наталі нічога не кажы, ня трэба лішняй гаворкі.

Андрэй моўчкі і як-бы нехаця падаў руку.

Калі Ўладзік зьнік у гародзе за варотамі, Андрэй увайшоў у хлеў і прыпёрся плячыма да загарады каля Гнядога. Гняды жаваў усё канюшынную атаву, але часам хруманьне сьціхала. Заціснуўшы ў зубах атаву, ён трошкі паварочваў галаву і касіў адным вокам на вароты. Нарэшце падняў галаву і заржаў. Андрэй моўчкі паляпаў яго рукою па шыі. Конь супакоіўся, нагнуўся над жалобам і зноў стаў папоўніцы есьці атаву.

Андрэй хацеў абдумаць тое, што толькі што здарылася, але быў занадта ўсхваляваны, рукі і ногі яго яшчэ дрыжалі і шчокі гарэлі. Адно, што выразна ён цяпер адчуваў—гэта шкода было кабылы і таму страшэнная злосьць на нейкага. Ня то на Ўладзіка, які ўжо каторы год швэндаецца цераз граніцу сюды і туды, пра якога па ўсёй воласьці ходзяць нядобрыя чуткі; ня то на ўладу, на бальшавікоў, якая, па яго думцы, «чаплялася» да яго дарэмна, дыхнуць спакойна не давала—усё праз Уладзіка. А хіба Ўладзік гэтак рабіў-бы, каб яны за ім не ганяліся, каб яму можна было прыйсьці дадому і спакойна жыць? Але з глыбіні сьвядомасьці праз крыўду і яшчэ не астылую злосьць прабівалася нешта прыемнае, нейкая палёгка, пакуль што яшчэ ня зусім ясная. Праз хвіліну гэта сфармавалася ў выразную думку: «Цяпер мяне, можа, чапаць ня будуць, а каня другога як небудзь набуду, з гаспадаркі яшчэ можна выціснуць». Пасьля ўздумаў пра нібы абяцаньня Ўладзікам грошы, і злосьць яго растала зусім, шчымела толькі адно—усё-ж шкода было кабылы. «Трэба ісьці легчы, можа лепш разьбяруся»—падумаў ён, мацнуў рукою ў жолабе Гнедага, узяў з кабылінага жолабу атаву, што яна не пасьпела зьесьці, палажыў яе Гнедаму, пляснуў яго рукою па крыжы і вышаў з хлява. Вароты ён прычыніў, але на клямку не зашчэпліваў. Замок, на які наступіў нагою, падняў, пакруціў у руках, і зноў кінуў ля варот: «Няхай будзе, як было»—і пашоў у хату.

## ХТО ПАКРАЎ КОНІ?

Сонца яшчэ не паказалася з-за высокага бору ў канцы вёскі, і ён, спакойна-задумёны і гастраверхі, быў, як намалёваны на чырвані неба. Стрэхі зацягнены шэраньню верасьнёвага прымаразку, нібы павуціньнем засланы. Зямля вільготная зьверху і на ёй месцам таксама прыкметны налёт замаразку, які пячэ босыя ногі, і яны робяцца чырвоныя, як гусіныя лапы. Але яна (Ганна Кухаравых) не адчувае гэтага холаду. Праставалосая, раструханая, у аднэй кашулі і саматканай спадніцы яна бяжыць, задыхаючыся, пасярод вуліцы, на якой яшчэ няма людзей. Пасмы яе цёмнарусых валасоў прыліпаюць да яе мокрага ад сьлёз твару. Яна падтрымлівае рукою цяжкія, налітыя малаком грудзі, якія перашкаджаюць ёй бегчы і вылузваюцца з расхлістанай пазухі. Яна раз-два ступіць, каб перадыхнуць і потым зноў трушком, хліпаючы і задыхаючыся.

Дабегла, бразнула моцна клямкаю—не адчыняецца. Падбегла да акна і загрукатала кулаком у раму:

— Язэпка, братачка, адчыні,—бяда!

Шоргнула ў сенцах жалезная засаўка, і ў прачыненых дзьвярах паказаўся член сельсавету, высокі, хударлявы, і чарнамазы, у выпушчанай на споднікі кужэльнай кашулі.

— Што ў цябе такое?—устрывожана пытаецца ён.

— Каня... укралі. Язэпка, роднзенькі, саколік, ратуй-жа ты нас! Можа-б ты ў міліцыю... ці людзям-бы сказаў, каб памаглі шукаць,—гаварыла яна праспалач, уваходзячы за Язэпам у хату.

— Можа ты яшчэ дарэмна бядуеш, можа сам конь выперся з хлява,—сказаў ён, каб хоць чым небудзь падвесяліць жанчыну, хоць і сам ужо ня вераў, у тое, што казаў.

— Дзе-ж ты, братачка, бачыў, як-жа ён мог выперціся, калі замкнёны быў. А то і прабой-жа вырваны і вобруці няма, а яна-ж вісела на калку над ясьлямі... Ой, божачка, ды ўжо-ж мы рады былі, што ён гэтакі сабе вясёлы ды дужы, бо ведама-ж гэтак нагараваліся, пакуль нажылі; цэлыя-ж два гады аб посным... Кароўку збылі, з цялушкай засталіся. Хлеба і таго ў волю ня елі, бульбай жывіліся... А цяпер... Згубілі, зусім згубілі!..—І яна зноў захліпала.

— Прыпрыгся-ж ты, вось хоць тут на зэдліку,—сказала Язэпіха, засьцілаючы пасьцель.—Усёроўна ўжо...

Што ўсёроўна, яна не магла выказаць, сказала таму, што ў такіх выпадках трэба было неяк паспачуваць чалавеку ў бядзе, сказаць яму ласкавае слова, нек яго ўцешыць.

Ганскі адчуваў, што, як член сельсавету, павінен тут нешта зрабіць, што ў вёсцы нейкі вялікі непарадак, але што яму трэба рабіць, гэтага ён якраз і ня ведаў. Трэба было мець вінаватага, каб пайсьці да яго ды сказаць: «Ты нядобра робіш,—гэта не па закону. Вось гэтак трэба рабіць». Але вінаватага—зладзі яго папрабуй. Заняты гэтымі сваімі няпэўнымі думкамі і адчуваньнямі, ён таксама ўсьлед за жонкаю сказаў:

— Але, Ганна, прысядзь трохі. Я вось толькі абуюся...

— Не, родненькія, дзяцей жа адных пакінула, пабягу.

— А Пятрусь-жа дома?

— Дзе-ж вы бачылі!.. Пабег шукаць... З Тамашом Кірыкам удвух. Дык каб-жа ведаў хоць у які бок бегчы...

— Але. Злодзею, як кажаш, адна дарога, а хто шукае, таму многа,— згадзілася Ганская.

— Дык я-ж, Язэпка, пайду ўжо. Ты, братачка, назнач яшчэ людзей, каб памаглі шукаць, ды можа ў міліцыю хто-б зьезьдзіў,—прасіла яна, трымаючыся ўжо за клямку.

---

Каля Верамейчыка на вуліцы сабралася чарада мужчын. Гаварылі пра адно: пра тое, што здарылася ў мінулую ноч. Кожнаму хацелася сказаць, што ён ведаў, і самому пачуць нешта яшчэ новае, нячутае, а можа і чутае, але расказанае нанова, з новымі падрабязнасьцямі і меркаваньнямі. Разам з гэтым успаміналіся розныя іншыя падобныя здарэньні, што былі калі небудзь і дзе небудзь і пра якія ведаў хто небудзь з тых, што тут стаялі.

— Але, скажы ты, нек-жа яны ўзялі, што і ня чуў ніхто! І замкі—ці гэта яны паадмыкалі, ці паламалі?

— Вунь, кажа, у Баранка зусім хлеў адамкнёны быў.

— Вось чалавек! Трэба-ж яму такога каня меўшы...

— Замыкаў, кажа, усё лета. Ато замок сапсаваўся, дык занёс да каваля. А таму ўсё часу ня было ўзяцца за яго. Дык ён і не замыкаў хлява. «Ат, думае, ці якраз ужо ў гэту ноч злодзей і палезе». Адно-ж вось табе...

Тодар Кірык гаварыў пра тое, што ён ведаў, ахвотна. Ён ганарыўся тым, што ведае больш за іншых і ўсе яго з такою цікавасьцю слухаюць. А ведаў ён заўсёды шмат. Невялікі, хударлявы, танканогі, толькі з досыць вялікімі і густымі сьветла-русымі вусамі, ён усім цікавіўся, заўсёды чым небудзь захапляўся ці абураўся і ўсё гэта так сабе, без якой небудзь для

сябе карысьці. Устаўшы зранку і дагледзеўшы (калі гэта было зімою) жывёлу, якой у яго было ня многа,—конь, карова ды адна нягеглая сьвіньня,—ён абягаў некалькі хат, не затрымліваючыся ні ў воднай доўга, падхопліваў у кожнай якую-небудзь навіну, пераносіў яе ў другую і праз якую гадзіну ці дзьве меў сабе запасу навін на цэлы дзень, каб расказваць іх кожнаму, з кім ён сустракаўся ў той дзень. Часта здаралася так, што ён забываўся, ад каго пачуў тую ці іншую навіну, і сустрэўшы, расказваў яе таму, ад каго пачуў раней сам, і расказваў так, нібы ўсё гэта ён бачыў на свае вочы і чуў на свае вушы. За гэтакія свае здольнасьці зьбіраць і разносіць навіны яго ў вёсцы празвалі Поштай. Сягодня жыла, трапяталася і гарэла ўся яго шчуплая істота,—гэтакіх навін яму даўно не здаралася разносіць па сяле, і ён ахвотна гаварыў далей:

— У Соміка дык адамкнулі, ключ падабралі, а ў Пятруся Кухара прабой вырвалі. І шуло-ж новае, летась толькі паставіў, прабой гэтакі здаровы і нек-жа вылупілі...

— Даўно-ж ужо ня было гэтага ў Мядзьведзічах. Аж з таго часу, як у Марціна Крываношкі пару коняй вывялі, ды на пасэсара злажылі. Нашарохалі тады добра пасэсара, пацягалі на допытах, але ніхто дакладна даказаць ня мог—апраўдалі. Ды няначай гэта ён, бо з таго часу ціха стала. А цяпер вось зноў... Каб сказаў—хто з сваіх, дык няма на каго й падумаць.

— Хіба мала ўсялякай брыды цягаецца яшчэ па лесе апрача сваіх,— заўважыў мнагазначна Кастусь Верамейчык, чалавек прыцісклівы, скрытны і на слова асьцярожны, які, гаворачы, заўсёды думае, каб не ўгаварыцца і, калі што якое, каб можна было назад адгаварыцца.

— Ну, каб гэта я злавіў у сваім хляве, жывога ня пусьціў бы. Ужо мне што-б было пасьля, а яму зрабіў бы канцы.

Усе на момант змоўклі. Кожны падумаў сам сабе, што ў гэтага—ня купіць. Не дарэмна ў вёсцы празвалі яго Грамабоем, хоць сапраўднае прозьвішча яго было Зязюля. Росту вышэй сярэднягa, шырачэзны ў плячах, сінявокі і шырокатвары, ён быў на вёсцы першы свавольнік і задзірака, нікому з дарогі не саступаў, і калі што чужое займаў, дык людзі скарэй згодны былі яму перапусьціць, я кзаймацца з гэтакім. Яшчэ й дагэтуль усе ў вёсцы памяталі, як ён адбіў печані Сідараваму хлопцу, калі той незнарок упусьціў карову ў Грамабоеву віку. Хлопец нешта з год пачэўраў дый даўся.

— Ня вельмі ты яго зловіш. Ён ідзе, то ўжо цікуе, як ты дзе паварочваешся—абазваўся нарэшце адзін з мужчын.—Ды зноў-жа, ня вельмі ён да сябе і падпусьціць: ідзе на такую справу, то не бяз прыпасу. Стукне з-за вугла чым па галаве, альбо нажом парне ў жывот, і сышчы тагды ў небе.

— Гэта каб сабаку добрага меў, вось людзката!

— Г.... твой сабака. І сабаку твайго прылашчыць, і каня ўкрадуць, і сам ты чуць ня будзеш.

— Ну, брат, добрага сабаку ня вельмі прылашчыш—умяшаўся тут Сьцяпан Варанец, якога за вочы, альбо ў лаянцы звалі проста Варона.— Вунь у Ваўчэцкага на хутары быў сабака, дык ты такога прылашч пайдзі. Ён цябе так прылашчыць, што ты і за месяц ня выкачаешся. Гэта я летась быў у яго на рабоце, адрыну крыў, дык ён навязаны, а ці паверыш,

страшна па дварэ прайсьці. Калдунаваты ды вялізны, як стане дубка, дык роўны з чалавекам—а няхай ты здохні! Калі рванецца, дык здэцца і ланцуг той паляціць к чорту. Я—цюцечка, цюцечка, і сала прабаваў кідаць—не бярэ, воўчае мяса. А то раз, казалі, з ланцуга сарваўся ды за вароты выбраўся. А там на дарозе чалавек сена вёз, сам на возе сядзеў. Дык ён, каб ён здох, як бег, дык чуць не на самы воз ускочыў, лапамі за рубель ухапіўся. Добра, што ў таго якраз граблі на возе былі, то ён стаўпцом яму па лбе стукнуў, дык той адкінуўся, а то парваў бы, з воза-б сьцягнуў.

— У Жагулы таксама добрыя сабакі. Вось няхай толькі сучка Жагулава ашчэніцца, няпрыменна шчанюка ў яго вазьму—рашыў раптам Тодар Пошта.

— Так табе Жагула й даў шчанюка. Ня той Жагула, каб ён абы каму раскідаўся сваім дабром. Той вунь, як кажуць, з г..на плеўку рад садраць, а то ён табе шчанюка дасьць.

— Да-асьць. Папрашу хораша. Адраблю два, тры дні, колькі скажа, а шчанюка дастану. Жыў ня буду, калі не дастану. Выгадую, вось будзе сабака!

— Нашто-ж ён табе?

— Чаму нашто. Свой вартаўнік будзе. Каня нечага ніхто ня ўкрадзе.

Мужчыны дружна зарагаталі. Сьмешна было, што Пошта баіцца, каб у яго каня ня ўкралі. Ніводзін злодзей не паквапіў-бы на Тодаравага каня, дый не асьмеліўся-б яго красьці. Конь у Пошты стары, маленькі, трыбухаты. Бегчы іначай ня ўмее, як толькі трушком; перабірае нагамі, усёроўна, як проса таўчэ. На поштавым кані злодзея дагнаў бы пяшком ня толькі сам Пошта, а любы чалавек і не з такімі лёгкімі нагамі.

Пошта скеміў, што ён тут трохі ўгаварыўся і стараўся папраўіцца:

— Ды добра вось і курэй з ячменю паганяе, сьвіньні ў гарод улезуць—таксама. А то сёлета твая, Ціхон, сьвіньня паўтанок бульбы ў мяне выкапала, і рады ёй ня даць. Ты хоць-бы ў хляве яе трохі патрымаў.

— Ну, дзеля мае сьвіньні ня варта адрабляць за сабаку. Я яе зараз у катух засаджу, карміць буду,—азваўся Грамабой.—Я табе лепш параю, што табе з сабакам рабіць: ты яго каля Тэклінага ложка навяжы, каб да яе хлопцы не хадзілі. Сам тагды будзеш спаць насьмелую.

Мужчыны зноў зарагаталі яшчэ дружней і мацней. Па сяле хадзілі чуткі, што да Тодаравай жонкі, кірпатай і рабой, але здаровай маладзіцы, сапраўды хадзілі хлопцы. Казалі нават, што сам Тодар пра гэта ведаў, але цярпеў і зносіў, бо калі ён раз упікнуў гэтым жонку, дык яна, нібыта, проста яму адрэзала: «Калі ты, сапляк, ня можаш даставіць сваёй жонцы, чаго яе душа хоча, дык я сама пра гэта падбаю. А калі табе гэта ня ў нос, дык чорт цябе бяры, я і без цябе пражыву». І Тодар, казалі, цярпеў, бо баяўся страціць жонку, якую ён, ня гледзячы на ўсё, моцна любіў усім сваім шчуплым сэрцам. Ён і цяпер зачырванеўшы, зьбянтэжыўся, нешта нявыразнае буркнуў сабе ў вусы, скоса варожа глянуўшы на Грамабоя, і змоўчаў.

Памаўчаўшы троха, пакуль мужчыны нешта гаварылі, ён неспадзеўкі выкрыкнуў:

— А я ведаю, хто коні пакраў.

Усе аглянуліся на яго, хто з зацікаўленасьцю, хто недаверліва, а Грамабой зьняважліва адтапырыў ніжнюю губу.

— Г.... ты ведаеш.

— А дальбог ведаю.

— Бо можа й ты памагаў?—кінуў, жартуючы, Кастусь Верамейчык, які падумаў, што Пошта напэўна трэплецца, і таму лепш да гэтага сур'ёзна ня ставіцца.

— Хто ў Польшчу ўцёк, той і коні пакраў,—упэўнена заявіў Пошта, узрадаваўшыся, што ўсе зноў цікавяцца ім і тым, што ён гаворыць.

— Адкуль жа ты ведаеш?

— А калі ён заальхоўскага чалавека стрэў на дарозе ды каня й грошы адабраў, калі пошту з грашыма пераняў, дык і гэта яго рук ня мінула.

— Так яшчэ, пане ты мой, нельга гаварыць. Мала што... Не злавіў—ня злодзей, як тыя людзі кажуць. Чалавек можа богу душою вінаваты, а на яго бывае, зваляць,— умяшаўся ў гаворку Сьцяпан Варанец. Сказаў так не таму, што ня верыў Тодару, наадварот, сам сабе ён думаў, што яно скарэй за ўсё так і будзе, як Пошта кажа. А супярэчыў ён, так сказаць, прынцыпова: ня можна, бачыце, абвінавачваць чалавека, калі добра ня ведаеш. Дарэчы і прыклад у яго добры быў, пра які ён тут жа і пачаў расказваць:

— Памятаеце, як ужо мусіць гадоў з пятнаццаць таму назад у мястэчку ў татарына Сюлі аўчыны з вырабу пакралі? Усе казалі, што гэта ён сам украў аўчыны, якія яму людзі ў выраб аддалі. А потым, як дазналіся, дык вунь яно што...

Але тут ён павінен быў перапыніцца, каб адказаць на «дзень добры» Андрэя Каржакевіча. Той прывітаўшыся, хвіліну маўчаў, моцна зацягваючыся папяросай, якую трымаў у пальцах. Уся яго нявысокая прысадзістая постаць, здавалася, яшчэ больш урасла ў зямлю. Сам ён здаваўся невясёлым і моцна заклапочаным. Яго невялікія, нейкія рудыя, глыбока пасаджаныя вочкі трывожна бегалі.

— Ці ня ведаеце (вы тут блізка жывяце), член сельсавету дома, ці мо пашоў куды?—спытаўся ў мужчын.

— Ды ня відаць было йдучы, мусіць дома яшчэ,—адказаў Верамейчык.

— А вам на што гэта ён? Ці ня здарылася што?—не сьцярпеўшы, запытаўся Сьцяпан Варанец. Даваенны аўтарытэт Каржакевіча, як самага багатага ў вёсцы гаспадара і амаль самага пісьменнага чалавека, які да таго-ж знаўся некалі з валасным панствам, яшчэ й дагэтуль не пахіснуўся ў некаторых мядзьведзіцкіх; шмат хто з іх казаў яму «вы».

— Ды дайце рады—кабылу ўкралі,—яшчэ больш спахмурнеўшы, адказаў Каржакевіч.

Зьдзіўленыя мужчыны моўчкі глянулі адзін на аднаго.

— Вунь Ганскі і сам сюды йдзе—заўважыў Верамейчык.

— Мужчынкі, ці вы чулі, што гэта робіцца?!—гукнуў ён яшчэ здалёк.

— Мы ўжо даўно чулі, гэта ты, як начальства, дык позна сьпіш, цяпер толькі пачуў,—пакпіў Грамабой.

— Дык што гэта вы сабе думаеце, гэта-ж трэба нек ратаваць людзей. Можа-б пашлі вы шукаць, памаглі, каму час ёсьць.

Мужчыны прымоўклі, чакаючы адзін на аднаго,—можа хто й падахвоціцца.

— Ды, сказаць, дзе той час,—азваўся нарэшце Варанец.—У мяне дык жыта яшчэ не пасеена. Там на Доўгіх ганок са двое пад бульбай было, дык учора толькі выбралі...

— Язэп, шукаць жа пашлі ўжо!—крыкнуў тут Пошта.—У каго коні пакралі, самі пашлі, ды яшчэ ў каго сваякі, суседзі. Чалавек мусіць з дзесяць пашло ва ўсе бакі. Мусіць жа і ў Андрэя нехта пашоў?—дапытліва глянуў ён на Каржакевіча.

— Чаму, і ў цябе ўкралі коні?—зьдзіўлена запытаўся Ганскі.

— Але, брат, кабылу ўкралі. Я папрасіў шварга, той пашоў. Сам я думаю ў мястэчка зьезьдзіць, у міліцыю заявіць. Там у мяне нават і начальнік міліцыі знаёмы, дык мо скарэй што зробіць. Гэта я ішоў да цябе сказаць, каб ты ведаў. Можа і сам паедзеш?

Андрэй не спадзяваўся на тое, што коні знойдуць—ня ў тыя рукі папалі. Але ўрэшце чорт яму й верыў, гатовы дзе небудзь натрапіць. Для яго гэта было-б вельмі нядобра. Таму ён і не пашоў шукаць разам з людзьмі, але каб ня выклікаць падазрэньня, надумаўся ехаць у міліцыю, зусім ня думаючы сьпяшацца вельмі, каб заявіць аб пакражы.

— Вось добра!—зарадаваўся Ганскі.—А я думаў ужо каго небудзь з мужчын прасіць. Дык я з табою пад'еду ў сельсавет.

— Добра. Я пайду запрагаць.

— Ага, ідзі, а я пайду тым часам перакушу чаго трохі.

Андрэй Каржакевіч жыў на другім канцы вёскі і ў гэтым канцы яшчэ ня ведалі, што ў яго кабылу ўкралі, аж пакуль ён сам ня прышоў.

Калі Каржакевіч і Ганскі адышліся ад мужчын, дык кожны з мужчын ведаў пра што далей будзе гаворка, але чакалі, хто першы пачне. Пачаў Грамабой. Павярнуўшы трохі галаву да Пошты, ён іронічна запытаўся:

— Ну, што, пустабрэх? Хто коні пакраў?

— Чорт яго... а што я ведаю. Людзі казалі, дык і я кажу,—апраўдваўся той.

— Які табе сабака казаў?

— Казалі, усе кажуць.

— Такія, як і ты—зьняважліва кінуў Грамабой.

— Во, я-ж казаў, што ня можна так бяз дай прычыны на чалавека віну ўскладаць—зарадаваўся Сьцяпан Варанец, што на яго вышла.

— Але, вось і скажы тут на каго—загаварыў спакойна Верамейчык.—А кабыла Андрэя—важная кабыла! Ня скора такую цяпер набудзеш. Чалавеку цяпер проста хоць ты разарвіся з жалю.

— Ну, па ім то плакаць вельмі няма чаго. Гэты набудзе. Сам з чортавых зубоў можа вырваць, добрая цаца,—сказаў Варанец Рыгор, які дагэтуль у гаворку ня ўмешваўся. Гэта быў стрэчны брат Сьцяпана Вароны і з твару трохі быў падобны да яго—такі-ж самы кірпаты, з шырокімі ноздрамі, нос, шыракаваты рот, з тонкімі сьціснутымі губамі і падбародак шырокі падаўся трохі наперад. Ня гледзячы на тое, што быў маладзейшы за Сьцяпана, выглядаў ён сталей. Калі той быў занадта гаваркі, дык гэты—хутчэй маўклівы, гаварыў толькі тагды, калі канечне трэба было і не падумаўшы не гаварыў ніколі.

Верамейчык ужо каяўся, што паспачуваў Андрэю Каржакевічу. Рыгор мусіць ужо так і думае, што Верамейчык цягне за багатага. Не пашкадаваў вось Кухара, а Каржакевіча пашкадаваў. І заўсёды гэты Рыгор—стаіць, маўчыць, чорт яго ведае, што ён думае. Толькі хочаш з людзьмі слова сказаць, забудзешся, што ён і ёсьць тут, а ён і сякане табе. З чалавекам бяда здарылася, пашкадаваў чалавека, дык і гэта нядобра,—чаму яго, а ня другога. А для Верамейчыка ўсе яны роўныя, ні з кім ён не сварыўся, ніхто ў яго нічога не заняў. Але-ж нешта Рыгору трэба адказаць і чорт яго ведае што: адкажаш ды зноў не патрапіш.

— Дык я й ня плачу. Што мне ён—сват ці брат? Я толькі пра кабылу. Кабыла вельмі-ж важная. Скажам, Кухараў конь таксама ня кепскі, але-ж гэтакіх коняй шмат ёсьць у людзей,—апраўдваўся ён.

— Шмат, ды дарэмна людзі не даюць. А мазалём каня таксама за месяц не набудзеш. Заўтра жыта сеяць, дык Андрэй паедзе на тым, што астаўся, дый пасее потым, а ня ўправіцца на адным, дык, я зноў кажу, другога дастане, хоць не такога, як кабыла. А Пятрусю няма за што і рук зачапіць. Прыдзе да цябе, дый скажа: «Дай, Кастусь, каня жыта забаранаваць, ці бульбу разагнаць».

— Да мяне... У мяне самога яшчэ работы шмат. Вунь іржэўнік увесь няворатны...

— Ну, вось бачыш. А яму-ж што рабіць?..

— Адкуль жа я ведаю, няхай у камітэт ідзе... Ды адстань ты ад мяне, чалавек. Вось прывязаўся. Быццам я гэта вінават, што ў Пятруся каня ўкралі.

— А ты, Рыгор, купіў бы Пятрусю каня, калі ў цябе так па ім сэрца баліць,—умяшаўся Грамабой.

— У цябе не забаліць. Ты сам бы ў другога зубамі сэрца вырваў,—агрызнуўся Рыгор.

— На чорта мне тваё сэрца. У мяне ёсьць што кусаць без твайго сэрца. Гэта вы рэзцё з усіх бакоў, сквапны на чужое дабро.

— Шмат у цябе нарвалі... Хіба яшчэ рвануць можа.

— Хваробы, не дачакацца табе!

— Ды кіньце вы, мужчыны! А няхай вас цяміць. За чужыя коні сварку ўзьнялі,—пачаў мірыць іх Сьцяпан Варанец.

Гутарка далей ужо ня клеілася. Пошту жонка паклікала, каб ішоў вады прынёс, а за ім і другія, хто па якой прычыне, разышліся па хатах.

*(Працяг будзе).*

## АМАНАЛ

*(Аповесьць)*

**Арк. Куляшоў**

### ХРОНІКА ПРОДКАЎ

#### РАЗЬДЗЕЛ I

Месяцу
        колкі вецер
                аблізаў шчокі
І ён вісеў
        над ліхтарамі
                электрычнай эпохі
падбітым вокам,
        Мёртвым бяльмом сьляпога.

І было месяцу
        вісець сьцюдзёна
Аднаму ў небе,
        як у карыце:
Край не паўдзённы—
        сьнягі—ноч, край люты
І ні балачыны, каб закрыцца,
І,
        ані вакна капітанавай каюты,
Рашчыненага ў зоравыя тропікі,
Куды ён ня раз
        падымаўся па трапу...
Тут такая на пачатак
        ноч трапіла—
Аж поэты, недапісаўшы радка,
                                ставяць кропкі...
Лютаўскія ледзянеюць тропы.

...Гэта першы месяц на новы год,
Ляжыць край даждамі ня крануты...
Гандляр падлічвае выгоды,
Заўтра ён адчыняе краму.

Вецер праймае
        праз адзеньне,
                праз косьці—
Ім хада здаецца цэлым векам,

Хто іх ведае
        можа па справах,
                можа ў госьці
Ідуць да гандляра два чалавекі.

Яны сьпяшаюцца—
        часу ня трацяць,
Вось яны праходзяць крыжаваньне вуліц.
І такія словы эд іх чулі:
— Кажуць, што яго трасе трасца
І тады яму трызьняцца калекі.
-— Усе мы грэшныя чалавекі...
У яго ёсьць маёнтак
                (вядома на паперы)
Было: тысяча душ сялян
                (ні многа, ні мала),
Потым,
        калі ён быў генэралам
Я быў у яго афіцэрам.
Пасьля, знаеш... Рэволюцыя, окупацыя...
— Кажуць, яго трасе трасца
І тады яму трызьняцца калекі.
— Усе мы грэшныя чалавекі...
. . . . . . . . . . . . . .

Яны прышлі.
        Гандляр, што падлічваў выгоды,
Адчыняе дзьверы...
        Далятаюць словы з ветрам ёмкім:
— З новым годам!
— А, старыя знаёмыя!

Ляжыць абшарнікаў пакаленьне
Там,
        дзе пад нагамі дарог зямля...
Але жыве той,
        хто ня стаў
                ад роспачы
                        на калені—
Ён прышоў
        абшарнікам,
                а завецца—
                        Гандляр.

Можа дзіўным такое здасца,
Але-ж:
        ветравая ноч на вуліцы;
І тое, як трасе яго трасца,
        Самы чулі вы.

*

Па барох бадзяжылі банды—
Тады на палі суцэльных руін
Толькі з чырвоным бантам
Вышаў Саюз краін.

Прамоўцы прымалі парады—
Ня так, як рымскія імпэратары,
Выліты я з труб і ўрачыстай бронзы...
Пасьля рос гул розны:

Пачыналіся другія сьпевы...
І ўжо мірна
раніцою
сьпявалі пеўні...

Але мінаючы вёрсты,
Цягнікі пачыналі жыць,
Дзе прасека рэяк ляжыць
Праз сьляпыя абшары воспы.

Дзе глухія маўчалі брамы,
Галодныя праклінылі глебу—
Адчынялі гандляры крамы,
Прадавалі: вуды, сукенкі, хлеб...

*

Іх сягоньня
мароз да сьцен
ня туліць,
Яны кожнаму па дарозе крычаць:
— Таварышчы, на гэтай вуліцы
Адчыняецца магазын Гандляра,
тавараў край непачаты...
Яны бацькаўшчыну
з краю ў край
вымералі,
Кожны—
кайстру сьлёз
сьледам валочыць,
Гэта дзеці бацькоў,
што вымерлі
На зямлі галоднага Паваложжа.

Вось яны сыйшліся разам,
Крычаць разам, каб было чуць далёка;
— Можаце купіць газы!
...Маленькія,
галодныя лёкаі.
Што ім глядзець
на мароз,
на той,
Глядзець на ранак бледы—
Вось яны вядуць натоўп
(і можа сьлёзы матак сьледам).

Адзін, наўмысьле, голасам грубым
Усяму натоўпу тлумачыць:
— Пагрэйце рукі!
там ёсьць груба...
..Не сагрэтыя сыны матчыны.

Жыў чалавек у горадзе,
Ён хадзіў ад хаты да хаты,
Жартавалі з яго ня раз дзеці,
Людзі звалі дасьціпным вар'ятам.

Ён першы прышоў на ганак,
Яго ніхто ня зваў сюды.
Ад марозу, ён грукае нагамі,
маўчыць яго твар худы...

А дзецi...
Яны сыйшлiся разам,
Крычаць разам,
каб было чуць далёка:
— Можаце купiць газы!
...Маленькiя, галодныя лёкаi...

Яны не глядзяць на мароз, на той,
Не глядзяць на бледы ранак—
Вось яны прывялi натоўп
На самы Гандляроў ганак.

Тады вар'ят тлумачыць адзiн,
У яго сiнi твар i голас дужы:
— Чычыкаў адчыняе магазын,
Будзе прадаваць гогалеўскiя душы!..

Але людзi iдуць грэць рукi,
Людзi iдуць купiць газы...
Дзецi мёрзлымi нагамi грукалi,
Калi сыйшлiся на ганку разам.

Крычаў Гандляр:
— Пух для пярын,
Ёсць рознага пер'я для падушак!
— Чычыкаў адчыняе магазын,
Будзе прадаваць гогалеўскiя душы!

Тыя-ж дзецi на ганку калелi.
Прыходзiлi грэцца валацугi.
І прышлi прасiць капейкi калекi

Крычаў Гандляр:
— Паспрабуйце заморскiх вiн,
І будуць вашыя шчокi, як ружы
— Чычыкаў адчыняе магазын,
Будзе прадаваць гогалеўскiя душы!

Дзецi на ганку калелi.
Прасiлi капейкi калекi.
Людзi абыходзiлi вар'ята назойнага.
І вар'ят глядзеў на золак.

Крычаў Гандляр:
—Лепшы гатунак кагору!
Вырашылi валацугi грэцца да начы...

Тады прышоў новы валацуга ў горад.
Але ён ня прышоў, каб адпачыць.

Калi ён праходзiць мiма крамы,
Дзе калекi моляць аб ратунку з нягод,
Вар'ят махае рукамi,
І кiдаецца даганяць яго.

— Мудры юнак, зiрнi,
Якая паэтычная чырвань
Марозавых зарнiц,
На ўсходзе,
перад нашымi вачыма!

І пачынаецца галоўная аповесьць...
(Вецер над зямлёю ходзiць нiзка)...
І пачынаецца чалавечая споведзь,
Споведзь аднаго валацужнiка.

У нас адгэтуль
    ідзе
        самае галоўнае,
(Папярэдняе друкуецца дробным пэтытам):
Новы валацуга кажа, што ён галодны,
А таму настрой яго непаэтычны...
— Як табе сёнешняе сьвята? —
Пытае вар'ят,
    (Яны п'юць у піўной)—
Усе мяне лічаць за вар'ята,
У мяне толькі ад зор сьвятло адно.

Пі, юнак! Налівай! Часта
Успамінаю,
    Як перад гэтай піўной
Хлапчукі славу крычалі:
— У гэтай піўной,
    п'е Сымон Развой,
П'е вялікі поэт Сымон Развой!

Да іх далятал розныя словы.
П'яныя валацугі сьпяваць хацелі.
Два чалавекі—госьці гандляровы,
За новы год падымалі келіхі.

Юнак: Поэт, Сымон Развой,
Ты іх наймаў,
    як Гандляр,
        за грошы,
І яны крычалі перад піўной,
Крычалі за сёнешняе ня горш.

Падлогу грыз пацук.
Далятал розныя словы:
Валацугі сьпявалі пра валацуг,
Дапівалі келіхі госьці гандляровы.

Юнак: Калі твае шляхі скавала—
Дык ня гула слава над труной.
...А я шукаю згублены сэрца кавалак,
У мяне ня так, поэт Сымон Развой.

Толькі адзін раз палюбіць можна,
А пасьля шукаць яе—Маладосьць [1])

Падлогу грыз пацук.
Далятал розныя словы:
Валацугі сьпявалі пра валацуг,
Выходзілі з піўной госьці гандляровы.

---

[1]) Маладосьць—гэта прычын прычына,
Ёй не адзін поэт кветы на шлях паслаў,
Маладосьць—імя аднэй дзяўчыны,
Пра якую прачытаеце пасьля.

І адзін з іх зірнуў на юнака,
Гэта быў той,
каго пазьней
будуць запрашаць
на дыспут.

Юнак: Яшчэ летась мы разам лавілі бандыта
І вогнішчавы агонь
быў нашым
умоўным знакам.

І вось я шляхоў праходзіў досыць,
Я шукаю яе, Маладосьць,
Якая ўсім прычына прычынам,
У сэрцы каторай ня мала ёсьць
Ад яблыкавых сокаў
і густых парэчкавых рашчын,
Яна нам дае сілу рук,
Кавалак з радасьці нечае;
Я яе знайду лепшую
ад усіх
парук
Для сэрца чалавечага.

Гэта пачатак галоўнае аповесьці,
(Вецер над зямлёю ходзіць нізка)
Гэта пачатак чалавечае споведзі
(Можа дзіўнае)
споведзі аднаго валацужніка.

Далей ідзе тое,
як ён вышаў з піўной,
І яму казаў вар'ят п'яны:
— Бачыш,
зоры ў цябе за сьпіной,
Якія ўрачыстыя і добрыя яны.
Як сьвецяць яны па-рознаму:
У аднэй радасьць, у аднэй боль.
Ідзі пад сплавам сузор'яў марозных.
Ідзі сабе і нікога ня бойся.

Два чалавекі,
што ішла да Гандляра,
Калі ў месяца,
пра каюту капітанаву
мары былі,
Цяпер разьменьвалі ў банку даляры
На савецкія рублі.

Ляжыць абшарнікаў пакаленьне,
Там,
дзе пад нагамі дарог зямля,

Але жыве той,
хто ня стаў
ад роспачы
на калені,
Ён прышоў
абшарнікам,
а завецца Гандляр.
І сягоньня ён непакойны ўначы,
Дрыжаць яго сківіцы і калені,
І гэтую трасцу ня спыніць нічым—
Трызьняцца яму калекі.

---

РАЗЬДЗЕЛ II

Цягнецца дарога валацугі,
Ён падстаўляе стан вясьне,
Таму, што канчаецца месяц другі,
І пачынае таяць сьнег.

Далёка за першую парошу,
Ад каторай лёду сонца набыло,
Пачынаецца яго вядомы пошук,
Якому яшчэ канца ня было.

Зараз перад ім закатны пэйзаж:
Голыя бярозы, як вылітыя з воску,
Што некалі паабапал дарог пасаджаны,
Якія вядуць ад вёскі да вёскі.

Так паступова вырас вечар,
І ў голых бярозах ветравы сковыт.
Тады і адбылася новая стрэча,
Стрэча з настаўнікам вясковым.
Настаўніка нэрвавала паўна
Тое, што на вёсцы сьпявалі пеўні.
І настаўнік казаў наконт краявіду:
— Зноў той-жа прыкры мірны захад,
Быццам
пеўнікавага сэрца
крывёю абліты.
І так хочацца зірнуць назад,
Прыгадаць знаёмыя аблічны [1]).

---

[1]) Таму, што далей
ён кажа пра другое
Даввольце, па сутнасьці,
дробную заўвагу:
Тут настаўнік згадвае мінулую адвагу
І сяброў па рэволюцыйнай зброі.

Растуць дзеці пад захадавым знакам,
Каб пасьля сэрца
ня вытравіць ніколі.
І прынясе да магілы такі небарака
Пыл і адвячорак ваколіц...
Яго будучае—статкі і быкі,
Іх здаволены рык жывёльчын.
І ён скажа, што вар'ятамі былі бацькі,
Проста ў вочы і за вочы.
— Яны дрэннага нічога ня робяць.
Калі вынесуць,
як кожны вынес,
З дзяцінства нейкую дробязь,—
Даўні, але цёплы вырыс.

(Настаўнік, пасьля слоў юнака нэрвуецца пэўна...
У гэты час у размову ўрываюцца пеўні).

— Даўні, але цёплы вырыс...
Пеўнікавы краявід вясковы,
А як мне,
калі я вырас,
Патрапіўшы на шлях вайсковы.

(У гэты час дужы ветравы сковыт)

Калі я чую голас патайны,
Голас з-пад Эйфэлевай вежы,
Што мы рэволюцыю прытапталі,
І на мапе сьвету тыя-ж межы.
— Зялёныя яблыкі не адразу сьпелі,
Ім трэба сонца і сокаў на пачын.
— Быў самагубца тапелец,
Яго самагубства з гэтае прычыны:
Яму сказалі—не адразу яблыкі сьпелі,
Ім трэба сонца і сокаў на пачын.

(Былі відаць вокны настаўнікавай хаты—
Кросны ткалі дзяўчаты.
Месік дрэвы перарос амаль).

Якія, ты кажаш, яблыкі,
Калі тае яблыні няма-ж.
Цяпер толькі з ліп лупіць лыкі,
А пасьля везьці прадаваць на кірмаш.

(На вуліцы размаўляў народ
Пра каапэратыў і суседні хутар.
Там-жа камсамольцы гуртам
Абгаварвалі пытаньне пра агульны сход).

Прадаўшы, купіць сарочку,
Але ў тым, наш гонар невялікі...
Мы вяскоўца зсурочылі,
Які нехаця продае лыкі.

На полі ў яго красак багата,
Але яму не карціць блакітны лён.
— Калі лічыць за вар'ята
Чалавека, што вырошчвае плён.
— Ён чуе голас патайны,
Голас з-пад Эйфэлевай вежы,
Што мы рэволюцыю прытапталі,
Ї на мапе сьвету тыя-ж межы.
На яго полі красак багата,
Але яму не карціць блакітны лён.
Пасьля яны пілі гарбату,
У вокны стукалі сукі сухіх крон.

Калі перарос вечар за поўнач
Ї ў юшках ветравы сковыт—
Пад лёдам было вады поўна,
А ў вокнах месік вясковы...

Глуха лопаліся рэкі—
Канчаўся месяц другі.
А ў іх былі няскончаныя спрэчкі
Ї цёплы храп дзяруг.

---

## РАЗЬДЗЕЛ III

Дзейныя асобы:

Якуб Якубыч Худ—
У яго барада пад колер ліса
Ї, як кажа прыказка:
„Сам худ, а галава з пуд“—
Чалавек разумны,
нават мае лысіну.
Яго сын—
па клічцы „Худвік“.
(Клічка ўмоўная, вядома).
Жонка. Парабак. Ї іншыя людзі,
Напрыклад:
Юнак—стары знаёмы,
Настаўнік, калі памятаеце добра,
Той, што ня скончыў спрэчак.
Вясковец—па прозьвішчу Худоба.
Другі вясковец, па прозьвішчу Грэчка,
Дзея адбываецца на Худавым хутары,
Што сьнягамі і дрэвамі ахутаны,
Ї каторы пад восень зарастае апенькамі.
Раніца. Дзею пачынаюць пеўні.

---

(У **Худавай** хаце вокны сьнягамі замяло.
на падлозе сонца прамень касы.
Каля вакна, у якім сонечнае сьвятло,
сядзяць за сталом бацька і сын).

Худ: Каторы запісаны?
Сын: Восьмы.
Худ: Так... Засталося яшчэ тры.
Пішы... Анупрыёнак Восіп,
Хлеба пазычыў чатыры...
Ячменю пуд... Круп пятнаццаць хунтаў...
Жонка і дзьве дачкі
Будуць пяць дзён жаць жыта на хутары.
Скончыў...
значыцца па чарзе запісаны які?
Сын: На чарзе запісаны дзевяты.
Худ: Так... Засталося яшчэ два.
Пішы... Мацьвеенка Агата,
Што жыве супроць сажалкі, удава.
Пазычыла сёлета жыта два...
Ячменю няма... Крупы няма...
Яшчэ паўпуда дам на насеньне...
На пяць дзён прыдзе жаць сама.
(*у бок*)
Трэба да людзей мець жаласьць,
Язык у яе даўгі... удава баба...
А таму, каб яна
і іншыя мяне паважалі,
Прыдзецца пасьля збавіць.

(Зусім разьвіднела. Сьвятла поўная хата
і як заўсёды, канешне,
шыпіць самавар і пражэцца яешня).

Значыцца запісаны каторы?
Сын: Дзесяты.
Худ: Так... Застаўся апошні...
Пішы. Даўняя пазыка:
Пазычана брату
Пяцьдзесят рублёў грошай...
Стаў год, месяц, лік...
(*у бок*)
У нас з ім свае разьлікі.
(*да жонкі*)
Ну, як там грэецца самавар?
Жонка: А як-жа, наставіла.

(Уваходзіць **Юнак** і **Настаўнік**)

Настаўнік: Добрае раніцы, гаспадар!
Худ: А, таварыш настаўнік!
Жонка: Сядайце, сядайце, ягамосьці!
Худ: Сядайце, будзеце госьці!

(Сын сядзіць каля вакна,
за вокнамі чуваць вясна,
сонца зямлю прыгрэла...
На стол падаецца яешня і гарэлка.
З вуліцы крычаць дзеці:
Худзік! Худзік, чорт брухаты!
І сын, як шалёны, ляціць з хаты...
Госьці пачалі сьняданьне.)

Настаўнік: Як у вас гаспадарка на лад ідзе?
Худ (*усі міхаецца*):
Куры мае вялікдзень сьняць даўна
і яйкі нясуць кожны дзень...
А каб вы бачылі майго пеўня,
Што заўсёды першы пачынае дзень,
Вы-б сказалі, што ад іншых
ён больш сьпеўны,
Ад усіх кураводаў куравод надзейны.

(Так сустракаюцца ранкі:
На стале яешня і чокаюцца шклянкі).

Худ: Люблю людзкі парадак,—
Усе мы з-пад царавай шыбеніцы вышлі,
У нас цяпер савецкая ўлада,
І мы ня хочам законаў лішніх.
Настаунік: Нам чуваць голас патайны,
Голас з-пад Эйфэлевай вежы,
Што мы рэволюцыю прытапталі
І на мапе сьвету тыя-ж межы.
Худ: А для братоў нашых тыя-ж вастрогі,
У іх ня жыцьцё, а сьлёзы проста,
Яны ня бачаць нашыя дарогі,
Нашыя шчасьлівыя ростані...
Як нясе дамоў сыты статак
Малака поўныя вымі
І тады стаіць бык,
як даўні статуй,
Зямлю разьдзіраючы
рагамі крывымі,
А я слухаю голас перапёльчын
І прападае ўся мая хвароба...
Гэта ня тое, як у нейкай Польшчы.

(Уваходзе вясковец Худоба)

Худоба: Добры дзень!
(*да Худа*)
Да вас, гаспадар, з патрэбай,
Проста сказаць, прасіць міласьціну...
Худ: Выбачайце, госьцейкі!
Ты наконт хлеба?
Худоба: Будзьце настолькі міласьцівы...
Худ (*да госьцей*):
Ну як ім адмовіць? Проста дзеці...

Худоба: Не адмоўце, благадзецель!
Разьлічымся, благадзецель, паверце на слова...
Худ: Колькі табе, Худоба, адважыць?
Худоба: Як там ужо ласка ваша,
Пуды чатыры...
Паверце на слова, благадзецель,
Каб ня жонка ды дзеці...
Худ: (*Бярэ мех*):
Пасядзі, а я ўжо адважу.
Худоба: А як-жа, пасяджу,
як ласка ваша...
Дазвольце, таварыш настаўнік,
сяду каля вас...
Настаўнік: Сядай, Худоба,
суседзтва ня шкодзіць.
Жонка (*да мужа*):
Пазычаеш, а ў самаго адно каліва...
Худ: Хопіць і з нас...

(Жонка і гаспадар выходзяць)

Настаўнік: А ты ўсё яшчэ свае гаспадаркі
Не наладзіў, Худоба?
Худоба: Вясна, яна заўсёды на карку...
Ды я што... Чалавек дробны...
Я чалавек невялікі,
Часамі ганю дзёгаць з дрэва,
Настаўнік: Часамі нехаця продаеш лыкі?
Худоба: А гэта вы, таварыш, дарэмна...
Усё яно—капейка ў гаспадарцы,
Уся наша гаспадарка...
Настаўнік: Капейкі,
Што з таго,
калі ты купіш сукенку сваёй Адарцы?
Худоба: А тое,
што яна ня будзе хадзіць бяз сукенкі...
(*Пауза*)
От я ішоў і бачыў межы
На полі адталі...
Настаўнік: А ты ня чуеш голас
з-пад Эйфэлевай вежы,
Што мы рэволюцыю прытапталі?
Худоба: Як вам сказаць...
Мудры ваш голас гэты,
От спытайцеся ў сакратара ячэйкі ён у нас першы.
Ён нам чытае газэты
І за нас мудрэйшы...
Настаўнік (*да Юнака*):
Узровень нашых вяскоўцаў нізкі...
Трэба, Худоба, чытаць кніжкі,
А то, як бачыш, і сказаць нечага...

Худоба: Давалі мне некалі георгіеўскі крыжык,
За тое, што грудзіну пакалечылі...
Дык гэта прасьцей за вашыя кніжкі.
Прышоў генэрал. Якраз лекары
Выпісвалі маю балезь...
А той дае крыжык...
Дык я яму:
— Сабе бяры!
Плюнуў і расьцёр,
аж той зьбялёў...
(*Пауза*)
А цяпер жывецца як каму:
Аднаму дрэнна, аднаму гожа...
От комсамольцы зацяюць камуну,
Дык я думаю і сабе, можа...
(Уваходзіць вясковец Грэчка).

Настаўнік (*гучна*)
А вось і Грэчка—самая сапраўдная грэчка,
На яго полі красак багата,
Але яму не карціць блакітны лён.
Юнак: Калі лічыць за вар'ята,
Чалавека, што вырошчвае плён.
Грэчка: Таварыш настаўнік,
я вас не разумею часам.
Але мне да гаспадара...
Худоба: Пачакай, ідзем разам...
Грэчка (*ціха*):
Гэта-ж толькі паслухаць варта...
Худоба: Мне пра лыкі, табе пра лён,
Я яго палічыў-бы за вар'ята.
Грэчка: Калі-б гэта ня быў толькі пустазвон.
(Выходзяць)
Настаўнік: Узровень нашых вяскоўцаў нізкі.
Ім не раўня затое гаспадар...
Юнак: Вы кажаце—ён чытае кніжкі,
А я кажу, што гэта той-жа Гандляр,
Пра якога я казаў учора—
Толькі можа ў іншай скуры...
(За дзьвярыма чуваць гаворка,
Кудахкаюць куры
на двары і на вуліцы.
— Значыць мы разьлічыліся, Грэчка,
Прыяжджай заўтра пад вечар
І забірай сабе той вулей...
А хлеб табе, кажаш, ня трэба?
—Так.
Адчыняюцца дзьверы.
Уваходзяць: Сын, Худ і парабак).

Худ: Усе мы з-пад царавай шыбеніцы вышлі,
У нас цяпер савецкая ўлада,

А таму ў маёй гаспадарцы павінен быць—узорны парадак.
І я кажу, адлучацца ніяк няможна.
Парабак: І я кажу—як каму:
Аднаму дрэнна, аднаму гожа...
От комсамольцы зацяюць комуну,
Дык я думаю і сабе, можа.
Худ: А? Я не няволю, як хочаш.
Ты падумай... Можа ня так зьмецііш.
З гэтай комунай? Пасьля заякочаш,
Як галодны воўк на месяц.
А я табе збудую хату, як
І ўмаўляліся некалі...
Парабак: Я на цябе працаваў, як батрак,
Але я хачу быць чалавекам.
Ты сееш на маім надзеле,
Дзе такія запісаны законы?
Ты мне абяцаеш хату кожны дзень
І ня збудуеш ніколі...
Дзе такія запісаны законы?
Худ: Так, так...
Парабак: Я на цябе працаваў, як батрак.
Худ (*злосна*):
Які чорт цябе даўбнёй перакаціў?
Парабак: І гэта больш ня будзе...
Комсамольцы праверацъ коопэратыў,
У цябе там свае людзі.
Дзе такія запісаны законы.
Худ: А? Лайся, гэта твая справа.
Парабак: Ты яшчэ пазнаеш маё права...
Ты сееш на маім надзеле...
Ці мала ты абяцаў,
а не зрабіў ніколі,
Дзе такія запісаны законы,
Дзе такія законы, дзе?
Худ: Так, вядзьмачын сын, так...
Парабак: Ты больш не пасееш на маім надзеле,
Табе ня будуць жыта жаць вяскоўцы.
І болей я табе не батрак.

(Пакідае хату, за ім сьледам Настаўнік і Юнак).

(І такое адбываецца тады:
Вячорнае сонца шыбы ліжа,—
Дзея канчаецца тым—
Худ ходзіць з кута ў кут і сын піша).

Худ: Запісаў Худобу?

(Здалёк чувацъ вой ваўчыны).

Сын: Тата,
навошта ты прыпісаў яму лішняга?
Худ: Маўчы, дурань...
Трэба-ж цябе вучыць?!

(*Працяг будзе*)

# ВЯЗЬМО

*(Раман)*

**Міхась Зарэцкі**

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

### 1

Надвячоркам, як ужо добра зашарэла ў хацёнцы, Галілей борзьдзенька саскочыў з печы, увамкнуў сьвятло свае саматужнае электрычнасьці і вострым руплівым вокам азірнуў начыньне. Але зараз-жа, мабыць раптоўна наважыўшы нешта, ён зноў загасіў электрычнасьць, гукнуў Босага і вышаў на вуліцу. Па вуліцы ён, як зазвычай, ня йшоў, а бег трушком, дробна падкідаючы ўсё сваё хударлявае тулава. І таксама, як ён, дробна трусіўся сьледам за ім яго неразлучны калматы таварыш.

Так дабег Галілей да памяшканьня местачковае сямігодкі. Босага ён, не ўважаючы на яго жаласны пратэст, пакінуў у цёмных халодных сенцах, а сам асьцярожна прачыніў дзьверы ў кватэру загадчыка сямігодкі.

Марына Паўлаўна стаяла, укленчыўшы на канапе, перад вакном,—роўна, нярухома, як на шчырым маленьні, і ўзіралася ў сіні вечаровы змрок. Як увайшоў Галілей, яна страпянулася, быццам спалохалася, каб ня ўступіў хто ў кола яе вольна раскінутых на самоце думак, саскочыла долу і села, стуліўшыся, у куточку канапы.

Галілей непакойна тупаў у парозе і раз-по-раз стрымана кашляў.

— Можа сьвятло запаліць, дзядзька Ахрэм?

— Кхе... кхе... вось зараз скончу сваю работу, дык зраблю электрычнасьць вам, Марына Паўлаўна... ветрачок, як у мяне...

— Пакуль што я запалю лямпу. Сядайце, калі ласка.

Галілей падышоў бліжэй, але астаўся стаяць—сядзець ён ня любіў.

Марына Паўлаўна запаліла сьвятло, і яно цьмяна азарыла твар яе—стараваты ўжо, збляклы, з бясьцьветнымі вачмі, у пустэчы якіх правальваліся ўсе захаваныя думкі яе і адчуваньні.

Галілеева барадзёнка затрэслася ў спагадлівай турбоце. І каб разьвеяць Марыне Паўлаўне яе глухую немарасьць, ён—аб чым-жа больш?—пачаў гаварыць аб сваім вынаходніцтве.

— Усё з печкай вэдзгаюся, Марына Паўлаўна... ага... Цыркулярная печка... цыркуляцыя, значыцца, духу... ага... Дый карціць мне, каб як бяз дыму. Дым цяплыню з хаты выносіць, дык каб затрымаць яе...

Марына Паўлаўна ледзь прыметна ўсьміхнулася.

— Як-жа гэта бяз дыму, дзядзька Ахрэм? Бяз дыму-ж агню ня бывае.

Галілей замітусіўся па хаце.

— Вось так... Вось гэтак... Адсюль—сюды... Адтуль—туды...

Марына Паўлаўна ўдалася ў свае патаемныя думы. Пад Галілеяву мітусяніну думалася лягчэй і спакойней—думкі йшлі больш практычныя, хатнія.

— Ага... вось так... Зразумелі, Марына Паўлаўна?

Марына Паўлаўна не зразумела нічога, але троху супакоілася, і замест адказу раптам загаварыла—зусім вольна адкрыта—пра сваё:

— Што мне рабіць, дзядзька Ахрэм? Ці мне самой скончыць усё, ці чакаць, мо' ўладзіцца неяк, мо' мінецца гэта ў яго... Яму ўжо пад сорак, вы ведаеце? У нас-жа зусім дарослая дачка. Мы дзевятнаццаць год, як жанатыя... Як гэта разумець, дзядзька Ахрэм? Што рабіць?

Галілей стуліўся ў настарожанай гатоўнасьці разьвязаць цяжкую праблему Марыны Паўлаўны. Ён захапляўся кожнай праблемай, якая трапляласся на ягоным жыцьцёвым шляху—усё-роўна, ці мела яна непасрэднае да яго дачыненьне, ці не—і з роўнай стараннасьцю біўся над яе разьвязаньнем. Такі ўжо быў Галілеяў характар! Цяпер ён бяз ніякага жалю кінуў свае разважаньні аб цыркулярнай бяздымнай печы і ўраз працяўся турботаю Марыны Паўлаўны.

— Кхе... кхе... Тут трэба памеркаваць, Марына Паўлаўна... Апошняе каханьне бывае моцнае, дужа моцнае... і дурное. Стары дурней за маладога хлопца кахае... ага... Ды яшчэ й сьвет цяпер лёгкі пашоў... Вальготны цяпер сьвет для чалавечай душы. Гэткім сьветам—няма чалавеку ніякага ўёму.

— Я-ж ня трымаю яго, дзядзька Ахрэм. Ён сам ня хоча кідаць мяне.

— Пэўна, што ня хоча. Тут трэба памеркаваць... Ня хоча, бо да старое ласкі прывык, да абыходу. А й новае загарэлася. Вось і ламаецца чалавек.

— Праўда што, цяжка яму бывае таксама.

Галілей раптам замуляўся, закхекаў, затупаў неспакойна на месцы. Значыць, меў сказаць нешта для яго важнае, нясьцерпнае.

— Я мяркую так, Марына Паўлаўна. Усё ламаецца, дык і чалавек мусіць ламацца. Ня ў тым, дык у тым... раз ператруска ўсяму... усяму ператруска...

Ён ступіў крок наперад і ў нэрвовай насьпешнасьці зашаптаў:

— Да-душы-ж, усё ламаецца, Марына Паўлаўна. Нешта будзе, нешта будзе. Можа новая рэволюцыя йдзе... Я яшчэ ня ведаю, ня ўцямлю ніяк. Думаю-думаю, а не надумаю нічагуткі. Як вы ўважаеце, Марына Паўлаўна? У які бок гэта пойдзе?

Марына Паўлаўна млява адмахнулася:

— Ня ведаю я, дзядзька Ахрэм. Пагаманіце з Сымонам, ён добра знаецца ў гэтым ва ўсім.

Галілей чамусьці спалохаўся.

— Добра, добра, я пагаманю з ім, я пагаманю...

І адчужана змоўк. І Марына Паўлаўна сядзела моўчкі—неяк было ўзьнімаць зноў гутарку пра сваё. Галілей яшчэ троху патупаў ды пашоў на кухню аглядаць зробленую ім па адумысловай сыстэме спэцыяльна для Марыны Паўлаўны сушыльню.

Неўзабаве знадворку грукнулі дзьверы, па кухні разьляглiся шумныя мужчынскія крокі, і ў пакой увайшоў муж Марыны Паўлаўны, загадчык сямігодкі Сымон Карызна. І зараз-жа зноў—ужо ціхенька—ляпнулі дзьверы і з сянец пачулася, як Галілей клікаў Босага.

Сымон Карызна скінуў на крэсла зашаранелую хутру і прайшоўся туды й сюды па пакою, тручы скалелыя рукі.

— Мароз, аж трашчыць. Зусім адубеў.

— Я наставіла самавар—зараз будзе гатоў.

І змоўклі абое.

Карызна хадзіў ды хадзіў па пакою, удаючы, што ніяк ня можа сагрэцца. А Марына Паўлаўна ведала: прывёз ён з сабой з раёну нейкае новае ўзрушэньне, і карціць яму выказаць каму-небудзь, а ёй ня можа: цяпер ся ўжо парвалася паміж іх сяброўская блізкасьць. Хоць і ня злуюць адзін на аднаго, хоць і цёплая ласка ўзгарыцца, зацьмее часамі, а нутро адкрыць адно аднаму—нейкі прыкры, мулкі сорам.

У Марыны Паўлаўны сэрца зьнібіць тупым жалем. З якой-бы радасьцю падзяліла яна ягонае ўзрушэньне—ягоную радасьць ці смутак, усё роўна. А ён ня бачыць гэтага ў ёй—праваліласа ўсё ў пустэчы бясьцьветных вачэй—і балазе, што ня бачыць: было-б, пэўна, цяжэй і яму і ёй.

Карызна, п'ючы чай, відочна сьпяшаецца. І на твары ў яго зьбіваецца ўжо добра знаёмае Марыне Паўлаўне турботнае замяшаньне: ён зараз устане, з удаванай злоснай рашучасьцю апранецца і пойдзе наўмысна-гучнымі размашыстамі крокамі.

Марына Паўлаўна ведае, куды ён пойдзе. Яна тады ўкленчыць на сваёй аблюбёнай канапе і будзе доўга-доўга ўзірацца ў заваконную цемру.

## 2

Сымон Карызна, як сэкратар сельсавецкае ячэйкі, езьдзіў у раён на пленум райкома партыі, і ўзрушэньне, якое панёс ён ад свае жонкі, было агульнае ўзрушэньне ўсяго калектыву—добрае, бадзёрае ўзрушэньне—імпульс да новае плодатворнае працы.

У вострай, троху бязладнай і троху ўрачыстай сумятні раёну, у незвыкла-напружаным ходзе пасяджэньняў пленуму, у праявах па-баявому адкрытай дружнасьці паміж усіх партыйцаў—пачуў Карызна новы павеў нязгаснае рэволюцыі, якая праз спакойныя гоні аднаўленчае працы падышла да апошняга штурму старога сьвету. І з сакавітаю сьвежасьцю ўзьнялося ў Карызны даўнейшае, астоенае карпатлівымі днямі апошніх гадоў: імклівае парываньне наперад, лёгкая ўзьнятасьць і ўпарты, троху гульлівы, задор.

Ён чуў, што ў Рэспубліцы зачынаецца новая баявая эра.

Сэкратар райкому ў сваім дакладзе гаварыў пра вялікі пералом, пра рэконструкцыю, пра рэволюцыйную перапрацоўку вёскі, пра героічны энтузыязм будаўніцтва. Сэкратар райкому з выгляду зусім нязначны чалавек—

хударлявы, твар смарчкаваты, нос хоць і даўгі, але ня надта паважны. Вялікія словы ўзьнімалі сакратара райкому, надавалі яму больш сталасьці і разам з тым раскрывалі яго: нават троху дзіўна было, што ўнутры ў гэтага ціхага чалавека столькі стрыманае сілы, энэргіі і запалу.

Карызна памятае, як усяго месяцы тры таму прыехаў быў у іхны раён таварыш Гайдук. Карызна сядзеў тады акурат у габінэце Рачкоўскага, старшыні РВК. Старшыня РВК, прысадзісты камляваты мужчына з размашыстымі рухамі і грымотным голасам, перш не зважаў зусім на несамавітага наведніка (даўгі пашарпаны кажух, маргелка на галаве, на нагах—грамоздныя боты), потым павёў па ім сярдзіта-дзелавым поглядам і прагрымеў:

— У вас якая справа, таварыш?

І калі той паказаў паперы, ён не схаваў свайго шчырага задзіўленьня:

— Дык значыць вы—Гайдук?

Гайдук прыехаў быў проста з партыйных курсаў, і ў яго ня было ніводнага чамадана, ніводнае скрынкі. Той першы дзень ён аж да цямна прасядзеў у габінэце старшыні РВК і, калі нарэшце старшыня запытаў у яго:

— Дзе-ж вашы рэчы?—

Ён ціха і спакойна сказаў:

— Мае рэчы вось у портфэлі і ў гэтым клумку. А начаваць я мабыць пайду да цябе, старшыня,—мы яшчэ сёе-тое абмяркуем сягодня.

Рачкоўскі і Гайдук цалкам дапаўнялі адзін аднаго. Гайдук быў спакойна-разважны, строга-лёгічны, Рачкоўскі—адрыўчаты, інтуіцыйны. Гайдук быў паступовы і роўны, Рачкоўскі—напорны, імклівы. Гайдук знаходзіў і цьвёрда трымаў лінію ў працы раёну, Рачкоўскі абарачаў яе ў энэргійна-ўдарнае дзеяньне. Заўсёды, як абмяркоўваў тую ці іншую справу, праводзіў сваю думку Гайдук—так павялося ад першых дзён ягонага прыезду,—але Рачкоўскі скрозь быў ўпэўнены, што тон дае ён, што ўсё робіцца па ягонаму меркаваньню. І кожны раз, як Гайдук рабіў якую трапную пропозыцыю, Рачкоўскі нязьменна ўзіраўся ў яго з шчырым зьдзіўленьнем, быццам казаў сам сабе:

— Бач ты, і ён часам можа людзкае нешта прыдумаць.

На гэтым пленуме лёгічна-выразны, мерны (хоць і падкрэсьлены нутраным стрыманым агнём) даклад сэкратара райкому дапоўніў Рачкоўскі сваім, як заўвычай, нязграбным, важкім, насычаным грубаю воляю, выступленьнем. І цяжка сказаць, хто з іх больш узьняў у прысутных той неспакойна-імклівы настрой, які разам з іншымі захапіў і Карызну.

У перапынку астаўся быў неяк Карызна адзін-на-адзін у габінэце з Рачкоўскім. Той парыўчата прайшоўся разы са два па пакою (ідучы, ён пераваліваўся, як качка), потым стаў за сталом, пацёр энэргічна рукі, абапёрся імі аб стол і, нахіліўшы над сталом сваё цяжкое тулава, многазначна ўпяўся вачмі ў Карызну.,

— Ну, браце, як?... Кумекаеш, га?..

Карызну стала надзвычай лёгка і весела. Ён з маху ляпнуў Рачкоўскага па мясёным плячы і, радасна сьмеючыся, адказаў.

— Разумею, браце, на ўсе сто процантаў.

— Прыдзецца нам, Сымонка, з табой бадай што ўвесь сьвет перавярнуць... га?... Праўду я кажу, ці не?

— Ці дзіва, што перавернем. Аж затрашчыць.

І тады Рачкоўскі, важка адкінуўшыся назад, нечакана зарагатаў магутным раздольным сьмехам. Потым суняўся, падышоў да Карызны і самадаволына падміргнуў:

— Сэкратара-б яшчэ мне... га?

І лёгенька тыркануў Карызну пад бок. Карызна прамычаў нешта нявыразнае. Ён ведаў, што Рачкоўскі гэта—так сабе, з форсу, што ён Гайдуком цалком здаволены.

Карызна падабаў Рачкоўскага і сябраваў з ім. Яны ці мала год працавалі разам з ім і тут, у гэтым раёне, і яшчэ там, дзе Карызна раней быў за настаўніка. Бадай што ў адну пару яны й пераехалі сюды, у гэты раён. Зьвязвала іх аднаго з адным, апроч спраў службовых ды партыйных, яшчэ многа чаго інтымнага, пра што ўспаміналі часам яны нібы з сарамлівай, але ў сутнасьці прыёмнай і даволынай усьмешкай.

На пленуме райкому было некалькі новых незнаёмых таварышоў, што прыехалі з цэнтру дапамагаць мясцовым працаўнікам перабудоўваць вёску. Адзін з гэтых брыгадзіраў чамусьці зьвярнуў асаблівую ўвагу на Карызну. Ён доўга прыглядаўся да яго, бадай што хадзіў сьледам за ім, а тады падышоў і запытаў:

— Дык гэта вы—Сымон Карызна?

І адкрыта глядзеў на яго ніто наіўнымі, ніто хітраватымі вачыма.

Карызна зьдзівіўся.

— Чаму вы пытаецеся?

Замест адказу той загадкава ўсьміхнуўся і ня кідаў з цікавасьцю разглядаць Карызну. Карызна зноў запытаў:

— Мы можа дзе сустракаліся? Вы мяне знаеце?

Брыгадзір унікліва і нявыразна матнуў галавой (—можа й знаю, але ня будзем пра гэта гаварыць—) і, занядбаўшы Карызнава запытаньне, стаў дапытвацца пра стан работы ў Карызнавай ячэйцы.

Звалі брыгадзіра таго—Зелянюк, і быў ён зусім малады, яшчэ хлопец, тонкі, драбнявы, але не малы, з досыць прыгожым, толькі залішне бледным і рэзкім тварам.

Як Карызна садзіўся ужо ехаць дахаты, Зелянюк гукнуў яго ад дзьвярэй райкому вясёлым па-дзяцінаму звонкім голасам:

— Чакай, Карызна! Чакай!

І, падбегшы, з маху кінуўся ў розвальні.

— А я ўсё-ткі да цябе еду, у тваю ячэйку. Папрацуем разам, га?

І, вальготна пасунуўшыся на сядзеньні, ёмка штурхануў Карызну пад бок.

Дарогай яны многа аб чым перагаварылі, але Карызна—недаверлівы і сьцеражлівы—трымаў скрозь дзелавы, пагадліва-ласкавы тон, не ўпадаючы ў асаблівую гаварлівасьць. Нават сваё ўзрушэньне, узьнятае пленумам, ён чамусьці стараўся сьціскаць у сабе, не даваў яму выйсьця.

А Зелянюк аб ўсім, дапытваўся, аб ўсім дазнаваўся, ані не хаваючы і не саромячыся свайго нязнайства ў драбніцах вясковага жыцьця. Што далей, то ўсё больш і больш ён браў да свайго спадарожніка заўзята-панібрацімскі, нават троху пахабны тон. І паміж гутаркі ўсё разглядаў яго, раз-по-раз усьміхаючыся сваёй загадкавай усьмешкай.

Карызну гэта ня зусім падабалася.

3.

Сацыяльнае паходжаньне ў Веры Засуліч было несамавітае: яна роджана была ў сям'і сядзельца з «казенной винной лавки». Гэта часам няпрыемна турбавала яе даскапала-шчырае сумленьне, але ў роспач з гэтага яна не ўпадала, а, наадварот, працінался яшчэ мацнейшым імкненьнем да працы над сабой, да найглыбейшага ўкараненьня ў плодную глебу сучаснасьці. І трэба сказаць, што сярод усіх местачковых настаўніц яна лічылася за самую актыўную, палітычна пісьменную, энэргічную, спраўную і чулую да грамадзкага жыцьця працаўніцу.

Росту яна была сярэдняга (можа трошачку нават ніжэй), у фігуры— стройная, твар мела белы з вялікімі ніто цёмна-карымі, ніто чорнымі вачмі. Апранута была заўсёды чыста і сьціпла, без надужываньня спакусьлівымі аксэсуарамі местачковых мод. Таму ў жанчын і ў павярхоўных кавалераў аўтарытэту ня мела, але сур'ёзным людзям падабалася і за два гады жыцьця ў мястэчку набыла ці мала парыцарску адданых прыхільнікаў, сярод якіх першае месца бясспрэчна займаў загадчык сямігодкі Сымон Карызна.

Галілей меў рацыю, як гаварыў, што стары кахае дурней за маладога. Сымон Карызна сапраўды кахаў Веру Засуліч дзівачным каханьнем хлапца-падлетка, топячы свае бяз малага сорак год, у сьвежых хвалях зусім юнацкага захапленьня. Таму мо' й чуў сябе ён так сьмела і незалежна перад Марынай Паўлаўнай, што ў сваім пачуцьці да Веры бачыў нешта вышэйшае за звычайнага, сьцёртага і забруджанага практыкай год поцягу да жанчыны.

Сымон Карызна ідэалізаваў Веру Засуліч. Ён лічыў яе за сучасную жанчыну ў праўдзівым разуменьні гэтага слова, за жанчыну-таварыша, мала што не за героя. І— сьмех сказаць!—але ў гэтым грала пэўную ролю дзіўнае Верына прозьвішча, якое страшэнна імпанавала Сымону Карызну, быццам кідала яно-нейкі рамантычна-сьветлы сьвет на яе ад тае славутае рэвалюцыянэркі.

Невялікі пакой у новым будынку пачатковае школы— у будынку спраўным, чыстым і сьветлым, як сама Вера Засуліч, быў для Сымона Карызны месцам цудоўнага адпачынку. Сюды нёс ён заўсёды ўсё ўструшэньні свае душы, сваю радасьць, свой смутак, свае надзеі і сумненьні. Тут перажываў ён хвіліны таго дзіўоснага трымценьня нэрваў—лёгкага і мэлёдычнага, у слодычы якога раставалі яго бяз малага сорак год, адкрываючы ў ім юнацкую сьвежасьць.

Вядомая рэч, што ўсё гэта ён пільна хаваў у сябе ў нутры. Вядомая рэч, што гэтага звонку зусім ня відаць было. І вядомая рэч, што сама Вера Засуліч аб гэтым ані не дагадвалася!

... Вышаўшы з хаты ў наўмысна-распалёнай злоснай рашучасьці і грукнуўшы нават дзьвярмі (як зразумела ўсё гэта Марыне Паўлаўне!), Карызна перш-на-перш суняўся і з палёгкаю ўздыхнуў. Потым з хвіліну прастоіўшы на месцы, задуменна схіліў галаву і спакваля пасунуў па вуліцы. Але зараз-жа крокі яго пашыбчэлі, і ён, неўзаметку для самога сябе, пачаў сьпяшацца.

У Веры людзі: Віктар—сэкратар комсамольскай ячэйкі, аптэкар Плакс—ён-жа кіраўнік тутэйшага драмгуртка і местачковы філёзоф, яшчэ настаўнік адзін і настаўніца. Ля парога муляецца Галілей.

Гэта добра, што людзі. Карызну трэба нарэшце выліць сваё ўзрушэньне, і таварыства тут наздвычай прыдатнае да гэтае мэты. Ён скарыстаў паўзу, якая занялася па ягоным уваходзе, і зьвярнуўся да Віктара ў стрыманым тоне, скрозь які аднак прабівалася нутраная напружанасьць:

— Заўтра, Віктар, зьбяры сваю камсамолію—паставім пытаньне пра калектывізацыю. Удзень будзе партыйны сход—ты свой прызначыш на вечар.

Ён гаварыў бадай што сярдзіта, хоць у нутры было ясна і радасна.

— Мы мала зважаем на гэта. У нас яно—так сабе: ідзе, дык і йдзе. Так далей быць ня можа.

У Віктара ў адкрытых дзяцінных вачох загарэлася палкая цікавасьць: нешта новае і важнае прывёз сэкратар з раёну, раз пачаў гаварыць у гэткім тоне. І ён як мага супіў бровы, каб затуліць вясёлую бязрупатную ўсьмешку—сьлед перарванае Карызнам гутаркі.

— Добра, я зьбяру. У нас, праўда, з тыдзень таму стаяла гэта пытаньне... Але....

— Але не на тэй назе стаяла.

Аптэкар Плакс спакойна канстатаваў:

— У кожнага пытаньня ёсьць дзьве нагі: правая і левая.

Карызна падсеў бліжэй да Віктара, але гаварыць пачаў, вядомая рэч, для ўсіх, хоць удаваў, нібы інструктуе Віктара:

— Ты разумееш, хлопча, што гэта—ня жартачкі? Тут—не бягучая якая кампанія, што сёньня зрабіў, а заўтра й забыўся на яе. Наш раён абвешчан раёнам суцэльнае калектывізацыі. Гэта значыць—наш раён цалкам перарабляецца на новы лад. Гэта значыць—усё жыцьцё мяняецца. Усё пераварачваецца, разумееш?

Аптэкар Плакс з свайго боку дадаў:

— Бо ў кожнае лахманіны ёсьць два бакі: верх і спод.

— Мы мусім ўзьняць масу, арганізаваць яе. Працаваць па-баявому, як рэвалюцыянэры, а не як чыноўнікі, бюракраты.

І ў апошнія словы Сымон Карызна ўклаў ладную прапорцыю свайго незадаволеньня шэрай будзёншчынай апошніх год. Вера Засуліч злавіла гэта і скарыстала, каб далучыцца да гутаркі:

— Гэта значыць, што дасюль мы ўсе працавалі як чыноўнікі і бюракраты? Так?

Карызну падабаецца гэта заўвага: ён любіць часам пафігураваць сваймі рамантычнымі настроямі.

— Пэўна, што мы ўсе гатовы парабіцца чыноўнікамі. Дзе той запал, энтузіязм, захапленьне, з якім мы ўвайшлі ў рэвалюцыю, га? Дзе адвага тая, гэройства, што было ў кожнага, хто йшоў на фронт за рэвалюцыю? Няма ўжо—сацьмела, згасла. Трэба яго аднавіць, распаліць, а на гэта трэба вялікая і блізкая мэта. Яна—ёсьць цяпер. Рэвалюцыя ня згасла, яна ўзьнімаецца з новай сілай. Мы яшчэ паваюем!...

Галілей ня ўрымсьціў: ступіў на два крокі наперад і запытаўся:

— А скажыце, тая рэвалюцыя ці скончылася?

— Якая тая?

— Што была супроць паноў?

Карызна няўцямна паціснуў плячмі.

— Кожная рэвалюцыя праходзіць паступова праз колькі стадый—мы цяпер уступаем у новую стадыю тае самае рэвалюцыі, што была супроць паноў.

— А цяпер супроць каго?

— І цяпер супроць паноў—супроць кулака, заўтрашняга пана. Кулак—зласьнейшы эксплёататар яшчэ, ніж сапраўдны пан. Наша мэта—зьнішчыць кулака і разам з ім—усякую эксплёатацыю чалавека чалавекам.

Галілей чамусьці перапытаў:

— Супроць кулака?

І зноў адступіўся ў свой куток:

І было ў тоне гэтага Галілеявага запытаньня нешта такое значнае і праканалае, што адразу адвяло ўсіхную ўвагу ад агульных разваг да канкрэтнага, блізкага, да непасрэдна датычнага мястэчка, бліжэйшых вёсак, жывых людзей—знаёмых, прыяцеляў, ворагаў. І бадай што толькі цяпер усё тое, аб чым красамоўна гаварыў Карызна, паўстала перад усімі ў жывой і яснай форме, з усёй сваёй важнасьцю і складанасьцю, з чорным пераплётам магчымых цяжкасьцяй і перашкод.

У Віктара вочы задыміліся шчырай турботай.

— Ведаеш што, Карызна? Ці ня варта паставіць нам заўтра яшчэ пытаньне аб камсамольскай дысцыпліне. Мне здаецца, што ў нас тут ня ўсё добра. Трэба падцягнуцца... Як ты ўважаеш?

— Добра, добра... І на вясковых камсамольцаў трэба ўвагу зьвярнуць... Асаблівую ўвагу...

І яны, працятыя дзелавым клопатам, пачалі снаваць пляны бліжэйшай работы.

Вера глядзела на іх з ціхай роўнай увагай, зрэдку ўстаўляючы і сваё меркаваньне. Іншыя ўсе пачулі сябе тут лішнімі.

Галілей у сенцах клікаў Босага. Плакс крыкнуў яму:

— Пачакай, разам пойдзем!

І пашоў сьледам за ім. Ідучы, ён з многазначнай спакойнасьцю запытаў:

— Чуў, Галілей, га?

Галілей дробна трусіўся побач цьмяным мізэрным ценем. Верхняя палавіна яго хударлявага тулава была, як заззычай, выцягнута наперад, нібы прыглядаўся ён да чаго ці што вынюхваў перад сабой. Не зьмяняючы паставы, ён на-хаду адказаў:

— Кхе.. кхе... Трэба памеркаваць..? ага... Перш яно тое... якая гэта ёсьць рэвалюцыя?.. Ці скончылася яна тая ці не?.. Можа гэта другая ўжо... ага...

Аптэкар Плакс, хоць і цёмна было, але зрабіў на твары сваім бязьмежна скэптычную міну.

— Ат, Галілей, навошта табе мудраваць? Навошта табе гэта канечна ведаць, ці тая яна ці другая! Кожная рэвалюцыя ёсьць рэвалюцыя... Нам з табой, людзям тэхнікі і навукі, з кожнае рэвалюцыі будзе патроху цукру і патроху перцу... Сацыолёгія!

Галілей маўчаў. Галілей натрапіў у жыцьці сваім на вялікую і цікавую праблему. Яго не абыходзіць тое, ці датычна яна яго непасрэдна ці не—ён усё роўна будзе з гарачай упартасьцю, як мяцежны юнак, ламаць над ёй галаву, пакуль ня дойдзе нейкага выніку.

Такі ўжо Галілеяў характар!

...Карызна на колькі хвілін затрымаўся адзін у Веры Засуліч. Яна ня зьдзівілася—яна прывыкла ўжо да частых ягоных візытаў. А мо' яна нават дагадвалася пра яго пачуцьцё да яе? Мо' ён дарма толькі цяўся схаваць яго, ня даць. яму выйсьця наповерх?

Ён сядзіць і моўчкі глядзіць на яе—балазе яна адвярнулася і не заўважае ягонага погляду. Ён дужа любіць так моўчкі сядзець і глядзець, і слухаць, як мяккімі хвалямі ўзмываецца ў нутры добрая такая, салодкая пяшчотнасьць. Але хвалі растуць і растуць, займаюць ужо ўсю істоту і выліваюцца ў нявыразнае парываньне. Ён устае і пачынае хадзіць па пакою размашыстымі энэргійнымі крокамі. Але рухі не разбаўляюць настрою, і ён пачынае гаварыць—вядома, пра справы, пра што-ж ён больш будзе гаварыць з Верай Засуліч?

— У мяне, Вера, цэлы пераварот зрабіў гэты плёнум. У раёне ўжо адчуваецца такая, ведаеш, бадзёрая, баявая напружанасьць, у якой чуецца, што нешта адбываецца вялікае, неабыклае. Сапраўды, я нібы вярнуўся на колькі год назад... Ты ня сьмейся, Вера, гэта ня пустыя словы, ня жарт. А як працаваць хочацца, якая энэргія, ахвота! Што больш відаць цяжкасьцяў наперадзе, то большы задор: а ўсё-ткі наша возьме, а ўсё-ткі мы, бальшавікі, пераможам. У гэтым сэнс змаганьня, Вера, у гэтым радасьць змаганьня!

Вера неадрыўна глядзіць на яго, і ў яе вялікіх—ніто цёмна-карых, ніто зусім чорных вачох застыла глыбокая ўвага. Гэта яшчэ больш акрыляе яго, надае яму натхненьня, і ён гаворыць далей:

— Як гэта дзіўна, Вера! Сёньня ў нас тут яшчэ ўсё ціха, спакойна—мы яшчэ сьпім, закалыханыя роўнаю плыньню будзёншчыны,—а заўтра ўсё завіхрыць, забурліць, вынырнуць наповерх усе прыхаваныя супярэчнасьці, пачнецца цэлы гармідар. І тут вось пакажа сябе чалавек, сваю сілу і здольнасьць. Паглядзім, хто чаго варты!

Гэта было троху падобна да пустой бравацыі, але Карызна ў пале сваім не заўважыў гэтага. Не заўважыла і Вера Засуліч—яе цалком захапілі Карызнавы словы, і яна ўжо гарэла жаданьнем далучыцца да новага зруху, да новых грамадзкіх падзей, якія гатовы разгарнуцца ў мястэчку. О, яна-ж такая шчырая і такая чулая працаўніца!

Вера перапыняе Карызну, яго гарачую размову:

— Слухай, Карызна, ты вось нічога ня кажаш аб працы сярод жанчын. Ты ведаеш, якую ролю грае жанчына ў гаспадарцы? Пераход да калектыву многа залежыць ад жанчыны, па-праўдзе. Ты-ж чуў, што іншыя калгасы толькі таму й разбурыліся, што бабы не захацелі жыць у калектыве. Мы заўтра зьбяром свой актыў—ты праінструктуй нас. І потым з масавай працай. Мы з Плаксам хацелі п'еску ставіць, але яна не падыходзіць. Трэба пашукаць чаго-небудзь у раёне. Ты не паедзеш туды гэтымі днямі?

І Вера Засуліч уся ўдалася ўжо ў новыя клопаты. Калі яна так заклапочваецца, твар у яе робіцца дужа цікавы і троху сьмешны: вусны зьбіраюцца ў шчыльную складку і аддудырваюцца, як у дзіцяці: лоб моршчыцца да немагчымасьці, цудоўныя аксамітныя броўкі спаўзаюцца ўместа, як два тараканы.

Слаўная, шчырая. дзяўчына гэта Вера Засуліч!.

Карызна яшчэ сядзіць у яе з паўгадзіны і гутарыць аб працы сярод жанчын, аб масавай працы, аб Плаксавым спэктаклі. І неўзаметку ўзіраецца, прыслухваючыся да мяккіх узмываў пяшчотнасьці, у прыгожыя вусны, у броўкі, у вялікія—ніто цёмна-карыя, ніто зусім чорныя вочы.

Як вярнуўся Карызна дахаты, Марына Паўлаўна яшчэ ня спала. Яна сядзела ў сваім аблюбёным куточку на канапе і жвава гутарыла з брыгадзірам Зелянюком.

Зелянюк сустрэў Карызну той самай загадкавай, з нечым схаваным у ёй, усьмешкай. І цяпер раптам заўважыў Карызна, што як усьміхаецца ён, левае вока ў яго трошку косіцца, і ўсьмешка ад гэтага—няпрыемна пустая, амярцьвелая.

Брыгадзір Зелянюк, выходзіць, прышоў да яго начаваць.

4.

Фактычна, і мястэчка тое зусім не мястэчка—проста вялікае сяло, былая воласьць, з трыма прыватнымі дробнымі крамкамі, з аптэкай, больніцай, цэнтрасьпіртам, каапэрацыяй і кнігарняй Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва.

Ды й Галілей той зусім не Галілей, а звычайны селянін-бядняк, вызвалены нават ад сельгаспадатку, Ахрэм Данілавіч Пунцік. Галілеем ён стаў праз вечныя свае вынаходкі, і гэтую мянушку даў яму яго-ж добры прыяцель аптэкар Плакс—кіраўнік тутэйшага драмгуртка і мясцовы філёзоф. Гэтая мянушка яго не абразіла (а мо' нават і задаволіла, хто яго ведае!) і шчытна да яго прыстала: ад таго часу бадай ніхто і ня зваў іначай яго, як Галілеем.

Найвыдатнейшая вынаходка, ці, правільней, конструкцыя Галілеева, слава аб якой прагрымела на ўсю акругу, была «маджджэра» (гармата), якую ён зрабіў у тысяча дзевяцьсот адзінаццатым годзе спэцыяльна да вялікадня, каб даць з яе салют пад час першага сьпеву «Хрыстос Васкрэсе». Трэба зазначыць, што ён самаручна зрабіў быў ня толькі самую агнястрэльную прыладу, а й порах, паводле рэцэпту старога паляўнічага Казіміра Залуцкага.

Эфэкт быў надзвычайны. Перапалохаліся ўсе страшэнна, а найбольш сам вынаходца, бо з першым стрэлам разарвалася ўшчэнт уся «маджджэра», і аськёпкі яе разам з двума Галілеявымі пальцамі разьляцеліся ўва ўсе бакі бадай на цэлыя гоні. Назаўтрага падшывальцы-хлопцы цэлы дзень шукалі няшчасных Галілеявых пальцаў, але не знайшлі ніводнага.

Астаўшыся з куксаю, Галілей ня спыніў быў далейшых вынахаджэньняў, а, наадварот, ўзяўся за іх з яшчэ большым імпэтам і вёў іх аж да самае тае пары, калі ўвайшоў ён у гэтае апавяданьне. Астатнія ягоныя конструкцыі былі: саматужная электрычнасьць у мізэрнай яго хацёнцы і ўдасканаленая сушыльня, якую ён зрабіў, як было паказана вышэй, спэцыяльна для Марыны Паўлаўны. Цяпер працаваў ён, паводле ўласных ягоных слоў, над «цыркулярнай» бяздымнай печкай.

У той дзен, як быў прызначаны ў мястэчку першы сход па калектывізацыі, Галілей ужо загадзя ведаў, хто што будзе гаварыць і як хто будзе паводзіць сябе на гэтым сходзе. Ён ведаў, што сэкратар ячэйкі Сымон Карызна будзе гаварыць горача й разумна, і яго будуць слухаць з вялікай

павагай і ад гэтае залішне вялікае павагі ня ўнікнуць па-просту ў ягоныя словы і не праканаюцца. Ён ведаў, што старшыня сельсавету—даўгі, як вочап, і калматы, як памяло, прозьвішчам Пацяроб—будзе крычаць больш бяз сэнсу і пускаць грубыя жарты: гэты разьвесяліць сялян, і некаторым ягоным словам дадуць веры, але шмат хто будзе падтакаваць і сьмяяцца падлыжна, адно каб уладзіць начальству. Комсамолец Віктар пачне гаварыць ціха і сарамліва, адылі разгаворыцца і—дармо, што малады—а слухаць яго будзе прыемна. Неадменна выйдзе з прамоваю Вера Засуліч—скажа многа добра вядомага ўсім, але будзе гаварыць гэта шчыра й старанна. Чарнявы і злы Прахор будзе ўтыкацца, дзе трэба й ня трэба, выступаць за і супроць, азардаваць, гарачыцца, хоць усім добра вядома, што ўсё гэта ў яго з нязбыўнае ягонае крыўды, а прычыны тэй крыўды ня ведае ніхто, у тым ліку і сам ён. Але паслухаць Прахора ўсё-ткі варта: вялікая злосьць яго часам родзіць вострыя і пякучыя думкі. Ну, яшчэ Цімахвей Міронавіч Гвардыян...

Цімахвей Міронавіч Гвардыян—менавіта Цімахвей Міронавіч, а ня проста Цімох, або, скажам, Цімка, Цёмка, Цімошка ці інакш. Гэта ня кулак, ці, праўдзівей, ня проста кулак, а былы кур'ер высачайшае комісіі па такіх-та і такіх-та справах. Год з дзесяць ён жыў у Маскве і, прыяжджаючы ўлетку дамоў на пабыўку, падвешваў на відным месцы перад хатай гамак і гоўтаўся ў ім важна, глыбокадумна. І цяпер яшчэ Цімахвей Міронавіч любіў часам выказацца мудронаю мовай і накшталт таго, як усе сур'ёзныя прамоўцы ўжываюць спэцыяльныя словы— «так сказаць», «значыць», «разумеецца», «стала быць» ды інш.— Цімахвей Міронавіч таксама меў свае слова, але мудрэйшае і званчэйшае, чымся ў іншых: ён паміж гутаркі любіў устаўляць слова «будучы».

Да Цімахвея Міронавіча Гвардыянава Галілей—ня ўрымсьціў—заскочыў набертам перад сходам. Гвардыян сядзеў на прыпечку і поркаўся з нейкімі окуратамі. Галілей сьпехам прывітаўся і, пэратрусіўшыся цераз хату, сеў на пярэдняй лаве, бадай не на покуце: так рабіў ён выключна ў Гвардыяна, і была ў гэтым нейкая дзіўная, зразумелая толькі яму, дэмонстрацыя.

Гаспадар падкалупнуў:

— Сядайце, Ахрэм Данілавіч!

— Сяджу ўжо, Цімахвей Міронавіч!

— Як зямля круціцца, Ахрэм Данілавіч?

— Дзякую, Цімахвей Міронавіч! Дай бог усім добрым людзям...

Памаўчалі.

— На сход ці пасунецеся, Цімахвей Міронавіч?

— Хто яго... Што мне там дужа рабіць, на тым на сходзе? Можа, будучы, якое дробнае пытаньне вырашаць і без мяне. Ахвоты нешта няма.

— Нядужаеце, Цімахвей Міронавіч?

— Дзякую. Як самі, Ахрэм Данілавіч?

Зноў памаўчалі. Па якой хвіліне, зморчыўшы твар, каб адкусіць нітку, Гвардыян запытаў:

— Мы вось сядзім, як прусы ў запечку. А вы-ж, будучы, сьветам перабываеце, Ахрэм Данілавіч! Што дзе чуваць такога прakраснага?

— Як чхнеш, так і пачуеш. Свой сквіл мілей за чужую песьню.

— Нашто той сквіл? Хто гэта будзе сквіліць?

— Дзе вясельле, там і музыка,. Цімахвей Міронавіч.

Гвардыян самаўпэўнена ўсьміхнуўся.

— Аб чым, будучы, сход склікаюць, Ахрэм Данілавіч?

— Калектывізацыя, Цімахвей Міронавіч!

На колькі сэкунд занялося вострае напружанае маўчаньне. Пасьля Гвардыян сталым павольным рухам адсунуў у бок скураты, паклаў на калены рукі, і на голы пэргамінавы твар свой напусьціў выраз глыбокае развагі.

— А што-ж, і пойдуць. Чаму, будучы, не пайсьці, Ахрэм Данілавіч? Галоўнае, няма табе ніякага клопату—адпрацуй сваё, атрымай, што табе належыць. Ні заботы ні турботы. Цябе й накормяць, будучы, і надзенуць, і другое і трэцяе... А гаспадарка—ёй трэба догляд. І ня ўсьпіш і не ўясі, не адпачнеш ніколі, як людзі. Гэта, браце мой, апарат...

Хітры чалавек Гвардыян! Гаворыць, дык проста—шчырай душою. Няйначай, ён першы будзе стаяць за колгас.

— Вы, Цімахвей Міронавіч, пэўна, таксама ў колгас перастýпіце?

Гвардыян усхапіўся.

— А чаму-ж не? Што-ж вы думаеце? Ці-ж мне век, будучы, мардавацца на гаспадарцы? Баба з калёс—калёсам лягчэй... Хай кіруюць—божухна-бацюхна!—ці-ж нам шкода, ці што? Абы з сэнсам было, абы парадак!

Ён ізноў завінуўся каля сваіх скуратоў, але ў руках у яго ня было ўжо ранейшай павольнасьці—яны бегалі залішне дробна і, мабыць, бяз ладу. Ён яшчэ раз скрывіўся, хоць ніткі ўжо ня кусаў, і працягнуў фальцэтам.

— Пойдуць усе, даражэнькі мой, пойдуць!..

І пастараўся ўсьміхнуцца як мага бязуважна:

— Хе-хе... А хто ня схоча—к ліхой долі таго, на бок! Ці праўда, Ахрэм Данілавіч?

— Пужаецеся, Цімахвей Міронавіч?

Гвардыян аж падскочыў.

— Я? Баюся? Чаго мне баяцца? Каго мне баяцца? Што, я ўкраў у каго? Што, я забіў каго, абрабаваў? Што са мной зробяць, га? Што са мной зробяць?

Галілей раптам устаў і борзьдзенька падбег да дзьвярэй, на хаду выгаворваючы:

— Чатыры чатырыкі, дзьве растапырыкі, адзін махтын, два вухтаркі...

Гвардыян, як апантаны, закрычаў яму ўсьлед:

— Гэта—карова! Ту, Галілей! Го-го-го!..

І не спазнаць было, ці гэта ён так засьмяяўся, ці агатукаў у шалёнай злосьці.

Галілей ужо добра ведаў, што Цімахвей Міронавіч канечна прыбяжыць на сход, што ён чуе сілу сваю, але троху пабойваецца, і што за гаспадарку сваю, за жыцьцё сваё сытае будзе трымацца зубамі аж да астатняга дыху.

Галілей загадзя ведаў, хто што будзе гаварыць і як хто будзе паводзіць сябе на сходзе, аднак адзін з першых прыгрусіўся ў зусім пусты яшчэ нардом і заняў у куточку сабе стратэгічна-выгоднае месца.

І вышла-ж так, што Галілей цалкам памыліўся.

Першае, што ашукала яго, тэта—склад сходу. Сыйшліся бадай адны бабы. Ніхто з галоўных местачковых верхаводаў не зьявіўся. Прахор і той прыбег толькі з палавіны сходу. Нават Цімахвей Міронавіч (заўважце гэта), нават Цімахвей Міронавіч Гвардыян астаўся ў хаце. З прычыны гэткага непаразуменьня зайшло было пытаньне аб тым, ці ня варта адкласьці сход, і стары ненавісьнік і вораг жаночага роду дзед Пілін з нясусьветнай пагардай зазначыў:

— Які-ж гэта сход? Гэта-ж—бабы!..

Але дзеду Пілішу дала добрага чосу Вера Засуліч—што, бабы хіба ня гэткія самыя людзі і грамадзяне?—дык дзед Пілін змоўк і з дэманстрацыйнай бязуважнасьцю закурыў сваю вялізарную старасьвецкую піпку.

Сход адкрылі. Даклад рабіў (зноў Галілей памыліўся) не Карызна, а малады рабочы-брыгадзір з Менску. Пачаў ён гаварыць зусім ціха, спакойна, нібы й не на сходзе. Таму адразу-ж з бабскае гурмы вылецела спагадлівая рэпліка:

— Бедненькі! Як перад сьмерцю...

Але Зелянюка гэтым ня йме ш! Не зьвярнуўшы ўвагі на рэпліку, ён гаварыў далей тым-жа тонам, толькі насыціў словы свае большаю нутраною напружнасьцю. І бабы мусілі скарыцца—сунялі свой пчаліны гуд, сталі слухаць з належнай увагай.

Галілей з свайго стратэгічнага пункту пільна ўзіраецца ў дакладчыка, вывучае яго.

— Што-ж, гаворыць ён з сэнсам. Пачаў зусім здалёку—дзе тая калектывізацыя, няма ніякай калектывізацыі, ані слоўца пра яе, ані зыку!—можна слухаць зусім спакойна: от, расказаў пра буржуазію, пра замежныя дзяржавы, успомніў паноў, окупацыю, тое, другое. Галілею гэта дужа падабаецца. Ён ведае, да чаго ўсё яно прыдзе, але-ж трэба падвесьці так, падвярнуць, каб і ня зьмецілі, як яно тое галоўнае наповерх высьлізьне. О, гэта хлопец-зух, няма чаго казаць!

Ну вось, цяпер пра гаспадарку. Пэўна, што гаспадарка—дрэнь. Ува ўсіх—дрэнь. Дзе-ж тут дужа разгонішся на гэткіх істужках ды з гэткім начыньнем, з гэткай худобай... У Гвардыяна?.. Ён ужо знае Цімахвея Міронавіча Гвардыяна? Ого, ён нават ведае ўсё пра яго мінулае, нібы жыў разам з ім, нібы разам з ім гойтаўся ў тым высачайшым гамаку!

Во, гэта хвацка! Чыкрыжыць, як рэпу грызе...

Яно што праўда, то праўда: гуртам рабіць ямчэй, гэта табе нават хтохаця пацьвердзіць. Буйная гаспадарка—пэўна, што: машыны, угнаеньне, севазварот, адным словам—тэхніка. Тут табе такога можна намудраваць, што ого-го! Але што-ж ты паробіш з гэтымі квактухамі, якім нічога няма мілей за іхнага старога гнязда!

Божухна-бацюхна! Дзе яны панабіраліся гэткага спрыту! Не раўнуючы, як тыя галкі, калі спудзяць іх з іхнага седала. Крычаць, лемантуюць, адна адну перапыняюць, адна адну ня слухаюць, кожная крычыць сваё, аб сваім, кожная толькі сама сябе й чуе.

Ну, тут ужо Пацяробу работа. Ён як бач суніме ўвесь гэты гармідар, на гэта ён майстра.

— Ціху, бабкі! Бабачкі, родныя, ціху! Ціху, бабачкі, каб вас пярун пасмаліў. Ціху вы, ну!

І гэтага апошняга «ну» бабачкі ўсё-такі паслухалі—скомчылі, сьціснулі гоман свой і памалу змоўклі.

— Хто хоча гаварыць—прасі слова. Гаварыць па адным, а ня ўсе разам.

Бабы маўчаць. Бабы ня ўмеюць прасіць слова, ня прывыклі гаварыць па рэгляманту.

— Ну, хто хоча слова, чаго маўчыцё? Гаварыце!

І праўда, загаварыла бабылка Аксіньня. Аб чым-жа больш?—загаварыла аб сваім гаротным жыцьці, аб тым, што ёй ходу няма, што ўсе яе крыўдзяць, што няма ёй ніякае дапамогі ад савецкае ўлады. І ці толькі пусьціла яна першую сваю бабскую сьлязу, як грымнулі ўсе, загарлалі, зноў узьнялі нясусьветны вэрхал.

І так—скрозь.

А мужчыны, якія й ёсьць тут, маўчаць. У мужчын політыка— хай яны пакрычаць, што з іх возьмеш, ведама—бабы!—а тым часам можа пасьвятлее троху, відней стане, як там і што. Нават заядлы Прахор і той толькі махае нешта рукамі адзаду, нешта злосна даводзіць гуртку маўклівых сялян, а на людзі выходзіць ня важыцца.

Так і прайшоў гэты сход. Гаварыў яшчэ і Карызна і Пацяроб, і Віктар, і Вера Засуліч, але вынік быў адзін: крычалі бабы, выліваючы ў тлумны гармідар сваё бясприччыннае ці можа многапрычыннае абурэньне, і маўчалі мужчыны, ці то цішком згаджаючыся з бабскім крыкам, ці то проста чакаючы нейкага дальшага высьвятленьня.

Пастановы на тым сходзе не ўхвалілі ніякай, і Галілей пашоў дахаты яшчэ больш заклапочаны, з яшчэ большым неўразуменьнем у сваёй непакойнай істоце.

Ідучы паўз вялікі чысты дом Цімахвея Міронавіча Гвардыяна, ён на момант суняўся, нібы хацеў быў зайсьці туды, але падаўся далей. І дзіўнае пачуцьцё зьявілася тут у Галілея да Цімахвея Міронавіча: ніто жаль нейкі, ніто агіда, ніто страх перад нечым няўхільным і жудасным. Адно зусім ясна было Галілею: сёньня стаў Гвардыян новы, інакшы, не такі як быў,—сёньня прылюдна паказаў на яго пальцам нехта вялікі і грозны, паказаў і пакінуў яго ў страшной адкрытасьці.

... Якая гэта йдзе рэвалюцыя? Ці тая яна ці нейкая іншая, новая. Куды яна пойдзе?

У Галілея гэтульк: клопату! Галілеева сухенькая галава проста трашчыць ад турботных думак.

... Ішлі разам са сходу: Карызна, Пацяроб, Віктар і брыгадзір Зелянюк. У Карызны засталося цьмянае нездавальненьне: сход быў відочна няўдалы. Пацяроб лаяўся і ўсё даводзіў, што трэба больш рашуча, што трэба «закруціць, каб»... і г. д. Зелянюк весела сьмяяўся, успамінаючы асобныя сцэнкі са сходу. Ён быў цалкам здаволены.

— Пачатак добры... Трудна было чакаць лепшае ўдачы.

Карызна зьдзіўлена і троху дасадліва запытаў:

— У чым тая ўдача?

— Як у чым? Гэта-ж зусім зразумела... Галоўнае нам—разварушыць сялянскую думку. А ці-ж гэтага няма? Бабскі гармідар—гэта-ж знадворнае выяўленьне патрэбнага нам разварушэньня. Мужчыны бязумоўна такога самага настрою, як бабы, толькі дыплёматычна маўчаць. Дармо! Хай памаўчаць, хай пакумекаюць. Раз узрушыліся, раз злуюць, крычаць, значыць—дадзела, узяло за жывое, значыць, добра, глыбока прадумаюць над усім гэтым. І вось—найлепшая глеба да далейшае працы. Разумееш, дружа?

І ён весела падміргнуў Карызну сваім касаватым вокам.

... Што-ж, можа, ён і мае рацыю. Можа і сапраўды гэта добра. Ды Карызна таксама ня надта ўдаецца ў роспач. Хай-бы сабе і няўдача была тут—дармо, яго гэта ня спыніць: ён умее змагацца з перашкодамі.

У Карызны таксама зусім добры, бадзёры настрой!

*(Працяг будзе).*

# СЫН[1])

*(Кіно-аповесьць)*

**Р. Мурашка**

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

Весела глядзіць з сіняе вышыні вясновае сонца. Зыркімі праменьнямі заліваецца вуліца павятовага гораду.

Тротуарам ідуць людзі. Радасьць вясны на тварах. У вочы б'юць густыя праменьні вясновага сонца.

Дзяўчына ў адзеньні гімназісткі. Дзяўчыне 16—17 год. Зірк яе ня вытрымлівае сустрэчы з сонцам—міжвольна адварочваюцца вочы.

Вакно сьлясарнае майстэрні.

У майстэрні чалавек пятнаццаць рабочых. На століках, варштатах, на калодках—інструманты, кавалкі жалеза, бляхі, усякія рэчы. На ўсім налёт іржы, гразі.

Бліжэй за ўсіх да вялікага вакна ўвесь заліты сонцам малады рабочы Ігнась. Ён абгладжвае напільнікам нейкія дробныя жалезныя часткі. Час ад часу паварочваецца ён да вакна—тады вочы мружацца на сонцы ў вясновую ўсьмешку.

На вакно падае лёгкі цень.

Ігнась уздымае галаву. Чорныя вочы дзяўчыны ў адзеньні гімназісткі глыбока працінаюць шыбу вакна—сустракаюцца з Ігнасёвым позіркам.

Сонечная ўсьмешка зайграла на твары ў Ігнася.

Адказам—усьмешка на твары дзяўчыны.

Цень зьнікае за вакном.

Раптам Ігнась адрываецца ад работы—слухае. Насьцярожана застыў у руцэ напільнік.

Ігнась бяжыць на двор.

На вуліцы. Ля тротуару вялікі дваровы сабака паваліў маленькага пакаёвага сабачку і той жаласьліва, лежачы на сьпіне, трапеча лапкамі. На сярэдзіне вуліцы стаіць маладая дзяўчына ў адзеньні гімназісткі.

Вока ў вока сустрэлася з Ігнасём—імгненная ўсьмешка прабегла па вуснах. Потым—нецярпліва тупнула нагою.

**— Гэта ваш сабака? Які гадкі!**

Ігнась зьбянтэжаны. Ён ня ведае што рабіць. Кліча.

---

[1]) Гэтая кіно-аповесьць зьяўляецца літаратурным сцэнарыем, напісаным у асноўным паводле майго раману „Сын“ Права на пераробку ў кінофільму перададзена Белдзяржкіно.

Аўтар

**— Кіяш!**

Кіяш падбягае, лашчыцца. Сярдзіта загадвае яму Ігнась легчы пры майстэрні. Сабака неахвотна згаджаецца—ён парываецца бегчы ўсьлед за маленькім сабачкам гімназісткі.

У вокнах майстэрні насьмешлівыя твары рабочых.

Ігнась азіраецца.

Вясновая дзяўчына завярнула за рог суседняга дому на другую вуліцу.

Вуліца з прысадамі. Чысты аднапавярховы асабнячок.

Шпаркая хада ўсхвалёванае дзяўчыны прыпыняецца перад ганкам. Дзяўчына кідае борзды зірк назад і ўзьбягае на ганак.

Ігнася рабочыя сустракаюць з вуліцы па рознаму: адны сьмехам, другія асяроджана-сурова і моўчкі.

**Гуляй-вецер Юзік.**

Ён заліваецца з сьмеху. Але некаторыя рабочыя пазіраюць на яго без патураньня.

Ігнась тушуецца.

Юзік стукае рукою па варштаце.

— **А хацеў-бы я, чорт вашу маму бяры, паглядзець, (што сказаў-бы стары Зусь. Ыш, чорт рыжы, за паненкамі бегаць.**

Сьмех зьнікае з твараў рабочых. Некалькі рук з малаткамі як-бы ненарокам працягваюцца да Юзіка. Адзін рабочы недалёка ад Ігнася паварочвае свой твар да Юзіка.

**Арон.**

Твар яго на шчоках закуты ў сталь мускулаў. Вочы гнеўна глядзяць на Юзіка. Арон гаворыць нешта, не сьпяшаючыся, цьвёрда, пераканальна.

Прыпыняецца напалову рух у майстэрні. Рабочыя слухаюць.

Постаці рабочых. Твары выказваюць Юзіку нездаволеньне, гнеў.

Удзячны погляд Ігнася.

Гульлівы твар Юзіка.

Раптам адзін рабочы махае рукою.

Ажыўлены рух у майстэрні. Усе хапаюцца за работу.

**Зусь-гаспадар майстэрні.**

Рукі рабочых у рабоце. Удары малаткоў. Рух ног ля ножных горнаў. Работа напільнікаў.

Стары Зусь вясёлы сягоньня. Ён у новым лапсардаку, у штанох на выпуск на гамашы. На галаве стаўбунаватая з гузікам на версе шапка. Сівавата-рыжая барада яго схіляецца над варштатам Ігнася. Пальцы перабіраюць, мацаюць работу.

Юзік парываецца ўвесь час нешта сказаць.

Строга глядзіць на яго Арон.

Натхнена-задуменны Ігнась—перад вачыма вобраз вясновае дзяўчыны.

Зусь задаволены. Ён хлопае Ігнася па плячы.

Вінаватая ўсьмешка прабягае па твары Ігнася.

Зусь глядзіць на яго, сьмяецца і падыходзіць да Юзіка.

Твар Зуся. Хмарка наплывае на яго.

Зусь кідае на варштат работу Юзіка.

**— Табе трэба вучыцца ў Ігнася.**

Расчараваны твар Юзіка.

Работа ў майстэрні на поўным ходу.

На захадзе сонца. Вуліца перад майстэрняй. У розныя бакі разых дзяцца рабочыя.

Арона спыняе за рукаў Ігнась.

**— Дзякую табе, Арон. Я ніколі не забудуся пра тваю помач мне сягоньня.**

Усхвалёваны твар Ігнася. Ён удзячна глядзіць на Арона.

Арон хмурыцца, пазірае пад ногі.

**— Не забывайся, для таго каб не пакінуць у бядзе такога, як сам.**

Твар Аронаў сьвятлее ад нейкае радасьці. Ён бярэ Ігнася за руку.

Цагельная вуліца. На гэтай вуліцы толькі адзін цагляны дом, дый то на адзін паверх.

Драўляныя тратуары чарнеюць ад павыгніваўшых шчарбін.

Хмары вераб'ёў пры тратуарах дзяўбуцца ў вулічным сьмецьці. Яны без жаднага страху прапускаюць паўз сябе Ігнася з Аронам. Толькі сабака спуджвае іх. Вераб'і разьлятаюцца, але зараз-жа садзяцца за дзесяць крокаў ад старога месца.

Кватэра—пакой Арона ў драўляным доме. Дашчаныя сьценкі аддзяляюць яго ад другіх пакояў. У пакоі ўсяе і мэблі што ложак ды стол. Замест крэсла ля стала стаіць высокая скрыня.

Арон рукою паказвае Ігнасю садзіцца на ложку. Падымае цяжкое века скрыні. З бялізны і вопраткі дастае дзесяткі два брашур.

Ігнась перагортвае кніжкі:

Назвы сацыял-дэмакратычных брашур.

Недаўменьне на твары Ігнася.

**— Што гэта за сацыял-дэмакраты, Арон?**

Арон устае на ўвесь рост. На суровым твары ажыўленьне. Ён гаворыць. Праменьні заходняга сонца чырвоным золатам асьвятляюць Арона.

**— Гэта змаганцы за чорны рабочы люд, Ігнась. Але ўлада арыштоўвае іх, саджае ў турмы, вешае, расстрэльвае.**

Ігнась парыўчата ўстае з ложка. Яму радасна і цяжка ад Аронавых слоў.

**— Каб ты ведаў, як мне цяжка было жыць у вёсцы з маткаю. Але матка вучыла мяне карыцца людзям.**

Старэнькая вясковая хатка. Прызба разбурана. Пад падрубы можа падлезьці чалавек. Варотцы ў двор пакасіліся і не зачыняюцца. На старой абымшэлай стрэсе вецер паўзрываў салому. Салома жмутамі зьвісае перад вокны. Маленечкія ваконцы на дзьве шыбы...

Ігнась гаворыць Арону.

**— Аднойчы... У хаце ні скарынкі хлеба... Ні жменькі мукі...**

У старэнькай хатцы плача бабылька Агапа—матка Ігнася.

У хаце мізэрна. Зямляная падлога падобна на прытоптаную ральлю.

Сьлёзы Агапы.

З-за стала, на якім рассыпаны толькі драбнюткія сухія хлебныя крошкі, выскаквае васьмігадовы Ігнась.

Ён абнімае матку, суцяшае, цалуе яе сухія, худыя рукі.

Ігнась апавядае Арону...

Вясковая вуліца.

Да спарахнелага плоту прытуліўся Ігнась.

Дзеці падбягаюць да яго, скубуць за зрэбную кашулю, за рыжаватыя валасы, крывяць яго, дражняцца.

Ігнась не адбіваецца—матка вучыла яго карыцца людзям.

Па вуліцы ідзе чыста апранутая, у крамным, дзяўчына-падлетак. Яе твар ахутаны чорнымі кучаркамі валасоў.

Дзяўчына адганяе ад Ігнася дзяцей.

На твары ў Ігнася сьлёзы.

Дзяўчына выцірае іх проста рукою, гладзіць па галаве.

Спачувальны дзяўчынін твар.

Дзяўчыніны пальцы квола гладзяць рыжаватыя хлапчуковы валасы.

Ігнась гаворыць Арону.

**— Люба была вельмі добрая да мяне, хаця яе бацька-стараста—страшэнна ня любіў гэтага.**

Арон кладзе на плячо Ігнасю руку.

Апошнія праменьні густою чырваньню заліваюць пакойчык.

Арон і Ігнась залітыя чырваньню праменьняў.

Арон паціскае працягнутую Ігнасём руку.

**— Вучыся любіць і ненавідзець, Ігнась.**

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

Вузкая роўная істужка дарогі цягне цераз шырокі панскі палетак у лес. Па абодва бакі дарогі хвалістае жыта. Жыта красуе. Пры павевах ветру над палеткам плыве пыл красаваньня.

Вузкая істужка дарогі перарэзвае лес. Высокія сьцены падгалістых соснаў абступаюць яе з двух бакоў.

Дарогаю ідзе Ігнась. Змазаныя дзёгцям боты пасівелі ад пылу.

Уперадзе бяжыць Кіяш.

На скрыжаваньні лясных дарог—густа парослых альховых хмызьняком.

Кіяш варожа ахібіўся і забрахаў.

З кустоў яму насустрач здаравецкі аўчар.

На скрыжаваньне выходзіць згорбленая пад цяжарам вязанкі сухога гальля старая кабета.

Ігнась парываецца падбегчы да яе.

**— Мама!**

Агапа чуе голас сына. Яна кідае гальлё далоў, дае крок уперад, да Ігнася.

З-за куста працягваецца рука ў тонкай пальчатцы, груба хапае за плячо Агапу.

На скрыжаваньне выходзіць са стрэльбай на плячы пан. Ён сярдзіта гаворыць нешта. Гэстам загадвае Агапе падняць вязанку і несьці.

Адным рыўком Ігнась становіцца перад панам, загароджвае дарогу.

Пагарда і грэблівасьць на твары ў пана.

Усхваляванасьць і абурэньне на твары Ігнася.

Спалох і тупая пакора ў вачах і ўсёй постаці Агапы.

Ахібіўшыся застылі ў баку адзін перад адным сабакі.

Пан зьняважліва глядзіць на Ігнася з Агапай.

— **Зладзеі! Хамы!**

У адзін мускульны камяк **сьціснуўся Ігнась.** Адзін момант. Плявок ляціць у твар пану.

Зрываецца з пляча панская стрэльба.

У ногі пану кідаецца Агапа.

З-за павароткі вытыркаецца сялянская хурманка. На возе двое.

Старэйшы селянін кіруе канём. Малодшы хапае за лейцы, спыняе каня.

Высозная дужацкая постаць з назвычайнай шпаркасьцю пераківаецца цераз аглабіну.

Шырокім размашыстым крокам падыходзіць да Ігнася з панам малодшы селянін.

Ігнась яму кажа некалькі слоў.

З абурэньнем ссоўваюцца бровы ў высокага селяніна.

— **Дзе тваё сумленьне, пан. Як табе ня брыдка!**

Рука пана, абцягнутая тонкаю пальчаткаю, дакранаецца грудзей селяніна—прэч з дарогі.

Селянін гнеўна ўсьміхаецца, загароджвае дарогу пану.

З воза злазіць другі селянін.

Ігнась падымае матку.

Момант... Высока ўзьлятае ў руках пана стрэльба, гатовая раструшчыць галаву высокаму селяніну.

Селянін угінаецца.

Ад удара кулаком у зубы пан ляціць далоў.

Стрэльба ў руках селяніна.

Кіяш кідаецца на панскага аўчара.

Грызуцца сабакі. Сьліна павісае на поўсьці. Шэрсьць ляціць камякамі.

Паволі ўстае пан. Сплёўвае кроўю.

Аўчар агрызаючыся адыходзіць да пана.

Страшная ўсьмешка на твары высокага селяніна.

— **Ідзі, пан, сваёй дрогай. А то *і* з табою будзе, як з тваёю вось стрэльбай.**

Селянін замахваецца. Ад моцнага ўдара аб сасну падае далоў пераламаная стрэльба.

Нявідушчым ад злосьці і болю позіркам аглядае ўсіх пан. Кліча аўчара—і разьвінчанай хадою ідзе ў лес.

Высокія селянін пытаецца нечага ў Ігнася. Ківае галавою другому.

Старэйшы бярэ вязанку гальля, ускідае на воз. Потым адыходзіцца, падымае разьбітую стрэльбу. Аглядае глыбокадумна.

— **Усе костачкі пераламаў, от сіла. А шкад, добрая стрэльба была.**

Высокі рагоча, аж зацекаецца са сьмеху. Лэпае старэйшага па плячы.

Садзяцца ўсе на воз. Конь порстка бярэ з месца. Хурманка зьнікае ў лесе.

На месцы нядаўнага здарэньня, густыя сьляды ног, кроў выплюнутая панам. Пад сасною раструшчаная стрэльба.

Двор бабылькі Агапы.

Перад дваром на вуліцы стаіць хурманка.

З сянец выходзяць двое сялян.

У вышэйшага ў руках пара кніжак.

У правым верхнім кутку кніжкі на вокладцы:
„Пролетаріи всѣхъ странъ, соединяйтесь!“
Сяляне разьвітваюца з Ігнасём за руку.
Ігнась лаціскае руку з пачуцьцём жывое радасьці.
**— Бывай, Дуб. Бывай, Ясь. Будзеце ў горадзе—заходзьце.**
Пад сенцамі ляжыць вязанка сухога гальля.
Вялікі панскі двор. Наўкола—хлявы, стадолы, гумны. У цэнтры—пакоі.
Да пакояў ідзе пан.
Рука заціскае хустачкаю рот. Хустачка запэцкалася ў кроў.
Пан у апошняй стадыі злосьці.
Цераз двор хуткім крокам, як качка, перакульваецца з нагі на нагу аконам. Як каштоўную ношлю, горда нясе ён перад сабою вялізнае пуза. Боты з нізкімі халяўкамі капрызна пазморшчваліся, запылены. На левай руцэ, на тонкім раменьчыку бяскрыўдна пацялепваецца гарапнік.
Пан кліча.
Аконам паскарае крок.
Маленькая шапачка з лякіраваным брыльком на хвіліну агольвае перад панам потную лысіну аконама.
Пан нечага пытаецца. Час-ад-часу паміж слоў аднімае хустачку ад роту—сплёўвае чырвонаю сьлінаю.
Рука з гарапнікам у аконама павісае ўздоўж цела. Міргаюць часта вочы. На кончыку носа павісла кропелька поту.
Пан падступаецца блізка да аконама. Раптам крычыць, тупаціць нагою.
Аконам азіраецца ўкрадкі. Страх на твары зьмяняецца спакойнай надзеяй. Палец працягнутай аконамавай рукі паказвае пану на дарогу.
З дарогі ў прысады зварочвае панская брычка.
Пан з аконамам моўчкі глядзяць.
Пара вараных выносіць брычку пад самыя пакоі.
Запыленыя коні стрыгуць вушамі.
З брычкі выскакваюць дзьве дзяўчыны ў адзеньні гімназістак.
Меншая, стройная,—з тварам вясновай дзяўчыны з першай часткі,—сваячка і хрышчоная дачка пана, Ларыса Няслаўская, бяжыць да пана.
Хросны сярдзіта адмахваецца рукою.
Ларыса з недаўменьнем спыняецца.
Па знаку аконама пад'яжджае брычка.
Пан садзіцца і грузна адкідаецца да сьпінкі сядзеньня.
У момант прысады хаваюць за сабою брычку з панам.
Ларыса паказвае нос усьлед яму і заразьліва смяецца.
— Другая, Люба—з Ігнасёвых успамінаў у першай частцы—як-бы дакараючы, ківае галавою.
Сьмех быццам зьмятаецца з твару Ларысы. Сур'ёзна пра нешта пытаецца ў аконама.
Пячатка суровасьці закрывае апошнія сьляды сьмеху.
Ад аконамавых слоў мяняецца на твары Люба. Вочы з маленьнем глядзяць на Ларысу.
Ларыса занята ажыўленай гутаркай з аконамам.
Далёка на дарозе шпаркім трухам ад двара ўсё далей і далей едзе панская брычка.
Аконам разьвітваецца.

Ларыса энэргічна хапае за руку Любу.

Хурман панскае брычкі падшлёгвае ўспацелых коняй.

Грузна адкінуўшыся да сьпінкі сядзеньня, на вышэйшай ступені гневу пан.

На лясной дарозе, дзе адбылося няпрыемнае здарэньне з панам,— Ларыса з Любай.

Высокія сьцены соснаў абступаюць дарогу.

На скрыжаваньні пад сасной раструшчаная стрэльба.

Панская брычка шпарка едзе па роўнай шляхавой дарозе. Мільгацяць сьпіцы колаў. Зямля ўцякае з-пад капытоў успацелых коняй.

З узгорку адкрываецца панарама гораду.

Дарога з лесу выводзіць Ларысу з Любай у поле.

За полем у лагчыне саламянай вужакай пад сонцам раскінулася вёска.

Пафарбаваны ў жоўтую фарбу аднапавярховы дом на ціхай вуліцы ў горадзе.

Прасторны відны габінэт у доме з двумя вокнамі на вуліцу. На сьценах партрэты цара Мікалая II і самавітых выглядам генэралаў.

За пісьмовым сталом пад партрэтам цара вусаты чалавек у форме жандарскага ротмістра. Чытае і падпісвае паперы.

На паперах мільгаціць:

**Его превосходительству, Минскому Губернатору**

Начальнику Минского губернского жандармского Управления.

Пешчаная белая рука з пярсьцёнкамі на пальцах падпісвае.

Подпісы, выведзеныя нясьпешным, чытэльным, старанным почаркам пад словамі:

**«Жандармский ротмистр» Налимов.**

У напалову адчыненыя звонку дзьверы ўваротка пралазіць фігура жандара без галаўнога ўбору.

Жандар выцягваецца ў струнку для дакладу ротмістру.

Ротмістр слухае, не адрываючыся ад папер. Кіўком галавы адпускае жандара.

Чоткі паварот ног вышкаленага жандара.

Жандар зьнікае.

У габінэт заходзіць хросны Ларысы Няслаўскай.

Ротмістр устае з крэсла. Гасьцінным рухам рукі запрашае садзіцца.

Вузкаю вуліцаю вёскі ідуць Люба з Ларысай.

Двор бабылькі Агапы.

Пад сенцамі ляжыць вязанка сухога гальля.

На двор выходзіць Ігнась. Боты пасьля дарогі вычышчаны ад пылу. Ён у чорнай картовай кашулі падпярэзаны паяском з кутасамі.

Перад дваром спыняюцца дзяўчаты.

Ігнась нерашуча памыкаецца схавацца ў сенцы, але замест гэтага толькі мітусіцца на месцы.

Люба паказвае на яго Ларысе—і абедзьве заварочваюць у двор.

Ігнась яшчэ ў большым зьбянтэжаньні—перад ім тая самая дзяўчына з вясновай усьмешкай.

Ларыса з упартай цікавасьцю разглядае Ігнася. Ёй быццам падабаецца такая зьбянтэжанасьць гэтага вясковага хлопца.

Люба вітаецца з ім за руку. Знаёміць з Ларысай.

**— Лепшы сябра маіх дзіцячых год.**

У габінэце жандарскага ротмістра.

Насілу стрымліваючыся, гаворыць пан і...

Перад вачыма ў ротмістра праходзіць сцэна здарэньня ў лесе.

Ротмістр слухае і піша адначасова.

Двор бабылькі Агапы.

На заслоне пад сенцамі сядзяць Ларыса з Любай.

Перад імі стаіць нязграбна Ігнась.

Жвавая гутарка.

Ларыса гаворыць да Ігнася.

**— Асьцерагайцеся... Хросны напэўна паехаў у паліцыю.**

Цень балючае трывогі прабягае па твары ў Ігнася—ён сустракаецца праз вакно з пакорным, пакутным поглядам жаласьлівых вачэй маткі.

Рука над сьпісаным лістом паперы нэрвова выводзіць пяром:

*„Владѣлецъ имѣния Славное Вайниловичъ.“*

Адкрываецца ўвесь габінэт.

Вайніловіч разьвітваецца з ротмістрам.

Ротмістр ветліва праводзіць пана да дзьвярэй.

Цемнаваты, сьціпла абстаўлены пакой з адным вакном на нейкі двор.

Ротмістр адкінуўся на сьпінку крэсла. З асалодай курыць цыгару.

Колцы дыму адно за адным выходзяць з зробленых кружочкам губ ротмістра. Колцы даганяюць адно аднаго, разьбіваюцца. Хваля шызага дыму плавае над галавою ў ротмістра.

Павольна адчыняюцца бакавыя дзьверы.

Асьцярожна прасоўваецца з гладка прылізанымі валасамі галава.

Глыбока захапіўшыся колцамі дыму, ротмістр ня чуе.

У пакой праціскаецца фігура шчытольнага павятоўца (вучня павятовага вучылішча), у блішчаста начышчаных гамашах з шапкай у руцэ. Украдлівай хадою падыходзіць з боку да ротмістра.

Колцы дыму—адно за адным выходзяць з кружочкам пастаўленых губ спакойнага ротмістра.

Павятовец падплывае ўсё бліжэй ды бліжэй.

Захоплены ротмістр ня чуе.

Павятовец кашляе ў кулак.

Ротмістр уздрыгвае. Цыгарка падае на стол.

Павятовец кланяецца з пашанай.

На паклон павятоўца ротмістр адказвае лёгкім, крыху грэблівым кіўком галавы. Няўважлівым рухам рукі паказвае на крэсла. Пальцам ад сябе падсоўвае павятоўцу раскрыты пачак з цыгарамі.

Пакуль павятовец раскурвае цыгару, ротмістр дастае з шуфляды ліст паперы.

**— Важнае заданьне, Юркевіч. Высьвятліць, хто гэтыя асобы і што яны... Азнаёмцеся з лістом. А гэта на выдаткі.**

З шуфляды стала, падхопленыя двума вышешчанымі ротмістравымі пальцамі, паўзуць і кладуцца перад павятоўцам крэдытныя білеты.

З цыгарай у зубах, Юркевіч трымае правай рукой ліст паперы. Не адводзячы воч ад паперы, левай машынальна загрэбае і хавае ў кішэню грошы.

У дварэ бабылькі Агапы пад сенцамі вязанка сухога гальля.

Перад вачыма Юркевіча ліст паперы.

Пад лістом подпіс:

Владѣлецъ имѣния Слаўное Вайниловичъ

Зацямненьне.

Перад вакном накрыты мярэжавым настольнікам невялікі стол. На стале і на этажэрцы побач кнігі.

Пры стале сядзіць Люба. Позірк задуменна ўпяты ў вакно.

За вакном...

Дом з пакоем дзяўчыны на нявысокай горцы. З горкі сыходзіць вузкая ўтоптаная сьцежка. Сьцежка абрываецца пры рацэ.

Старыя вербы з раскідзістым гальлём уставілі сабою абодва берагі.

На рацэ лодкі, чаўны. На лодках і чаўнох вясёлая гарадзкая моладзь, гімназісты, павятоўцы. Дзяўчаты і хлопцы апранутыя пасьвяточнаму.

Узьнімаюцца і апускаюцца шпарка вёслы.

Дзьве лодкі ідуць навыперадкі.

На пярэдняй Ігнась з рабочым Яўхімам з майстэрні Зуся. На дне лодкі скурчыўся Кіяш. Відаць, як напружваюцца мускулы на руках грабцоў. Жылы на руках праступаюць цёмнымі шнурамі. Сьпіны згінаюцца і рэзка разгінаюцца.

На другой два павятоўцы. Адзін з іх Юркевіч. Павятоўцы прыкметна астаюцца.

Насустрач пярэдняй лодцы з-за крывуліны выплывае лёгкі човен. У чоўне Юзік.

Юркевіч падае знак Юзіку, паказвае на лодку супаратаў.

Юзік ківае галавою. З размаху ляціць наперарэз Ігнасю з Яўхімам човен.

Катастрофа без чалавечых ахвяр: лёгкі човен Юзіка ня вытрымлівае сутычкі, зачэрпвае берагам вады.

Валтузіцца ў рацэ Юзік.

Ігнась з Яўхімам пryганяюць лодку пад бераг.

Ігнась вылазіць з Кіяшам, не азіраючыся ідзе сьцежкаю на горку к дому.

Павятоўцы выцягаюць Юзіка.

Дагары дном на сярэдзіне ракі плыве човен.

Юзік грозіць кулаком усьлед Ігнасю.

Яўхім адпіхаецца ад берага, рагоча.

Лодка павятоўцаў высаджвае на бераг шчыгольнага Юркевіча з Юзікам.

З Юзіка цуркамі сьцякае вада, ён атрэпаецца.

Юркевіч закурвае. Дае папяросу Юзіку. Гаворыць нешта на вуха неўзаметку.

Юзік ківае галавою.

Юркевіч ідзе сьледам за Ігнасём.

На ясна начышчаных гамашах павятоўца адблісквае вясёлае сонца.

У пакоі ў Любы. Люба ўсё таксама сядзіць пры стале. Але ў пакоі поўна моладзі—больш павятоўцаў.

Высокі кучаравы студэнт раздае павятоўцам сьпісаныя ад рукі лісты паперы.

Загаловак сьпісанага ліста.

**Працавіта бедната ўсіх краіоў, злучайся.**

**Нарыс програмы Беларускай Соціалистычнай Громады.**

Павятоўцы чытаюць.

Раптам студэнт падбягае пад дзьверы:

Паўз вакно мільгануўся цень.

На тварах трывога.

У кулакох камечацца лісты паперы.

Павятоўцы стоўпіліся пасярод пакою. З дрыглівых пальцаў у аднаго падае далоў скамечаны лісток праграмы.

Люба ўстае ад стала. Па дарозе расьпіхае павятоўцаў. Усьміхаецца хваравіта, адным вуснамі, студэнту. Вялікія вочы шырока раскрыты.

Дзьверы зачыняюцца за Любай.

Студэнт становіцца ў абаронную позу з рукою ў кішэні.

Незавіднае становішча павятоўцаў. З пакутай у поглядзе ўсе чакаюць нейкага канца.

**Іх першае рэволюцыйнае хрышчэньне.**

Спакойна прачыняюцца дзьверы.

У вялікіх ботах нязграбна ўваходзіць Ігнась. Здымае шапку, нерашуча спыняецца.

Наперад заходзіць Люба. Бярэ за руку Ігнася, падводзіць да павятоўцаў і студэнта—будзьце знаёмы. На твары несхаваная радасьць.

Рух у пакоі.

Абмяклы выраз твару ў павятоўцаў.

Студэнт пакідае сваю абаронную позу. Лёгка ўздыхае, усьміхаецца вінавата.

Ігнась няпрывычна садзіцца на падстаўленае Любай крэсла.

Студэнт выцірае хустачкай пот на твары. Адкідае з ілба валасы. Аднэй рукой усьпіраецца на сьпінку крэсла. Загараюцца бляскам вочы.

**— Сябры мае! Сыны гаротнага нашага беларускага народу...**

Задуменны выраз твару ў Любы.

Ігнась пазірае то на Любу, то на павятоўцаў, то на студэнта.

Сьлед зьбянтэжанасьці і спалоху сыходзіць у іх з твару.

**— Некалі беларус быў слаўны і магутны і далёка чуваць было яго за межамі. А цяпер...**

На твар студэнта кладзецца пахмурны цень. Ссоўваюцца бровы. Стукае кулаком па сьпінцы крэсла.

Прамень сонца заходзіць праз вакно ў пакой, асьвятляе Любу.

Сьлязінка выплывае на шчаку, блішчыць на сонцы. Шаволяцца вусны.

**— Бедны пакутны народ.**

Студэнт садзіцца.

У кучцы павятоўцаў ажыўленьне.

Грымаса нездаволеньня на твары Ігнася.

На падлозе забыты камячок паперы.

Ажыўлёная гутарка перапыняецца. Усе пазіраюць на Ігнася.

Ігнась скоса ўсьміхаецца.

**— Як гэта бараніць увесь беларускі народ? А як-жа вы, дарэчы, в яўрэйскім думаеце?**

Павятоўцы загаманілі ўсе разам.

Студэнт узьняў галаву, устаў.

**— У яўрэяў ёсьць свае партыі, якія і бароняць і змагаюцца за правы свайго народу. Бунд-жа вось не змагаецца за беларускі народ. А мы змагаемся, каб вызваліцца з-пад прыгнётаў расійскага царызму і аднавіць беларускую дзяржаўнасьць. Мы хочам быць самі сабе панамі.**

Павятоўцы пляскаюць у далоні студэнту.

Студэнт насьмешліва глядзіць на Ігнася.

Ігнась спакойна вытрымлівае погляд.

Сьціхае авацыя студэнту.

Ігнась устае.

**— «Мы хочам быць самі сабе панамі». У сваіх маёнтках, ці як гэта?**

Люба раптам усхапляецца з месца, ідзе да дзьвярэй. На хаду сьцірае рукой сьлязінку.

Студэнт пераглядваецца з павятоўцамі.

Насьцярожанае чаканьне ў пакоі.

У расчыненыя дзьверы ўбягае Кіяш.

За Любай заходзіць Юркевіч.

На момант шчыгольны павятовец зьдзіўляецца такому зборышчу. Потым рашуча падыходзіць да павятоўцаў—вітаецца за руку. Перад студэнтам прыстуквае заднікамі ясна начышчаных гамашаў.

Ігнась садзіцца.

Юркевіч абводзіць поглядам усіх прысутных.

**— Вялікая, але невясёлая кампанія.**

Люба грэбліва моршчыцца.

Студэнт перахоплівае погляд Любы. Не разьвітваючыся выходзіць.

Вочы Юркевіча борзда праводзяць яго і паварочваюцца да павятоўцаў.

Два павятоўцы ўстаюць і выходзяць сьледам за студэнтам.

Кіяш віляе хвастом перад Любай. Хвост сабакі дакранаецца нагі Юркевіч. Ён глядзіць уніз.

У абсяг зроку Юркевіча падпадае папяровы камячок на падлозе.

На адтапыраным беражку паперы абрыўкам:

**— Працавита бедната ўсіх краіоў, злучайся**

Прысутныя хлапцы гамоняць з Любай. Для іх быццам ня існуе Юркевіча.

Ігнась адвярнуўся, глядзіць у вакно.

Быстрым позіркам азірае ўсіх Юркевіч.

Кіяш віляе хвастом.

Люба машынальна цярэбіць сабаку за вушы.

Папяровы камячок ляжыць на падлозе каля Кіяша.

Фіксавальны позірк Юркевіча на скамечанай паперы.

Рухаецца нага Юркевіча ў блішчастым гамашы.

Юркевіч бесклапотна напявае песеньку і ў тахту ёй ківае галавою, пагойдваецца ўсёй постацьцю. Яму няма ніякае справы да ўсяе гэтае кампаніі. Але вочы Юркевіча ўпарта фіксуюць папяровы камячок на падлозе і адрываюцца толькі для таго, каб імгненным зіркам абвесьці ўсіх у пакоі.

Нага Юркевіча ў бліщчастым гамашы адбівае тахты песьні. З кожным тахтам нага ўсё бліжэй ды бліжэй да скрутка.

— **У невясёлай кампаніі Юркевічу весела.**

Прамень сонца выцяўся ў бліщчасты гамаш. На Ігнасёў твар аднекуль ускочыў зайчык.

Зайчык на твары непакоіць Ігнася. Рука праводзіць па твары, як-бы хочучы сагнаць тое, што яго непакоіць.

Зайчык зьнікае. Нага ў бліщчастым гамашы наступіла на папяровы камячэк.

Юркевіч сьпявае і пагойдваецца ў тахту постацьцю, але нага не адбівае тахтаў.

Гамаш Юркевіча на паперы.

Люба гутарыць з павятоўцамі.

Лашчыцца Кіяш. Пярэднімі нагамі скача Любе на калені.

Нага Юркевіча павольна, неўзаметку адсоўваецца назад.

Папяровы камячок сунецца пад гамашам да Юркевіча.

Рука Любы адпіхае Кіяша.

Сабака нездаволена садзіцца на заднія лапы.

Пакутлівая грымаса на твары Юркевіча: сабака сеў на бліщчасты гамаш.

Абрываецца сьпеў. Постаць Юркевіча застывае ў напружанай нярухомасьці. Але на твары адчайная рашучасьць.

Рэзкім рухам тузануўся з-пад сабакі бліщчасты гамаш.

У анфас перад Юркевічам патрывожаны злосны сабака.

Нага Юркевіча на скамечанай паперы.

Прысутныя ў пакоі заняты сваёю гутаркаю.

Юркевіч нагінаецца, ня зводзячы з сабакі вачэй.

Да паперы на падлозе працягваецца рука.

Брэх сабакі.

Юркевіч ускаквае спалохана.

У пакоі сумятніна.

Бліщчасты гамаш б'е сабаку.

Зубы сабакі ўхапілі штаніну.

Ігнась кідаецца да Кіяша. Вясёлая ўсьмешка расплываецца па твары.

Зьбянтэжаная Люба.

Неразумеючыя погляды павятоўцаў.

Юркевіча выратоўваюць доўгія ногі.

Мільгаюць у паветры начышчаныя заднікі гамашаў ды разлупленая штаніна.

Агульны заразьлівы рогат у пакоі.

Брэх сабакі.

Люба, рагочучы, гладзіць Кіяша.

Адзін з павятоўцаў трымаецца з рогату за жывот, аж прыгінаецца.

У абсяг зроку пападае папяровы камячок.

Папяровы камячок у руках павятоўцаў напалову разгорнуты.

Сьмех імгненна зьлятае з твару ў прысутных.

(*Працяг будзе*)

## АБ ЧЫМ У ДУМАХ СЬНЮ

**Уладзімер Хадыка**

Была пара—я марыў быць
Вялікім змагаром...
Хацеў я сьвет перарабіць
І мець свой сад і дом.

І ў доме тым, і ў садзе тым—
У суценях кроз густых—
Прымець з пярсьцёнкам залатым
Князёўну дзён маіх.

У ладзе вечным мы жылі-б—
Адна ў адну любосьць.
Была-б і ягада і грыб,
Калі-б наведаў госьць.

Была-б і чарка на стале
Гарэлкі і віна...
У трывозе дум, ў жыцьцёвай мгле,
Як мак, цьвіла-б яна.

Пляла-б (ўлюбёная мая)
Валос жаночых шоўк.
І больш да дому п'яным я
Ніколі-б ня прышоў.

Бутэлькай сэльтэрскай вады
Душа жыла-б дзён сем.
Для песень вызнаных тады
Было-б ці мала тэм.

---

Інакшым ладам быў закон
Падрыхтаваны ў друк.
Я быў сапраўдны плытагон,
Зганяў плыты на брук.

На сонцы высах водны троп,
І каб сухмень мінуць,—
Хадзіў я ў сьвет, як далакоп,
І мог зрабіць труну.

Усім валодала рука.
А днём вялікі лік:
Нідзе князёўны не спаткаў,
Ї сад і дом мой нік.

Ї з садам тым, і з домам тым
Зьнікала золь мая:
Ад жонкі з перстнем залатым,
Памёр адразу-б я.

Прыстаў-бы смутак, як смала—
Ї я-б на трэску ссох.
Ля гаспадарскага стала
Я-б за сабаку здох.

Я саду з домам не хачу
На ўзьвеях дзён цяпер.
Я дбайна нож аб нож тачу,
Калі падходзіць зьвер.

Калі рахманым зробіць твар
Былых лясоў дзікун,—
Я не расслаблены пясьняр,
Я гмах сьмяротных струн.

Я плажма ворага крышу,
Каб ён ня мог схітрыць.
Крывёю лірыку пішу,
Каб вечна з краем быць.

Каб вечна голас мой зьвінеў
Пра нараджэньне дню,
Ї быў ў вятрох, як карны гнеў,—
Аб чым у думах сьню

---

Їду я ніцы ля трысьця,
Праходжу гурт палян...
Над краем горды вольны сьцяг,
Рабочых і сялян.

Прышла пара агнём палаць
Багне балот старых.
Няма чаго мне шкадаваць—
Няхай яна гарыць.

Мінуць гады—і дзень за днём,
Набудзе буйны рост.
Тут будзе мой і сад і дом,
Ї сталых дум форпост.

Адсюль апошні вой змагаць
Я выйду ў пошчак куль.
І ладам песьні кіраваць—
Прыду, прыду—адсюль.

Віхор наступнага зьмяце
Бадзяжных прастарэк,
Каб селі побач на куце,
Паэт і чалавек.

І для таго (ў ашчадзе дум)
Я любы сон пяшчу,
А калі цяжка—ў бараду
Я сам сабе сьвішчу.

А калі сыйдзе мгла хвароб
На рупны наш абшар,—
Ня моршчу з роспачы я лоб,
Ня пуджуся ахвяр.

Я на зламаньне галаву
Насіў ня першы раз.
Як „птушка божая“ жыву,
А ня прыстаў, ня згас.

Бо моц вялікая здавён
Ўрасла у косьць маю...
Я ўзяў галоўны перагон
І вартаю стаю.

Ня мкнуў я ў неба на раду
І ня шукаў пасад...
Вось толькі песьню як складу—
Жыцьцю і людзям рад.

---

Зьбіралі сілу нашых рот—
Бяз зброі мы былі.
Ў адважны вышлі мы паход
І зброю набылі.

Ўздымалі совы рогат з гор,
І злыдні бралі ў сьвіст...
Ад нашай велічы замёр
І на асіне ліст.

Гадоў мінула нам ня шмат,
А нас павек ня зьмяць.
Мы зможам вытрымаць парад,
Мы здольны ў бойку стаць.

Вядзем на праўку пад агонь
На клясавых франтох—
І вербалозную аблонь,
І лукаткі дарог...

І мякнуць шолахі трысьця,
І гіне сум палян...
Над краем горды вольны сьцяг
Рабочых і сялян.

20-VII-1931 г.

# ВАЙНА ЗА МІР

*Паэма*

**Ал. Дудар**

Як шоўк зіхаціць верасьнёвае раньне.
Ідуць муляры на свае рыштаваньні,
і ў мяккіх наплывах разморанай гліны
складаюць радком за цаглінай цагліну.
Стук цэглы, рып дрэва, гамонка і крыкі
гучаць нязвычайнай нейкай музыкай;
і хто мае вушы, каб чуць—той пачуе
выразка, як зноў навальніца бушуе.
Паслухай, як вецер вясёла заводзіць!
Зусім як у тым восемнаццатым годзе!..
Здаецца, што зноў і платы ўсе і хаты
пакрыты адным неадчэпным плякатам:
—Ці ты запісаўся на фронт добравольцам?
Калёнай няўрымснай прайшлі комсамольцы;
ў газэце, ў вітрыне—чарговая зводка;
прамоўца з трыбуны надсаджвае глотку.
І мроіцца нават, што з могілак лезе
Калчак недабіты з калом і абрэзам!..
І зброя браскоча, і песьня шугае...
Так, зноў навальніца, але не такая!
У цагляных акопах ад золку на зьмерку
байцы здабываюць паверх за паверхам:
разважна, рупліва, з нямудрай прыладай,
мурующь муры нябывалага ладу.
... У іх пад нагамі—на мэтр ці паўмэтра—
клён лісьцё страсае—на радасьць паэтам—
і восень лісты то пад хмары ўзьмятае,
то тоўстым пластом па рыштках раскладае.
Няхай забаўляецца—час адцьвітаньня..
Будынак таксама страсе рыштаваньні,
і злоснага сьнежня крутыя завеі
дарма к яму стукацца будуць у дзьверы.
Каўнер свой бэтонны узьняўшы высока,
з зімы будуць кпіць зухаватыя вокны.

А клён, як жабрак, каля каменнай брамы
даігрываць будзе сваю мэлёдраму—
з пагнутай бляшанкай, з усьмешкай няшчырай—
чыноўнік архіўны ў пажоўклым мундзіры...
Цяпер яшчэ рана. Паветра густое.
Пульсуе жыцьцё нясупынна, нястомна:
ідуць муляры на свае рыштаваньні,
бяруцца за працу пільней і стараньней,
бо й гліна напеўнай мэлёдыяй дыша
і цэгла сьпявае—„наперад і вышай!“

* * *

На фронт! На фронт! Жыцьцё ўзьнялося дыбам!
Стан стану больш ня будзе назаляць:
як цяжкая базальтавая глыба
надвое пакалолася зямля.
Над першым станам ўецца сьцяг Нажывы:
ў ім самае сьвятое слова—„мой“.
Б'е белы конь капытам нецярпліва,
шугаюць іскры—„хто са мной“—за мной!“
З-пад курганоў, з узвышшаў і з далінаў,
з магілы, з-пад з 'імшэлае пліты
ўстаюць на бой пахолкі Гедыміна,
дружынікі Івана Каліты.
Вайна! Вайна! Жыцьцё ўзьнялося дыбам,
над межамі маланка зіхаціць.
Навісьлі дні базальтаваю глыбай—
Хто можа дні свае перарасьці?
То стан другі—змарнелы і закуты
ярмом паноў, ліхвярскім ланцугом.
Ён можа ў байцы страціць толькі путы,
затое сьвет—здабытак для яго.
На дапамогу прадзеды не ўстануць:
касьцямі іх угноена зямля,
бо гэтыя сьсівелыя курганы
стаўляліся панам, царам ды каралям.
Дык прэч іх, прэч! Ускапаць іх да астатку!
Хай на касьцях пакуты векавой
красуе хлеб—прапраўнукаў дастатак—
што продкам быў атрутаю ліхой.
На фронт! На фронт! Па бруку, па гарбатым,
паміж устурбаваных камяніц,
прагрукаталі першыя гарматы,
нячутай у гісторыі вайны.
У іх—шырокія, цяжкія лапы.
Хто чуў аб артылерыі такой?
Лілёвым дымам дзьмуць стальныя храпы,
нашчэрыліся зубы сашнікоў.
О, болей, боле гэткіх батарэй нам!

Крышы кавадлы, сталь з жалезам грэй!
І мы па ўсёй зямлі змарнелай стрэлім
крутым агнём зубастых батарэй!

* * *

Разьбягаецца дзятва са школ па хатах.
Сыплецца дажджом жамчужным сьмех.
Як кавалкі сонца, зьяюць вачаняты,
нібы сьпеў бяз слоў вясны вясьне.
Гэткі порах хоць каго запаліць,
ў іх жыцьцё пульсуе, як вулькан,
і найбольшы з гэтых падшывальцаў
толькі з кнігі чуў пра гарадавіка.
І пра час, што да астатку згінуў
няуцямны для яго цяпер,
ён, як казку, слухае ўспаміны,
дзесяцігадовы малавер.
Ня гуляў ён на крывавай трызьне,
ня кіпеў трывогай баявой.
Ён-жа толькі пры соцыялізьме
напаткаецца з сівізной...
Мір табе, ўзрастаючае племя!
На разбэшчанай, на згорбленай зямлі
будзеш першым вольным пакаленьнем,
ні крыві, ні сьлёз ня будеш ліць.
Ціна пракавечнага балота
спавівала нас з усіх бакоў,
нас сьціскала у сваіх шчымлётках
спадчына нявольнікаў-бацькоў.
Вашай волі, розуму і сэрцу
шлях ніхто ня зможа заступіць;
новай мерай будзеце вы мерыць,
будзеце віно другое піць.
Ваша будучына вас пазбавіць
нашых войн крывавай варажбы:
гэта наша доля, наша слава—
ўсё аддаць, каб з бою ўсё зрабіць.

* * *

На фронт! На фронт! На залатых прасторах
Разьвіўся баявы чырвоны сьцяг.
На печку, ў кім трывогу будзіць вораг!
Прэч з шэрагаў, ў кім бойка родзіць страх!
Мы пасынкі зруйнованага сьвету,
рабы варштату і рабы сахі,
нясем паходні новага завету
на новыя, на вольныя шляхі.

Ня нам чакаць асілка ці героя,
ня чэрпаць нам з кулацкай каліты,
наш бедны скарб ў магутнейшую зброю,
загартаваў працоўны колектыў.
У першай байцы мы перамагаем,
бяром усё, што потам залілі.
Зямля таму, хто працай здабывае
яе багацьці—скнарнае зямлі.
Гэй, гэй! Узараны межы, зьбіты путы,
выпростывайце сьпіны, бедакі!
На бой другі, на псіныя закуты,
дзе сьвет капцілі дзеды і бацькі.
Нам адвялі іх—зьнішчым іх мы самі.
Як загарацца, як пачнуць палаць!
Над полем, над свабоднымі лясамі
мы пабудуем для сябе палац.
Зямлю мы закілзаем мёртвай хваткай,
законы волі нашай ёй дамо,
і не паверыць некалі ўнучаты
дзядам, што праца быць магла ярмом.
Ня будуць нашы маткі, нашы сёстры
сівець і горбіцца і гінуць без пары;
і не ў запечку, не ў зьнявазе жорсткай
жыцьцё сваё закончыць дзед стары.
На фронт! На фронт! Сухім трымайце порах!
Хай прэч ідзе, хто ў сэрцы песьціць страх!
Гарыць агнём на залатых прасторах
Наш пераможны, наш чырвоны сьцяг.

* * *

Горад палацаў і сутарэньняў,
горад глухіх куткоў—
горкія плёны з горкіх карэньняў
дала ў табе наша кроў!
Ў брудных завулках, у вуліцах мутных
вечны ўсеўладны змрок
Сонца стрыножыў, зблытаў у путы
і пасадзіў пад замок
Хціўнае племя у ясных палацах
мае сьвятло і прастор,
але з калыскі ўпрэжаны ў працу
дзеці рабочых нор.
Ў логах смуродных хутка згарае
раб, даканаўшы свой доўг.
Хто не пракляў іх, брудных акраін
нашых старых гарадоў?
Там нашы сёстры чыстае цела
распрадавалі тым,

хто усё чыста на сьвеце белым
зблытаў вузлом залатым.
Там нашы брацьця ў роспачы вечнай,
страціўшы дух пад ярмом,
распачыналі шлях небясьпечны,
што замыкаўся турмой:
і у шчымлётках рабскага права,
кінуўшы злыдням на зьдзек,
з сьветам агідным, з сьветам яскравым
іх разлучалі навек.
Так ад калыскі і да магілы.
ў цемры глухіх куткоў
горад пракляты, горад зацьвілы
школіў сваіх рабоў.

* * *

На фронт! На фронт! Ня жыць у сутарэньнях
будаўнікам і ўладарам зямлі!
Мы боль на сьвеце выпалім з карэньнем,
затым і зброю ў рукі мы ўзялі.
Мы з цэглы замкаў, цэркваў і касьцёлаў
ўзьвядзем муры рабочых гарадоў,
зальлем сьвятлом іх ясным і вясёлым,
перапляцем заслонамі садоў;
мы урачыстасьці агні запалім
і з кветак нятутэйшых запляцём
барвовыя вянкі па ўсіх кварталах,
каб ясна жыць і цешыцца жыцьцём.
Мы гонім прэч з вагромністых майстэрняў
калішняй, паднявольнай працы гуж:
у працы нам яе былыя церні
ўзгадуюць парасткі чырвоных руж.
Пацехай праца стане, ясным сьвятам
яе хвіліны будуць для людзей,
а даўны горад змрочны і пракляты
як успамін перадамо ў музэй;
перадамо ў музэй, каб ўнукі знаді
ў якой нядолі дзеды іх жылі,
каб лад той берaглі і шанавалі,
што ў барацьбе ўзьнялі мы на зямлі.

* * *

Зялёны дом, шырокі двор.
На белым коніку—бягун.
Высокі плот, тугі запор
і наймiт-пёс на ланцугу.
А перад вокнамі, як лес,
разросься кучаравы бэз.

Падлога ў хаце—быццам шкло.
Паважна дрэмле грамафон.
Зьвіс жырандоль па-над сталом.
Шпалеры—пад ружовы тон.
З кутка пануе над усім
сьвяты угоднік Серафім.
На этажэрку са сьцяны
Глядзіць і хмурыцца Талстой:
там Надсан, соньнік, з новых кніг—
сабраньне Пушчавых лістоў,
кітаец з парцэляны, кот
і „Ніва“ за чацьверты год.
Там бясклапотнае жыцьцё:
грымяць патэльні і гаршкі,
і маці з крыўдай і ныцьцём
пасаг рыхтуе для дачкі:
і цнотная ўкрывае бель
яе дзявочую пасьцель.
У тры прыходзіць гаспадар:
усе дрыжаць, усе маўчаць.
Ён лічыць, колькі грошы даць
на гаспадарку, на харчы.
І адкладае паўрубля—
ў суботу ў тэфталя згуляць.
Пад'еўшы, „сам“ кладзецца спаць.
„Сама“, прыбраўшы са стала,
Бярэцца дочку ушчуваць:
— Зноў ухажора завяла...
І дочка ўся дрыжыць, як ліст:
— Ён знаеш, мама, комуніст.

* * *

Вайна на сьмерць тым бэзавым завулкам,
дзе ворагі гудуць, як авадні,
дзе у хвасьце зацьвілая бабулька
Галубіць аляксандраўскія дні!
Навошта аб нядаўным, цётка, трызьніць,
Наморшчваючы сумнае чало?
Раней у першабытным комунізьме
Нідзе хвастоў ніякіх ня было.
Там мясам чалавечым і зьвярыным
карміліся ў няспыннай барацьбе
і паміралі пад цяжкой дубінай.
Хто-б там паласаваўся на цябе?
Жыла-б сабе, зьбірала недаедкі,
ні норм табе ніякіх, ні пайкоў,
разносіла-б навіны па суседках
і чхаць хацела-б на бальшавікоў...
Вайна! Вайна! Спаліць глухі завулак!

Ён згубны для вялікай барацьбы.
Узарваць сьвятых, а з імі і бабулек—
салодкі іх, ружовы дабрабыт!
Іх рай кухонны, іх грашовы рынак
Нас будуць вечна блытаць і трымаць.
Няхай жывая праца іх ня зрыне,
Іх мусіць дынаміт жыцьця ўзарваць!
Бо многа іх—пакрыўджаных бабулек,
што засьцяць нам і сонца і прастор.
Вайна! Вайна! На бэзавы завулак
рашучы і бязьлітасны напор!

* * *

У карчомцы абадранай
звоняць чаркі і карцы:
там гуляюць аж да раньня
зухаватыя шаўцы.
І як сойдзе змрок вячэрні
на далёкія палі,
там зьбіраюцца з майстэрні
цесьляры і кавалі.
Усёроўна—ўсіх балячак
за грашы не залячыць;
за апошнюю траячку
слаўна горла прамачыць!
А на заўтра з сінім тварам
З раньня дошкі габляваць,
лудзіць людзям самавары,
ці абцасы падбіваць.
За сьвярдзёлак паламаны,
за пагнуты самавар—
адрахуе ўсё старанна
прагавіты гаспадар.
Не схаваешся нікуды—
хлеб на печы не расьце;
ходзіць назіркам усюды
нэндзы згорбленае цень.
Хай зацірка ў печы стыне—
дзе там лепшага шукаць.
Хай грызуцца гаспадыні
з-за пабітага гаршка.
Хай кіпіць гармідар вечны,
Хай дзяцей ня моўкне піск...
гіне воблік чалавечы,
а каму з яго карысьць?
Хай на грошык твой зацьвілы
два заробіць гаспадар:
пара рук—малая сіла
і нявыгадны тавар.

Нейкі чорт той быт жабрачы
на кавалкі падрабіў...
Эх! Нагнаў за дзень траячку—
за га-дзі-начку прапіў!

* * *

На фронт! На фронт! Даволі ў чорным целе
жылі мы ў падзямельлі, як краты!
На нашай працы злыдні багацелі,
разьбіўшы працы дружны колектыў.
Нас падзялілі, каб лягчэй аграбіць,
забралі сілу нашу у палон,
і працай—найбагатшым нашым скарбам—
зьвязалі нас, як каторжным вузлом.
Каб капшукі дукатамі напоўніць,
каб заглушыць рабочай крыўды боль,
у вочы лез салодкі дым царкоўны,
глушыў душу пякучы алькоголь.
Навыперадкі гналі крывасмокі—
хто больш дукатаў прыбярэ да рук.
З самой зямлі выкачывалі сокі:
хай гіне ўсё—абы таўсьцеў капшук!
На фронт! На фронт! Штандар трымае праца.
Палегчы ўсім, ці ўсё перамагчы!
Калі ня трэба будзе больш змагацца—
тады здабудзем права на спачын.
Ужо ўстаюць магутныя заводы—
на іх ня гіне сіла задарма;
у працы колектыўнай, волі згоднай
ня трэба будзе сілы надрываць.
Канец, канец драпежнай гаспадарцы!
Аблік дакладны, дасканалы плян—
каб ня гібела без патрэбы праца,
ня гінуў скарб рабочых і сялян.
Не для таго машыны нам гудзецьмуць,
каб нечыя таўсьцелі капшукі,
а для таго, каб працавалі дзеці,
як ня умелі працаваць бацькі.
Адзін з адным навыперадкі ўзяўся
з распаленымі зрэнкамі вачэй—
не для сябе, але для цэлай клясы—
хто лепш і больш, дакладней і хутчэй.
На фронт! На фронт! Ударныя брыгады
бяруць зямлі нячутай рубяжы:
на іхняй зброі водблескам прынадным
прамень соцыялізму ўжо дрыжыць.
Замест карчмы, замест гулянкі п'янай
самкнецца ў круг рабочая сям'я
і зарасьце парог карчмы бур'я нам

бо колектыўнай волі не зламаць,
бо ўсё, што злыдні для сябе хавалі,
і чым жывіліся ў сваёй гульбе—
усё для нас. Мы іх палац павалім,
а цэглу лепшую зьбяром сабе.
Мы скарыстаем кожную цагліну,
каб не пайшоў будынак той на злом,
дзе з вольнай працай вольны адпачынак
у колектыўным быце мы зьлыём.
Царква з карчмой ня стлумяць нам галовы
Ніяк не скарыстаць нам гэты хлам.
Пакінем мы царкву сычам і совам,
карчму—былым сваім гаспадаром.

* * *

Вясёлкамі, вясёлкамі
навыперадкі з сонцам!
Хто плача там і войкае?
Комуна перагоніць!
За нормамі, за нормамі,
сачы, стальное вока!
Хай вораг незаморамі
ня крыецца пад бокам!
Маланкамі, маланкамі
на голавы ліхія!
Ці цацкацца з вужакамі,
што яміны нам рыюць!
Бяз літасьці, бяз літасьці,
хто зброю не складае.
Успомні, што варылася
ў катле ў гэтай зграі.
Кайданамі, кайданамі
хацелі нас стрыножыць
яны, вернападданыя
ваўкоў яснавяльможных.
Маланкамі, маланкамі—
навыперадкі з доляй!
Хто ў колы ставіць палкі нам—
бяз літасьці—пад кола.

* * *

На фронт! На фронт! Пад посьвісты віхуры,
што асудзіла цэлы сьвет на злом,
прыходзіць вораг у авечай скуры,
прасьвістывае вушы салаўём.
— Чырык-чырык! Мы з вамі, мы завамі!
Бяда, бяда, загінеце бяз нас!
Усё можам мы, ўсё бачылі, ўсё знаем;

патрэбны нашы веды ў гэты час.
І вораг наш узброены давер‘ем.
Яго энтузіязм наш ці сагрэў?
Ў кішэнях ля дыплёму інжынэра
зашыфраваны ліст Пуанкарэ.
Працуе ён... імчацца тэлеграмы:
— Пагніла мяса... Трактар ня ідзе...
Сарвана будаўнічая програма...
Машыны сталі... Хто і як і дзе?
Пад брамаю стуліўся нехта ў шэрым:
як пёс блудлівы сочыць ля дзьвярэй.
... Ў кішэні ля дыплёму інжынэра
расшыфраваны ліст Пуанкарэ.
На фронт! на фронт! Пільней стальное вока!
Шмат хто былое хоча ўваскрасіць.
Глядзі, гадзюка грэецца пад бокам—
забі яе, бо можа укусіць!..

* * *

Ішлі хлопцы-валачобнічкі,
зялёны явар кудравы,
прыпынку шукаючы,
зялёны явар кудравы,
дарогі пытаючы,
зялёны явар кудравы.
А чый-жа то двор пасярод сяла?
зялёны явар кудравы.
Слаўнага мужа, пана Петрычка!
зялёны явар кудравы
Аруды ў яго дубовыя,
зялёны явар кудравы,
сусекі ў яго кляновыя,
зялёны явар кудравы,
скрыні-куфры жалезныя,
зялёны явар кудравы.
Янка Петрычку быдла пасець,
зялёны якар кудравы,
Саўка Петрычку ваду нясець,
зялёны явар кудравы,
Марка Петрычку двары мяцець,
зялёны явар кудравы,
Ганка Петрычку пасьцель таўчэць,
зялёны явар кудравы.
Як у слаўнага мужа, пана Петрычка,
зялёны явар кудравы,
на стале стаіць самагон-пяршак,
зялёны явар кудравы,
кілбаса ў печы смажыцца,
зялёны явар кудравы.

Як у слаўнага мужа, пана Петрычка,
зялёны явар кудравы,
з правага боку поп сядзіць,
зялёны явар кудравы,
з левага боку вураднічак,
зялёны явар кудравы.
Як у слаўнага мужа, пана Петрычка,
зялёны явар кудравы,
пад самаю стольлю сьвяты Пятро,
зялёны явар кудравы,
пад печкай абрэз в патронамі,
зялёны явар кудравы,
Шыбы ўночы пасыплюцца,
зялёны явар кудравы,
нехта за сэрца схопіцца...
зялёны явар кудравы.
Бог пакараў—ніхто не згадаў.
Добры дзень, хлопцы-валачобнічкі!

* * *

Кіпіць вайна—бяз літасьці, бяз жалю—
ліхая, захаваная вайна.
Увесь сьвет ахоплены яе пажарам
і ператворыць цэлы сьвет яна.
Ашчэрыліся сытыя засьценкі,
на дыбы паўставалі хутары
Мы ворагаў прыціснулі да сьценкі—
ратуюцца яны нібы зьвяры.
Па ўсіх бакох шукаюць пералазаў,
стараюцца шчылінку адшукаць,
вужакамі ўпаўзаюць у колгасы,
нашэптываюць цёмным мужыкам.
Калі-ж ні шэпт, ні шып не памагаюць,
ня вабіць пах кадзіл і гул званоў—
тады абрэзы з-пад зямлі вымаюць—
льлюць газу на колгаснае гумно.
Шугай, шугай, агонь вайны заўзятай!
Хай дужы вораг—сіл і ў нас ня брак:
не захавае жываглот упарты
у нас парабаванага дабра.
На фронт! На фронт! Да нас рабочы горад
сваіх сыноў на дапамогу шле,
І з кожнае колгаснаю разорай
перамагае новы лад ў сяле.
І вораг наш пакіне з ганьбай зброю—
яму ў руках яе не утрымаць.
Калісьці могілкі нязьлічаных герояў
нам будуць гэты час напамінаць.
Апавядацьмуць будучым комунам,

якою мукай зьвязаны яны,
і схіляцца тады з чалом пахмурным
перад магіламі, бацькоў сыны;
успомняць і пра ворага з агідай—
тады агідным толькі будзе ён—
і ўсьцешацца, што больш ужо ня прыдзе
далёкі гэты і пракляты сон.
Вайна! Вайна! Бяз літасьці, бяз жалю.
Засьценкі ўсталі, выюць хутары.
Шугаюць нябывалыя пажары—
ў іх да астатку згіне сьвет стары!

* * *

Шынэль прастрэленая куляй
адпачывае у кутку.
Другія справы агарнулі,
другія пляны думкі ткуць.
Задачу вырашыць гарматай
Было прасьцей, было лягчэй.
Жыцьцё—вялікі матэматык—
Вузлы тужэйшыя пляце.
Пад Перакопым, у Донбасе
калісь загінуць быў ён рад,
бо знаў, што партыі і клясы
спаўняе баявы загад.
Шумуе строма! Рушаць крыгі—
раструшчы іх, жыцьця каваль!
Вінтоўку ён зьмяніў на кнігу,
каб навучыцца будаваць.
На фронце зноў ён... Бой няспынны...
Гарыць і ломіцца зямля,
і з ясных лічбаў строгіх ліній
расьце Комуны ясны плян.
Ужо гудзіць бэтон і камень,
зьвініць ўстрывожаная сталь
і перапоўнена гудкамі
з'электрызованая даль.
І развярушаная вёска,
зламаўшы прадзедаўскі лад,
пах ладану і кроплі воску
зганяе з друзлага чала.
Ужо аб будучым музэі
з трывогай разважае конь:
засея на другое зерне
на разсчарованы загон...
За вокнамі гусьцее поўнач—
няхай гусьцее ноччу, днём

баец ўчарайшы добра помніць,
што наказаў яму партком!

Хай лічбы паддаюцца скупа—
цяжкая мудрасьць даўных дзён—
ён не паддасца, не адступіць,
не адступаў ніколі ён.

Ен возьме веды мёртвай хваткай,
як усё на сьвеце браць прывык:
сваёй шынэлі да астатку
ён будзе верны—бальшавік!

І кожны шруб у будаўніцтве
выконваць будзе такт у такт
адважнай думкі бальшавіцкай
неперамажаны размах.

* * *

Ідзе вайна. І з патрухлелым бытам,
і з вечнай нярухомасьцю зямлі,
і з ворагам, калісьці недабітым,—
за нетры гор і за бяскрайнасьць ніў.

Супроць струхлелых дзікіх забабонаў,
супроць аджыўшых век зьвярыных праў,
супроць разьні, супроць драпежных войнаў,—
уздымае свой штандар Савецкі край.

Ён цьвёрда стаў—вялікі безьбярэжны,
кругом яго—суровы акіян:
з усіх бакоў цікуе нашы межы
драпежнікаў сусьветных хціўны стан.

Яны рычаць, з пагрозай шчэраць зубы.
Але каго спужае гэты рык?
Іх першы крок—апошні крок да згубы:
чырвонармеец да вінтоўкі звык.

А трэба будзе—і завод і поле
на кожны фронт пашлюць сваіх сыноў:
за нашу будучыню і за нашу волю
на цэлы сьвет мы выступім вайной.

Мы рук ня цягнем да дабра чужога,
і нашых ворагаў найлепшы скарб
бяз бою наш: іх раб—ратай убогі,
нявольнік іх—сусьветны пролетар.

На фронт! На фронт! Няхай шумуе збожжа,
ў жалезе хай цьвіце чырвоны цьвет:
мы і ў бяскроўнай бойцы пераможам,
ў вайне за мір, за вызвалены сьвет.

Студзень—люты 1930 г.

# ПАСЬЛЯСЛОЎЕ

Цябе мо' дзівіць бледнасьць барваў
і вобразаў маіх нязрушных?
Я рад прыслухацца, таварыш,
да кожнае заўвагі слушнай.
У бой грымучы, бой няпеўны
разгорнутым лірычным строем
выводжу я свае імкненьні,
выводжу я свае настроі.
Гляджу на нашае сягоньня—
ва ўчорашняе цяжка верыць:
так шпарка мчыцца дзён пагоня,
такая, браце, наша эра.
Няма 'шчэ фарбы гэткай сілы,
каб твар эпохі перадала,
каб у бэтоне кроў застыла,
каб сталь ад шчасьця зарыдала...
Яна зазьяе, запраменіць—
ня я знайду яе, дык брат мой—
такі-ж як я вершаармеец
са стану пролетарыяту.

# НА РЫШТАВАНЬНЯХ СУЦЭЛЬНАЙ

*Нататкі*

**Я. Ліманоўскі**

Сонца ўсьцяж засьцілаюць шэрыя пярыстыя хмаркі, якія паўзуць з боку Латвіі. Нагадвае на сьцюдзёнае, дажджлівае надвор'е. Узьняўся моцны вецер. Па дарозе з Бігослава ў Росіцу ён злосна засыпаў нас пылам. Цяпер ён дзьме ў твар, і пыл сьцелецца за плячыма. Сонца ня хоча схавацца назусім і праз нейкі прамежак часу зноў вырываецца з-за хмарак.

На калгасным полі ірвуць лён. Значная плошча ўжо закідана купкамі снапкоў, па пяць штук, але шмат яшчэ і засталося. Яго зялёновая жаўцізна калыпшецца ветрам, забягае да лесу, разрываецца, каб зноў за ляском працінуцца да самае дзяржаўнае мяжы.

— Дзе тут у вас праўленьне калгасу,—пытаецца мой возьнік, калгасьнік Лісоўскі, у бліжэйшай да дарогі брыгады ірвальніц.

— У Кулакове,—адказвае пажылая калгасьніца, выпрастаўшыся. Іншыя таксама прыглядаюцца да нас. Адна п'е з акованага вядра.

Да Кулакова засталося нам каля паўкілёмэтра.

На выгане, недалёка ад новай школы, босы калгасьнік адзінотна зграбае рэшткі пакошанай канюшыны. Лісоўскі прыглядаецца бліжэй да яго.

— Ці ня будзе гэта толькі старшыня,—гаворыць, калі ўжо мы праехалі.

Вяртаюся, падыходжу да калгасьніка, запытваюся:

— Часам ці ня вы старшыня калгасу?

— Яно так і ёсьць,— адказвае, і на неаголеным твары, пад шэрай кепкай расплылася добрая ўсьмешка.

Гэта першае спатканьне з старшынёй калгасу імя Дзяржынскага Баяславам Лаўрыновічам, або як яго тут ласкальна называюць—Болесем.

Да калектывізацыі Лаўрыновіч быў серадняком,—працавітым, акуратным. У калгасе абралі за члена праўленьня, а цяпер за старшыню. Гаспадарку ведае добра, кіруе ня кепска, ды кажуць калгасьнікі, што часам залішне мяккі.

Ідзем у праўленьне калгасу. Каля хаты гудуць правады тэлефону.

— Вы тут і закватаруеце,—кажа старшыня.—А можа пойдзем на поле паглядзець, калі не змарыліся.

— Ды не, ахвотна,—згаджаюся я,—бо гэта-ж першы калгас у цяперашняй маёй паездцы.

Поле ў калгасе немаленькае. З кута ў кут больш пяці кілёмэтраў. Мясцовасьць няроўная. Узгоркі, невялічкія лапінкі ральлі з сваімі зьвілістымі лініямі, такія-ж невялічкія балотцы, хмызьнякі. Малады лес. Калгаснае поле мяжуецца з Латвіяй. Старшыня скардзіцца на тое, што малатва сіл. У калгасе ўсяго 1.113 гектараў зямлі. Пахаці ёсьць 628 *га*, сенажаці—119 *га*, лесу—233 *га*, хмызьняку—25 *га*, рэшта пад выганамі, гародам, і зусім нязначная колькасьць—усяго 3 *га*—пад садам. А жывое колгаснае сілы рабочых рук, сапраўды, малавата. У калгасе 45 гаспадарак. Людзей едакоў усяго 176 асоб. Мужчын ад 16 да 55 год—37 чалавек, жанчын у гэтым-жа ўзросьце—45 чал. Таму ў часе прыборачных кампаній, бывае цяжкавата. Ды калгас даволі актыўна ў такіх выпадках дзейнічае. Напрыклад, у часе прыборкі жыта жнейка працавала цэлыя суткі, на зьмену. Зямлі лішак, а рабочых рук малавата.

— А ўжо-ж, справімся як-небудзь, так не пакінем,—упэўнівае бадзёра старшыня.

Зарадзіла ў калгасе канюшына. Надзвычайна добры быў першы пакос, добра вырас і другі. З другога пакосу шмат пакінута на насеньне. Калгас будзе мець і сабе насеньне, і значны лішак можна будзе перадаць для іншых калгасаў. Цяпер як-раз звозяць пакошаную на насеньне канюшыну. Яна яшчэ ня ўся пакошана. Пад лесам трашчыць касілка, усё больш і больш зьмяншаецца плошча канюшыны.

У калгасе мала будынкаў. Калгас сфармаваўся з хутароў і невялікіх вёсак:—Кулакова, Васілі, Сандары. Будынкі раскіданы па ўсёй тэрыторыі калгасу. У маленечкія пуні і гумны не зьмяшчаецца ўраджай. Няспорна ідзе праца, трэба звозіць ураджай далёка, марудна складаць яго ў маленькіх будынках. Жыта злажылі ў стог, і хутка змалацілі. Канюшыну і сена развозілі па маленькіх пунях. Ды няма ўжо дзе складаць. А яшчэ ня зьвезены авёс.

Будуецца кароўнік. Месца пад кароўнік ня зусім здатнае, трэба выроўніваць спад. Каля аднэй сьцяны трэба рабіць насып больш мэтру, выкладаць высокі падмурак. Муляр адбірае каменьні і падкладае іх пад сьценку, абкладае больш дробным друзам, залеплівае глінай. Двое калгасьнікаў падносяць яму гліну цабэркам, з прыбітымі, накшталт насілак, ручкамі.

— Ну і назьбіраў я табе каменьня,—кажа калгасьнік, выкідаючы з мар (так тут называюць колы) каменьне.—На ўсім полі лепшых ня знойдзеш.

А лепшыя каменьні тыя, якія больш даўгаватыя, маюць больш пласткіх бакоў, лепш укладваюцца. Лаюць тэхніка, які ніяк не зьбярэцца прыехаць з Дрысы. Рабочыя ня ведаюць, што далей рабіць. Таму праца на пабудове ідзе марудна. А кароўнік патрэбна скончыць як мага хутчэй, бо каровы начуюць у загарадцы на двары. А што будзе, як надыдзе сьцюжа, дождж? У кароўніку ўжо выведзены сьцены, пастаўлены кроквы, робіцца падмурак.

Ідзем аглядаць ворыва пад жыта і на захадзе сонца вяртаемся дамоў.

— Вам каб каня, ці нават матацыкль на гэткае вялізнае поле,—кажу старшыні. Дзе-ж тут пехатою абыйсьці, ды яшчэ некалькі раз.

— Тады будуць казаць, што панам стаў,—адказвае ўсьміхаючыся старшыня і абходзіць лужыну на дарозе, каб не завэдзгаць сваіх босых ног.

— Ну, матацыкль тут можа і нязлатны, а езьдзіць конна на поле трэба, ке бяручы ўвагі на гутаркі,—трымаюся свайго я. Праца пойдзе шпарчэй, калі сваячасова дагледзіць, лепш расставіць людзей.

На захадзе пагрымліваюць грымоты. Бліскае маланка на ўскрайку цёмнае хмары, якая падымаецца ўсё вышэй. Уначы будзе дождж. Для калгасьнікаў, калі ня скончана прыборка, ён вельмі непажаданы.

У праўленьні калгасу запалілі лямпу. Зацеплены шчыток, каб нагрэць хату. Рахункавод—камсамолец расказвае пра калгасную гаспадарку.

Арганізаваўся калгас 18-XII-29 г. Было тады ўсяго 8 сем'яў ахоплена калгасам. У далейшым калгас пашырыўся. Дзьве кулацкія гаспадаркі перадалі яшчэ ў часе арганізацыі калгасу. Чатырох кулакоў выслалі ўжо з самага калгасу. Пры арганізацыі калгасу, такім чынам, ня было патрэбнага адбору. Ад кулацкіх гаспадарак апрача сельскагаспадарчага інвэнтару, засталося 8 коняй. Зараз чарговая задача—пашырыць малочны статак. Кароў дойных усяго 62—нецялак ад 1 да 3 год—17, ялавіц 11, цялят—70, быкоў—3. Для такой вялікай плошчы калгасу, гэткая чарада зусім малая. Ёсьць яшчэ неабагуленых кароў 34.

Рабочых коняй усяго 47, ды жарабят 7. Конскай сілы таксама не хапае. Не хапае такога інвэнтару, як колы. Узялі некалькі кол і коняй у дараддзеле, на гэткіх умовах: адпрацаваць на працягу двух год 300 дзён і з заробку 25 проц. адлічыць на пакрыцьцё вартасьці. Няўпраўка ў рабоце, адпрацаваць ня было магчымасьці. Цяпер трэба здаць. Коні ацэнены 250 руб., амартызацыя залічваецца 200 руб. Выходзіць, што каня трэба здаць за 50 руб. Гэтай справай заняўся райком партыі, яна яшчэ ня вырашана. Сельскагаспадарчы інвэнтар ёсьць таксама ў абмежаванай колькасьці. Ёсьць адна жняярка, касілак 3 штукі, чатыры малатарні, адна сеялка, зігзагавых барон 3 камплекты.

Малады калгасьнік, брыгадзір спрачаецца са мною, што пры ўкусе вужакі замова дапамагае. Гутарка вышла ў нас на гэту тэму. Вырашаем пытаньне «ў нічыю», гэта значыць, кожны застаўся пры сваім; зноў гутарым аб справах калгасу.

Рахункавод расказвае пра пляны райкалгассаюзу.

— У нас усяго 60 кароў, а прапануюць павялічыць чараду шляхам прыросту на 100 штук. Што-ж гэта, па двое цялят карова пладзіць будзе? Або кабыл 6 штук, а прырост вызначаны на 25 жарабят,—крытыкуе рахункавод гэтую няўвязку ў пляне райкалгассаюзу.

— Можа гэта яны маюць на ўвазе прысылаць вам маладняк з іншых калгасаў, ці закупяць у каапэрацыі,—папраўляю я.

— Не, так і напісана ў пляне, што павялічыць за прырост. Нічога ня сказана, адкуль гэты прырост узяць.

На дварэ яшчэ цёпла. Можна спаць на сене. Іду ў бліжэйшую пуню. Уначы прачынаюся ад моцных грымот. З дзюравай страхі на мяне цячэ вада. Спрабую пасунуцца ў другі бок. Таксама цячэ. Закопваюся глыбей у сена, каб не прамачыла наскрозь. Нарэшце рассушаная страха набракла вадой, цячэ ўжо менш. Вытрымліваю дождж да раніцы, закапаўшыся ў сена.

У Сандарах, дзе вызначан цэнтр калгасу, працуюць яські. Загадчыца яськяў, камсамолка Хруцкая з Бігосаўскага сельсавету, расказвае пра недахопы калгасу. Ад яе гутаркі павявае нейкім сьвежым подыхам. Іншыя

камсамольцы стараліся неяк гаварыць са мною больш пра дадатныя бакі калгасу, хвалі ад мяне недахопы. У калгасе яшчэ вядзецца кулацкая агітацыя. Настроеныя кулакамі некаторыя жанчыны агітуюць супроць ясьляў. У ясьлях хлопчыку капнула на руку варам, апаліла плямкай руку. Гэта можа здарыцца, і больш часта здараецца, з дзецьмі ў хаце. Маці прышла, накрычала, пагражала аддаць пад суд. Ёсьць у Сандарах аднаасобніца, бяднячка. Не паладзілі з ёю некаторыя калгасьніцы, калі рвалі лён. Яна папрасіла брыгадзіра паставіць яе асобна. І ў першыя-ж дні дала нябывалую норму. У дзень вырвала 0,24 *га* лёну; а норма — 0,8 *га*. г. зн.—выпрацавала 3 працадні. Некаторыя калгасьніцы пачалі распаўсюджваць плётку: «Ня можа быць, каб яна столькі вырвала. Брыгадзір прыпісаў ёй, брыгадзір сьпіць з ёю, таму і прыпісаў». Гэта пра брыгадзіра Пісенку, украінца, што прыслалі сюды ў ліку 300 украінцаў-калгасьнікаў. Камсамольцы пашлі, праверылі—норма выпрацоўкі пацьвердзілася.

У Сандарах два брыгадзіры. Адзін з іх—Пісенка,—стараецца, каб была выпрацавана і правільна запісана норма. Другі брыгдзір—«свой чалавек». Вядуць агітацыю супроць Пісенкі, хочуць выжыць яго з калгасу.

— А што робіць камсамол, чаму ня выступіць супроць гэтага, чаму ня створыць адпаведныя ўмовы для Пісенкі?—пытаюся.

— Ат, камсамол, часам і сам пляцецца ў хвасьце і паддаквае такім настроям,—кажа Хруцкая.

Ясьлі разьмешчаны ў доме высланага кулака. Чыстата тут добрая. У аднэй палове дому кухня і сталоўка. У другой—спальня і пакой для гульняў.

Маленькая, гады 4, сінявокая, з сьветлымі валосікамі дзяўчынка прыглядаецца нясьмела да мяне.

— Хто гэта?—пытаюся ў яе, паказваючы на партрэт т. Сталіна.

— Вартынаў,—адказвае нясьмела і схіляе галоўку долу. Дзяўчынка памылілася. Вартынаў—гэта ў яе вымове Варашылаў, партрэт якога вісіць побач.

Гаспадыня—кухарка ясьляў, невялічкая, кульгавая, гаваркая кабета расказвае пра калгасьніц, якія часам распаўсюджваюць плёткі пра выселенага кулака і яго брата, што жыве ў суседняй хаце.

— І што быў за чалавек, вось гэты, у чыёй хаце ясьлі. І сам, праўда, быў працавіты, але і парабком сваім, дык не даваў супакою. Яшчэ цёмна, а ён ужо з плугам; ён і сьпіць на плузе. А то лён абразаюць, дык і ночы захопяць. Усё прагны такі быў, каб усё болей было. А ягоны брат,—зусім іншы. У працы ня спраўны, абы толькі рухацца, пусьці божа—павалюся.

Два браты мелі быццам розныя «мэтады» ў адносінах да парабкаў. Аднак сутнасьць кулацкай гаспадаркі—эксплёатацыя ад гэтага не мяняецца. Другі брат, відаць, сам быў больш ляны і ягоную «долю» ў працы рабілі парабкі.

Трывае яшчэ сонечнае надвор'е. Дзьме сьцюдзёны, моцны вецер.

У тым баку поля, дзе яно мяжуецца з Латвіяй, сеюць жыта. Цяпер ужо выпраглі на полудзень. Брыгадзір у вайсковым шынэлі ходзіць па ральлі, каля дарогі, вымярае двухмятровікам, колькі засеяна жыта. Вецер

разьвявае крысы шынэлю, выбіліся чубам валасы з-пад шапкі. Ня цяжка пазнаць у ім брыгадзіра Пісенку. Сустрэліся, пазнаёміліся, ідзем дарогаю ў Сандары.

— Як тут працаваць,—расказвае Пісенка.—Прышоў, глянуў на кавалак ральлі, і павінен ведаць, колькі тут га. Або ад слупка да слупка праеёў вачыма мяжу і зьлічыў. Хадзі, вымярай. Дый часу няма. Працуеш разам з усімі, а ў час перапынку ці ўвечары хадзі як звар'яцелы па полі. У нас на Украіне ня так. Там праведзена ўжо ўнутрыкалгаснае зямляўпарадкаваньне.

Сапраўды ў нашых калгасах яшчэ няма ўнутрыкалгаснага земляўпарадкаваньня. Калгасьнікі, хоць і ведаюць колькі ўсяе зямлі ў калгасе, дык ня скажуць, колькі паасобна ральлі, сенажаці ды іншае. Цяжка складаць пляны. Колькі ральлі—ведаюць прыблізна, падлічваюць паводле засеву. Брыгадзірам лішняя праца, вымераць норму выпрацоўкі. «Прывяжы паміж ног мэтравую вяроўку і хадзі па полі—хутчэй вымяраеш»,—раіць іншы раз калгасьнік брыгадзіру.

Пісенка расказвае пра аднаасобніцу, што выпрацавала тры працадні (за адзін дзень), ірвучы лён. Ён скардзіцца на плёткі, расказвае, што ў калгасе яшчэ ёсьць падкулачнікі, якія вядуць агітацыю супроць калгасу.

Камсамольцы актыўнічаюць больш у галіне гаспадарчай, наладжваюць суботнікі, змагаюцца за зьдзельшчыну, за працдысцыпліну; зусім слабы яны ў пытаньнях палітычных. Не даюць іншы раз своечасова адпору чужым элемэнтам.

Зьдзельшчына ў калгасе імя Дзяржынскага ўжо больш-менш укаранілася. Кулацкая агітацыя стараецца зьменшыць цікавасьць да зьдзельшчыны, да высокіх норм выпрацоўкі. Калі пачалі прэміяваць жанчын, якія больш актыўна працавалі ў часе прыборачнай кампаніі, дык іншыя, што не папалі ў сьпіс прэміяваных, паднялі крык:

«Мы ня менш за іх працавалі, чаму вы іх вызначаеце».

## 17-ты МЮД У КАЛГАСЕ

Вечар, ужо зусім сьцямнела; калгасная моладзь павольна зьбіраецца ў школу. Сёньня праводзіцца ўрачысты сход, прысьвечаны 17-му МЮД'у. Пабудавана сяк-так часовая сцэна. Па бакох яе замяняюць дэкарацыю зялёныя хвойкі. Дакладчык Маршалаў—камсамолец пагранзаставы, робіць кароценькі даклад. Калгасьнік Урбач горача, узьнята, гаворыць пра дасягненьні калгасу. Крумель, былы старшыня калгасу, тэмпэрамэнтна і крыху хаатычна гаворыць пра бойкі ў часе грамадзянскай вайны, пра тое, што адбывалася тут да арганізацыі і пасьля арганізацыі калгасу.

Даюць слова мне.

Расказваю пра значэньне калектывізацыі для абароны краіны, пра ролю камсамолу на франтох грамадзянскай вайны і—у справе сацыялістычнага будаўніцтва.

— Пр-р-р-равільна,—адгукаецца з залі п'яны хлопец з вёскі Немцаў.

— Я і прысутныя тут і бяз вас ведаем, што гэта правільна,—адказваю хлопцу, які ўвесь час не дае захоўваць цішыню на сходзе.—«А вось што вы хапілі праз край, дык гэта зусім няправільна». У залі сьмех, хлопец прыціх, пасядзеў крыху, пасьля перабраўся за сцэну, праціснуўся паміж

хвоек бліжэй, дзе сядзіць сакратар камсамольскай ячэйкі Лаўрыновіч. і гаворыць, паўтараючы некалькі раз:

«Усып нашым немцаўцам».

Пагранічнік яго няпрыкметна выводзіць з пакою.

Пасьля ўрачыстай часткі прачытваюць насьценную газэту.

Наладжваецца паказ сіламі пагранзаставы. П'еска з жыцьця Чырвонай арміі ў пагранпаласе. Шпіянаж, здрада, белагвардзейцы, гэраізм пагранічнікаў. Акторы-чырвонаармейцы стараюцца выканаць свае ролі як мага лепш. Іх шчырасьць перакрывае малую падрыхтоўку да паказу. Чырвонаармеец з пухлым тварам грае ролю белага афіцэра. Бяспрынцыпнасьць і абжорства—характэрныя яго рыскі. Наш актор набівае поўны рот, аж надзімаюцца шчокі, хлеба, робіць патугі паварушыць языком пры такой нагрузцы роту, часта паглядае ў залю і падміргвае вокам тым ці іншым гледачом. Гэта страшэнна падабаецца —у залі рогат. Уся увага накіравана на мясцовага... Ігара Ільінскага.

У школьным пакоі цеснавата. Нават прэзыдыуму няма дзе сесьці, усе месцы занятыя. Калгасьніца пасунулася на школьнай лаўцы, прапануе мне сесьці.

— Дзе цяпер таварышы Чарвякоў і Галадзед,—пытаецца ў мяне суседка, што так папярэдліва забясьпечыла мяне месцам.

— Здаецца, ужо вярнуліся з адпачынку і знаходзяцца ў Менску,— адказваю.

— А што робіць цяпер т. Дубіна,—і, не чакаючы адказу, запытвае:— Вы-ж пэўна іх ведаеце.

— Ну, вядома—жыву ў Менску,—адказваю я. А чаму вы пытаецеся пра іх?

— Я была на ўсебеларускім зьезьдзе Саветаў, дэлегаткай. Гутарыла з імі. Надзвычайна добрыя людзі,—расказвае калгасьніца і ў голасе яе адчуваецца задаволеньне, што яна пазнаёмілася з кіраўнікамі савецкай улады. Увесь вечар мы прагутарылі з ёю.

Пазьней я ўспомніў, што яе бачыў раней у калгасе. У Кулакове, каля маленькай старой хаты насупроць школы яна даволі шчыра тузала за вушы хлопчыка гадоў 12 ці болей—свайго сына. Той крычаў колькі меў моцы і шчыра лямантаваў: «Мамачка, больш ня буду»,—хапаючы яе за рукі. Я хацеў яшчэ падыйсьці бліжэй і ўмяшацца ў гэтую сямейную трагэдыю. Аднак, яна спынілася раней, чымся я зьвярнуў з вуліцы ў панадворак. Я запытаўся ў калгасьнікаў пра яе.

— Ды якая яна актывістка, начальству, ці калі прыедзе які прадстаўнік, дык яна надта добра гаворыць. А сама раней агітавала супроць калгасу, падбухторвала жанчын, каб ня йшлі ў калгас: «Выйдзеце ў поле, каменьнямі біцца будзеце».

Больш падрабязна праверыць усё гэта мне не давялося.

---

Па абрэзцы ільну працуюць дзьве брыгады. На ўзгорках, пасярод поля, робіцца ўсё больш і больш жэгіняў з галоўкамі ільну. Адначасова звужваецца поле непарванага ільну. Усё бліжэй і бліжэй да лесу набліжаюцца рвальніцы. Калгасных жанчын малавата. Запрашаюць аднаасобнікаў. Частка працуе адзін дзень у парадку суботніка, іншыя—за плату.

— Як-небудзь зьмяркуемся,—расказвае старшыня калгасу.—Прыслалі ў каапэратыў мыла, панчохі, раздаў усё аднаасобніцам, штоірвуць лён. Свае, ужо пацерпяць, паладзім як-небудзь.

Пры абрэзцы ільну завязваецца ў нас гутарка. Калгасьнікі скардзяцца на недахопы. Мала прывозяць у каапэратыў ботаў, вопраткі. Дый часам цэны высокія. Аднаасобнік, той цяпер больш зарабляе, купляе што пападзецца ў каапэратыве і на вольным рынку. Калгас ня выдае авансаў, іншы раз няма за што купіць у каапэратыве патрэбныя рэчы, іх купляе аднаасобнік.

З поўдня набліжаецца шырокім палотнішчам бялявая, з цёмнымі рамкамі, хмара. Часта яна праразаецца маланкай, зусім блізка чутны грымоты.

— Будзе вялікі дождж. Бачыце, белая хмара,—тлумачыць калгасьнік,—гэта самая дажджлівая. Бывае і цёмна-сіняя, аж чорная, дык тая ня так.

З парыўным ветрам і шумам, бы сьпяшаючыся, наляцела хмара. Пасыпаліся першыя важкія кроплі. Зусім недалёка відаць белая суцэльная сьцяна дажджу. Пакуль мы дабягаем да бліжэйшага гумна на хутары, гэтая сьцяна ўжо валіцца на нас. Вецер адчыняе дзьверы гумна і разьмятае іржаную мякіну, што пакінута тут пасьля малацьбы.

— Мусіць з часам будзе ў нас саўгас?—пытаецца ў мяне калгасьнік.— Плянавасьць, норма, яно-ж ідзе да гэтага.

— Не,—адказваю.—Няма ў гэтым патрэбы. Наконт калгаснага будаўніцтва, вы, пэўна, ведаеце ўстаноўку партыі,—не пераскакваць адразу ў вышэйшыя формы як камуна, а таксама і саўгас. Арцельная форма— калгас, пры абагуленьні сродкаў вытворчасьці, інвэнтару, гаспадарчых будынкаў, часткі рагатай жывёлы,—гэта асноўная форма калгаснага будаўніцтва. Цяпер стаіць задача арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў. Ну, дык гэтай работы ў вас непачаты край. Вы яшчэ пачынаеце сваю пяцігодку.

Не стары яшчэ калгасьнік расказвае, як ён працаваў на Луганскім машына-будаўнічым заводзе. Бачыў там таварыша Варашылава (да рэвалюцыі). Мае думку зноў паехаць на завод.

Гутарка зноў скіроўваецца да каапэрацыі, да недахвату прамтавараў.

— Аднаасобнік зарабляе 5—6 рублёў у дзень. А раней, пры беспрацоўі, была стаўка 1 р. 8 кап.,—бядуе калгасьнік. Дый то ня ўсе пападалі на працу. Беднейшыя толькі, з паперкай ад камітэту ўзаемадапамогі.

— Ну, значыцца, у нас цяпер разгортваецца вялікае будаўніцтва, няма беспрацоўных. Гэта хіба ня лепей за той час, калі на працу пападалі з паперкай камітэту ўзаемадапамогі?—супярэчу я.

— Яно так. Але-ж,—не згаджаецца са мною калгасьнік,—аднаасобнік можа ўсё купіць, а калгасьніку няма калі зарабляць.

— Дык адсюль вывад,—кажу я,—дабівацца суцэльнай калектывізацыі, паляпшаць працу, узьнімаць працдысцыпліну. А галоўнае—гэта арганізацыйна-гаспадарчае замацаваньне калгасаў. Тады калгасы, арганізаваным парадкам, будуць пасылаць брыгады на адыходніцтва. Гэтыя брыгады будуць прымацца на працу ў першую чаргу, бо будаўнічым арганізацыям лепш мець справу з арганізаванай—больш сьвядомай, масай.

— Калі там пойдзеш, калі ў калгасе няўпраўка з працай.

— Гэта сёньня, дый то ня ўсюды. Трэба больш укараніць зьдзельшчыну, правільную расстаноўку сіл, тады будзе і ўпраўка з працай.

З кожным годам у калгасы больш уліваецца машын. Гэта ўсё дапаможа калгасу і сваячасова ўправіцца з работай, пашырыць пасеўплошчу і наладзіць адыходніцтва. Калгасьнік мае усе магчымасьці жыць лепей за аднаасобніка.

Лютуе навальніца. Буйныя пырскі дажджу вырываюцца праз шчыліны сьцяны і дзюравую страху. Пасеўшы каля сьцен на таку, калгасьнікі кураць хто люльку, хто цыгарку.

— Дый нават махоркі не хапае,—скардзіцца стары калгасьнік.—Самасейкай больш карыстаемся.

— Махоркі малавата,—згаджаюся.—Прамтавараў-жа будзе значна больш, калі скончым пяцігодку, калі пачнуць працаваць шмат новых фабрык і заводаў. У канцы гэтага году пачнуць працаваць новых 518. А вось у Польшчы, ведаеце, там няма гэткага будаўніцтва. І з махоркай там няважна,—там табачная манаполія. Калі селянін пасеяў градку тытуню, дык прыдзе паліцыянт, яго аштрафуе і тытунь зьнішчыць.

Пранеслася навальніца, зноў засьвяціла сонца, кроплі вады сьцякаюць з страхі, блішчаць на ільнянішчы, на стагу аржаное саломы. Мокры лён абразаць нясрытна. Навальніца зрабіла прарыў у працы.

---

Па ініцыятыве камсамолу наладжан нядзельнік. Абразаем лён. Сталі на працу камсамольцы, некалькі чалавек калгасьнікаў, пераважна моладзь. Жанчыны ірваць лён ня вышлі.

Каля жэгінаў—запрэжаны конь у шырокія колы, драбінкі. Я падвожу да жэгіняў парваны лён. Снапы ільну набраклі вадою, цяжкія. Зьверху абсохлі крыху, ніжнія яшчэ мокрыя, (ляжаць купкамі па пяць снапоў). Мой буланы, невялічкі, брухаты конік, даволі шчыры, але працаваць залішне ня любіць. Пройдзе з возам па ільнянішчы некалькі крокаў і спыняецца У воз нельга больш пакласьці як 70—80 снапоў. Колы ўразаюцца ў мокрае ільнянішча. На горцы даю буланаму адпачыць. Ён, аднак, гэтага ня цэніць. Не стаіць на месцы, калі я ўкладваю снапы. Надзвычайна пражэрлівы,—цягнецца ад асакі, да пучкоў травы. Хапае траву на-хаду.

Надвор'е сьцюдзёнае. Кавалак шэра-цёмных хмар паўзуць адна да другой. Падганяе іх сьцюдзёны, моцны вецер. Іншая хмарка запырскае дробным асеньнім дажджом. Пакуль укладваеш снапы ў драбінкі—цёпла ў гумавым плашчы. Але калі ідзеш каля воза да жэгіняў і едзеш назад на поле, дык прабірае вецер наскрозь.

Васенны дзень ня доўгі. Блізіцца захад сонца. Калгасьніка Веляжынскага клічуць да хаты. Ён жыве тут блізка, на хутары. Пакуль я прывёз новы воз ільну, Веляжынскі вярнуўся. Сядзіць на кучы ільняных снапоў і на яго чырвоным, з мяккім, сьветлым пушком твары заклапочанасьць, ды мала прыкметная ўсьмешка. Веляжынскі яшчэ малады хлопец. Быў вылучаны на курсы калгаснага актыву. Там навучылі ўсяму патроху. А зараз ён загадвае малочнай фэрмай ды іншай гаспадаркай.

Веляжынскі не камсамолец, але працуе дружна з камсамолам. Жонка яго паклікала, каб паказаць, што бяда здарылася:—здохла курыца,—калгасная. Трэба скласьці акт аб прапажы і сьпісаць яе з ліку жывых. А як напісаць гэты акт, калі гэта першы выпадак курынае сьмерці. Ён дыктуе камсамольцу, а той у блёк-ноце запісве акт: «... 6-га верасьня 1931 г., ад

невядомае прычыны, здохла курыца». Акт кароценькі. Два подпісы—і ён скончаны.

Мы паселі ў драбінкі і буланы ня шпаркім, ляным крокам вязе нас з поля.

У панядзелак пашлі на працу вучні. Іх брыгада ў некалькі дзесяткаў чалавек ірве лён каля хмызьнякоў. Лён у гэтым месцы надзвычайна дрэнны. Брыгады жанчын пакінулі тут цэлы кавалак. Ня хочуць ірваць, марудна,— ня выпрацуеш нормы. Ну, а вучні—ім што, працаваць, дык працаваць, куды не пастравіш. Каля паўдня яны пераходзяць з граблямі і віламі варочаць канюшыну. Дождж моцна прыбіў да зямлі пакосы канюшыны. Так яна ніколі ня высахне, трэба перавярнуць. Частка вучняў па-двое на фурманцы звозяць лён. Падвозяць да жэгіняў на абрэзку. Вязуць абрэзаны на мачылішча. Некалькі дзяўчынак зьмятаюць галоўкі каля жэгіняў. Не хапае мяцёлак. Яны чаргуюцца. Вецер трэпле кароценькімі суконачкамі, разьвявае з-пад хустачкі валасы. Ды яны не зважаюць на холад. Полудзень. Дзяўчаткі ідуць у сажалку, што блізка каля дарогі, мыць ногі.

Шырокая сажалка заплыла. Пасярод ‘яе ўжо расьце трава.

— Яшчэ нядаўна, памятаю, тут купалі коняй, кажа старшыня калгасу. А цяпер заплыла. Няма мачылішч, няма дзе мачыць лён.

Сапраўды, ва ўсіх калгасах адчуваецца гэты недахоп. Дробныя сажалкі, дзе яны і былі, маглі здаволіць тую невялікую аднаасобную гаспадарку, што сеяла лён пераважна для сваёй патрэбы.

Зараз вялізныя плошчы,—ад 50 да 100 га ў кожным калгасе засеены ільном. У маленькіх сажалках яго кепска мачыць. Праца марудная. Трэба звозіць далёка, шукаючы лепшае месца. Часта няма чым прыцісьнуць лён. Ня ўсюды ёсьць каменьне. Націскаюць яго іншы раз сырымі круглякамі, дзежкамі, налітымі вадой ды інш. Для наладжваньня буйнай гаспадаркі, для разгортваньня ільнаводзтва трэба падбаць і аб тым, каб былі добрыя, вялікія сажалкі—мачылішчы.

— Не ўрадзіў сёлет лён,—скардзіцца старшыня калгасу.—Насеньне прыслалі з Ільнасаюзу, казалі, што гэта даўганец. Вырас не даўганец, а зусім звычайны. Ён больш мае галовак, але затое ільноваланко горшае. Пасеялі вясной, ня было дажджу. Праз тыдні два пашоў дождж. Частка ўзышла пазьней,—вышла як-бы два ўсходы. Вось частка гэта, яна ніжэйшая і яшчэ нясьпелая, а гэты перасьпеў.

Ільна-рвальныя машыны яшчэ не застасоўваюцца шырока ў калгасах. Яны маюць свае «капрызы». Недахопы канструкцыі, ці што? Ня ўмеюць іх яшчэ калгасьнікі наладзіць. З ільнаабразальнымі машынамі таксама неяк справа не наладжваецца. Абразаюць ня чыста, выцягваюць ільнатрасту. Лён абразаецца машынамі ня чыста нават і пры ручной абрэзцы, шмат галовак астаецца ў снапе. Вялікая колькасьць пудоў ільнанасеньня такім чынам прападае (калгас («Надзея», Луначарскага сельсавету, Дрысенскага раёну, «Камуна» імя №-скай дывізыі, Ветрынскага сельсавету, Полацкага раёну ды інш.). Неналаджанасьць машын па прыборцы і апрацоўцы ільну, малое іх скарыстаньне,—слабое месца ў мэханізацыі сельскай гаспадаркі. Тут трэба яшчэ шмат чаго зрабіць. Працаёмкую культуру—лён, трэба забясьпечыць добрымі машынамі. Яшчэ няма часам навыкаў у калгасьнікаў, наладжанасьці працы па прыборцы і апрацоўцы ільну.

Аднаасобнікі дапамагаюць больш у тых калгасах па прыборцы ільну, дзе існуюць лепшыя адносіны паміж калгасьнікамі і аднаасобнікамі. Сюды ахвотней ідуць аднаасобнікі і адпрацаваць адзін дзень у якасьці суботніка, і за плату (21 рубель за гектар вырванага ільну). Былі выпадкі, калі аднаасобнікі ішлі на суботнік абы толькі адбыць яго, без якой-небудзь значнай карысьці для калгасу. У калгасе, напрыклад «Новы Мір», Росіцкага сельсавету, 7 жанчын на суботніку вырвалі за дзень 35 снапоў ільну. «Ня трэба нам такой дапамогі»,—абурыліся калгасьнікі. «Калі ня хочаце працаваць як сьлед, дык лепш зусім ня прыходзьце».

Калгас імя Дзяржынскага перажывае гэтак званыя цяжкасьці росту. Трэба павялічыць лік кароў, якіх зусім мала на такі вялікі калгас. Трэба разгортваць вялізнае гаспадарчае будаўніцтва: кароўнікі, стайню, гумны ды інш. Трэба вялізнае напружаньне працы і сродкаў. Патрабуюцца значныя ўкладаньні, якія дадуць вынікі толькі пазьней, якія зробяць лягчэйшай працу, павялічаць даходнасьць гаспадаркі. Таму калгасьнікі часам нездаволена папракаюць тых аднаасобнікаў, што жывуць яшчэ ў пасёлках, ахопленых калгасам: «Пашлі-б у калгас, а калі не, дык высяляліся-б на адведзеную зямлю,—не перашкаджалі-б працы».

Такіх аднаасобнікаў на тэрыторыі калгасу імя Дзяржынскага 15 сем'яў. Зямля ім адрэзана ў суседняй вёсцы. Некаторыя з іх зямлю не засяюць, працуюць на адыходніцтве, чакаюць, што хлебам іх забясьпечыць каапэрацыя. У калгас пакуль што ня ідуць. Адчуваецца сярод іх значная кулацкая агітацыя. Ёсьць упартыя падкулачнікі. Патрэбна значная растлумачальная работа,—адпор кулацкім элемэнтам. Ёсьць сярод іх і такія серадзякі, якія ўжо наважыліся ісьці ў калгас, але яшчэ адкладваюць, чакаюць.

— Як мы пабудуемся, тады прыдзеце?—запытваюць нездаволена калгасьнікі.

У вогуле калгас імя Дзяржынскага даволі спраўны па сваёй рабоце, хоць, сапраўды, на такую колькасьць зямлі ў калгасе малавата рабочых рук. Разьмеркаваньне ўраджаю паводле зьдзельшчыны палепшыць працу ў сэнсе яе наладжанасьці і працдысцыпліны.

Старшыня калгасу, з ліку працавітых серадзякоў,—ня дрэнны калгасны работнік. Патрэбна толькі большая цьвёрдасьць, большае вымаганьне, больш рашучае рэагаваньне на недахопы. Патрэбна часьцей склікаць праўленьне, зьбіраць актыў, даваць своечасова адпор кулацкай агітацыі. Трэба актывізавацца больш калгасным камсамольцам. Трэба часьцей бываць у калгасе членам сельсавецкай ячэйкі.

Калгас імя Дзяржынскага даволі старанна імкнецца захаваць рэпутацыю аднаго з лепшых калгасаў у Росіцкім сельсавеце (Дрысенскі раён). Калгас павінен захаваць сябе першым у сьпісе.

## ПРАМЭТЭЙ

(*Prometheus*)

**Вальфганг Гётэ**

Усьцілай сваё неба, Зэўс,
Параю хмар
І карай, роўны хлапчуку,
Што сячэ крапіву,
Дубы і вяршыні гор!
Зямлю маю толькі
Ты мне пакінь.
І маю хату—яе ты не збудаваў,
І печку маю,
З-за агню якой
Ты мне зайздросьціш.

Я ня ведаю бяднейшых
Пад сонцам, як вы, багі!
Вы ледзьве жывіце
Ахвярнымі чыншамі,
І дымам імшы
Вашу вялікасьць,
І згінулі б даўно
Без жабракоў і дзяцей,
Поўных надзей дурняў.

І я дзіцянём быў,
Ня ведаў, што і адкуль,
Да сонца узводзіў стамлёныя вочы,
Як быццам там угары
Ёсьць вуха, каб пачуць мае скаргі,
Ёсьць сэрца, як маё,
Каб зьлітавацца над прыгнечаным.
Хто даў мне
Дапамогу ўстаць на тыранаў уціск?
Хто даў ад сьмерці ратунак мне
І ад няволыніцтва?

Ці не само ты ўсё зрабіла,
Палкае сэрца маё!
Ты маладое, добрае было
Падманута—за гэта славіць мне
Таго, хто сьпіць у вышыні?

Мне шанаваць цябе? За што?
Ці ты пакуты
Зьменшыў прыгнечаных?
Ці ты сьлёзы
Суняў баязьлівых?
Ці ў мяне ня выкаваў мужнасьці
Усемагутны час
І лёс вячысты,
Што кіруюць табою і мною?

Думаў ты можа,
Што я жыцьцё ўзьненавіджу,
Зьбягу ў пустэлі,
Як ня ўсе тыя
Лятункі, што зацьвіталі,—пасьпелі?
Тут сяджу я, людзей фармую
паводле сябе самога,—
Пакаленьне, што будзе мне роўным,
Каб пакутваць, плакаць,
Адчуваць асалоду і радасьць
І быць табе непадлеглым,
Як я!

1774.

Пераклаў з нямецк. мовы **Юлі Таўбін**

# АФАРЫЗМЫ ГЕТЭ

Сярод спадчыны Гётэ яго выслоўі ў прозе займаюць досыць значнае месца. Для ўсіх, хто хоча азнаёміцца з поглядамі вялікага нямецкага поэты і вучонага, яны зьяўляюцца аднэй з найбольш каштоўных крыніц.

Гётэ любіў фіксаваць свае думкі ў выглядзе афарызмаў. Упяршыню частка з іх была надрукавана ў рамане „Сваяцтва душ“ пад загалоўкам „З дзёньніку Атыліі“. Другі раз яны былі сабраны ў рамане „Вандроўныя гады Вільгельма Мэйстэра“, які вышаў невыстарчальна вялікім для трох томаў выданьня твораў Гётэ, што былі яму вызначаны паводле пляну. Як бачым, уключэньне іх у гэты раман было выклікана знадворнымі меркаваньнямі.

За год да сьмерці Гётэ даручыў Экерману злучыць зборы афарызмаў, што ўвайшлі ў яго раманы, з неапублікаванымі афарызмамі і выдаць іх разам. Ён хацеў, каб афарызмам было адведзена сярод яго твораў самастойнае месца. Яго воля была выканана ў пасьмяротных выданьнях. Частку з гэтых афарызмаў Гётэ мы і друкуем ніжэй.

---

Многія думкі падымаюцца ўпяршыню толькі з агульнай культуры, як кветкі з зяленых галін. У час росквіту руж відаць, як яны красуюць усюды.

Усякі правільны погляд зьяўляецца вынікам і дае вынікі. Ён—зьвяно вялікага, прадукцыйна ўзыходнага ланцуга.

Навука, па-першае, дапамагае нам у тым, што ў некаторай меры палягчае тое зьдзіўленьне, якое выклікае ў нас прырода, а па-другое, тым, што яна дае жыцьцё, якое ўсё вышэй узыходзіць, нешта для ўніканьня шкоднага і ўвядзеньня карыснага.

Ісьціннае спрыяе; з памылковага нішто не разьвіваецца, яно толькі блытае нас.

Памылковае мае тую перавагу, што пра яго можна заўсёды гаварыць; ісьціннае павінна быць зараз-жа выкарыстана, іначай яно і ня існуе.

Першае і апошняе, што патрабуецца ад генія, гэта—замілаваньне да ісьціны.

Найвялікшае шчасьце гэта—тое, што зьнішчае нашыя недахопы і выпраўляе нашыя памылкі.

Тэорыя сама па сябе нічога ня варта; яна каштоўна толькі, пакольні яна ўпэўнівае нас у сувязі зьяў.

Усё абстрактнае праз прыстасаваньне становіцца больш блізкім чалавечаму розуму, і гэтак чалавек праз дзеяньне і сузіраньне дасягае да абстракцыі.

Агульнае і паасобнае супадаюць: паасобнае — гэта агульнае, якое паўтараецца ў розных умовах.

Нявыстарчальна ведаць, трэба і прыстасоўваць; невыстарчальна жадаць, трэба і дзейнічаць.

Для новай ісьціны нішто не зьяўляецца такім шкодным, як стары памылковы пагляд.

Калі мне прыходзіцца выслухоўваць погляды іншага чалавека, дык яны павінны быць выказаны пазытыўна; праблематычнага я і сам у сабе маю досыць.

У навуках вялікай заслугай зьяўляецца знайсьці невыстарчальнае ісьціннае, чым людзі валодалі ўжо ў мінулым, і працягнуць яго далей.

Было-б ня варта пражыць да сямідзесяці год, калі-б уся мудрасьць сьвету была-б толькі глупствам перад богам.

Быць шчырым — гэта я магу абяцаць, але беспартыйным — не.

Гені імкнецца сваім вялікім розумам абагнаць свой час; талент часта з-за самалюбства хацеў-бы яго затрымаць.

Сапраўднае пазнаньне ёсьць пазнаньне значнага ў вопыце, якое заўсёды паказвае на агульнае.

Дыялектыка ёсьць разьвіцьцё духу супярэчнасьці, які ўласьцівы чалавеку для таго, каб ён навучыўся пазнаваць розьніцу між рэчамі.

Людзі ня ідуць наперад толькі тады, калі яны ўжо ня ведаюць, куды яны ідуць.

Той, хто прадбачыць, зьяўляецца гаспадаром дню.

Шчасьце генія: радзіцца ў сур'ёзную і вялікую эпоху.

Як можна навучыцца пазнаваць самога сябе? Не праз сузіраньне, а праз дзеяньне. Спрабуй выканаць свой абавязак, і ты адразу пазнаеш, як стаіць з табой справа.

Але што зьяўляецца тваім абавязкам? Патрабаваньне дню.
Паводзіны — гэта люстра, у якім кожны паказвае свой твар.

Ніхто не зьяўляецца нявольнікам у большай меры, ніж той, хто лічыць сябе вольным, ня будучы ім у сапраўднасьці.

Як толькі хто-небудзь палічыць сябе вольным, ён у тую-ж хвіліну пачуе сябе абумоўленым. Калі-ж ён адважыцца паглядзець на сябе як на абумоўленага, ён пачуе сябе вольным.

Выкананы абавязак пераджываецца яшчэ ўсё-ж як віна, бо ніколі выкананьне ня бывае цалкам здавальняючае.

Абавязак: дзе любяць тое, што самі сабе загадваюць.

Дурні і разумныя людзі аднолькава ня шкодны. Дурныя-ж напалову і разумныя напалову найбольш шкодны.

Дзе зьнікае зацікаўленасьць, зьнікае і памяць.

Найлепшае, што маем ад гісторыі, гэта—той энтузіязм, які яна абуджае.

Самым важным застаецца ўсё-ж сучаснае, бо яно найбольш чыста адлюстроўваецца ў нас, мы — у ім.

У кожным мастацкім творы, вялікім ці малым, усё аж да самага дробязнага залежыць ад агульнай канцэпцыі.

Усё лірычнае павінна быць у цэлым вельмі разумным, а ў паасобным— крыху неразумным.

Ня існуе нічога тэатральнага, што ня было-б для вачэй сымбалічным.

Сіла выабражэньня ўпарадкваецца толькі мастацтвам, асабліва паэзіяй. Няма нічога больш жудаснага, як сіла выабражэньня бяз густу.

Клясычнае—здаровае, рамантычнае—хворае.

Сіла кожнай мовы праяўляецца ня ў тым, што яна адхіляе чужое, а ў тым, што яна яго паглынае.

Я выказваюся супроць усякага нэгатыўнага пурызму, супроць таго, каб не карыстацца словам, якім выразіла многае ці больш тонкае іншая мова.

Пры перакладах трэба даходзіць да таго, што ня можа быць перакладзена; толькі тады мы ўпяршыню наблізімся да чужой нацыі і чужое мовы.

Хто ня ведае чужых моваў, нічога ня ведае і пра сваю ўласную.

Ад перавагі вялікіх якасьцяй іншага чалавека ня існуе іншага сродку ратунку, як замілаваньне да яго.

Дылентантызм, калі ён бярэцца сур'ёзна, і навука, калі яна вывучаецца мэханістычна, становяцца пэдантызмам.

Супараты думаюць, што яны нас абвяргаюць, калі яны перакажуць свой погляд і ня возьмуць увагі на наш.

У юнацтве мець дадатныя якасьці старасьці, у старасьці захаваць дадатныя якасьці юнацтва, і тое і другое — шчасьце.

Выбраў і пераклаў **А. Барычэўскі.**

# ГЕТЭ І ЯГОНЫ ФАУСТ[1])

## А. І. Барычэўскі

У 1832 г. 22 сакавіка а 11½ гадзіне зранку прыціснуўшыся ў куток крэсла, у якім ён сядзеў, у стане лёгкай прастуды, памёр 83-х гадовы стары Гётэ. Найвялікшы поэт Нямеччыны, пясьняр Прометэя, аўтар Фаўста, буйны вучоны, вялікі працаўнік, ён, дзякуючы свайму генію і ўпартай працы, даў вельмі рэдкі ў гісторыі ўзор універсальнага па сваіх інтарэсах чалавека, аднолькава далёкага як ад вузкага прафэсіяналізму, так і ад усякага безадказнага дылетанства. Ён імкнуўся аўладаць усім зьместам культуры свайго часу. Ні ў адной галіне ён не задавальняўся і не абмяжоўваўся паўведаньнем. Яго вялікая энэргія была зьвязана з глыбокім замілаваньнем да жыцьця і непахіснай упэўненасьцю ў сілах чалавека.

**І цяпер, праз сто год пасьля яго сьмерці, напэўна няма ва ўсім сьвеце гораду, у якім не ўспаміналася-б яго імя, і няма напэўна ніводнага, больш-менш буйнага культурнага цэнтру, у якім не сьвяткаваўся-б ягоны юбілей, у якім не падводзіліся-б вынікі яго жыцьця і творчасьці,** няма краіны, у якой ня выйшлі-б прысьвечаныя яго памяці нумары газэт і часопісаў, кнігі і брошуры, пераклады твораў.

Шэрагам урачыстых паседжаньняў, артыкулаў у газэтах і часопісях, перакладамі твораў і працамі пра яго ўжо адзначаны і будзе яшчэ адзначаны гэты юбілей і ў Савецкім Саюзе. Але ў нас сьвяткаваньне будзе насіць прынцыпова іншы характар, ніж у буржуазных краінах.

І гэта зьвязана з тым, што ў нас ёсьць свае адносіны да юбілеяў наогул. Мы ня любім тых юбілейных прамоў і артыкулаў, у якіх дзеля юбілею гаворыцца ня тое, што гаварылася да юбілею і што будзе гаварыцца пасьля яго. Мы ня любім тэй умоўнай панэгірычнасьці, тых гіпэрбалічных пахвал, у якіх няма ні шчырасьці, ні навуковасьці, у якіх, скажам проста, пануе тая мана, якая лічыцца патрэбнай у дні юбілею.

Мы глядзім на юбілей іначай. Мы думаем, што юбілей выдатнага чалавека павінен быць выкарыстаны не для таго, каб стварыць панэгірычна-хлусьлівую легенду аб ім, але для таго, каб выканаць частку агульнай задачы, пастаўленай нам У. І. Леніным—задачы крытычнай ацэнкі культурнай спадчыны з пункту погляду пралетарыяту.

---

[1]) Даклад на ўрачыстым паседжаньні Інстытуту Літаратуры і Мастацтва Беларускай Акадэміі Навук разам з Беларускай Фэдэрацыяй Аб'яднаньняў Савецкіх Пісьменьнікаў. 22 сакавіка 1932 г.

Першым юбілеем, у нашым разуменьні юбілею, на якім амаль ня было традыцыйнай фальшывасьці, быў, думаецца, юбілей Л. Талстога ў 1928 г. Такой-жа праўдзівасьцю і шчырасьцю павінна быць прасякнута і нашае сьвяткаваньне юбілею Гётэ.

## I

Спынімся перш за ўсё на эпосе, у якой ён дзейнічаў. Нямеччына зьяўлялася ў яго час фэўдальнай краінай, у якой было мноства невялікіх княств ці герцогств, дзе ўлада цалкам належала маленькаму манарху, які звычайна клапаціўся перш за ўсё аб тым, каб стварыць двор, які сваім багацьцем і ўсім складам жыцьця, наколькі дазволяць сродкі, напамінаў-бы вэрсальскі двор Людовікаў. Каб здабыць грошы, ішлі на ўсё, аж да продажу сялян, узятых рэкрутамі у іншыя краіны. Дробныя бюргеры, рамесьнікі, сяляне былі ў вачох гэтых фэўдалаў толькі ўгнаеньнем для іх, прысьвечанага асалодам, жыцьця.

Поўнае беспраўе шырокіх пластоў бюргерства, поўная матэрыяльная незабясьпечанасьць сялянства прыводзілі да таго, што сярод гэтых кляс мелі вельмі часта месца факты самагубства. Як вядома, малады Гётэ закончыў свой першы раман, «Пакуты маладога Вэртэра», самагубствам героя.

Вельмі павярхоўна было-б, як гэта часта рабілася, тлумачыць такі канец раману толькі нешчасьлівым каханьнем. Нешчасьлівае каханьне было толькі штуршком. Сапраўднай прычынай была псыхічная няўстойлівасьць, абумоўленая становішчам бюргерства ў грамадзе. Вельмі характэрным у гэтых адносінах зьяўляецца той эпізод у рамане, дзе Вэртэр, знаходзячыся ў свайго начальніка, які адносіўся да яго як да прыяцеля, застаецца, загаварыўшыся з ім, у яго на вечар, калі да яго зьбіраюцца князі, графы, графіні, вышэйшыя чыноўнікі. Гэтыя госьці ў такой меры былі незадаволены прысутнасьцю якогасьці Вэртэра, што начальнік папрасіў яго пакінуць дом. У горадзе пасьля гэтага распаўсюджваюцца розныя чуткі аб тым, як Вэртэр быў выгнаны за дзьверы. Гэтае здарэньне адыграла нямалую ролю ў самаадчуваньні Вэртэра.

Нядзіўна, што пры такім становішчы ў грамадзе сярод бюргерскай інтэлігенцыі факты самагубства былі вельмі часта. Як вядома, французскай пісьменьніцы дэ-Сталь належыць дасьціпнае выслоўе пра гэты юнацкі раман Гётэ: «Ніводная красуньня ня выклікала гэтулькі самагубстваў, колькі гётэўскі раман аб Вэртэры». Гэтае французскае bon mot здаецца, многія літаратуразнаўцы прынялі занадта сур'ёзна. У сапраўднасьці, калі Гётэўскі пэрсанаж канчае самагубствам, дык гэта не бяз сувязі з тым, што такія факты часта мелі месца ў самім жыцьці,—самагубства Гётэвага знаёмага Ерузалема, пад уражаньнем якога пісаўся раман, ня было адзіным выпадкам. Тое, што часта бывала ў жыцьці, знайшло сваё пэўнае адлюстраваньне і ў літаратуры—самагубствам канчаецца і самая папулярная шылераўская драма «Каварства і каханьне»,—адлюстраваньне, зьвязанае то з пэўнай ідэалізацыяй самагубства, як у Гётэ, то з яго патэтычным апатэозам, як у Шылера. Але ня толькі сярод інтэлігенцыі бывалі часта выпадкі самагубства. Сялянства, даведзенае страшэннай эксплёатацыяй да голаду, і ня бачачы ні якага выйсьця, часта аддавала перавагу самагубству перад галоднай сьмерцю. Выпадкі самагубства сярод галод-

нага сялянства падае трэці поэт эпохі—Кінгер у сваім рамане аб Фаўсьце.

Зазначаныя намі ўпадніцкія настроі сярод бюргерства таго часу былі аднак-жа толькі аднэй стараной таго супярэчлівага сьветаадчуваньня, якое было яму ўласьціва і якое было абумоўлена яго супярэчлівым становішчам у грамадзе таго часу. Пэўны рост гандлю і прамысловасьці ўзмацняў нямецкую буржуазію, паводзіны фэўдальнай клясы—князёў, герцагаў і іх набліжаных—выклікалі яе абурэньне і прыводзілі да пратэсту. Гэты пратэст быў вельмі часта эмацыйна яркі, выражаўся ў паасобных учынках, аднак-жа падобных на пошуг саломы, у палкіх словах, але ня быў пасьлядоўны, за ім не адчуваліся ні моцная воля, ні здольнасьць да арганізацыі. Пераходы ад сьмелага пратэсту да роспачы і самагубства былі вельмі лёгкія. Пратэст супроць фэўдальнага ладу, яго носьбітаў, яго ідэалёгіі, яго звычаяў, культ палкай, сьмелай эмоцыі, захапленьне ідэямі Русо, яго крытыкай культуры, індывідуалізм і пэўны натуралізм, прасякнутая моцным лірызмам рыторыка,—рысы, якія характарызуюць бюргерскую літаратуру таго часу, так званую літаратуру Sturm und Drang. Самым мастацкім моцным з поэтаў гэтай плыні быў Гётэ.

Сын заможнага франкфруцкага бюргера, Гётэ атрымаў добрую асьвету. У гады свайго студэнцтва ён праявіў надзвычайную шырыню разумовых інтарэсаў: паступіўшы супроць свайго жаданьня, па волі бацькі, на юрыдычны факультэт, ён пісаў паэтычныя творы, якія хутка зрабілі яго славутым, займаўся прыродазнаўствам, працаваў ў анатамічным тэатры ўнівэрсытэту. З першых-жа крокаў сваёй літаратурнай дзейнасьці, ён стаў буйнейшым паэтам новага літаратурнага руху, у якім абуджанае бюргерства кідала палкія выклікі фэўдальнаму укладу Нямеччыны. Гётэ стварыў у гэты час вобраз сьмелага змагара Гэца, поўнага моцных пачуцьцяў, але непрыстасаванага да жыцьця—Вэртэра, вобраз Промэтэя, што кідае богу сваю зьнявагу і будуе шчасьце чалавецтва на зямлі, вобраз Фаўста, які разрывае путы схалястычнай навукі, каб бліжэй падыйсьці да жыцьця.

Асабліва вылучаўся Гётэ як лірык. Стварэньне новай лірыкі, эмацыйнаяскравай, шчыльна зьвязаней з жыцьцём, сьмелай і новай па сваіх формах было аднэй з задач літаратуры Sturm und Drang. Выкананьне гэтай задачы і было аднэй з найвялікшых заслуг Гётэ.

Яго моцны лірызм знайшоў сваё выяўленьне ня толькі ў лірычных вершах: ім адзначана ўся яго творчасьць часу «Буры і Націску». Усе зазначаныя вышэй пэрсанажныя вобразы прасякнуты моцным лірызмам. Часта яны прасякнуты гневам і заўсёды пачуцьцём сваёй чалавечай годнасьці. Спынімся на найбольш славутым з гэтых вобразаў—Фаўсьце і прысьвечанай яму поэме.

II

Фаўст ня быў толькі легендарнай фігурай. Ён жыў у канцы XV—першай палове XVI стагодзьдзя (радз. у 1480 г., пражыў больш 60 год). Займаўся магіяй, астралёгіяй, алхіміяй, многа вандраваў. З дайшоўшых да нас матар'ялаў відаць, што многія лічылі яго—і пэўна, не беспадстаўна—авантурыстам і шарлятанам. Аб ім хадзілі чуткі, што ён памёр у выніку яко-

гасьці выбуху ў яго пакоі, прычым яго знайшлі ляжачым тварам да зямлі. Апошняя акалічнасьць была выкарыстана служкамі рэлігіі для таго, каб сьцьвярджаць, што ён аддаў сваю душу д'яблу і пайшоў у пекла. Фантазія розных людзей, на якіх, відаць, Фаўст зрабіў сваім таямнічым жыцьцём і ня зусім звычайнай асобай моцнае ўражаньне, працавала, стварала розныя легенды і анэкдоты аб яго жыцьці, і к канцу XVI ст. легенда была аформлена ў выглядзе кнігі пра Фаўста. У першых апрацоўках легенды, зробленай служкамі рэлігіі ці людзьмі, што знаходзіліся пад іх уплывам, Фаўст асуджан, як чалавек, які для таго, каб мець уладу і асалоду, прадаў сваю душу д'яблу. За яго душу на працягу 24 год д'ябал павінен быў выконваць усе яго жаданьні. Але час прайшоў, і Фаўст атрымаў заслужаную ім кару: д'ябал забірае яго душу.

У гэтых апрацоўках легенды мы маем тры асноўных элемэнты: першы, ужо зазначаны намі, элемэнт рэлігійны, маральна-навучальны: духавенства хацела паказаць, да чаго вядзе сувязь з д'яблам, адсутнасьць страху божага, зацікаўленасьць магіяй і іншымі навукамі, імкненьне да ўлады і земных асалод. Калі-б гэты навучальны элемэнт быў адзіным у легендзе, то яна мела-б нудны, дыдактычны характар, не дасягнула-б шырокага распаўсюджаньня, і тут на дапамогу прыходзіў другі элемэнт—камічна-анэкдатычны: на дапамогу прыходзілі розныя фокусы і прыгоды Фаўста накшталт таго, што ён прадаў селяніну каня, а калі селянін на кані ўехаў у раку, дык конь стаў стогам сена, які распоўзься, а селянін ледзь выратаваўся і г. д.[1]).

Але апрача двух зазначаных элемэнтаў—рэлігойна-навучальнага і камічна-авантурнага—ўжо ў першых апрацоўках легенды, можа бяз волі аўтра, адчуваецца, яшчэ вельмі скрыты і слабы, трэці элемэнт легенды,—элемэнт ідэалізацыі Фаўста, як сьмелага і надзвычайнага чалавека, які, як гаворыцца ў першай кнізе пра Фаўста, «узяў сабе арлiныя крыльлі і хацеў дасьледваць усе асновы і на небе і на зямлі; ён быў, як тыя волаты, пра якіх сьпяваюць паэты, што яны нагрувасьцілі горы на горы і хацелі ваяваць супроць бога»!

Калі два першых элемэнты легенды зусім зьмяшчаюцца ў рамках шырока распаўсюджаных у фэўдальную эпоху літаратурных жанраў рэлігійна-навучальнага апавяданьня і сьмешнага шванку, дык трэці элемэнт сьведчыць ужо аб фармаваньні новага сьветапогляду, які ідэалізуе чалавека з сьмелай ініцыятывай, чалавека, што імкнецца да ўлады прыродай і ў гэтым імкненьні ні перад чым ня спыняецца, сьветапогляду буржуазіі, што пачала падымацца ў пачатку развіцьця капіталізму ў фэўдальным яшчэ грамадзтве. Гэтаму слабому яшчэ ў першапачатковай апрацоўцы легенды моманту ідэалізацыі Фаўста і належала будучае.

[1]) Рэшткі гэтага анэкдотычнага элемэнту легенды знаходзім і ў поэмэ Гётэ. Так напрыклад, трапіўшы з Фаўстам у паграбок Аўэрбаха, Мэфістофель частуе вясёлую кампанію віном, якое льлецца з прасьвідраваных у стале дзюрак, але пралітае на падлогу яно становіцца попелам. Падвыпіўшы сябры кідаюцца з нажамі на Мэфістофеля, але вышла—трымаюць адзін аднаго за нос. Шмат фокусаў рабіў Мэфістофель пры двары імпэратара. Галоўны з іх—выпуск папяровых грошай, нібыта забясьпечаных кладамі, якія схаваны ў розных мясцох імпэратарскай зямлі (алегорычная сатыра на фінансавыя апэрацыі, якія мелі месца ў Францыі і кончыліся крахам).

Першая мастацкая спроба апрацоўкі легенды была зроблена ангельскім пісьменьнікам XVI стаг. Марлё, рана памёршым старэйшым сучасьнікам Шэкспіра. Пра яго вядома, што ён пісаў памфлёты супроць рэлігіі і быў-бы прыцягнуты да суду за божаганства, калі-б ня сьмерць. Аднак-жа той, што дайшоў да нас, тэкст яго драмы «Трагічная гісторыя доктара Фаўста» досыць блізкі да традыцыі легенды: нямала месца займаюць у п'есе анэкдатычныя моманты, якія аслабляюць яе драматычную напружанасьць, многія сцэны вытрыманы ў традыцыйным рэлігійна-навучальным стылі. Магчыма, што Марлё пісаў яе так, каб яна магла трапіць на падмосткі тэатру. Але магчыма, што тэкст, які дайшоў да нас, значна пераробланы кім-небудзь іншым.

Апошняе тым больш верагодна, што да нас дайшла расьпіска аб плаце аднаму чалавеку за пераробку п'есы Марлё для тэатру. Такім чынам, што належыць у дайшоўшай да нас п'есе сапраўды Марлё—невядома. Але бязумоўна, яму належыць самае сьмелае, што ёсьць у творы: гэта—маналёг Фаўста ў яго габінэце. У ім ён дае крытыку унівэрсытэцкіх навук свайго часу: лёгікі, мэдыцыны, юрыспрудэнцыі, тэалёгіі. Цікава, што гаворыцца аб апошняй. Разгарнуўшы біблію, Фаўст чытае: «Сьмерць ёсьць адплата за грахі». Мы павінны грашыць, ня можам не грашыць і за гэта асуджаны на сьмерць. Як назваць такое вучэньне?—пытаецца Фаўст. Ён адкідае біблію з яе жорсткімі і супярэчнымі думкамі. Адзінае, на што спадзяецца ён, гэта—магія, якая магчыма, дасьць уладу розуму ў яго шуканьні праўды.

Крытыку схалястычнай навукі і тэалёгіі, якую знаходзім у гэтым маналёзе, мы знойдзем у вельмі іранічнай варыяцыі і ў гётаўскім «Фаўсьце», дзе яна ўложана ў вусны Мэфістофеля, калі той, надзеўшы доктарскую мантыю і шапачку Фаўста, прыймае маладога чалавека, што прыйшоў да Фаўста вучыцца, і гаворыць з ім аб тым, чаму можна навучыцца на розных факультэтах. Асабліва дасьціпнай зьяўляецца крытыка лёгікі мэтафізыкі. Крытыка фармальнага аналізу, якую мы тут знаходзім, зьяўляецца актуальнай і для нашага часу:

Wer will was Lebendigs erkennen und beschreiben,
Sucht erst den Leist heraus zu treiben,
Dann hat er die Theile in seiner Hand
Fehlt leider! nur das geistige Band.

Як падыходзіць гэта характарыстыка, напр., да таго, што робяць, так званыя фармалістыя з паэтычным творам, які яны аналізуюць.

Аб мэтафізыцы Мэфістофель робіць заўвагу,, што, калі ў ёй не хапае паняцьцяў, дык іх адсутнасьць лёгка замяняецца словамі, з дапамогай якіх можна вельмі добра спрачацца і з якіх можна будаваць нават цэлыя сыстэмы.

Твор Марлё садзейнічаў распаўсюджаньню легенды пра Фаўста ня толькі ў Ангельшчыне, але і ў Нямеччыне. Ангельскія акторы ў XVII ст. вельмі часта вандравалі па Нямеччыне і мелі ў сваім рэпэртуары п'есу пра Фаўста. З тэатру, у якім выступалі жывыя акторы, легенда пра Фаўста перайшла ў лялечны тэатр, паказы якога Гётэ бачыў, калі быў яшчэ хлопчыкам. Але не аднаго Гётэ цікавіла гэтая легенда.

Шэраг пісьменьнікаў яго пакаленьня, а раней іх яшчэ Лесінг, захапляліся вобразамі Фаўста. Да матываў адмаўленьня афіцыйнай схалястычнай навукі і імкненьня аўладаць сіламі прыроды цяпер далучецца матыў усхваленьня чалавека, які ня можа задаволіцца шэрай рэчаіснасьцю і паўстае супроць усяго, што яго зьвязвае. Гэтаму матыву незадаволенасьці, бунтарства, імкненьне да чагосьці большага найлепшае выражэньне даў Гётэ. «Я ня шукаю», гаворыць яго Фауст «свайго збаўленьня ў абыякавай бязрухомасьці: хваляваньне ёсьць лепшая частка чалавека; як ні дорага прымушае сьвет плаціць за праяву пачуцьця, але толькі перажываючы хваляваньне, чалавек глыбока адчувае бязьмежнае».

Апраўдаць Фаўста, стварыць яго філёзофска-паэтычны апатэоз—вось дырэктыва, якую атрымаў Гётэ ад сваёй клясы, і гэтую дырэктыву ён пачаў выконваць ужо ў юнацкія гады (1771—1775) сваім першым накідам, так званым «Пра-Фаўстам». Гэты першапачатковы фрагмэнт «Фаўста» ня толькі ня быў у свой час надрукованы, але заставаўся невядомым для літаратуразнаўцаў да 1887 г., калі ў Вэймары была знойдзена зробленая з яго копія.

У 1790 г. з грунтоўнай пераапрацоўкай і новымі сцэнамі Гётэ ўпяршыню друкуе свайго, «Фаўста» з падзагалоўкам «фрагмэнт». Шылер угаворвае Гётэ не забывацца аб гэтым «торсе Геркулеса», як ён выказаўся, і падштурхоўвае свайго сябра на далейшую працу. Але першая частка «Фаўста» была ўжо скончана пасьля сьмерці Шылера ў 1806 г. і зьявілася ў сьвет ў 1808 г. Яшчэ да заканчэньня першай часткі Гётэ пачаў працаваць над другой часткай (эпізод Галены), у 1827 г. гэты эпізод быў надрукаваны.

У апошнія гады свайго жыцьця Гётэ, ня гледзячы на глыбокую старасьць і зьвязаны з ёю занапад сіл, упарта працуе над другой часткай «Фаўста» і канчае яе ў 1831 г. за некалькі месяцаў да сьмерці. Свой твор ён палажыў у канвэрт і запячатаў яго, наказаўшы расьпячатаць і надрукаваць пасьля сьмерці. Заканчэньне зодуму, за які Гётэ ўпяршыню ўзяўся яшчэ юнаком, дало яму вялікае задавальненьне, аб чым сьведчаць словы, сказаныя ім Экерману:

«На сваё далейшае жыцьцё я магу цяпер глядзець, як на чысьцейшы падарунак, і цяпер па сутнасьці ўсё адно ці займаюся я і чым менавіта, ці не» [1]).

Праца на працягу 60-ці год—праўда, з доўгімі перапынкамі—робіць гэтую паэму вельмі зьмястоўнай, што адлюстроўвае на працягу доўгага часу думкі і настроі тэй сацыяльнай групы буржуазіі, якую прадстаўляе Гётэ. Такая доўгая праца над адным творам здрэньне наогул выключнае

[1]) Закончанасьць „Фаўста“ зьяўляецца аднак-жа толькі знадворнай; некаторыя сцэны, якія павінны былі-б быць і якія Гётэ нават меў на мэце напісаць, адсутнічаюць. Зазначым дзьве: 1) Фаўст ў Пэрсэфоны: зварот Фаўста да багіні падземнага сьвету з просьбай адпусьціць Галену, яе згода і ўмовы яе згоды. Бяз гэтай сцэны раптоўнае зьнікненьне Галены ў канцы акту зьяўляецца нічым нематываваным і ўспрыймаецца як алегорыя, якую нельга расшыфраваць і якая пакідае чытача халодным. 2) Рашэньне імпэратара аддзякаваць Фаўста за яго заслугі (хутчэй заслугі Мэфістофеля), жаданьне Фаўста атрымаць кавалак зямлі каля мора, угрунтаваньне гэтага жаданьня і здавальненьне яго. Калі-б гэтыя дзьве сцэны былі напісаны і належным чынам распрацаваны, яны ўнесьлі-б вельмі шмат у ідэалёгічны зьмест поэмы, не гаворачы ўжо аб мастацкай удзячнасьці гэтых тэм.

ў гісторыі сусьветнай літаратуры. Але поруч з дадатным бокам доўгая праца на працягу дзесяцігодзьдзяў мела для твору і адмоўнае значэньне: яму не дастае маналітнасьці, адзінства стылю, прапарцыянальнасьці ў распрацоўцы сюжэту.

Першая частка, ня гледзячы на легендарную завязку, заўсёдную прысутнасьць міталёгічнай істоты, Мэфістофеля і рад фантастычных сцэн—напісана ўсё-ж у асноўным рэалістычна: дадзены высока-мастацкі малюнак жыцьця нямецкага гораду позьняга сярэднявечча, прычым, каб знайсьці фарбы для гэтага малюнку, аўтару ня прыходзіцца абапірацца на гістарычны матарыял як на галоўны: пры адсталасьці і кансэрватызьме сваёй краіны Гётэ мог сам непасрэдна назіраць элемэнты гэтага старога жыцьця,—яны ў значнай меры захаваліся да яго часу: сялян у сьвяточны дзень, іх гутаркі, жарты і скокі, вясёлыя падвыпіўшыя кампаніі Зыбелей і Брандэраў з іх прыяцелямі ў паграбку Аўэрбаха ў Лейпцыгу, горадзе, дзе Гётэ вучыўся ва Унівэрсытэце, самазадаволеных філістэраў навукі Вагнэраў, богабязных і наіўных мяшчаначак Грэтхэн і іх навакольнае асяродзьдзе. Такім чынам, па часу, калі адбывалася дзея, першая частка поэмы—і гістарычная і разам з тым сучасная. Яна ўся прасякнута цяплом, непасрэднасьцю, разнакаляровасьцю рэальнага жыцьця.

Як-жа аднёсься да гэтага жыцьця Гётэ? Каб адказаць на гэтае пытаньне, ня трэба забывацца, што першая частка Фаўста ў значнай меры зьяўляецца трагэдыяй Маргарэты. Лёс гэтай наіўнай і простай дзяўчыны, яшчэ не закранутай рэальным жыцьцём, шчырай і непасрэднай у сваім каханьні, лёс гэтай чыстай, эмацыянальнай натуры ва ўмовах пабыту сярэднявяковага гораду, дзе пануе знадворная мараль, паводле якой дзяўчына, якая аддалася каханаму, не падумаўшы своечасова аб шлюбе і шлюбным пярсьцёнку, зьяўляецца распуснай жанчынай,, загінуўшым стварэньнем, з якім ніхто ня хоча мець справы, каб не замарацца, якую яе брат Валентын, вярнуўшыся з вайны, называе шлюхай, выражаючы гэтым агульную думку гораду—так, думаецца, можна было-б сфармуляваць задум Гётэ. Паэтызацыя Маргарэты, яе глыбокага і чыстага каханьня, і паказ асяродзьдзя, якое так бязьлітасна карае яе,—два матывы, якім Гётэ даў мастацкае выяўленьне, матывы, якія характарызуюць поэтаў Sturm und Drang з іх культам вольнага пачуцьця і паказам вузкага і жорсткага асяродзьдзя, што трагічна скоўвае чалавека.

У распрацоўцы тэмы Грэтхэн і трагічнага для яе канфлікту з асяродзьдзем высока-мастацкія якасьці арганічна зьліты з пэўным кампазыцыйным недахопам: гэта тэма, так шырока разгорнутая, засланяе сабой асноўную тэму паэмы—жыцьцёвы шлях і шуканьні Фаўста—і, такім чынам выходзіць выкупленай за кошт агульнай пабудовы твору.

Ня трэба аднак-жа забывацца, што і ў біяграфіі Фаўста каханьне да Маргарэты займае нямалае месца. Яго імкненьне вырвацца з муроў свайго габінэту, пакінуць кніжную мудрасьць, мець непасярэдныя адносіны да жыцьця, наблізіцца да прыродных сіл, прывяло яго да культу пачуцьцёвасьці,—антытэзы сухой схаластыкі унівэрсытэцкай навукі яго часу, схаластыкі, з якой толькі што парваў Фауст. Палкае каханьне да жанчыны, патрэбнае для Фаўста, як супроцьлегласьць яго ранейшых адносін да жыцьця, зьвязана з яго жаданьнем бліжэй падыйсьці да прыроды. Пачуцьцёвае каханьне— толькі станцыя ў падарожжы Фаўста, але, дзеля таго,

што Гётэ падае гэтае каханьне ня толькі як эпізод на жыцьцёвым шляху Фаўста, але і як трагічны лёс пакахаўшай яго жанчыны, зьнішчанай за гэты «сьмяротны грэх», навакольным асяродзьдзем, любоўны эпізод з Маргарэтай разросься, заняў непрапарцыянальна-вялікае месца ў паэме. Пры гэтым ня толькі колькасна выпуклены гэты эпізод, але і якасна зьяўляючыся ва ўсёй паэме найбольш багатым жыцьцёвымі фарбамі і эмацыйна вельмі моцным.

У адрозьненьне ад першай часткі «Фаўста», у значнай меры рэалістычнай, другая частка—алегарычна-казачная. Пасьля жыцьця пры двары імпэратара, дзе Фаўст зьяўляецца наглядальнікам, а Мэфістофель зьдзіўляе markрознымі праявамі сваёй чараўнічай сілы, Фаўст, пабачыўшы выкліканы ім-жа вобраз Галены (тэй Гэлены, з-за хараства якой прэкі пасьля таго, як яе ўкраў Парыс, пайшлі на Трою, і якая зьяўляецца для Фаўста і яго аўтара сымбалем антычнасьці, яе высока-эстэтычнай культуры) адпраўляецца ў казачнае вандраваньне, каб вярнуць Галену з краіны ценяў. Каханьне Фаўста да Галены пазбаўлена тых фарбаў сапраўднага жыцьця, якія мы знайшлі ў першай частцы поэмы,—сам аўтар назваў гэты эпізод «клясычна-рамантычнай фантасмагорыяй». У першай частцы дадзен малюнак рэальнага каханьня да рэальнай жанчыны, тут мы маем каханьне як алегорыю захапленьня Фаўста антычнай спадчынай з яе культам хараства. Эпізод канчаецца пагібельлю сына Галены і Фаўста Эўфарыёна і зьнікненьнем Галены.

Фаўст зноў пападае ка двару імпэратара дзякуючы Мэфістофэлю, дапамагае імпэратару, разьлічваючы атрымаць ад яго ўзнагароду,—кавалак зямлі каля мора. Гэтае жаданьне Фаўста ажыцьцяўляецца. Ён будуе магутныя ставы, адваёўвае ў мора зямлю і на гэтай новай зямлі будуе вольнае жыцьцё для вольнага народу. Ён імкнецца вызваліць краіну ад усяго старога. Звон старой званіцы выклікае ў яго злосьць. Мэфістофель запальвае хату, у якой жывуць старыя Філямон і Баўкіда, паказаныя ў паэме як сымбалі старога ідылічнага жыцьця, што затрымлівае пабудову новага. Фаўст пераконваецца, што сацыяльнае будаўніцтва, якому ён цяпер цалкам аддаўся, зьяўляецца самым высокім, на што можа аддаць у жыцьці свае сілы чалавек. Калі Фаўст ужо залажыў асновы новага жыцьця і новага грамадзтва, да яго, ужо старога і блізкага да сьлепаты, набліжаюцца алегарычныя фігуры чатырох пасівелых жанчын. Час яго сьмерці настаў. Ён памірае з наступнымі словамі: «Уздоўж гары цягнецца балота, якое заражае ўсё, што я здабыў: зьнішчэньне гнілой твані было-б апошнім, вышэйшым дасягненьнем. Я адчыняю прастор для многіх мільёнаў, каб яны маглі жыць там—калі ня ў поўнай бясьпецы, дык у вольнай дзейнасьці. Зелены, ураджайны палі: людзям і жывёлам прывольле на іх новай зямлі і хутка расьсяліліся яны каля вялікіх узгоркаў, зробленых сьмелым і працавітым народам: унутры краіны—рай; а звонку няхай даносяцца хвалі да самага краю. Калі-ж ім прыйдзе ахвота прарваць ставу, усе сьпяшаюць агульнымі сіламі засыпаць прабоіну. Так, гэтай думцы цалкам аддаўся я; яна—апошняе слова мудрасьці. Волі і жыцьця варты толькі той, хто прымушаны кожны дзень заваёўваць іх у гэткай дзейнасьці, сярод небясьпек, ганарова праходзіць ён свае гады, як малы, сталы і стары. Вось гэткае бурлівае жыцьцё хацеў-бы я пабачыць, хацеў-бы стаяць на вольнай зямлі з вольным

народам, і тады-б я меў права сказаць хвіліне «не адыходзь, ты такая прыгожая». Сьляды майго земнага жыцьця тады-б ня зьніклі ў эонах... У прадчуваньні гэтага высокага шчасьця, я перажываю зараз з асалодай сваю найвышэйшую хвіліну».

Агледзімся на жыцьцёвы шлях Фаўста. Яго шлях увесь прасякнуты сваясаблівай дыялектыкай. Яго незадаволіла абстрактная, адарваная ад жыцьця навука, самазадаволеным носьбітам якой у паэме зьяўляецца Вагнэр. Ён марыць аб магіі, як аб навуцы, што ўплывае на жыцьцё, можа зьмяніць яго, мае волевы цэнтр. Завязаўшы дагавор з д'яблам, ён захапляецца жаночым вобразам у чараўнічым люстры і, вярнуўшы сабе маладосьць, аддаецца пачуцьцёваму каханьню да Маргарэты, глыбокаму адчуваньню прыроды і яе стыхіі, ад якіх ён быў адарваны разважлівым жыцьцём габінэтнага вучонага (сцэна «Лес і пячора»). Палкае каханьне Фаўста канчаецца тым, што яго сумленьне з прычыны згубы па яго віне Маргарэты глыбока паранена.

Праходзіць многа часу, калі Фаўст, папаўшы да імпэратара, застаецца наглядальнікам нікчэмнага аддана асалодам прыдворнага жыцьця. Наступнае захапленьне Фаўста—захапленьне харавством, якое ўзносіць над штодзенным жыцьцём—сынтэз жыцьця Фаўста—вучонага да сустрэчы з Мэфістофелем і палкай стыхійнай пачуцьцёвасьці часу каханьня Маргарэты. Апошні этап жыцьця Фаўста—актыўны, зьвернуты тварам да будучыні сацыяльнага будаўніцтва, антытэза пасэістычнаму сузіральнаму эстэтызму з Галенай. Толькі цяпер Фаўст знаходзіць тую высокую і бясконцую для творчых сіл чалавека мэту, якую ён не знайшоў ні ў габінэтнай навуцы, ні ў кульце прыроды і яе пачуцьцёвасьці, ні ў гармоніі харавства [1]).

Жыцьцё Фаўста зьяўляецца ўзыходжаньнем на ўсё больш высокія ступені, прычым кожная ступень зьяўляецца ў пэўнай меры антытэзай папярэдняй. Кожны мае сваю праўду, якая захоўваецца ў жыцьцёвым вопыце Фаўста, але ў той-жа час праўду абмежаваную, якая не задавальняе, якая зьнімаецца пераходам Фаўста на новую, больш высокую ступень. Усё яго жыцьцё—дыялектычны рух, антытэтычныя пераходы, зьвязаныя з тымі супярэчнасьцямі кожнага этапу яго жыцьця, якія павінны быць паводле

---

[1]) Вельмі цяжкая, другая частка „Фаўста“ мала чытаецца. Між тым без знаёмства з ёю нельга наогул судзіць пра гэтую славутую поэму. Вышэй былі адзначаны асноўныя моманты сюжэту гэтай часткі твору, паколькі ў ёй паказаны далейшы жыцьцёвы шлях Фаўста. З іншых сцэн і сюжэтных ліній другой часткі „Фаўста“ асабліва каштоўным як сьмеласьцю свае фантазіі, так і сваім значэньнем для сьветапогляду Гётэ зьяўляецца эпізод з Гамункулюсам, штучным чалавекам, створаным Вагнэрам у шкляной рэторце. Гэты прадукт альхімічнай лябараторыі мае востры і праніклівы розум, але ня мае ў сабе нічога прыроднага, матэрыяльнага, непасрэднага. Ён шукае магчымасьці стаць сапраўднай істотай і выйсьці з сваёй рэторты. Разам з Фаўстам і Мэфістофелем адпраўляецца ён у вандраваньне, шукаючы магчымасьці атрымаць якасьці прыроднай істоты. Калі Гамункулюс пабачыў морскую красуньню Галятэю, што плыла ў сваёй ракавіне па моры, ён адчуў каханьне, разьбіўся аб яе ладзьдзю, шугнуў полымем і разьліўшыся зьмяшаўся з элемэнтамі тэй прыроды, якой ён не адчуваў у сабе. Сырэны праслаўляюць гэтае „вогненае цуда“ і ўладу Эроса, пачынальніка ўсяго, што існуе.

Эпізод Гамункулюса ідэйна пераклікаецца з матывамі першай часткі паэмы. Як Фаўст рваўся калісьці за муры свайго вучонага габінэту, так Гамункулюс хоча выйсьці з сваёй шкляной турмы. „Таго, што створана прыродай“, гаворыць Гамункулюс, „увесь сьвет ледзь можа задаволіць; штучнае патрабуе абмежаванага прастору“.

зомуду поэмы, раскрыты ў дыялёгах-спрэчках паміж Фаўстам і Мэфістофэлем.

Ня гледзячы на сваё філёзофскае значэньне, вобраз Мэфістофеля прасякнуты глыбокім камізмам: Мафістофель увесь час спадзяецца, што Фаўст задаволіцца чым-небудзь, спыніцца, адмовіцца ад нясупыннага руху наперад і тады, паводле дагавору, пападзе да яго ў лапы. Але ў рэчаіснасьці Мэфістофель сваім духам адмаўленьня і супярэчлівасьці зьяўляецца як-раз нясупынным штуршком для Фаўста і такім чынам сам дзейнічае супроць сваіх інтарэсаў.

Ня гледзячы на тое, што паэма «Фаўст» не зацяняе іншыя творы паэты, з якіх многія па сваёй мастацкай дасканаласьці стаяць вышэй яе, напр. «Рымскія элегіі», «Іфэгенія ў Таўрыдзе», яна па шырыні, па сканцэнтраванасьці вялікага жыцьцёвага вопыту, настрояў, думак зьяўляецца найбольш важнай крыніцай пры вывучэньні сьветапогляду Гётэ. Паэма дае нам магчымасьць высьветліць, што ў Гётэ зьяўляецца дадатным, прагрэсыўным, і дзе, наадварот, выступаюць яго рэакцыйныя тэндэнцыі. Пры гэтым трэба мецы на ўвазе наступнае. Гётэ быў прадстаўніком тэй буржуазіі, якая адчувала ў яго эпоху пэўны ўздым і, паколькі яна была ўзыходнай клясай, імкнулася заваяваць сабе месца пад сонцам і была павінна весьці змаганьне супроць усяго фэўдальнага, супроць усяго, што затрымлівала разьвіцьцё вытворчых сіл краіны. Але стан вытворчых сіл і палітычныя ўмовы былі такія, што Нямеччыне давялося застацца яшчэ на доўгі гістарычны адрэзак часу адсталай краінай, у якой буржуазія ня толькі ня была здольна на сьмелы разрыў з фэўдальным ладам, але, калі яна пачула грамавыя выбухі Вялікай францускай рэвалюцыі, дык лёгка пайшла на прымірэньне з фэўдальнымі элемэнтамі, імкнучыся пабудаваць для сябе хацяж бы якое-небудзь мяшчанскае шчасьце ў межах фэўдальнага грамадзтва, задавальняючыся маленькімі ўступачкамі і паправачкамі да таго ладу, што панаваў.

Гэтай супярэчлівасьцю становішча і паводзін таго бюргерства, сьветапогляд і настроі якога выражаў Гётэ, абумоўлены і супярэчнасьці ў ідэалёгічнай установцы яго поэмы.

Гётэ даў філёзофскі апатэос Фаўста. Чалавек не зьяўляецца для яго грэшнай істотай, нікчэмнай перад богам. Гётэ дае вобраз чалавека, для якога ня існуе самага паняцьця грэху, які можа рабіць і робіць шмат памылак, але праз сваю нястомную энэргію перамагае іх і такім чынам паднімаецца ў сваім жыцьці на ўсё больш высокую ступень.

Ня толькі Фаўст, але і Мэфістофель, яго alter ego, часткова таксама апраўданы ў Гётэ. Паводле ўласнага прызнаньня Мэфістофеля, ён, жадаючы зла, на справе творыць добрае. Дзякуючы духу адмаўленьня свайгс непакойнага спадарожніка Фаўст ніколі ня можа спыніцца на дасягнутым. Паэтычны лірык, ён не выражаецца ў філістэра-ідэалістага, дзякуючы заўсёдашняй трапнай глумлівасьці Мэфістофеля. Гэтай няспыннай дыялектычнай патасу і іроніі абумоўлена як супроцьлегласьць Фаўста і Мэфістофеля, так і іхняе адзінства.

І, нарэшце, трэці пэрсанаж, якога Гётэ ў сваім імкненьні зьнішчыць ідэю грэшнасьці чалавека і даць філёзофска-паэтычны апотэоз ягонай высокай годнасьці ня толькі апраўдвае, але і звыш меры ўзносіць. Гэта—Маргарэта, якая забіла сваё дзіця і зьявілася прычынай сьмерці сваёй маткі і брата.

Паколькі Маргарэта хадою жыцьця супроцьстаўлена свайму асяродзьдзю, якое асудзіла яе, апраўданьне каханкі Фаўста зьвязана з тым, што было прагрэсыўнага, штурмэраўскага ў сьветапоглядзе Гётэ. Але паколькі Маргарэта ў той-жа час і прадукт гэтага асяродзьдзя і ня мае імкненьняў, якія ўзносілі-б яе над ім, яе ідэалізацыя стала ідэалізацыяй нямецкага філістэрства. Калі-б замест Фаўста яна сустрэла на сваім жыцьцёвым шляху Германа, яна была-б шчасьлівай Даратэяй, гераіняй самага філістэрскага з твораў Гётэ. Такім чынам, у вобразе Маргарэты мы бачым адзінства супярэчнасьцяй. І прагрэсыўныя і філістэрскі-кансэрватыўныя моманты сьветапогляду Гётэ дзейнічалі ў стварэньні гэтага вобразу.

Апраўданьне Фаўста, а таксама і Мэфістофеля, як выдзеленую ў пасобны вобраз частку самага Фаўста, носіць наогул яскрава прагрэсыўны характар. Тое, што Гётэ ў канцы сваёй паэмы паказвае на сацыяльнае будаўніцтва, якое сваёй актыўнасьцю і накіраванасьцю ў будучае зьяўляецца, па думцы Гётэ, самай высокай ступеньню чалавечага жыцьця і дзейнасьці, гэта—таксама вельмі прагрэсыўны бок паэмы. Фаўстаўскі ідэал будаўніка сацыяльнага жыцьця супроцьстаўлены ў паэме фэўдальным уладаром, якія нібыта «прамадзкія абавязкі» кіраваньня сваёй краінай сумяшчаюць з прывілеямі на асалоды і задавальненьні жыцьця, у рэчаіснасьці ня думаючы аб першым і цалкам аддаючыся другому.

Гэта супроцьстаўленьне зроблена ў наступнай гутарцы Мэфістофеля і Фаўста (у 4-м акце II-й часткі). Мэфістофель апавядае Фаўсту пра імпэратара: «У час маіх вандраваньняў ад мяне не засталося скрытым, што добры імпэратар знаходзіцца ў вельмі цяжкім становішчы. Ты-ж яго ведаеш. Калі мы забаўлялі яго, сыгралі ў яго руку фальшывымі багацьцямі, ён уявіў, што можа купіць увесь сьвет. Маладым атрымаў ён у спадчыну твор, і яму выгодна было прыйсьці да няправільнай высновы, што вельмі магчыма ў адзін і той-жа час і кіраваць і жыць у асалодах, і што гэта пажадана і добра». Гэтыя словы Мэфістофеля выклікаюць наступны адказ Фаўста: «Вялікая памылка. Каму прысуджана загадваць, той павінен знаходзіць шчасьце ў сваім загадваньні. Грудзі яго поўны высокай волі, але чаго ён хоча—гэта ня можа быць адкрыта ніводнаму чалавеку. Шапяне ён штонебудзь на вуха самым верным людзям—і гэта зараз-жа выканана, і ўвесь сьвет дзівіцца. Толькі дзейнічаючы такім чынам, заўсёды ён будзе заставацца найвысачэзным, найгоднейшым; асалода-ж робіць гідкім».

Тое, што Фаўст выказваецца супроць фэўдальных уладароў, тое, што няздольнасьць імпэратара і яго міністраў наладзіць жыцьцё краіны ясна паказваецца ў поэме, усё гэта—прагрэсыўныя моманты паэмы. Але які станоўчы зьмест мае фаўстаўская ідэя сацыяльнага будаўніцтва.

Выказваючыся супроць фэўдальных уладароў, Фаўст сам таксама хоча быць уладаром, хаця-ж і іншага тыпу. «Мне патрэбна ўлада, патрэбна маёмасьць», гаворыць ён Мэфістофелю. Такім чынам, у асобе Фаўста на зьмену фэўдальнаму ўладару ідзе новы ўладар, які не спасылаецца на сваё паходжаньне, ня лічыць уладу чымсьці дадзеным яму пры самым нараджэньні ад бога, ня думае, што яго становішча дае яму права на такія прывілеі, як жыцьцё ў роскашы і асалодах. Але Фаўст застаецца ўладаром. Праўда, ён хоча, як мы чулі ў яго перадсьмяротнай прамове, стаяць на вольнай зямлі з вольным народам і гаварыць аб вольнай дзейнасьці народу. Але ён хоча сам адчыніць прастор для многіх мільёнаў, выконвае мэты,

якія не павінны быць адкрыты ніводнаму чалавеку, хоча сам дзейнічаць, выклікаючы агульнае зьдзіўленьне сваім розумам. Демакратычныя словы і адкрыты індывідуалізм уладара,—гэтыя супярэчнасьці буржуазнага сьветапогляду ўжо намечаны, хаця-ж ні ў якой меры не пераможаны ў паэме Гётэ [1]).

Гётэўскі Фаўст ня толькі ня ўзвышаецца над супярэчнасьцямі буржуазнай сьвядомасьці—гэтага нельга было-б і чакаць,—але і за новае буржуазнае грамадзтва, якое ён будуе, ён не вядзе належнай барацьбы. Ён хоча будаваць гэтае грамадзтва не на руінах фэўдальнага грамадзтва, але поруч з ім на новай зямлі, якую ён для гэтай мэты адваёўвае ў мора. Ці ўдасца яму гэта.

У канцы V акту зьяўляецца архіепіскап і гаворыць імпэратару пра бязбожнага чалавека, якому аддадзена берагавая зямля каля мора, і патрабуе, каб для «сьвятой царквы» былі забясьпечаны з гэтай зямлі ўсе чыншы, падаткі і іншыя прыбыткі, архіепіскап, выклікаючы зьдзіўленьне сваёй прагавітасьцю, патрабуе гэтага ўжо тады, калі зямля яшчэ знаходзіцца пад вадой.

На вялікі жаль, гэта рэалістычная рыса твору ў далейшым не атрымала разьвіцьця, і, відаць, Фаўст спадзяецца пабудаваць новае грамадзтва бяз жорсткай барацьбы са старым. Каб уцікнуць барацьбы, ён і будуе сваё грамадзтва на новай зямлі, якой раней не існавала.

Як сацыяльны будаўнік, Фаўст—не змагар у нашым разуменьні гэтага слова. Апатэоз будаўніцтва новага грамадзтва робіцца апатэозам таго, што мы называем дзеляцтвам, а ня тым гераічным змаганьнем на жыцьцё і на сьмерць са старым, без якога немагчыма перамога новага. Разгледжаны з гэтага пункту погляду, апошні этап жыцьця Фаўста, які павінен быць узвышшам ягоных жыцьцёвых дасягненьняў, выходзіць супярэчлівым. Прагрэсыўная ў тэорыі ідэя пабудовы новага грамадзтва, не падпарадкаванага традыцыям мінулага, становіцца на практыцы рэакцыйнай утопіяй будаўніцтва без грамадзкай барацьбы. Фаўст вядзе барацьбу з хвалямі мора і старанна маўчыць пра нямінучасьць іншых хваль, хваль грамадзкага змаганьня. Як вядома, мірны сацыяльны ўтопізм вельмі добра ўжываецца з самым сапраўдным кансэрватызмам. Так здарылася і з Гётэ.

Асабліва яскрава гэтая рыса яго сьветапогляду выявілася ў яго рамане «Вандроўныя гады Вільгельма Мэйстэра», але ёсьць яна і ў «Фаўсьце».

Як мы бачым, славутная паэма ўся прасякнута супярэчнасьцямі. Гэтыя супярэчнасьці—супярэчнасьці таго бюргерства, якое адштурхоўвалася ад усяго фэўдальнага і ў той-жа час было занадта слабое, каб няісьці з ім на прымірэньне. Мы ўжо чулі словы Фаўста: «Хваляваньне—лепшая частка чалавека». Гэта—высокія і прыгожыя словы. Хваляваньне, якое адчуваў Фаўст, было хваляваньнем упартага, бязупыннага шуканьня. Але, на вялікі жаль, Фаўсту, як і яго аўтару, не ўдалося выйсьці на шырокі шлях гісторыі, на якім толькі і магчыма сапраўдная сацыяльная творчасьць, магчыма ня толькі на новай, але і на старой зямлі. Утопія Гётэ—утопія сацыяльнай творчасьці без грамадзкай барацьбы, але мы ведаем, што без грамадзкай барацьбы, без клясавай барацьбы, гэтага вагара гісторыі, сацыяльная твор-

1) На драматычным раскрыцьці супярэчнасьці паміж асьвечаным абсалютызмам і дэмакратызмам у сьвядомасьці Фаўста пабудавана цікавая п'еса А. В. Луначарскага „Фаўст і горад“.

часьць немагчыма. Яшчэ некалькі слоў пра мастацкую форму паэмы. Абедзьве часткі «Фаўста» ў гэтых адносінах, як вядома, вельмі розныя. У першай пануе непасрэдны лірызм і рэалістычны паказ рэчаіснасьці, у другой—алегарызм, які нялёгка раскрываецца. У буржуазным літаратуразнаўстве існуе агульна прынятая думка, што пераход Гётэ ад рэалізму да алегарызму тлумачыцца тым, што другую частку поэмы ёе пісаў у глыбокай старасьці. Зазначаюць нават, што ў іншых мастакоў таксама заўважаецца пад старасьць імкненьне даваць не індывідуальна-пачуцьцёвыя вобразы, а ідэі рэчаў, і называюць Рэмбрандта, Бэтховэна, нават Стрындбэрга [1]).

Зразумела, марксысцкая думка адкідае гэтае тлумачэньне як зусім ненавуковае. Мы маем шэраг мастакоў, якія таксама дажылі да глыбокай старасьці і ў якіх ніякага «старэчага алегарызму» не заўважаецца. Так, напрыклад, В. Гюго, наадварот, толькі пад старасьць—ён пражыў так-жа шмат як Гётэ—наблізіўся да больш рэалістычнага паказу жыцьця.

Алегарызм Гётэ, думаецца, тлумачыцца тым, што тыя верхавіны бюргерства, да якіх належыў паэта, у значнай меры прымірыліся з фэўдальнай клясай, у якой зусім ня было жаданьня бачыць жыцьцё ва ўсёй ягонай канкрэтнай сапраўднасьці, але, наадварот, было жаданьне уваскрасіць той алегарычны стыль, які калісьці панаваў у фэўдальным грамадзтве.

Гётэ сьвядома зьвярнуўся да аўтара «Боскай комэдыі» Дантэ і ня толькі да яго алегарызму, але і да яго зьвязаных каталіцызмам вобразаў. Пра гэта сьведчыць эпілёг «Фаўста». Вобраз Маргарэты становіцца ў ім падобным да вобразу Бэатрычэ. Зварот Гётэ да найвялікшага паэты фэўдальнае клясы мае, зразумела, пэўны сацыяльны, а не біалёгічны грунт. Гэты зварот звязаны з грамадзкім абліччам Гётэ ў той позьні пэрыяд яго жыцьця, калі ён канчаў сваю задуманую супроць фэўдальнай навукі, маралі, рэлігіі і палітыкі паэму.

## III

Супярэчнасьці ў сьветаадчуваньні Гётэ, якія выявіліся ўжо ў яго творах эпохі Sturm ung Drang, разгарнуліся ў другі пэрыяд яго творчасьці, які пачаўся для Гётэ з пераезду яго ў Вэймар у 1775 г. па запрашэньню герцога Карла-Аўгуста.

Многае з шырокіх узьлётаў свайго юнацтва Гётэ ў гэты пэрыяд страціў, але многа і захаваў. Захаваў разуменьне ісьціны як каштоўнай толькі тады, калі яна канкрэтная, плённая і праверaная на практыцы, погляд на паэтычную творчасьць як каштоўную толькі тады, калі яна расьце з жыцьця. Адмоўныя адносіны да філёзофскіх абстрактнасьцяй, няпрыхільнасьць да афіцыйнай навукі свайго часу, якая з падазронасьцю ставілася да ўсякай новай і сьвежай думкі, адмаўленьне ў літаратуры і мастацтве ўсяго скованага догмай і схэмай, з аднаго боку, і ўсяго рамантычнага, што адцягвае ад жыцьця , з другога боку (усё рамантычнае—хворае, паводле яго слоў), вось што дадатна характарызуе пазыцыю Гётэ сярод ідэйных плыняў яго часу.

---

[1]) Julius Bab. Faust. Das Werk des Soeheschen Lebeus. Union Deutsche Verlagsgesellschaft. 1925, стар. 154. Таксама G. Simmel, Goethe. Leipzig 1913, стар. 250—254.

Але, мы сказалі, многае з узьлётаў свайго юнацтва Гётэ ў гэты пэрыяд страціў. Умовы, у якіх жыў вялікі паэта і вучоны, ня былі спрыяльнымі для яго разьвіцьця. Ён вёў барацьбу з сваім асяродзьдзем, але гэтая барацьба ня была роўная: паэта ўсё больш замыкаўся ў сабе, прычым гэтае замыканьне было адначасова прымірэньнем з навакольным. Прадстаўнік эканамічнага слабога, няздольнага на рэвалюцыйны ўздым бюргерства, Гётэ зьблізіўся з арыстакратыяй, атрымаў дваранскую гордасьць, пачаў займаць дзяржаўныя пасады ў маленькім Вэймарскім герцогстве. Такім чынам ён урастаў у фэўдальны лад сваёй адсталай краіны.

Праўда, і тут Гётэ праявіў уласьцівую яму шырыню інтарэсаў, і разнастайнасьць дзейнасьці, якіх ня было ні ў аднаго паэты сьвету. Ён пісаў драмы, раманы, навэлі, паэмы, балады, оды, эпіграмы, крытычныя артыкулы, зрабіў каштоўныя досьледы ў галіне марфалёгіі расьлін, параўнальнай анатоміі, оптыкі, геалёгіі, арганізоўваў мэтэаралёгічныя станцыі і распрацаваў для іх інструкцыі, стаў дырэктарам тэатру, пісаў для яго і перакладаў п'есы, у якасьці захопленага сваёй справай рэжысэра вучыў актораў іграць. Але апрача гэтага ён займаўся яшчэ дзейнасьцю, якую ён то вельмі высока ставіў, то імкнуўся ад яе пазбавіцца: ён займаў вышэйшыя дзяржаўныя пасады Вэймарскага герцагства, быў міністрам марыёнэтачнай дзяржавы. Яго розум і энэргія траціліся на дробязі і няпрыкметна для сябе геніяльны чалавек зрастаўся з убогім жыцьцём маленькага фэўдальнага двара і траціў маштаб для ацэнкі тых вялізманных гістарычных падзей, якія ён назіраў здалёку, з правінцыяльнага гарадка ў далячыні ад вялікага шляху гісторыі.

Шкоднае для разьвіцьця паэты прымірэньне з убогім нямецкім жыцьцём мела сваім вынікам абмежаванасьць яго палітычнага кругагляду. Вялізарны гістарычны зрух у эпоху Вялікай французскай рэвалюцыі глыбока цікавіў яго, але быў яму чужы. Ён, праўда, ня слаў рэвалюцыі праклёнаў, ён гаварыў пра яе як пра няўхільны вынік эгаізму і распушчанасьці вышэйшых кляс, але ён ня верыў у яе творчыя сілы. Сваё неразуменьне рэвалюцыі ён праявіў у «Вэнэцыянскіх эпіграмах», паэме «Герман і Даратэя» і інш. творах [1]).

Калі Гётэ называлі кансэрватарам, гэта выклікала яго абурэньне і востры, але несправядлівы пратэст.

І ўсё-ж ня гледзячы на яго кансэрватызм, у яго вырываліся прызнаньні, што чалавецтва ў яго эпоху ўступіла ў новы пэрыяд сваёй сацыяльнай гісторыі.

Жыцьцёвы шлях Гётэ выражаў лёс ягонай клясы. Слабая, няўпэўненая ў сваіх сілах буржуазія пайшла на прымірэньне з фэўдаламі. Нават шмат пазьней, у 1848 г. яна ня здолела давесьці да канца сваёй рэвалюцыі.

---

[1]) У вышаўшай нядаўна, прысьвечанай Гётэ кнізе часопісі „Revue de litterature comparee „1932 г. № 1 надрукованы артыкул Goethe et la révolution française", у якім сабраны выказваньні паэты пра Вялікую французскую рэвалюцыю, і ў канцы робіцца высновa, што Гётэ „адносіўся да яе як да гістарычнага і прыроднага фэнамэну і судзіў пра яе беспартыйна і спакойна".

Іначай ацаніў свае нападкі на рэвалюцыю пазьней сам Гётэ, прызнаўшы іх суб'ектывізм і блізарукасьць: „Я ня мог быць прыяцелем французскай рэвалюцыі дзеля таго, што я занадта адчуваў яе жахлівасьці, якія штодзённа, штогадзінна абуралі мяне, тады як нельга было яшчэ прадбачыць яе плённых вынікаў". Гл. „Gespräche Goethe mit Eckermann", 4 студзеня 1924 г.

Гэтыя рысы клясы адмоўным чынам адлюстраваліся на жыцьці і творчасьці Гётэ. Ён прабаваў вырвацца з вузкага кола, у якім праходзіла яго жыцьцё: двойчы ён выяжджаў у Італію і гэтыя падарожжы насілі характар уцяканьняў. Нямала накіраваў ён адтуль сатырычных стрэл супроць хрысьціянства, супроць туманнай паўночнай готыкі, супроць шэрасьці і ніхлямежнасьці нямецкага жыцьця. Менавіта дзеля гэтага ён асабліва радаваўся свайму посьпеху за межамі, гаварыў і пісаў аб інтэрнацыяналізацыі літаратуры, якая хутка расла. Усё гэта сьведчыць аб тым, што паэце было душна ў філістэрскай Нямеччыне яго часу, але перамагчы гэтае філістэрства яму не ўдалося. Наадварот, яно ўсё больш перамагала яго; ад гэтага—дваістасьць Гётэ. Гэтую дваістасьць яго наступным чынам сформуляваў Ф. Энгельс [1]).

«Гётэ ў сваіх творах дваіста ставіцца да нямецкае грамады свайго часу. Ён варожы ёй; яна агідна яму, і ён імкнецца ўцякаць ад яе, як у «Іфігеніі» і наогул у часе італьянскага падарожжа; ён паўстае супроць яе, як Гец, Прамэтэй і Фауст асыпае яе горкімі кпінамі Мэфістофеля. Або ён, наадварот, сябруе з ёю, прымiраецца з ёю, як у большасьці яго «Кротких ксений» і ў шмат якіх празаічных творах, услаўляе яе ў «Маскарадзе», абараняе яе ад націску гістарычнага руху, асабліва ва ўсіх творах, дзе ён гаворыць пра францускую рэвалюцыю. Рэч ня ў тым, што Гётэ прызнае бяццам толькі асобныя бакі нямецкага жыцьця ў праціlеглаcьць другім бакам, яму варожым. Часта гэта—толькі праява яго розных настрояў; у ім заўсёды адбываецца змаганьне паміж геніяльным паэтай, якому ўбоства навакольнага яму асяродзьдзя рабілася агідным, і асьцярожным сынам франкфурцкага патрыцыя або вэймарскім тайным саветнікам, які бачыць сябе вымушаным зрабіць з ім згоду і прывыкнуць да яго. Так, Гётэ ці надзвычайна вялікі, ці дробязны; ці гэта непакорны, кплівы геній, што пагардліва адносіцца да сьвету, ці асьцярожны, усім задаволены, вузкі філістэр. І Гётэ ня меў сілы перамагчы нямецкае ўбоства; наадварот, яно перамагае яго; і гэта перамога ўбоства Misére над найвялікшым немцам зьяўляецца лепшым доказам таго, што «знутры» яго наогул нельга перамагчы. Гётэ быў задужа ўнівэрсальны, задужа актыўная натура, каб шукаць ратунку ад убоства ў шылераўскім уцяканьні да кантаўскага ідэалу; ён быў занадта дальнабачным, каб ня бачыць, што гэтае ўцяканьне ўрэшце зводзіцца да замены шэрага ўбоства ўзьнёслым. Яго тэмпэрамэнт, яго сілы, усё яго духоўныя кірункі штурхалі яго да практычнага жыцьця, а практычнае жыцьцё, якое яго акаляла, было убогім. Перад гэтай дылемай—існаваць у жыцьцёвым асяродзьдзі, якое ён павінен быў ненавідзець, а ўсё-ж быць прыкаваны да яго, як да адзінага, у якім ён мог дзейнічаць,—перад гэтай дылемай Гётэ знаходзіўся ўвесь час, і чым ён больш старэў, тым больш адступаў магутны паэт, de guerre lasse. перад нязначным вэймарскім міністрам. Мы не дакараем Гётэ, як гэта робяць Бэрнэ, Мэрцель, за тое, што ён ня быў лібэральным, а за тое—што часам ён мог быць філістэрам; мы не дакараем яго

[1]) З палемічнага артыкулу супроць кнігі К. Груна „Пра Гётэ з чалавечага пункту погляду“. Артыкул увайшоў у працу Ф. Энгельса „Нямецкі сацыялізм у вершах і прозе“, перакладзеную на расійскую мову ў V томе твораў К. Маркса і Ф. Энгельса, выдадзеных Інстытутам К. Маркса і Ф. Энгельса, стар. 142—143. Фр. Мэрынг прыпісвае гэты артыкул К. Марксу. Гл. яго кнігу—„Мировая литература и пролетариат“. ГИЗ 1925 г., стар. 125—126.

і за тое, што ён ня быў здольны на энтузіязм у імя нямецкай свабоды, а за тое—што сваё эстэтычнае пачуцьцё ён прыносіў у афяру філістэрскаму страху перад усялякім сучасным вялікім гістарычным рухам; не за тое, што ён быў прыдворным, а за тое—што ў той час, калі Напалеон ачышчаў вялізарныя Аўгіевы стайні Нямеччыны, ён мог з урачыстай сур'ёзнасьцю займацца самымі нікчэмнымі справамі і menus plaisirs нікчэмнейшага нямецкага двара. Мы наогул ня робім дакораў ні маральнага, ні партыйнага, а толькі бадай, з эстэтычнага і гістарычнага пункту гледжаньня; мы не вымераем Гётэ ні маральным, ні палітычным, ні «чалавечым» маштабам. Мы ня можам тут паказаць Гётэ ў сувязі з усёй яго эпохай, з яго літаратурнымі папярэднікамі і сучасьнікамі, у яго разьвіцьці і ў жыцьці. Мы абмяжоўваемся таму толькі тым, што канстатуем факт».

Дваістасьцю Гётэ абумоўлены і нашыя адносіны да яго. Яго спадчына будзе ўспрынята пралетарыятам не пасыўна. У той час, як на Захадзе ў сувязі з юбілеем ужо зьяўляюцца працы пра Гётэ, дзе даюцца толькі супастаўленьні фактаў, часам каштоўных, часьцей дробязных, бяз усякай спробы ацаніць гэтыя факты, ці працы, у якіх ідэалізуецца тое, што было ў Гётэ кансэрватыўнага і філістэрскага, як напр., зазначаная вышэй праца І. Люазо,—наша задача, задача савецкай думкі, вылучыць у Гётэ тое, што было ў ім сапраўды сьмелага, што вяло наперад, тое, у чым ён застаўся верным дэвізу Фаўста пра вечную незадаволенасьць дасягнутым і вечнае імкненьне ісьці далей. У той-жа час марксыцкай думцы прыдзецца правесьці далей працу па выкрыцьці ўсялякай ідэалізацыі філістэрскага ў Гётэ, працу, якую ў свой час бліскуча пачаў Ф. Энгельс у артыкуле супроць кнігі К. Груна пра Гётэ.

Спадчына Гётэ падлягае вялікай творчай крытыцы. Фаўстаўскі запавет сацыяльнага будаўніцтва ня можа нас задаволіць. Тое будаўніцтва, да якога прыступіў пралетарыят, мае мэтай стварыць такі лад, пры якім людзі, падобныя Гётэ, ня будуць знаходзіцца ў залежнасьці ад нікчэмных знатных і багатых асоб і навакольных філістэраў, ня будуць лічыцца ў сваёй творчасьці з густамі абмежаванага кола бязьдзейнікаў, ня будуць, накшталт Гамункулюса жыць у сваёй лушпавіне.

Нашае сьвяткаваньне Гётэ ў стагодні дзень яго сьмерці зьяўляецца толькі пачаткам нашай працы над вялікай паэтычнай і навуковай яго спадчынай. У выніку гэтага юбілею мы павінны высьвятліць, у чым Гётэ вялікі і геніяльны, і ў чым выявілася яго клясавая абмежаванасьць і філістэрства, што пралетарыят можа і павінен прыняць у Гётэ і ў чым ад яго адмежавацца. Вырашэньне гэтага вялікага і складанага пытаньня і павінна зьявіцца вынікам нашага сьвяткаваньня памяці вялікага чалавека. У гэтым сэнсе савецкая грамадзкасьць з сёньняшняга дню толькі пачынае адзначэньне юбілейнага году Гётэ.

# ПАКАЗ ГЕРОЯЎ ПЯЦІГОДКІ Ў БЕЛАРУСКАЙ ПРАЛЕТАРСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ[1])

## Ал. Кучар

Асноўная задача ўсяго пралетарскага літаратурнага руху, задача, якую партыя паставіла перад пралетарскай літаратурай на цяперашнім этапе,—гэта актыўна-дзейнае адлюстраваньне ўсёй складанасьці нашай рэчаіснасьці, задача паказаць тых новых герояў, якія растуць у складаных абставінах клясавага змаганьня ў краіне, паказаць тых герояў пяцігодкі, якія растуць на тысячах фабрык і заводаў нашага Савецкага саюзу. Задача паказу лепшых герояў сацыялістычнага будаўніцтва—гэта адна з асноўнейшых задач пралетарскай літаратуры, якая па сутнасьці павінна пранізаць усю работу пралетарскіх пісьменьнікаў таму, што герой-ударнік зьяўляецца асноўнай фігурай нашага сацыялістычнага будаўніцтва. Паказ росту новага чалавека ў працэсе сацыялістычнага будаўніцтва, росту рабочага да ступені героя камуністычнай працы—зьяўляецца цэнтральнай праблемай пралетарскай літаратуры.

На фронце вуглю, мэталю, торфу, на фронце калгаснага будаўніцтва—сацыялістычных палёў, у Данбасе, у Кузьнецку, на Асінстане, на буйнейшых прадпрыемствах БССР мы знаходзім сотні і тысячы герояў, для якіх праца на сёньняшні дзень становіцца справаю гонару, мужнасьці, адвагі і геройства. У БССР мы маем цэлы шэраг галін вытворчасьці, якія выканалі пяцігодку за два, два з паловай гады (скураная прамысловасьць), за тры гады (швэйная і папяровая прамысловасьці). Лепшыя ўдарнікі ў змаганьні за мэталь, за сельскагаспадарчыя машыны, за электраэнэргію, паперу, за лёгкую індустрыю і іншае—паказваюць сапраўдную мужнасьць і героізм. На нашых пабудовах рабочыя ставяць сусьветныя рэкорды па кладцы цэглы (як напрыклад на пабудове ДзПУ).

Гэтыя рабочыя ўдарнікі—героі пяцігодкі ў пралетарскай літаратуры пакуль што свайго выстарчальнага, поўнага адлюстраваньня не знайшлі, а ў некаторых выпадках мы яшчэ не ўзяліся за тое, каб разгорнута мастацкім вобразным словам паказаць іх у нашай літаратуры. Нельга на аснове гэтага сьцьвярджаць, што ў пралетарскай літаратуры абсалютна нічога ня зроблена ў паказе герояў пяцігодкі. Творы, якія адлюстроўваюць сацыялістычныя мэтады работы—ёсьць, і некаторыя з іх па сваёй якасьці стаяць

---

[1]) Апрацаваная і дапоўненая стэнаграма дакладу на першай канфэрэнцыі МенАПП.

ужо на досыць высокай ступені. Мы павінны прыняць пад увагу і тое, што ва ўсёй пралетарскай літаратуры Савецкага саюзу паказ герояў пяцігодкі як у якасных, та і ў колькасных адносінах далёка невыстарчальны.

У беларускай пралетарскай літаратуры мы маем ужо цэлы шэраг твораў, якія прабуюць даць і шырокае мастацкае абагуленьне пры паказе герояў пяцігодкі.

Зразумела, што галоўнае ў паказе герояў пяцігодкі—**гэта змаганьне за якасьць паказу.** Мы павінны дамагчыся такога паказу герояў пяцігодкі, які-б быў варты геройчнае працы гэтых людзей. А вельмі часта тыя творы, якія пішуцца пра герояў пяцігодкі, па сваім ідэёвым і мастацкім узроўні, стаяць куды ніжэй тых людзей, пра якіх нашы пісьменьнікі пішуць. Паказаць героя нашае эпохі, героя нашага сацыялістычнага будаўніцтва трэба такім чынам, каб рабочы-ўдарнік быў пададзены ў ягоным росьце ў абставінах клясавага змаганьня, якое адбываецца ва ўсёй краіне, у змаганьні супярэчнасьцяй. Паказваючы рост новага сацыялістычнага чалавека трэба паказаць, як рабочы-ўдарнік перамагае старое ў практыцы, як узьнімаецца яго культурны і ідэёвы ўзровень, паказаць, як адбываецца рост новага камуністычнага чалавека—вось асноўная задача пралетарскай літаратуры на цяперашнім этапе.

Пры паказе герояў пяцігодкі нельга абмяжоўвацца схэматычным паказам, або абмяжоўвацца бытавым эмпірычным паказам. А некаторыя таварышы паказваюць герояў пяцігодкі толькі ў сувязі з асобнымі выпадкамі героізму, гэты героізм ва ўсіх сувязях з працэсамі сацыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне не бярэцца. Такі мэтад паказу памылковы, бо галоўнае пры паказе герояў пяцігодкі павінна быць зьвернута на паказ героізму рабочае клясы **ва ўсіх сувязях з усім сацыялістычным будаўніцтвам у нашай краіне, з героізмам мільёных мас рабочае клясы.**

Пры паказе герояў пяцігодкі трэба асабліва падкрэсьліць, што рабочыя зьяўляюцца вольнымі творцамі, што ў аснове героізму іх ляжыць тое, што рабочыя-ўдарнікі разумеюць усю глыбіню гістарычнага працэсу, разумеюць хаду гістарычнага разьвіцьця і што гэтае правільнае разуменьне хады гістарычнага разьвіцьця, разуменьне тых шляхоў, якія вядуць да камуністычнай грамады, штурхаюць людзей на гіганцкія тэмпы ў працы.

Тое, што жыцьцё ёсьць бязупынны рух, змаганьне і разьвязаньне супярэчнасьцяй, што толькі ў сацыялістычнай практыцы адбываецца рост і разьвіцьцё людзей, што сьвядомасьць людзей ідзе наперад у адзінстве з практыкай—гэта зьяўляецца адным з асноўных момантаў пры паказе герояў пяцігодкі. На аснове сацыялістычнай практыкі расьце якасна ідэёвая ступень рабочага-ўдарніка, сам рабочы ўдарнік перавыхоўваецца ў складаных абставінах сацыялістычнай практыкі і клясавага змаганьня—разуменьне гэтага пры паказе герояў ударнікаў у нас знаходзіць невыстарчальнае мастацкае выяўленьне. Герой ударнік бярэцца часта як застыглая фігура.

Паказваючы сацыялістычную вытворчасьць пралетарскі пісьменьнік часта ўдаецца ў тэхніцызм, машыны пачынаюць замяняць жывых клясавых людзей. Гэта своеасаблівы, «хірургічны» падыход да паказу рабочага ўдарніка. Пісьменьнік аналізуе, ускрывае тэхнічны працэс вытворчасьці, аб'ектывіцкі, «хірургічна» раскрываецца рабочы ўдарнік. Часта пісьменьнікі ігнаруюць бальшавіцкую палкасьць у гэтым паказе. Гэтыя аб'екты-

віцкія, «халодныя» адносіны да рабочага ўдарніка пустошаць увесь патас, увесь той гераічны уздым, які мы маем на нашых фабрыках і заводах. А такая небясьпека ў нашай пралетарскай літаратуры, бязумоўна, ёсьць. У непарыўнай сувязі з гэткімі аб'ектывіцкімі падыходамі да паказу герояў пяцігодкі стаяць і спробы пісьменьніка апірацца выключна на матар'ял, на рэчаіснасьць, разьлічваньне на тое, што матар'ял паказу герояў пяцігодкі, які надзвычайна багаты,—вывезе. Некаторыя пісьменьнікі складанасьць змаганьня на заводзе і фабрыцы паказваюць часам фактаграфічна, без арганізацыі эмпірычных фактаў бальшавіцкай сьвядомасьцю, без падпарадкаваньня гэтых фактаў асноўным, арганізавальным ідэям.

На пленуме РАПП т. Лебедзінскі добра сказаў пра гэтае: «Ударник должен быть показан во всей сложности классовой борьбы, которая идет в Советском Союзе, во всей сложности ее переплета. А такие вещи нельзя показывать натуралистическим методом, нельзя показывать руководствуясь только таким соображением: я хочу описывать действительность, для этого я буду браць положительные факты, которые «все сами за себя скажут»—это пассивистическая установка, которая никуда больше, как в сторону от пролетарской литературы привести не может».

Затым нельга падзяляць двух пытаньняў—гэта паказ герояў пяцігодкі і заклік ударнікаў у літаратуру. Яны, гэтыя пытаньні, зьяўляюцца двума бакамі працэсу вялізарнага ідэйна-палітычнага і культурнага росту рабочае клясы, працэсу пранікненьня ленінскай культурнай рэвалюцыі ў гушчы пралетарыяту. Таму, заклік ударнікаў у літаратуру і паказ герояў пяцігодкі мы павінны разглядаць у іх агульнай сувязі. Асноўнае нашае патрабаваньне, калі мы гаворым пра паказ герояў пяцігодкі, зводзіцца да патрабаваньня высокай ідэёвасьці, патрабаваньня высокай партыйнасьці. На пленуме РАПП, дзе гаварылася пра паказ герояў пяцігодкі, правільна ставіў пытаньне т. Фадзееў, які патрабаваў такога паказу герояў пяцігодкі, які (паказ) кандэнсаваў-бы, каардынаваў усю суму сусьветна-гістарычных задач, якія стаяць перад пралетарыятам. Гэта ёсьць абавязковая ўмова нашага змаганьня на літаратурным фронце, за сапраўднае бальшавіцкае мастацтва.

Асноўнае ў пралетарскім творы—гэта каб ён быў да апошняга радка прасякнуты глыбокай партыйнасьцю, глыбокай ідэёвасьцю. Вось той шлях, якім павінны ісьці пралетарскія пісьменьнікі пры паказе герояў пяцігодкі.

Пралетарскія пісьменьнікі павінны ўмець у сваіх творах у канкрэтнай пачуцьцёвай і вобразнай форме паказаць, што «Жизнь есть существующее в самих вещах и явлениях беспрестанно полагающее и разрешающее себя противоречие; и когда только это противоречие прекращается, прекращается и **жизнь, начинается смерть»** (Ф. Энгельс—Анти-Дюринг, стар. 140).

Толькі ў паказе гэтых вядучых супярэчнасьцяй, у паказе іх вырашэньня—ёсьць сапраўды шлях пісьменьніка марксыстага-дыялектыка.

Пры паказе герояў пяцігодкі мы павінны весьці бязьлітаснае змаганьне з апашленьнем гэтае вялікае справы. Халтуршчыкі вельмі часта пачынаюць сьпяваць оды героям пяцігодкі і такім чынам той здаровы патас, які заложаны ў самых працэсах сацбудаўніцтва, у самай практыцы герояў пяцігодкі пустошыцца і падмяняецца адычнай інтэлігенцкай гісторыкай. Супроць гэтай інтэлігенцкай патэтыкі і гістэрычнасьці мы павінны змагацца.

Пасьля гэтых папярэдніх заўваг я пераходжу да канкрэтнай творчасьці, якую мы маем у беларускай пралетарскай літаратуры пра герояў пяцігодкі. У гэты свой даклад я ўключаю і творы тых пралетарскіх пісьменьнікаў, якія перайшлі ўжо да больш шырокіх мастацкіх абагуленьняў пра герояў пяцігодкі.

З твораў пра герояў пяцігодкі ў беларускай пралетарскай літаратуры адным з асноўных зьяўляецца п'еса Андрэя Александровіча «Напор». Заслуга п'есы Александровіча ў тым, што складаны пераплёт клясавага змаганьня, якое адбываецца ў краіне, рост рабочых-ударнікаў у абставінах клясавага змаганьня—правільна адлюстраваны ў п'есе т. Александровіча. Александровіч паставіў сабе задачу: паказаць беларускі завод, які працуе, каб падтрымаць рабочых Данбасу, каб рабочым Данбасу даць тысячу стандартных дамоў. За гэтыя дамы для Данбасу змагаюцца камуністы і камсамольцы дрэваапрацоўчага заводу. Аснова п'есы Александровіча—моцная братэрская сувязь паміж рабочымі рэспублікі нашага саюзу, узаемнае адзінства інтарэсаў паміж беларускім заводам, які харчуецца вуглем з Данбасу, і Данбасам, які атрымлівае кватэры для рабочых ад беларускага заводу:

Рэспубліцы патрэбен вугаль.
І пад зямлёй, ад зор да зор.
За зьменай, зьмена, ударным кругам
Шахцёра зьменьвае шахцёр.

«Дрэваапрацоўшчыкі» ўзялі на сябе абавязак:

Завод наш мусіць даць Данбасу
Стандартных тысячу дамоў.

Гэта тэматычная і ідэёвая аснова п'есы Александровіча. І вось камсамольцы на заводзе, пад кіраўніцтвам партыйнага калектыву рушылі біцца за выкананьне прамфінпляну, за тое, каб у тэрмін выканаць баявую задачу партыі, якая пастаўлена перад заводам. Тое, што адрозьнівае п'есу Александровіча ад іншых твораў, ад твораў схэматычных, ад твораў павярхоўных, тое, што адрозьнівае нават гэтую п'есу ад яго «Поэмы імя вызваленьня», гэта—паказ рабочага, камсамольца, камсамольскага, рабочага калектыву як шматграннага. Калі ў «Поэме імя вызваленьня» працэс паказваўся на аснове кантрасных вобразаў, без азначэньня сувязі, пераходаў, прамежных ступеняў і зьвеньняў (прыкладам: Беларусь была зруйнавана, а цяпер вырасла, адбудавалася), дык у параўнаньні з гэтым творам п'есу «Напор» вылучае тое, што сацыялістычная практыка паказана тут такой, якая рухае працэсы росту людзей на заводзе.

Александровіч у сваёй п'есе і клясавых ворагаў падае не схэматычна, не як шэрую аднастайную масу. Кожны клясавы вораг мае свой твар, выяўляе пэўныя элемэнты, пэўныя бакі клясавай нянавісьці да нас, і гэтая шматвобразнасьць пры паказе клясавага ворага дапамагае нам у змаганьні з ім.

Вазьмеце, Бракера, Зарэмбу, Кандраля. Усе гэтыя людзі па свайму дзейнічаюць, але ўсе яны вядуць адну работу супроць савецкай улады.

Адны «ціха мірна і з падходам», другія больш адкрыта, але ўсе вядуць лінію, каб сарваць нашае сацыялістычнае будаўніцтва.

Часта гавораць, што ў п'есе Александровіча сэзоньнікі паказаны як аднастайная маса. Гэта ня зусім правільна. Сэзоньнікі ў Александровіча дыфэрэнцыяваны. Ад кулацкіх агентаў на заводзе пэўная частка і большая частка сэзоньнікаў адыходзіць. Але ў паказе Александровіча дыфэрэнцыяцыя іх пачалася толькі на аснове «спажывецкіх» матываў. І ў гэтым, бязумоўна, памылка.

Калі тая частка сэзоньнікаў, якая ў сваёй пераважнасьці вышла з кулацкага асяродзьдзя вёскі, падбухторвае астатніх шкодзіць заводу, дык другая частка пачынае разумець камуністычны характар нашае працы пачынае ўцягвацца ў гэтую працу, пачынае ісьці пад кіраўніцтвам партыі. Пры паказе дыфэрэнцыяцыі сэзоньнікаў, Александровіч правільна зразумеў уласьніцкае нутро селяніна, ён паказвае, як селянін пераконваецца ў варожасьці Кандраля і інш. на матар'яльных доказах (асабліва яскравая дыфэрэнцыяцыя сэзоньнікаў адбылася тады, калі яны даведаліся, што кулакі абкрадалі іх пайкі), але Александровіч няправільна зьвёў усю клясавую дыфэрэнцыяцыю сярод сэзоньнікаў да пытаньня матар'яльнага ў грубым сэнсе гэтага слова, «спажывецкага».

Імкнучыся клясавага ворага паказаць не схэматычна, Александровіч шматвобразна паказвае і дзейнасьць клясавага ворага. Кулак (кулацкія агенты сярод сэзоньнікаў) дзейнічаюць хітра і асьцярожна. Клыч кідае мімаволі, здавалася-б, слова сэзоньнікам, калі яны кураць, што добра было-б пусьціць дымок пад завод. Гэтая двухсэнсоўнасьць, асьцярожлівасьць кулакоў зьяўляецца паказальнай. Тут-жа паказана і своеасаблівая прымітыўная кулацкая філёзофія, на якой кулакі вучаць сэзоньнікаў. Адзін з кулакоў навучае: бачыце дым падымаецца, а затым і сьцелецца нізка па зямлі. Так і савецкая ўлада, ішла ўгору, цяпер апускаецца ўніз. Усё, што толькі можна, клясавы вораг выкарыстоўвае ў сваіх мэтах.

Андрэй Александровіч у сваёй п'есе сапраўды крытычна засвойвае найбольш прагрэсыўныя, найбольш дэмакратычныя і перадавыя моманты з народнага фальклёру, з народнае творчасьці. У гэтых адносінах п'еса Александровіча выступае і супроць вялікадзяржаўнікаў, якія імкнуцца наогул адмаўляць усю беларускую народную творчасьць, абвяшчаюць гэтую творчасьць рэакцыйнай і варожай нам, і з другога боку, п'еса Александровіча б'е тых буржуазных нацыяналістаў, якія маліліся, усхвалялі народную творчасьць, ня робячы дыфэрэнцыяцыі прагрэсыўных бакоў творчасьці ад рэакцыйных. У п'есе Александровіча мы маем багата вытворчых песянь, песянь, якія многімі сваімі элемэнтамі ўваходзяць у народную творчасьць, і на прыкладах гэтых песянь яскрава відаць, што найбольш дэмакратычныя элемэнты народнай творчасьці ў кантэксьце пралетарскага літаратурнага твору выконваюць прагрэсыўную, перадавую, рэволюцыйную ролю. Але мы маем і такія элемэнты з народнай творчасьці, народныя прымытывізмы, за якія ў сваёй варожай дзейнасьці хаваецца кулацтва. Узяты найбольш рэакцыйныя моманты народнай творчасьці, і гэтыя рэакцыйныя моманты як мы гэта яскрава бачым з п'есы, служаць зброяй у руках нашых клясавых ворагаў. У п'есе Александровіча найбольш яскрава паказана яно ў моманце, калі кулацкія элемэнты з ліку сэзоньнікаў ідуць скардзіцца да

дырэктара «нясучы яму адданасьць». Такім чынам ясна, што рэакцыйныя моманты народнае творчасьці служаць зброяй клясавага ворага супроць нас.

Хто зьяўляецца героямі пяцігодкі ў п'есе Александровіча? Герой-ударнік у п'есе Александровіча не абязьлічаны. Гэты герой-ударнік паказаны ва ўсёй п'есе на многіх мастацкіх вобразах у яго росьце ад сэзоньніка Міколкі, які пачынае ўсьведамляць значэньне камуністычнае працы, які пачынае адыходзіць ад свайго ўласьніцкага «сундучка»,—гэты вобраз расьце аж да партыйнага кіраўніцтва на заводзе, які зьяўляецца героем пяцігодкі. Такім-жа чынам у Александровіча паказаны і камсамольскі калектыў. У паказе камсамольскага калектыву абязьлічанасьці няма. Камсамольскі калектыў шматгранны. Кожны з камсамольцаў свае здольнасьці і сілы аддае справе сацыялістычнага будаўніцтва. Чыж, хоць ён і фантазёр, але нават і гэтае свае фантазёрства шчыра хоча аддаць справе сацыялістычнага будаўніцтва. Ды і на вытворчасьці Чыж чалавек карысны. Ён сваімі вынаходніцтвамі даў шмат для вытворчасьці. Мішка, які рэдагуе шматтыражку, Стрэльбін, сакратар камсамольскага калектыву, Клім, сакратар партыйнага калектыву, усе яны маюць свае асаблівасьці, свае выгляды, рысы, але-ж усе яны зьяднаны адзінай ідэяй—вывесьці завод з прарываў.

Александровіч паказвае партыйнае кіраўніцтва ўсімі працэсамі на заводзе. Партыйная арганізацыя ўзбройвае масы рабочых на змаганьне са стыхіяй, і ў момант ратаваньня заводу ад паводкі рабочая маса праяўляе сапраўдны гераізм. Стыхію перамагаюць. Завод сваё абяцаньне даць 1.000 стандартных дамоў рабочым Данбасу выконвае.

Вось у асноўным тыя дадатныя моманты, якія вылучаюць п'есу Андрэя Александровіча. Аднак ці льга гаварыць так, што ў Александровіча ўсё добра, што п'еса «Напор» ілюструе закончаны дыялектычна-матэрыялістычны творчы мэтад. Так ставіць пытаньня нельга. Александровіч стаіць толькі на першых этапах аўладаньня творчым мэтадам марксызму-ленінізму. У чым асноўныя недахопы п'есы Александровіча «Напор». Асноўны недахоп, што ў Александровіча ў гэтай п'есе няма канцэнтрацыі ўсіх падзей, усіх вобразаў п'есы навокал аднае ідэі, няма пастаноўкі адзінай ідэёвай праблемы, каб гэтай ідэёвай праблемай насыціць усю рэчаіснасьць, рэчаіснасьць арганізаваць, падпарадкаваць для вырашэньня аднае праблемы. Няма аднае асноўнае глыбока філёзофскае праблемы нашага часу. Ёсьць капіраваньне рэчаіснасьці. Пісьменьнік часта ідзе за плыньню рэчаіснасьці, ёсьць няглыбокае вырашэньне некаторых асноўных праблем, пастаўленых у п'есе. Александровіч выстарчальна ня змог паказаць адкуль ідзе гераізм рабочае клясы, чаму рабочая маса праяўляе такую адданасьць заводу, чым гэта тлумачыцца. От паказаць, што кіруе чалавекам, які ідзе на гераізм у працы, гэта Александровіч поўна адлюстраваць у творы ня змог. Бытавыя ўзаемаадносіны ў п'есе засталіся нявырашанымі. Узаемаадносіны камсамолкі Васілісы і тэхніка Радзецкага пададзены надзвычайна спрошчана, і тут мы маем даніну нездароваму бытавізму. Вобраз Ліпы ў п'есе абсалютна непатрэбны, ён перагружае разьвіцьцё дзей і працэсаў. Жыве яшчэ непераможаны фармалізм. Даецца часамі ідэёва неапрацаваная рытмічная гульня, рыфмаваная гульня ў словы.

Такім чынам, адзначаючы твор Александровіча «Напор» як адзін з асноўных твораў, які паказвае герояў пяцігодкі, іх змаганьне, трэба адзна-

чыць, што гэты твор не пазбаўлены і значных хібаў. От я ўжо казаў пра тое, што ў п'есе няма аднэй глыбока філёзофскай ідэі.

Чаму-б, напрыклад, нашым пралетарскім пісьменьнікам не паставіць хоць у адным з твораў ва ўсю веліч праблему *калектыўнага і асабовага.* Правільна зразумець, вырашыць мастацкі гэтую праблему—гэта было-б найвялікшай заслугай нашай пралетарскай літаратуры.

Другім асноўным творам, які таксама шырока ахапляе рэчаіснасьць, які паказвае герояў працы, я лічу «Каландры» т. Броўкі. Што зьяўляецца асноўным для гэтага твору. У творы «Каландры», т. Броўка паказвае Добрускую папяровую фабрыку, у яе змаганьні за паперу, у яе змаганьні за культурную рэвалюцыю, як паказаны рабочыя ў Пятруся Броўкі. Асноўнае пры паказе рабочых у Пятруся Броўкі гэта глыбокая сувязь, арганічная сувязь, замілаваньне рабочага да свайго заводу. І гэтае мы бачым і на прыкладах старых рабочых, камуністаў, камсамольцаў, беспартыйных. Рабочы ня можа зразумець свайго існаваньня, свайго жыцьця звонку заводу, адарваным ад яго. Аднак ён (рабочы) ня лічыць сябе простым дадаткам да машыны. Паўната яго асабістага жыцьця, яго радасьці, яго болі дапаўняюцца заводам. Такім чынам у Броўкі мы маем паказ таго працэсу, які сапраўды адбываецца на нашых сацыялістычных фабрыках і заводах. Гэта паказ таго, як праца з «цяжкага і ганебнага ярма» ператвараецца ў «справу мужнасьці, у справу адвагі і геройства». Рабочы ў паказе Пятруся Броўкі ўсё да апошняй кроплі крыві аддае за завод. Такім менавіта зьяўляецца вобраз героя рабочага Андрэя Ганушчанкі, які цэлымі начамі сядзіць на заводзе, хоць ён па старасьці і не павінен працаваць ужо, вымярае трубы, шукае прычыны прарыву, шукае прычыны таго, чаму фабрыка не дадае належнай колькасьці паперы. Такім-жа рабочым зьяўляецца стары Маляўка, у якім ёсьць нават элемэнты фэтышызацыі машын. Але Маляўка, шчыра адданы нашаму сацыялістычнаму будаўніцтву. Паказальна тое, што калі яму каландрай адарвала нагу, ён прыходзіць у партыйны калектыў і просіць, каб яго пакінулі на заводзе, ён будзе з драўлянай нагою стаяць каля варштату.

Тав. Броўка паказвае, як на заводзе завязваецца сацспаборніцтва, прычым ён бярэ пачынальную стадыю ў разьвіцьці сацспаборніцтва. Гэтае сацспаборніцтва ў паказе Броўкі завязваецца, галоўным чынам, паміж двумя пакаленьнямі на заводзе: паміж старымі рабочымі і моладзьдзю, камсамольцамі. Тое, што і тут адрозьнівае «Каландры» Броўкі ад многіх схэматычных твораў пра нашы заводы—гэта паказ таго, як новыя мэтады працы робяць зьмены і ў рабоце, як яны прасякаюць усё жыцьцё маладога рабочага, маладога камсамольца. Паказальнай фігурай у аповесьці з гэтага пункту гледжаньня зьяўляецца сакратар камсамольскай ячэйкі Крук.

Калі мы гаворым пра жывых клясавых людзей, пра шматвобразнасьць гэтых людзей, дык «Каландры» Броўкі бязумоўна вельмі вялікі крок у нашай літаратуры. Тав. Броўка завод не бярэ ізаляваным ад тых працэсаў, якія адбываюцца на вёсцы. Завод і партыйная арганізацыя заводу кіруюць працэсамі калектывізацыі на вёсцы, дапамагаюць бядняцка-серадняцкім масам арганізавацца ў калгас, дапамагаюць у змаганьні з кулацтвам. Завод у паказе т. Броўкі не ізаляваны ад агульных працэсаў клясавага змаганьня, якое адбываецца ў краіне. На фабрыку пранікаюць

шкоднікі, яскрава паказана сувязь паміж шкоднікамі і вясковым кулацтвам. Паказана як рабочы калектыў, як рабочая маса выкрывае шкоднікаў, змагаецца з імі.

Аднак-жа асноўным ў творы «Каландры» зьяўляецца праблема ўзаемаадносін паміж старымі кадрамі рабочых і маладымі. Антаганізму паміж старымі рабочымі і маладымі рабочымі на фабрыцы, у паказе Броўкі няма. На вопыце старых рабочых, на іх рэвалюцыйным вопыце, на вопыце тых рабочых, якія прымалі ўдзел яшчэ ў рэвалюцыі 1905 г. вучыцца маса моладзі, і гэтая маса моладзі, камсамольцы, з найвялікшай прыязнасьцю і сымпатыямі адносяцца да старых рабочых.

Творам «Каландры» Пятрусь Броўка стаў у шэрагі пралетарскай літаратуры. Я, зразумела, ня прыхільнік таго, каб «падзяляць» на «чыны». Тав. Броўка прайшоў складаны шлях творчага разьвіцьця. Ад вузкай уласьнішкай замкнёнасьці сялянскага пісьменьніка, да ўсьведамленьня задач пралетарыяту і да шэрагаў пралетарскай літаратуры. Нельга ставіць непраходныя сьцены паміж саюзьніцтвам і пралетарскай літаратурай, як гэта некаторыя стараюцца рабіць. Броўка знаходзіцца ў працэсе дынамікі, у працэсе разьвіцьця. Але сёньня мы пра яго гаворым **у асноўным, як пра пралетарскага пісьменьніка.** Аповесьць Броўкі «Каландры» не пазбаўлена звычайна вялікіх і істотных недахопаў. Гэтыя недахопы выяўляюцца ў фізыолёгізме, які надзвычайна адчуваецца ў аповесьці Броўкі. Бытавыя ўзаемаадносіны паміж сакратаром камсамольскай ячэйкі і Верай—амаль выключна на фізыолёгічных падставах. Прычым гэтае часта даходзяць аж да паталёгізму. Працэсы клясавага змаганьня не заўсёды глыбока раскрываюцца тав. Броўкам. Спрошчана паказана выкрыцьцё шкодніцтва на заводзе. Няма арганічнага перамаганьня шкодніцтва. Справа вырашаецца арыштам. Фізыялёгічныя моманты праяўляюцца яшчэ і ў тым, што кулак Мігуцкі, які пралез на завод і далучаецца да шкоднікаў, паказваецца ў такім пляне, што шкодзіць ён пашоў выключна па фізыялёгічных мотывах—каханьня да камсамолкі Веры. Такое вырашэньне пытаньня зьніжае каштоўнасьць аповесьці т. Броўкі.

У Броўкі, як і ў Александровіча ёсьць той недахоп, што ён ідзе вельмі часта за плыньню падзей. Няма клясавага ўсьведамленьня, глыбокай ідэёвасьці, арганізацыі рэчаіснасьці вакол цэнтральнае ідэі. Пра гэтае т. Лібедзінскі на пленуме РАПП гаварыў правільна, што эмпірычная фіксацыя матэрыялу нікуды болей як у бок ад пралетарскае літаратуры прывесьці ня можа.

Тав. Броўка недастаткова паказвае партыйнае кіраўніцтва на заводзе. Гэтае партыйнае кіраўніцтва ў Броўкі якоесьці габінэтнае. Яно, калі можна так сказаць, не пранізвае ўсю вытворчасьць, не даведзена да кожнага варштату, да кожнага рабочага. Між іншым гэта зьяўляецца вынікам таго, што ў П. Броўкі ўвесь эмпірычны матар'ял не арганізаваны вакол асноўнае цэнтральнае ідэі.

Трэба спыніцца на апошнім творы Міхася Чарота «Поэма пра Міколу Сініцына». Мы павінны надзвычайна чула адносіцца да пралетарскага поэты Міхася Чарота.. Мы павінны вітаць яго творчую актывізацыю, яго актыўную работу, якую ён цяпер вядзе. Але таму, што Міхась Чарот пралетарскі паэт, мы павінны яго і жорстка крытыкаваць. «Поэма пра Міколу Сініцына» рэч слабая. Тав. Чарот імкнецца ў гэтай поэме паказаць

героя, які прайшоў франты грамадзянскай вайны, вайсковы камунізм і які цяпер зьяўляецца героям на нашых калгасных палёх. Тав. Чарот пра Міколу Сініцына піша:

Мінулі дні—
Ён камандзір чырвоны
Наган ў руках
Ў кішэні партбілет...

Я думаю, што так характарызаваць героя нельга. Героя ня можа характарызаваць тое, што ў яго ў кішэні партбілет, ды яшчэ наган у руках. Падыходзячы да справы самакрытычна, трэба сказаць, што тут асноўная сутнасьць бальшавіка-героя не паказана, што сацыялістычная практыка, што дзеяньне чалавека, па якім мы пазнаём чалавека, тут не паказана. А тут падыход знадворны, схэматычны, павярхоўны. Партыйную прыналежнасьць трэба паказаць глыбокай партыйнай работай. У другім месцы тав. Чарот піша:

Быў пастухом...
Мазыршчыны балоты
Ён мераў лапцямі
Удоўж і папярок.
Ня раз пакрыўджаны
Ён начаваў пад плотам,
Любіў адно
Палескай ночы змрок.

Тут сказана схэматычна, слаба, прычым, тут зусім не патрэбна гэтая сантымэнтальная лірычнасьць. Не характарызуе яна Чаротавага героя. Тав. Чароту трэба цяпер, перабудоўваючы сваю поэзію, надзвычайна рашуча ўзяцца за падняцьцё мастацкага ўзроўню сваёй творчасьці, каб яго творы сапраўды былі на ўзроўні героізму тых людзей, якіх ён паказвае.

Паказваючы герояў пяцігодкі, вельмі важнае значэньне мае—паказаць героя камсамольца, маладога рабочага, маладога калгасьніка, які змагаецца на ўсіх франтох пяцігодкі. Пра гэтае гаварыў сакратар ЦК УсеЛКСМ т. Косараў. І гэтай справе мы павінны надаць надзвычайна вялікую ўвагу. Выступленьне т. Косарава ёсьць выражэньне тых патрабаваньняў, якія прад'яўляе нам шматмільённы ленінскі камсамол. Трэба паказаць герояў камсамольцаў такімі, якімі яны ёсьць у нашай гераічнай рэчаіснасьці, якімі яны працуюць на франтох сацыялістычнага будаўніцтва.

Аднак, нельга разумець справу так, што дасягненьні пралетарскай літаратуры наогул ня ёсьць дасягненьні ленінскага камсамолу, і што на гэтых прыкладах пралетарскай літаратуры камсамол не павінен вучыцца, як гэта некаторыя імкнуцца сьцьвярджаць. Дасягненьні пралетарскай літаратуры ёсьць неадлучная частка дасягненьняў камсамолу на фронце літаратуры. Паколькі камсамол ніколі сябе не аддзяляў ад агульных працэсаў сацыялістычнага будаўніцтва, пастолькі дасягненьні нашае пралетарскае літаратуры, і дасягненьні партыі ў літаратуры—ёсьць і дасягненьні ленінскага камсамолу. **Аднак, гэта ні як і нікому не дае права зьнімаць**

**праблему камсамольскай тэматыкі ў пралетарскай літаратуры.** Мы ставім пытаньне такім чынам, што добры твор пра камсамол на фронце сацыялістычнага будаўніцтва ёсьць ня толькі дасягненьні камсамольскай літаратуры, а дасягненьне ўсёй нашай партыі, усёй рабочай клясы на фронце літаратуры.

Такая пастаноўка пытаньня не аддзяляе камсамольскую тэматыку ад усёй пралетарскай літаратуры, не замыкае камсамольскую літаратуру ў асобную касту.

Галоўная задача пры паказе камсамолу—паказаць яго як неадлучную частку рабочае клясы—толькі такая пастаноўка пытаньня зьяўляецца правільнай. Трэба змагацца за мастацкую якасьць тых твораў, якія мы пішам пра ленінскі камсамол.

З ліку твораў пра камсамол вылучаюцца вершы Андрэя Ушакова, які напісаў поэму пра змаганьне Віцебскай камсамольскай брыгады на фронце чыгуначнага транспарту. Камсамол кліча транспарт:

Вось чуеце, чуеце цягнікі—
Да сябе камсамолію нашу клічуць...
І ўзмахам шурпатай рукі
Паказаваў на плякат парыўча.
Ціш... гострая ціш.
(Гэтак прагна праз сонечны вадкі прамень)
Уэіраліся на плякат каляровы.
І кожны тады бяв слоў вразумеў
Кастылём недаказаныя словы.

Гэты зварот камсамольцы-транспартнікі пачулі. Яны арганізоўваюць перадавую ўдарную брыгаду, яны аддана змагаюцца за тое, каб вылячыць транспарт. І яны перамаглі. Яны выпусьцілі ў тэрмін паравозы, якія патрэбны былі. Аднак у паказе т. Ушакова ёсьць шмат такога, што трэба перамагчы. Ёсьць схэматычнасьць, плякатнасьць. Гэта-такі плякатнасьць у звычайным сэнсе слова. Камсамольцаў на рамонт паравозаў **клічуць плякаты,** якія вісяць на сьценах. На заклік плякатаў камсамольцы ідуць змагацца. Тут элемэнты спрошчанасьці ёсьць, бытуюць, але асноўнае ня гэта, асноўнае тое, што т. Ушакоў паставіў праблему паказу камсамолу, вырашае яе, і вырашае правільна. Вось гэтае трэба браць асноўным у вершах Ушакова. І яго творчы рост дасьць нам, бязумоўна, лепшыя, больш глыбокія творы пра камсамол.

Тав. Ліхадзееўскі і Зарэчны напісалі нарыс «Поэма пра геройства» з жыцьця Бабруйскага дрэваапрацоўчага камбінату. Трэба гаварыць пра дадатныя моманты ў паказе таварышамі сапраўднага героя, героя Бабруйскага камбінату Савіча. Нарыс таварышоў характарызуецца агульнай узьнятасьцю, агульнай бадзёрасьцю. Аднак, гэтая бадзёрасьць вельмі часта пераходзіць у залішнюю патэтыку. Галоўны недахоп нарысу Зарэчнага і Ліхадзееўскага ў тым, што гераічны ўчынак Савіча, які спусьціўся пад зямлю, каб адрамантаваць папсаваную трубу, яны ўзялі адарваным ад масы праяў героізму на ўсім заводзе. Гэты гераічны ўчынак паказаны так, што нельга сказаць, ці спачуваюць нават рабочыя герою Савічу, або яны абыякава адносяцца да гэтай справы. У паказе Зарэчнага і Ліхадзееўскага мы

маем і такія мясьціны, дзе заўважаецца тонкая іронія з боку рабочых над Савічам, калі ён спушчаецца ў трубу.

«Ня то жартам, ня то спачуваньнем празьвінела:

— Разьвітаўся-б з жонкай... можа лягчэй на сэрцы было-б... Чалавек нічога на гэта не адказаў».

Псыхалёгічныя моманты, перажываньні Савіча бежанцам у Лібаве, паказаны Зарэчным і Ліхадзееўскім нядрэнна. Даволі поўна паказаны і адчуваньні Савіча пад зямлёю:

«А потым па целу разьлілася стомлівасьць, здалося: цьвітуць сады— кветкамі, пярэстасьцю красак і на прагалінах сухой зямлі, пад бярозкамі, ў кустох лазьняку пралескі, сінія, што колер неба ў пагодлівы дзень...

... Лібава, дымны горад Лібава! Радзіма... Першыя гады дзяцінства... Брук вуліц гладкі, абмыты дажджом. Бляск сонца прамяністы, якім бывае ён толькі ўвесну».

Аднак асноўны недахоп нарысу т. Зарэчнага і Ліхадзееўскага менавіта ў тым, што **гэта поэма пра адзіночны факт геройства,** што залішняя патэтычнасьць псуе часамі справу, што героізм адарваны ад усіх працэсаў сацыялістычнага будаўніцтва.

Трэба ясна сказаць, што пралетарская літаратура БССР далёка яшчэ ня выканала задачы, пастаўленае перад ёю партыяй па паказу герояў камуністычнай працы. Але ў беларускай пралетарскай літаратуры мы маем шэраг такіх твораў, якія бяруць паказ герояў камуністычнай працы за ідэёвую аснову, якія герояў пяцігодкі на фронце сацыялістычнай прамысловасьці і на фронце калгасных палёў бяруць ва ўсёй сувязі з працэсамі клясавага змаганьня ў нашай краіне.

Колькаснае і якаснае адставаньне нашай літаратуры ў паказе нашай сацыялістычнай вытворчасьці, герояў пяцігодкі—патрабуюць ад пралетарскай і савецкай літаратуры мабілізацыі асноўных пісьменьнікаў на вырашэньне гэтае задачы. Трэба змагацца за высокую якасьць паказу герояў пяцігодкі, за высока-мастацкі паказ сутнасьці тых працэсаў, якія адбываюцца на нашых фабрыках і заводах, за поўны і ўсебаковы паказ героізму рабочае клясы, за поўны паказ кіравальнай ролі камуністычнай партыі як авангарду рабочае клясы.

З гэтага пункту гледжаньня мы і павінны падыходзіць да нарысаў Янкі Скрыгана пра Гомельскі завод сельскагаспадарчых машын. Янка Скрыган зьяўляецца нашым спадарожнікам. Тэмпы яго перабудовы да гэтага часу былі надзвычайна марудныя. У яго творчасьці былі і ёсьць у сіле элемэнты замкнутага псыхалёгізму ў горшым разуменьні гэтага слова, псыхалёгізму ідэалістычнага, мэтафізычнага, аналіз псыхалёгіі людзкой у яго творах вельмі часта браўся сам па сабе, адарвана ад сацыяльнай чалавечай практыкі, псыхалёгізм як самамэта («Смага»). Вельмі часта гэты замкнуты псыхалёгізм змыкаўся з грубым мэханістычным матэрыялізмам («Шугае сонца»). Трэба сказаць, што нарыс Янкі Скрыгана пра Гомсельмаш па сваёй ідэёвай насычанасьці зьяўляецца значным крокам наперад, хоць і непазбаўлены вельмі істотных недахопаў і нават больш, скажам, палітычных зрываў.

Дадатнае ў нарысах Скрыгана тое, што аўтар імкнецца ў мастацкіх вобразах раскрыць прычыны прарыву на заводзе, якія крыюцца ў абязьлічцы, у негаспадарнасьці, ва ўраўнілаўцы, у апартуністычным кіраўніцтве заводу. Дадатнае ў гэтых нарысах у тым, што Скрыган у аснову імкнецца

паставіць гістарычную прамову правадыра партыі т. Сталіна на нарадзе гаспадарнікаў. Тав. Скрыган робіць спробу паказаць, як Гомсельмаш «патрабуе права быць дарослым—перакрочыць пускавы пэрыяд «дзіцячае хваробы», непаладкаў, зрываў, заняць нармальную жылплошчу, каб стаць плянам».

Скрыган разам з заводам, разам з людзьмі на заводзе пратэстуе супроць зацяжнага пускавага пэрыяду, супроць непаладак, супроць зрываў, супроць абязьлічкі, супроць негаспадарнасьці:

«Завод патрабуе права быць дарослым, а на заднім пляне сыстэмы будаўніцтва маўчыць самы аграмадны дрэваапрацоўчы цэх. Панура стаіць самае новае—савецкае і замежнае—тэхнічнае абсталяваньне. Нямеюць фанерам панакрываныя, умураваныя варштаты... Цэх сьпіць. І які вялікі крык пратэсту ў гэтай цішыні, у гэтым сьне. Пускавы пэрыяд... І завод пратэстуе супроць гэтага непаладкамі, няўвязкамі—так званымі «дзіцячымі хваробамі», дэманструючы гэта кучамі жалезнага лому, адкідаў, браку, жужлы...»

Скрыган у сваіх нарысах паказвае прарыў на заводзе, пералом, і нарэшце поўнае выкананьне праграмы заводам. Разам з гэтым дае рабочых ударнікаў—герояў заводу,—прабуе разгарнуць, паказаць парткіраўніцтва.

Але трэба зусім адкрыта сказаць, што нарысы Скрыгана, якія агулам характарызуюць зрух пісьменьніка ў набліжэньні да пазыцый пралетарскае літаратуры,—маюць надзвычайна вялікія і сур'ёзныя зрывы, якія трэба крытыкаваць. Па якой лініі ідуць гэтыя зрывы?

Гэтыя зрывы вынікаюць з далёка невыстарчальнага разуменьня Скрыганом характару нашых сацыялістычных прадпрыемстваў, сацыялістычных заводаў. Скрыган невыстарчальна разумее сацыялістычны характар нашых фабрык і заводаў. Ён у сваіх нарысах далёка невыстарчальна разумее вялізарную ролю людзкога матар'ялу ў працэсах сацыялістычнай вытворчасьці, далёка няпоўна раскрывае ролю камуністычнае партыі ў гэтых працэсах. Паказ партыйнага кіраўніцтва на заводзе ў Скрыгана вычэрпваецца няпоўным паказам сакратара партыйнага калектыву т. Генкіна, які сваім асабістым прыкладам дае ўзоры сапраўднае працы на заводзе. Партыйнае кіраўніцтва ў цэху, у брыгадзе, каля варштату амаль зусім не раскрыта пісьменьнікам. Творчыя пазыцыі т. Скрыгана такімі, якімі яны выступаюць у гэтых нарысах,—гэта яшчэ пазыцыі груба матэрыялістычныя, мэханістычныя. Ня дзіва, што грубы матэрыялістычны падыход да рабочага ўдарніка займае вельмі вялікае месца ў нарысах пісьменьніка. Гэтыя груба мэханістычныя пазыцыі прыводзяць да таго, што т. Скрыган вельмі часта ня бачыць якаснае розьніцы паміж чалавекам і машынаю, ставіць нават часта машыну вышэй чалавека, часта зводзіць чалавека да ступені простага дадатку да машыны.

Невыпадковыя таму ў нарысах параўнаньні: «Цэх пабудаваны так, каб з аднаго ў другі быў, паток, быў канвэер, сыстэма—як здаровая чалавечая мысьль».

Нарысы Скрыгана настолькі перагружаны перадачай тэхнічнага працэсу вытворчасьці, што яны засланяюць галоўнае ў гэтых працэсах—чалавека. Яны прыніжаюць веліч чалавечае волі, чалавечага энтузіязму ў працэсах сацыялістычнага будаўніцтва. Вось, як у агульных суадносінах з варштатамі, з машынамі выглядае вобраз чалавека ў паказе т. Скрыгана ў яго першых нарысах кніжкі:

«Накаса цэхам—між машын, між варштатаў, прагалінамі парванага патоку—ідзе невялікі чалавек. Хада яго порсткая, жвавая. Доўгія рукі цяжкімі ўзмахамі ў хадзе адкідаюцца далёка назад, і ён увесь прутка выпрастаны кароткаю пляскатаю фігураю... Чалавек сунімаецца. **Між работы, між руху, калі людзі, машыны, варштаты, у дынаміцы, у стукаце, у патоку рушлівае сілы, чалавек ад таго, што ён стаў, здаецца яшчэ больш маленькім і непатрэбным».**

Вытрымка як ня трэба лепш характарызуе разуменьне аўтарам ролі чалавека, ролі рабочага ўдарніка ў працэсах вытворчасьці. Аўтар тут незадаволены парушэньнем агульнай дынамікі руху, тым чалавекам, які стаў. Аўтар захапляецца гармоніяй таго руху машын, дзе чалавек зьяўляецца сустаўной часткай, дадаткам у агульным русе машын.

Альбо вось як разумее Скрыган ролю чалавека ў працэсах вытворчасьці:

«І людзі каля варштатаў стаяць у напружнай уважлівасьці. Ім трэба падаваць матэматычна дакладную каманду».

Ператварэньне чалавека ў матэматычна дакладную істоту зводзіць яго да ступені прыдатку да машыны.

Прыраўніваньне чалавека да машыны Скрыган уклаў нават у вусны сакратара партыйнага калектыву. Вось што ён кажа, зьвяртаючыся да рабочага:

«Трэба кляпаць, а ня ныць, **і мець здаровую душу, хаця такую, як будзе здаровай гэта шпона».**

Гэтыя-ж мэханістычныя пазыцыі прыводзяць Скрыгана да няправільнага супроцьстаўленьня прыроды і машын—да прыдушэньня ўсяго прыроднага і замены яго машынным.

Памылкі пісьменьніка, якія ідуць па лініі ігнараваньня чалавека і захапленьня голымі тэхнічнымі працэсамі, зьяўляюцца па сутнасьці ўплывамі на Скрыгана буржуазнай ідэалёгіі.

Захапленьне голай тэхніцызаванай фразай, мэтад аналізу вытворчых працэсаў Скрыган вельмі часта пераносіць і на паказ людзей. Тут дужа часта пануе грубы фізыялёгічны натуралізм (падмена клясавай характарыстыкі чалавека фізыялёгічнай). Скрыган ігнаруе сапраўдную бальшавіцкую палкасьць у сваіх творах, ня можа яе спалучыць з цьвярозасьцю. Пры паказе людзей карыстаецца мэтадам хірургічнага, халоднага аналізу чалавека:

«Бліскаючы халоднымі пэнснэ, у кавальскі ідзе Гаранін... Гаранін глядзіць з тым холадам, які і ў яго пэнснэ, з тэй халоднай павольнасьцю ў голасе, ужо гледзячы ў бок махае рукою».

Аднак трэба памятаць, што мы момантамі фізыялёгічнымі пры паказе чалавека зусім не ігнаруем, але лічым іх не самамэтай, а падпарадкаванымі клясавай сутнасьці чалавека.

Асноўныя недахопы нарысаў Скрыгана, гаворачы пра першыя надрукаваныя часткі, што аўтар не раскрывае поўна энтузіязму рабочых заводу, не дае поўнага і ўсебаковага раскрыцьця чалавечай псыхалёгіі ў клясавай практыцы, недастаткова паказвае кіруючую ролю партыі ў працэсах сацыялістычнага будаўніцтва. Гэтыя зрывы вельмі істотныя, і за іх трэба крытыкаваць і крытыкаваць жорстка пісьменьніка, каб дапамагчы яму падняцца вышэй у сваім творчым росьце.

У нарысах Скрыгана мы маем і больш істотныя зрывы. Трэба напрыклад, самым рашучым чынам выступіць супроць уступу да нарысаў, які аб'ектыўна набывае характар паклёпу на пралетарскі горад. Скрыган ва ўступе абураецца тым, што ў Гомелі мала аўтобусаў, што трэба ў чарзе стаяць цэлымі гадзінамі, а калі ўскочыш на хаду, дык міліцыянэр возьме 25 руб. штрафу за парушэньне 24 пункту пастановы Гомельскага гарсавету. Скрыган у дадзеным выпадку да рэчаіснасьці падыходзіць пасыўна, не разумеючы сутнасьці нашых цяжкасьцяй. Супроць такіх скажэньняў рэчаіснасьці нам трэба змагацца.

Я хачу сказаць некалькі слоў пра нарыс рабочага ўдарніка друкарні імя Сталіна т. Швэйдэля. Рабочыя ўдарнікі пры ўсіх сваіх значных ідэёвых і мастацкіх недахопах паказ герояў пяцігодкі пачынаюць амысьліваць як вельмі важную і сур'ёзную задачу. Нарыс т. Швэйдэля пра рабочага ўдарніка друкарні Сталіна адыграў на вытворчасьці цікавую ролю. Нарыс называецца «Біаграфія аднаго байца». Тав. Швэйдэль мастацкі разгортвае ўвесь час свой нарыс, паказвае шлях змаганьня свайго героя на фронтах грамадзянскай вайны, і канчае публіцыстычнай канцоўкай—робячы простае паказаньне на тое, што гэты лепшы баец рабочы ўдарнік знаходзіцца па-за шэрагамі нашай партыі. Прачытаўшы гэты нарыс, рабочы пераканаўся ў мастацкай праўдзівасьці яго і на ўрачыстасьць Кастрычніка падаў заяву пра ўступленьне ў партыю. Тут мы ўжо бачым непадзельную сувязь паміж новай літаратурай, якая расьце на нашых фабрыках і заводах, і задачамі сацыялістычнага будаўніцтва.

У пачатку я гаварыў, што самае страшнае пры паказе герояў пяцігодкі гэта апашленьне герояў пяцігодкі. З дакладу яскрава відаць, што мы маем значныя дасягненьні ў паказе герояў пяцігодкі, аднак і апашленьне паказу мы таксама яшчэ маем. А супроць гэтага мы асабліва востра і з усёй сілай павінны змагацца. Паказам героя пяцігодкі мы ставім гістарычны помнік нашай эпохі. Вось чаму мы павінны змагацца з усякай пошласьцю на адрас рабочых ударнікаў. Мы гаварылі шмат пра Юрку Лявоннага, але мала яму дапамагалі і ён свае памылкі паўтарае. На мой погляд ён піша надзвычайна шмат, амаль у кожнай часопісі ёсьць яго творы. Вось ён піша пра брыгадзіра калгасьніка—Марціна Байдлевіча.

Гультая і прапойцу,
Бувацёра ды ўласьніка—
Выганім!
(Выгналі-ж кулака!)
Мы вітаем
Заўтрашняга калгасьніка,
Што выходзіць свой лёс
Сустракаць.
А каб нам уборку
Як належыць выпарадкаваць,
Каб малатарні
Па вясельнаму загрукацелі,—
Выклікаю брыгаду Сымона
Навыперадкі
(На спаборніцтва, значыць)

Вы бачыце, што такая пастаноўка пытаньня, якая ёсьць у гэтым вершы, нічога агульнага з нашымі задачамі ня мае. Лявонны раіць выгнаць уласьніка з калгасу, як выгналі кулака. Але кожны селянін бядняк і серадняк, які прышоў у калгас, у мінулым быў уласьнік, і ён шмат уласьніцкага прынёс з сабой у калгас. На што-ж яго выганяць? Яго трэба перавыхаваць. Што гэта за новая «палітыка» паводле Юркі Лявоннага. Затым кідаецца ў вочы ў вершы прымітывізм, які ўкладае Лявонны ў вусны добрага калгасьніка Байдлевіча («На спаборніцтва, значыць па арцелі»). Гэта зусім непатрэбныя і шкодныя пры паказе герояў пяцігодкі спрашчэнствы.

Пры паказе герояў пяцігодкі трэба надзвычайна ўважліва падыходзіць да кожнага радка.

А Знаёмы надзвычайна няўважліва адносіцца да паказу герояў заводу «Дрэвапрацоўшчык». У яго, напрыклад, сустракаецца і такая, з дазволу сказаць, прымітыўная і даволі пахабная філёзофія. У «Маладняку № 6—7 чытаем:

«Бывае іншы раз глядзім угару. Глядзім і нічога. І вось незнарокам возьме вецер нейкую мялюзгу ды шыбане ў зрэнка... Зашчыміць нутро. Часам жах возьме. Бывае што людзі з-за гэтай дробязі вочы губляюць. А вока згубіць—сэрца раніць глыбока, балюча...».

Няма чаго сказаць, добрыя філёзофскія разважаньні, калі чалавеку згубіць вока, дык сэрца раніш глыбока, балюча. Дробная, папраўдзе, прымітыўная філёзофія.

У Барыса Мікуліча ёсьць нарыс, называецца ён «Шаснаццаты» і друкаваўся ў часопісі «Маладняк». У гэтым нарысе найбольш яскрава выявіліся мяшчанскія, інтэлігенцкія адносіны да працы, да працэсаў працы. Рабочыя ўяўляюцца гэтаму далікатнаму «інтэлігенту», як нейкія грамілы, яны ўваходзяць у габінэт дырэктара і дырэктар дрыжыць перад імі, як ліст. У Мікуліча гэтакая мяшчанская інтэлігеншчына праяўляецца і ў шкодным супроцьстаўленьні рабочых заводу—адміністрацыі. Калі дырэктар заводу гаворыць пра справу рацыяналізацыі, дык яго рабочыя перабіваюць, не даюць гаварыць.

І нарэшце, я хачу прывесьці некалькі ўрыўкаў з твору Мікуліча «Ліст пра Хацімат». У гэтым творы Мікуліч не перамог тае рамантычнае пошласьці, якая надзвычайна доўга бытавала і бытуе яшчэ часткова цяпер у яго творчасьці. У працівагу аднаму рамантычнаму поэту, ён бярэ экзатычную крымскую Хацімат і хоча яе паказаць звычайнай рабочай ударніцай. Сама пастаноўка пытаньня: з экзатычнай дзяўчынкі зрабіць ударніцу—нагадвае тое, як у свой час Александр Жараў, з уласцівай яму, таксама, мяшчанскай пошласьцю, заклікаў Марыю Магдалену «научить страсти нежной рабочих и крестьян». Паглядзім-жа, як Мікуліч змагаецца супроць рамантызму. Ён паехаў у мястэчка. У гэтым мястэчку бруд на вуліцах, бруд у гасьцініцы, і пісьменьнік іранізуе над брудам. Ён пачынае пісаць, незадавольваецца, закрэсьлівае і зноў піша:

«Твая Хацімат сядзела ў першым радзе, каля самай сцэны, слухала даклад аб закліку рабочых ударнікаў у літаратуру, слухала, як чыталі нарысы пра будаўніцтва дарожнай магістралі, што паясом апаяша Беларусь Савецкую, слухала мяне, нешта нахіліўшыся да суседкі шаптала ёй на вуха (я гэта заўважыў), а потым—у перапынак—сьпявала разам з грудком моладзі».

Такім чынам экзатычная Хацімат пад лёгкай рукой Мікуліча абярнулася ў работніцу—ўдарніцу. Яна паказвае надзвычайныя тэмпы працы, усе хлапцы дарожнага будаўніцтва любяць яе, але за што, паслухайце:

«І засталося гарманісту, хлапцу-зубаскалу адно: агрызацца на кпіны таварышовыя, ды і марыць, як марылі многія»:

«Эх, вы, ножкі, ножанькі...».

Выходзіць, рабочыя ўдарнікі захапляюцца ня ёй самой, не яе работай, а яе ножанькамі. Ня цяжка ўстанавіць сваяцтва паміж поглядамі гэтых улюблёных герояў аўтара з поглядамі самога-ж аўтара.

Пошласьць самая звычайная. Між іншым, па Мікулічу Хацімат толькі часова прабывае ў працэсах нашага будаўніцтва, затым яна зноў варочаецца ў экзатычны Крым. Такія сымптомы—сымптомы мяшчанства ў Мікуліча, паталёгічная пошласьць надзвычайна адчуваецца і ў аповесьці «Наша сонца», паводле якой т. Бэндэ залічыў на канфэрэнцыі МенАПП Мікуліча ў саюзьнікі пралетарскай літаратуры. Дзіўная і незразумелая пасьпешнасьць.

Я думаю, што для самога Мікуліча куды лепш будзе, калі ён самым рашучым чынам возьмецца за перамаганьне такіх элемэнтаў у творчасьці.

Над глыбокім асэнсоўваньнем тых працэсаў, якія ў нас адбываюцца, над сапраўды здаровым паказам тых дадатных зьявішч, якія мы маем на нашых прадпрыемствах, над высокім ідэёвым і мастацкім паказам герояў пяцігодкі нам трэба шмат і шмат працаваць, бо ўсе тыя дасягненьні, якія ёсьць, яны далёка невыстарчальныя, яны толькі першыя крокі на шляху да паказу герояў пяцігодкі.

Толькі глыбока ідэёвым і глыбока мастацкім паказам усяе складанасьці нашае эпохі мы выканаем тыя задачы, якія паставіла перад намі партыя—пабудуем мастацтва найвялікшае ў гісторыі чалавецтва.

# КНІГАПІС

**Уладзімер Хадыка. Выбраныя вершы.** *ДзВБ, Менск. 1932 г. Тыраж 2000 экз., цана 1 р. 75 к.*

Са зборніка „Выбраныя вершы“ відаць, што Хадыка зьмясьціў у ім найбольш ідыёва блізкія нашай сучаснасьці вершы, найбольш прасякнутыя соцыяльным зьместам, найбольш соцыяльна-каштоўнае з напісанага ім да 1931 году.

Асноўная тэма, асноўнае пытаньне, што пранізвае ўсе вершы зборніка— гэта мінулае і сучаснае, ці, праўдзівей кажучы, выражэньне асабістага поэтавага дачыненьня да мінулага і сучаснага—гэта вызначэньне ўласнай позыцыі ў поступе сучаснасьці, што выражаецца не праз разгорнуты і глыбокі паказ мінулага і сучаснага, а праз вельмі сьціслыя яго характарыстыкі, праз непасрэдныя паэтавы выказваньні. Вершы рэцэнзуемага зборніка глыбока суб‘ектыўныя. Калі ў значнай частцы нашай паэзіі ня відаць чалавека, бо там канстатацыя фактаў рэчаіснасьці засланяе, выцясьняе яго, то ў Хадыкавай паэзіі на першым пляне перажываньні, глыбока суб‘ектыўныя перажываньні, думкі, адчуваньні, імкненьні. Мы маем тут другую крайнасьць. Хадыкава паэзія глыбока ідэалістычная, суб‘ектывісцкая ў сваёй аснове. Для паэты на першым пляне стаяць адчуваньні, не об‘ектыўная рэчаіснасьць. Яна аакранаецца патолькі, паколькі з ёю зьвязаны адчуваньні, перажываньні, на што Хадыка зьвяртае выключную ўвагу, ставіць галоўны лёгічны і эмацыянальны націск. Вось чаму ў Хадыкавай паэзіі аб‘ектыўная рэчаіснасьць не выступае ў яе багацьці і рознастайнасьці, бо падкрэсьліваю, галоўная справа для паэты ня ў ёй, а ў выражэньні глыбока-асабістага дачыненьня да яе.

Што-ж гэта за дачыненьне, што характэрна для пазыцыі вызнанай паэтам.

Ні ў адным вершы зборніка няма цягі ў мінулае, жаданьня жыць ім. Да мінулага паэта інакш і ня ставіцца, як да варожага нашай сучаснасьці, як да цёмнага, бруднага, нікчэмнага, поўнага зьдзеку і ўціску, і перш за ўсё нацыянальнага ўціску. Людзі мінулага, што засталіся яшчэ ў сучасным, у сваім жаданьні павярнуць кола гісторыі назад, зьяўляюцца для паэты мізэрнасьцю, бяздушнымі, духоваапустошанымі—гэта жывыя нябожчыкі. Мінулае ў паэты заўсёды выклікае ганьбу, нянавісьць і абурэньне. Яно ня мае шляхоў у заўтрае, пэрспэктыў развіцьця, гістарычнага права на сваё існаваньне, яно становіцца далёкай быльлю, яго назаўсёды зьмяла „вялікая восень“.

Вось чаму:

У крыві шалець
ня прыдзе больш магнат
з вязанкай джуплаў

Рэвалюцыя, сучаснасьць і вітаецца перш за ўсё, як пазбаўленьне ад „джуплаў“ нацыянальнага ўціску. Але ня гледзячы на тое, што мінуламу няма выйсьця, што яно самой гісторыяй асуджана на сьмерць—яно ня хоча прызнаць свайго ўміраньня і самохаць уступіць мейсца рэвалюцыйнаму новаму, яно пярэчыць яго поступу, а таму з ім трэба бязьлітасна змагацца. Важна, што гэта пярэчаньне паэтам інакш і не расцэньваецца як выражэньне бясьсільля, крыку ў прадсьмяротнай агоніі, бо „згубіла цемрадзь берагі прыстанку“. Усё старое асуджана на сьмерць аж да чалавека, што „плача потай сьлязьмі забытых пакаленьняў“.

З адмаўленьнем і нянавісьцю да мінулага і да людзей, што хочуць вярнуць яго, у Хадыкі непадзельна зьвязана вызнаньне сучаснага, як адзіна-прагрэсыўнага, якое ў сваім поступе няшчадна нішчыць рэшткі мінулага, ператвараючы рачаіснасьць. Хадыка словам поўным радасьці і бадзёрасьці вітае гэты поступ.

Але безагаворачна адмаўляючы ўчора, будучы прасякнутым нянавісьцю да ворагаў рэвалюцыйнай сучаснасьці, Хадыка аднак яшчэ не здолеў уключыцца ў непасрэдную практыку стварэньня рэвалюцыйнай сучаснасьці, гэта значыць у сапраўднае, найбольш актыўнае адмаўленьне мінулага, учарашняга чорнага і праклятага; ён яшчэ толькі ўзыйшоў на першую ступень такога адмаўленьня, пакольկі працэс станаўленьня новага ім толькі асьведамляецца як староньнім наглядальнікам, які любуецца веліччу сучаснасьці, яе прымаючы, вітае гэту веліч, але які ня можа паказаць яе пакольկі ня стаў яшчэ непасрэдным творцам гэтай велічы. Хадыка яшчэ толькі ідзе да сучаснасьці, парываючы з мінулым, ён толькі яшчэ хоча „на ўдарнай быць бяседзе ўдарным нумарам музычным“ і „слаўны заняць пасад у рытміцы дзён....“, славячы „адзіны рух да калектыўных дзён“ і „генія дзіўных зьмен“. Гэтыя вершы ўслаўленьня перабудовы нашай рачаіснасьці, яшчэраз падкрэсьліваю, не зьяўляюцца вершамі таго, хто ўласнымі рукамі творыць гэту перабудову, а прыняўшага яе староньняга наглядальніка, адмовіўшага мінулае, які перш за ўсё выказвае толькі свае погляды, захапленьні, свае пачуцьці, выкліканыя перабудовай, але не выражае ў канкрэтных формах самую перабудову. Ён заўважае значныя зьмены ў вёсцы, якія раней ня былі магчымы, ён бачыць калектыўныя палі, узрастаньне краю, вітае гэтыя зьмены, гаворыць, што яны творацца праз бязьлітаснае перамаганьне старога сьвету. Гаворачы пра новую рачаіснасьць, Хадыка характарызуе яе як няспынны рух, часамі заўважае зьвеньні паасобных зьяў, але нідзе не спрабуе ўскрываць самы працэс, паказаць яго сапраўдную рухаючую сілу, канкрэтыку шляху разьвіцьця. Паэта спыняецца толькі на занадта агульнай канстатацыі зьменнасьці, ня ўскрываючы глыбінь яе працэсу. Ды гэтага і нельга зрабіць, калі памятаць, што галоўнае ў Хадыкавай паэзіі не абектыўная рачаіснасьць, а сьвет суб‘ектыўнага, што рачаіснасьць закранаецца патолькі пакольկі ад яе усё-ж залежыць тканіна суб‘ектыўнага, якую паэта і імкнецца перш за ўсё выявіць. Адсюль пэўная беспрадметнасьць, часта адыход у сьвет вузка-асабістых перажываньняў, якія ні ў якім разе ня могуць мець якойнебудзь сацыяльнай, а значыць і сапраўднай эстэтычнай вартасьці.

З гэтым зьвязана і наступнае. Калі сярод вершаў адмаўленьня мінулага і вітаньня сучаснага ёсьць вельмі шмат сапраўднай лірычнай узьнятасьці, эмацыяльнасьці, то з дру-

гога боку, ад чытаньня гэтых вершаў атрымоўваецца пэўная разрадка, бо адзін верш пачынае паўтараць другі, нічога новага сваім зьместам не раскрываючы. Паўторы, перапевы не маглі не зьявіцца ў выніку таго, што Хадыка, раскрываючы тэму „мінулае“ і „сучаснае“, ідзе па шляху вялікай абстрагаванасьці ад рачаіснасьці па шляху выказаньня суб'ектыўнага без паказу конкрэтных фактаў аб'ектыўнай рачаіснасьці—поступу новай і адмаўленьня старой.

Толькі вынікам таго, што Хадыка пакуль-што ўсяго староньні назіральнік стварэньня новай рачаіснасьці магло зьявіцца выражэньне сацыяльнага сьвету ў пераважнай большасьці праз вобразы непасрэдна ўзятыя з сьвету прыроды, што асабліва кідаецца ў вочы ў Хадыкавым выражэньні адмаўленьня мінулага. Гэта паказвае, што сьвет сацыяльных ідэй, што сацыяльная канкрэтыка ня могуць паэтам успрыйцца ва ўсёй іх сапраўднай глыбіні, што Хадыка яшчэ ня можа стварыць паўнакроўнага сацыяльнага вобразу.

У Хадыкавым разуменьні гістарычнага працэсу ёсьць шмат стыхійнага. Гістарычны працэс—адміраньне старога і пераможная хада ўперад нашай рэчаіснасьці—у Хадыкавым уяўленьні паўстае мяцежнай плыньню, якая „ў вечным шторме“... „на хвалях усьпененых... імчыць, бы човен чалавека“. А такое разуменьне працэсу разьвіцьця і мейсца ў ім чалавека ня можа даць устойлівасьці, не перамогшы яго нельга стаць паэтам будаўніцтва. Стыхійнасьць і зусім не выстарчальнае разуменьне сацыяльных супярэчнасьцяй, як клясавых, гістарычнага працэсу, як працэсу клясавага змаганьня—гэта злучэньне ня можа быць карысным для сапраўднага пазнаньня рачаіснасьці. Ні што іншае, як адсутнасьць клясавага разуменьня мінулага Беларусі прыводзіць Хадыку да канстатацыі толькі нацыянальнага ўціску яе, і ён зусім не заўважае клясавых супярэчнасьцяй у самой Беларусі, што ў сваю чаргу прыводзіць да нацыянальнай абмежаванасьці, да пазыцый нацыянал-дэмакратаў, якія так старанна ўслаўлялі Беларусь наогул, сьвядома абыходзячы клясавы антаганізм ўнутры самой Беларусі.

Аднак нельга сказаць, што Хадыка да канца астаўся ў палоне нацыянальнай абмежаванасьці. Робячы паварот у сваёй творчасьці да сацыялістычнага будаўніцтва, у выніку яго пераможнага поступу, сьвядома бічуючы ворагаў гэтага будаўніцтва, прадажніцтва і лёкайства беларускіх нацыянал-дэмакратаў перад фашызмам, Хадыка пачынае вызваляцца і ад нацыянальнай абмежаванасьці, у яго паэзіі пачынаюць зьяўляцца элемэнты інтэрнацыяналізму:

Імкнуць краі паходным сьпевам
Дзікунства меж на векі зьнішчыць.

Хоць Хадыка і гаворыць, што „на зоры не малюся і не хварэю ад нуды“, але ён яшчэ цалкам не вызваліўся ад такой „хваробы“. Вершы, зьмешчаныя ў зборніку—толькі першы крок ад такога маленьня. Гэты крок патрабуе далейшай хады, упартай работы над перабудовай сьветапогляду, над прынцыповай перабудовай творчага мэтаду. Ад ранейшага маленьня на зоры засталося яшчэ шмат чаго і перш за ўсё—гэта суглядальны пасывізм, якога нельга схаваць пад прызнаньнем сучаснасьці, пад сьцьвярджэньнем сваёй адданасьці ёй, адмаўляючы сваё мінулае. Чым больш рашучае будзе выкіданьне з сьвядомасьці сьлядоў хаты „з зялёнай цьвільлю лебяды“, чым больш рашучым будзе адыход ад „акрэсьленай цішы“, у якой жыў паэта, чым больш

рашучым будзе адыход ад буржуазнай, літаратуры, з якой вырастае — Хадыкава паэзія, тым яна будзе рабіцца больш сацыяльна дзейнай.

Было-б недаацэнкай Хадыкавай паэзіі адмаўляць за ёй усякую вартасьць. Сіла гэтай паэзіі ў нянавісьці да мінулага і ў радасным прыняцьці нашай сучаснасьці, у глыбокім лірызьме выражэньня ўсяго гэтага; слабасьць яе—у пасывізьме староньняга наглядальніка, у павярхоўнасьці разуменьня нашай сучаснасьці, у нязвычайнай прыкаванасьці да свайго „я“, што прыводзіць да вузка асабістых перажываньняў, у памылковым узаемадачыненьні суб‘ектыўнага і аб‘ектыўнага, у выразна суб‘ектывісцкім, а значыць і ідэалістычным кірунку гэтай паэзіі.

Паварот, які зрабіў Хадыка ў сваёй творчасьці да нашай сучаснасьці, у выніку пераможнасьці сацыялістычнага будаўніцтва, вельмі нязначны. Упарта працуючы над перабудовай свайго сьветапогляду, па сапраўднаму ўключаючыся ў непасрэдную практыку сацыялістычнага будаўніцтва, паэта павінен зрабіць больш рашучы паварот ў сэнсе набліжэньня сваёй творчасьці да гэтага будаўніцтва, да пралетарскай літаратуры. Толькі ідучы гэтым шляхам і зьнішчаючы, выкідаючы з сваёй паэзіі вузка асабістае ідэалістычна-пасывістычнае дачыненьне да сьвету, Хадыка здолее напоўніць сваю творчасьць сапраўдным пульсам вялікай будоўлі, выйдзе ў сьвет новых тэм, значна шырэйшых за тыя, якія цяпер пануюць у яго паэзіі. Паэта-ж пераконана заяўляе:

Што аджыло—спалю,
Што не пасяг—змагу.

Слова павінна стаць дзеяй.

**Інскі.**

**Цішка Гартны. Зялёны шум,** *аповесьць. Менск. БДВ, 1931 г. тыраж 5000 экз. Цана 45 к.*

Цішка Гартны прышоў у літаратуру яшчэ да кастрычніка. Творчы шлях яго ня вызначаецца аднастайнасьцю. Яго пачатак характарызуецца адлюстраваньнем настрояў і жаданьняў рамесьніцкай беднаты, але ў далейшай дзейнасьці Ц. Гартны адышоў у значнай меры ад гэтых пазыцый.

У апошні пэрыяд сваёй творчасьці, калі наша грамадзкасьць дала рашучы бой нацдэмаўскім устаноўкам у яго творчай дзейнасьці, Цішка Гартны імкнецца пайсьці па шляху набліжэньня да пралетарыяту. Апошнія творы даюць нам магчымасьць канстатаваць гэтае імкненьне Ц. Гартнага да павароту ў бок саюзу з пралетарыятам. Адным з такіх твораў зьяўляецца і рэцэнзуемая намі аповесьць „Зялёны шум“.

У аповесьці аўтар імкнецца паказаць, як будуецца калгас, як ідзе клясавае змаганьне на вёсцы. Зьмест яе наступны. Бядняк Юстын Плот, працуючы на полі, бачыць сваю бездапаможнасьць бедняка-адзінаасобніка. Яго конь ледзь цягае ногі па вузенькай істужцы-палетку, а побач лапаціць калгасны трактар. Перад вачыма расьцілаюцца шырокія палі маладога саўгасу, апрацаваныя дбайнаю рукою рабочых. Юстын Плот вырашыў арганізаваць калгас у сваёй вёсцы. У гэты час з фабрыкі прыехаў яго сын партыец Якаў. Бедмякі і серадмякі арганізаваліся вакол бацькі і сына на чале з трыма партыйцамі вёскі і ўтварылі калгас. Разьюшаныя кулакі на чале з Адасём Папелкай арганізавалі замах на Якава. Кулакоў арыштавалі. Якаў ачуняў і, атрымаўшы з фабрыкі адтэрміноўку свайго адпачынку, памагае будаваць калгас.

Як бачыце, тэма актуальная. Аўтар імкнецца паказаць клясавае зма-

ганьне за калгасы. Справа калектывізацыі перамагае, ня гледзячы на шалёнае супраціўленьне кулака. Але аўтар не паказаў усяго цяжару будаваньня калгасаў. Многае, і мо‘ самае галоўнае, не папала ў абсяг зроку Ц. Гартнага. Пры чытаньні твору застаецца ўражаньне павярхоўнасьці ў абмалёўцы зьяў. Ад першага разьдзелу, напрыклад, застаецца ўражаньне навочнай лекцыі. Супроцьстаўляюцца дзьве формы сельскай гаспадаркі: калектыўная, саўгасная і адзінаасобная. Чытач можа сказаць: калектыўная гаспадарка мае на сваім баку ўсе перавагі. Але гэта больш падобна на пераказ чужых думак, бо вобразнае выражэньне гэтага не заўсёды ўдалае.

Бязумоўна, ня сёньня толькі паўстала перад Юстынам Плотам пытаньне пра калгас. „Надаела нарэшце... абрыдла думаць і гаварыць“, кажа ён. Юстын многа, напэўна, думаў над гэтым пытаньнем сам і пераконваў іншых. Але як-жа, якімі шляхамі ідзе пераконваньне, як перараджаецца псыхіка селяніна, у якой вядуць барацьбу дзьве супярэчнасьці?

У. І. Ленін казаў, што мінулае селяніна цягне яго да буржуазіі, а яго будучыня да пралетарыяту. Яго розум цягне да пралетарыяту, а яго забабоны да буржуазіі, гэта значыць у псыхіцы селяніна вядуць барацьбу дзьве супярэчнасьці. Гэтай супярэчнасьці не пазбаўлены і бядняк Юстын Плот. Цішка Гартны не паказаў, як перамагае розум, ня здолеў паказаць дыялектычнага разьвіцьця псыхікі Юстына Плота і іншых.

Гэтая зьява ў аповесьці не выпадковая, бо моманты схэматызму мы знаходзім у аповесьці і далей.

У юстынавай хаце сабраліся дзядзькі (кулакі, бязумоўна, туды не пайшлі) паслухаць Юстынавага сына Якава. Ён дзяліўся з імі „сваімі намерамі ды плянамі“, а прасьцей кажучы, гаварыў прамову пра неабходнасьць стварыць калгас.

„З прысутных ня было нікога, хто-б яму пасупярэчыў. Усе пагоджана і спагадліва адносіліся да яго прамовы“. Кожны па свойму выказваў яму сваю спагаду. „Стары Гальляш Сукня, апёршыся аб тапчан, умільна глядзеў на гасьця, пакіўваючы галавою на кожны Якавін сказ.

Мікалай Жвыр компэнсаваў сваю згоду з Якавым аднастайным, памінютным як стук гадзіньніку, цьвёрдым: але! аыл ле а! аіле-э!

Задаволена ўхмыляўся Тамаш Хіб. „Во-а. Во-а. Во-а.“

За кожным гукам прасоўваўся яго ўказны палец у бок Юстынавага твару.

Якавіны бацькі расплываліся ў салодкай уцесе з сына.“

І дарэмна Якаў трывожыўся, ці пераконвае сялян яго прамова. Усе былі захоплены адзінай думкай пабудаваць калгас. Адчуваецца бадзёры радасны ўздым, радаснае хваляваньне калектыву, агорнутага адзінай ідэяй. Стары Гальляш, баючыся каб яго не абмінулі, каб паказаць, што ў яго яшчэ ёсьць сілы „сашчапіў касьцістую руку ў кулак і стукнуў па стале“.

Усё гэта добра. Аўтар здолеў паказаць калектыўны ўздым, калектыўныя пачуцьці. Але цяжка паверыць, што прамова Якава зрабіла такую рэвалюцыю. Сам аўтар гэта адчувае, бо нават і партыец Мікола Жвыр кажа: „Я раней дарма азіраўся на пасёлкі... Была памылка“... Тым больш гэта датычыцца другіх беспартыйных сялян. Як адбывалася перабудова псыхікі селяніна аўтар зноў такі не паказаў—гэта зьяўляецца памылкай.

Партыйныя арганізацыі вядуць вялізную выхавальную работу сярод бядняцкіх і серадняцкіх мас, і гэтая праца, напэўна не абмінула вёск Булаўкі, тым больш, што там была

партарганізацыя. Аўтар аповесьці гаворыць, што вясковыя партыйцы вядуць барацьбу за калгас даўно і, як бачыць чытач, не бяз вынікаў, але далей гэтага паведамленьня Ц. Гартны ня ідзе. Гэта ня можа задаволіць чытача, бо мастак павінен не рэгістраваць, а **паказаць** і адлюстроўваць зьявы рэчаіснасьці ў яе паўнаце.

Дагэтуль мы спыняліся на групе сялян, якія стаяць за калектыў, г. зн. на групе беднякоў і серадьнякоў. Другая частка—кулакі, на чале з Уласем Папелкай, стаяць на дыяметральна супрацьлежным баку. Цікава зьвярнуць увагу на тое, як яны вядуць барацьбу. Адаеь Папелка сярод вялікага натоўпу сялян проста і адкрыта дэманструе сваю варожасьць: „Вы рады, што... Бальшавікі... Што **ваша** панаваньне“... Мы ведаем, што кулак імкнецца не выдаваць сябе, ён, нават, знарочыста дэманструе сваю нібыта прыхільнасьць да савецкай улады. У гэтым цяжкасьць барацьбы з ім. Кулак не адмовіўся-б, нават, пралезьці і ў калгас, каб узарваць яго з сярэдзіны. А ў Цішкі Гартнага змаганьне з кулаком вельмі простае і лёгкае, бо ён увесь на відавоку.

Такім чынам, мы маем у аповесьці дзьве выразна супрацьлежныя групы сялян. Іншых сялян у аповесьці няма. Іх ня чутно, яны не падаюць адзнакаў жыцьця. Аўтар пайшоў па шляху найменшага супраціўленьня: мэханічна падзяліў сялян на два варожыя лягеры і далей гэтага не пайшоў.

Варта зьвярнуць увагу на вобраз Якава, які зьяўляецца цэнтральным вобразам ў аповесьці. Ён паўстае перад чытачом у выглядзе чалавека, які шмат гаворыць, з захапленьнем марыць пра калгасы, а як практык ён не паказаны, ня гледзячы на тое, што застаўся на вёсцы і нават выбраны ў праўленьне. Аўтар толькі паведамляе, што быў „на перадзе—Якаў з таварышамі,—ячэйка“, калі калгасьнікі першы раз урачыста выехалі на зяб. і гэта ўсё, гэтым паказ кончаны. Ды і наогул практычнай работы маладога калгасу аўтар амаль не паказаў, ня здолеў паказаць.

З усяго сказанага відаць, што мала ўзяць такую тэму, як праца заводу ў аповесьці „Напевы сірэн“, або калгаснае будаўніцтва ў аповесьці „Зялёны шум“. Трэба яшчэ аўладаць дыялектыка-матэрыялістычным сьветапоглядам, аўладаць творчым мэтадам пралетарскай літаратуры, каб пазбавіцца ў мастацкім творы схэматызму, прыгладжваньня рэчаіснасьці і г. д., што павінна зьнікаць па меры творчага поступу пісьменьніка, па меры набліжэньня яго да пралетарскай літаратуры.

**М. Пятровіч.**

*Адказны рэдактар:* **Платон Галавач.**

*Рэдкалегія:* **Бацюшкоў, Браштэйн, П. Галавач, Гальперына, Жылуновіч, Залатухін, Клімковіч, Якуб Колас, Крапіва, Лынькоў, Платун, Кузьма Чорны.**

# ЗЬМЕСТ





Цана 1 руб. 50 кап.

ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА НА

**1932 ГОД**

НА НОВУЮ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВ
І МАРКСЫЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫК

ОРГАН АРГАНІЗАЦЫЙНАГА КАМІТЭТ
САЮЗУ САВЕЦКІХ ПІСЬМЕНЬНІКА
БССР

# ПОЛЫМЯ
# РЭВАЛЮЦЫ

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ

Бацюшкова, Броништэйна, Галавача (адказны рэдактар), Гальперынай, Жылуновіча, Залатухіна, Клімковіча, Коласа, Крапівы, Лынькова, Платуна Чорнага.

Часопісь „ПОЛЫМЯ РЭВАЛЮЦЫІ" выходзіць штомесячна 6 кніжок да канца гэтага году, памерам кожная ня мені 200 старонак.

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| | |
|---|---|
| На 6 месяцаў . . . . . . . . | 5 р. 50 к |
| „ 3 „ . . . . . . . . . | 3 р. |
| Цана асобнага нумару . . . . . | 1 р. 50 к |

ПАДПІШЧЫКІ на былую часопісь „ПОЛЫМЯ" атрымаюць замест яе адпаведную колькасьць нумароў новай часопісі „ПОЛЫМЯ РЭВАЛЮЦЫІ".

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: у аддзеле падпісных і пэрыядычных выданьняў ДзВБ, кнігарнямі ДзВБ, аддзелам падпіскі пэрыядсэктару ОГІЗ'у, усімі паштова-тэлеграфнымі канторамі і ўсімі кніжнымі крамамі спажывецкай кааперацыі.